


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**11** (1021)

ЛІСТАПАД

Выдаецца
са снежня 1922 года


## ЗМЕСТ

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ



# ПАСЛЯ ВАЙНЫ

*Раман*

## Частка I

### I

У тым жа сорак чацвёртым, адразу пасля вызвалення, недзе ў жніўні, невядома адкуль з'явіліся цыганы. Не было іх тут, у Прусцы, усю вайну. З цыганамі немцы рабілі тое ж, што і з яўрэямі, — адпраўлялі ў канцлагеры, знішчалі.

— Каструлі! Каструлі!

Па вуліцы ішлі, азіраючыся па баках, двое барадатых дзецюкоў у дзіравых, паліналых кажушках і трывожылі паветра гучнымі галасамі.

— Паяць!

— Лудзіць!

Цыганы — добрыя рамеснікі: меднікі, лудзільшчыкі, бляхары, майстры на ўсе рукі. Непрыхільна з другога боку вуліцы пазіраў на нечаканых гасцей певень з ярка-чырвоным грэбенем і вялікім валляком пад барадой. Куры ж, якімі апекаваўся прыгажун, бяспечна кешкаліся ў траве, ні на што не звяртаючы ўвагі.

Да веснічак падышоў Лявон. Ныла левая, параненая рука. Параніла даўно, яшчэ ў тую, царскую вайну, у плячо, і вось рука да гэтага часу ные. Асабліва калі ветрыкам па ёй павее. Ён абхапіў яе правай, мацней прыціснуў да сябе. Цыганы, колькі чалавек, параўняліся.

— Можа, пра Піхту што чулі? — спытаў Лявон дзецюка, які першы параўняўся з ім. — Быў у мяне цыган знаёмы — Піхта...

---

*__Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч__ нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, быў дырэктарам Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Акадэмік.*

*У друку выступае як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства» (1972), «Упоравень з часам» (1976), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Як само жыццё» (1984), «Ля аднаго вогнішча» (1984) і інш., а таксама раманаў «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Вайна» (2014), «Валошкі на мяжы» (2014).*

— Не, не чуў, — адказаў малады цыган.

— Піхта? — пачуў другі, крыху старэйшы і, відаць, больш дасведчаны. — Піхту, калі гэта той Піхта, яшчэ ў саракавым немцы застрэлілі, пад Беластокам. Баронам ён у нас быў.

Лявон помніў Піхту (было гэта гадоў сорак назад), калі той яшчэ не быў баронам, а ўсяго толькі звычайным цыганом, кемлівым і дасціпным. «Мы — падданыя палясцінскага цара!» — жартуючы, казаў ён пра сябе і свой табар. Кужалям за сходную цану прадаў каня.

— Скажыце, калі ласка, а як вы вайну перажылі? — зноў папытаў Лявон.

— Хлебанулі гора! — азваўся цыган, які ішоў першым.

— У вайну мы на тарфяніках працавалі, за Такарамі, — патлумачыў другі, — пад Высокім.

— Як — на тарфяніках?

— Сядзелі ў канцлагеры, а на работу гналі на тарфянікі. Многія з голаду паўміралі. Каб не людзі, дык нас ужо б і не было. А закурыць у цябе няма?

Лявон адарваў па шматку газеты, якая была ў яго ў кішэні, насыпаў тытуню, даў прыкурыць.

— Дзе ні бываем, а вас не мінаем — прыцягвае гэтая зямля!

З хаты выйшла Фёкла, падышла да Лявона.

— Калі стары посуд ці дзіравы, дык мы запаяць можам! І палудзіць умеем, і залютаваць!

— Ёсць! — узрадавалася Фёкла.

— Ну, то прыносьце ў табар! Паправім!

Цыганы, густа дыхнуўшы дымам, рушылі далей з тымі ж воклічамі. Абоз працягваў свой рух. Пад вазамі гайдаліся пустыя вёдры.

Па вуліцы ішла купка цыганак, па традыцыі апранутых у экзатычнае, стракатае адзенне — хусткі, ясёнкі, андаракі. Усе — нахабныя і бесцырымонныя. Жонка ў цыганоў ва ўсім падначалена мужу, аднак гэта не перашкаджае ёй быць смелай і агрэсіўнай у адносінах да астатняга люду, да нецыганоў. Адна з цыганак завязала размову з суседкай Хомчыхай, якая таксама выйшла з хаты. Лявон пачуў, як шумна, галасна гаварыла цыганка:

— У мяне пяцёра дзяцей, і ўсе хворыя, абдзёртыя, занядбаныя, і сама я хворая, і муж — дармаед. Раніцаю чакае, пакуль навару, а тады сядае, снедае, а потым зноў спіць. А мне — думай, круціся!..

Другая цыганка трымала ў руках разбухлую калоду карт, прапаноўвала пагадаць. Прычапілася да жонкі Мішы Латушкі круглатварай Рузаны, але тая, баптыстка па веры, аднеквалася, махала рукамі, прасіла не прыставаць, відаць, надта баялася саграшыць.

— Пазалаці ручку!

Рузана павярнулася і бягом кінулася ў хату.

Недалёка, пры гасцінцы, раслі вішні, яшчэ не ўсе паспелі выспець, а хлопчыкі-цыганяты паўзбіраліся ўжо на дрэвы і даставалі якія спялейшыя.

Гэта былі нашчадкі тых, хто вандраваў тут да вайны і раней. Яны даўно аблюбавалі мясціну за рэчкай і заўсёды тут спыняліся. «Агульнае» — так называлася гэтая мясціна — аблог, абсаджаны вербамі.

З'яўленне цыганскага табару адчулася адразу. Вясковыя мальцы — Валодзік з сябрукамі-падлеткамі — лавілі рыбу ў Лосьне і пакінулі вуды з жыўцамі, а самі пайшлі па кароў. Цыганяты падаставалі тыя вуды. На адну паспеў пачапіцца шчупачок. Узялі таго шчупачка, а з астатніх паздымалі жыўцоў. Забралі і вуды. Нехта бачыў і сказаў. Вечарам падлеткі пайшлі ў табар па

вуды. Цыганы сядзелі каля кастра. Жанчыны, быццам ім было зябка, пацепвалі плячыма. Чулася гамана. Хлопцы павіталіся, прыўзнялі кепкі і зноў насунулі на вушы, са здзіўленнем аглядалі цыганскае стойбішча. Браты Васька і Сашка Ламакі ажно параскрывалі раты. У Прусцы цыганоў называлі «дзецьмі ветру». Чаму за імі замацавалася гэткая мянушка, Валодзік не ведаў. Хіба што за бестурботнасць. Сапраўды, мужчыны цыганы выглядалі зусім бестурботна, ляжалі каля вогнішча і раз-пораз бесклапотна пазяхалі. Воддаль Валодзік убачыў прыхінутыя да вярбы вудачкі.

— Нашы, — пацвердзіў сябрук Іван Каленік.

— Нашы, — прызналі астатнія хлопцы.

Равеснікі з табара не пярэчылі:

— Бярыце, калі вашы, бо мы іх знайшлі.

— Давай я табе за тую рыбу пагадаю, — прапанавала старая цыганка ў завязанай на патыліцы хустцы, звярнуўшыся да Валодзіка. Яна сядзела крайняй. — Ты ляўша?

— Не.

— Не ўгадала! — узрадаваўся Толік Хомка, як бы яму было прыемна, што гадалка памылілася.

— Усё адно давай левую.

Валодзік працягнуў руку, цыганка ўзяла яе і стала ўглядацца ў далонь, потым прамовіла:

— Бачу твой лёс, лінію жыцця, выразна бачу. Не лёгкі твой лёс, але нехта аберагаць цябе будзе. Крыўдаў будзеш мець шмат, аднак запомні: усе, хто пакрыўдзіць, самі будуць хутка пакараныя...

Сказаўшы гэтак, цыганка адпусціла руку і стала глядзець у агонь. У круг выбегла дзяўчынка з доўгімі чорнымі косамі. Валодзік яшчэ да гэтага звярнуў на яе ўвагу: спадніца яе была пашыта з нямецкага фашысцкага сцяга. Яна пачала свой жвавы танец, закруцілася, падняўшы рукі і надзімаючы сваю стракатую спадніцу з чорнай свастыкай на худым азадку. Вочы яе пад апушчанымі вейкамі гарэзліва ўсміхаліся. Сын Цярэшкі Макацёра глуханямы Міша пальцам паказваў на дзявочы азадак, нешта намагаўся сказаць, але ў яго атрымлівалася толькі: «Яр-яр-яр!..» Не проста было зразумець, чаго ён хоча. Нямко і нанайка, нямы і глухі, спалучаліся ў ім у адной асобе.

Ад Валодзіка не адставала старая цыганка.

— Брыльянтавы мой, прыгожы, хадзі, красавец, пагадаю, — упрошвала яна, адсоўваючы за вушы космы сівых валасоў, што захіналі твар.

Хлопцу стала крыху сорамна ад таго, што трапіў раптам у цэнтр увагі, ён адмоўна круціў галавой. Цыганка ўзяла яго руку.

— Я ўсё пра цябе ведаю, — працягвала гадалка. — Ведаю нават, што цябе чакае.

— Што, што? — сталі дапытвацца сябры.

— Малы ён яшчэ, у школу пойдзе...

— Не бяруць яго ў школу! — запярэчыў Грышка Гальяш.

— Бо малы! — паўтарыў нехта.

— Усё будзе добра, — супакоіла цыганка, — але тут жыць не будзеш. Не, не будзеш.

— А дзе?

— Вось яна — лінія жыцця. Далёка павядзе яна цябе...

— Не павядзе, бо вайна, — прамовіў Сашка Чапёрка.

Блішчэлі ў святле полымя твары цыганоў.

— Вайна хутка скончыцца, — не адрываючы вачэй ад вогнішча, сказаў адзін з мужчын. — Далі па карку, перабілі хрыбетнік, ужо не ачуняе.

— Можа, і нам больш раздолля будзе! — дадаў другі цыган, павёўшы рукой вакол вогнішча. — Пра прапіску гавораць. А якая цыгану прапіска? Прапіска цыгану — што пяцелька на шыю.

— Цыганы жывуць, пакуль качуюць, — самаўпэўнена, горда сказала старая цыганка, што гадала Валодзіку, — а свет жыве, пакуль цыганы качуюць. Перастануць качаваць, і свет прападзе.

Яна сунула ў рот набітую тытунём люльку, прыпаліла вугельчыкам ад кастра, раздзьмула і шчодра пыхнула дымам. Далей падлеткі ўжо не затрымліваліся, радыя былі, што знайшліся вуды, і ўсе разам паімчаліся ў вёску.

Табар стаяў з тыдзень, а потым, раніцай, знік, нібы растварыўся ў паветры, павандраваўшы, відаць, далей за сваёй цыганскай зоркай. Аказваецца, можна жыць і так: не араць, не сеяць, ездзіць з месца на месца, вандраваць, карыстаючыся выпадковым заробкам.

Шмат жабракоў стала наведвацца ў Пруску. Пры немцах яны баяліся паказвацца, а цяпер паднавілі і вынеслі на свет свае хатулі. Па вайне гэтая грамадская катэгорыя значна памаладзела. Шмат было пагарэльцаў, якія прасілі міласціну.

— А бо-ожачкі! Пагарэльцы!.. — спачувала Фёкла, запрашаючы чалавека ў хату, каб папіў вады і крыху перадыхнуў.

Чалавек — здаровы і дужы, рукі-ногі цэлыя, не сляпы і не глухі, не ўбогі, аднак доля адправіла прасіць. Апрануты ў нейкае шмацішча, у лахманы, латка на латцы, на нагах цяжкія пасталы. «Гаротнік, — падумала пра яго Фёкла, — пагарэлец. Не прытвараецца...» Запрасіла ў хату. У хаце пахла жытлом, адчуваўся парадак. Падлога выскабленая і вымытая, амаль белая. Гаспадыня прынесла з кухні кубак малака, пастаяла крыху і прысела насупраць.

— Смачнае малако! — пахваліў чалавек. Зняўшы з сябе перакінутыя цераз плячо хатулі, сеў на лаўку і стаў расказваць.

— Ой-ёй! Нацярпеліся. Напоўніцу! Згарэла ўсё дашчэнту. Гэта ж летась у красавіку каля нашай вёскі немцы акружылі партызанскі атрад імя Чкалава, які толькі што тады арганізаваўся. Яшчэ не развіднела, як пастукалі ў вокны. Я асцярожна адхіліў ражочак фіранкі і глянуў на панадворак. Поўна немцаў! Свецяць ліхтарыкамі. Паліцаяў шмат з белымі павязкамі. Казалі, цэлы батальён. П'яныя! Зброю настаўляюць...

Слухаючы бедака, Фёкла ўспомніла чамусьці, як калісьці, яшчэ маладой, прыехаўшы з Лявонам сюды, на Берасцейшчыну, мясцовую гаворку слаба разумела, але вось, па часе, навучылася. У бяды, зрэшты, свая мова, яе можна зразумець і без слоў.

— Ну і пачалося! Божа мой! Прыставілі дулы да грудзей. Сын малодшага брата ўцёк быў з хаты, у каторую ўсіх сагналі паліць, значыць. Але ж куды ты ўцячэш — вакол вёскі было два ланцугі карнікаў, нікога не выпусцілі, забілі хлопчыка. І гергечуць: «Aber schnell, ferfluchte!»[1] А потым хату з людзьмі падпалілі, і ўсё падпальваць пачалі — хаты, хлявы, клуні. Куры як пашалелі, дык яны за курамі пачалі ганяцца. А людзі крычаць, а людзі крычаць!

Фёкла з жахам слухала, узрушана хітала галавой. Сэрца напаўнялася шкадаваннем. Відаць было, што чалавек глыбока траўміраваны і яго ніяк не адпускае тое, што з ім адбылося.

---

[1] Хутчэй, хутчэй! (ням.).

— Бацька мой на агародзе схаваўся, паліцай знайшоў і забіў. Забіў і ў агонь кінулі. Можа, яшчэ дыхаў. І ніякі не сон гэта было, а ўсё насамрэч. Усё да пылінкі згарэла, да падмуркаў.

— А ты як ацалеў?

— Я пад падлогу схаваўся, не знайшлі. Як выграбся з той бяды, і сам не ведаю.

— Нічога не зробіш, трэба пацярпець, Бог не без міласці.

— На падаянне жыву. Хто што дасць. Можа, хоць варыўца сырога? Можа, картоплі ёсць? У прысаку спяку... Здаецца, каб пад'есці хлеба даволі, дык і бяды б не было. Есці надта хочацца.

Фёкла прынесла з дзясятак бульбін і лусту хлеба з рэшткамі запечаных кляновых лісцяў. Не дай, дык тады самой сорамна хлеб той есці. Але які там хлеб! Хлеб яна пякла, дамешваючы грэцкую муку, а часцей — драную бульбу, дадавала ільняны або канапляны жмых.

Пагляд чалавека пажвавеў, стаў цяплейшы і прыязнейшы.

— Хто шчыра дае, той удвая дае, — прамовіў ён.

Фёкла нічога не адказала.

— Не ўсюды даюць. Здараецца, што і напіцца вады шкадуюць. «Дзе наеўся, там і напіся», — кажуць.

Чалавек панюхаў хлеб.

— Ой, якая гэта асалода — есці хлеб! — здзіўлена пахітаў ён галавой. — Хай вам аддзячыцца на гэтай зямлі! Можа, што выжабрую...

Прасівец, атрымаўшы лусту хлеба, печанага з бульбай, перакінуў цераз плячо свае хатулі, яшчэ раз падзякаваў і патэпаў сваёй дарогай. Фёкла доўга глядзела яму ўслед, пра нешта думала.

З супрацьлеглага боку пазіраў праз плот сусед Міша Латушка. Спытаў, што чутно ад Васіля. Фёкла паціснула плячыма:

— Невядома.

— Даўно ўжо не было ад яго вестак.

— Вернецца! — суцешыў Міша.

Завітаў быў стары знаёмы — Кузёмка. У Кужалёў ён лічыўся амаль што сваім, але даўно не наведваўся. Аціраўся недзе па іншых месцах. Апрануты быў у шарачковую світку, падпяразаную сырамятнай папружкай. На нагах боты з зіхоткімі халявамі. Не жабрак, не ўбогі, а проста вандроўнік. Гаўкнула разы са два Нэрка, але пазнаўшы даўняга знаёмага, змоўкла.

— Добры дзень таму, хто ў гэтым даму! — сказаў госць, зачыняючы за сабой дзверы. Зачарпнуў кубкам з вядра, што стаяла ў кутку, і прагна папіў.

Кузёмка не прасівец. Замест торбы ў яго ядлаўцовы кій. Кузёмка — валачашчы чалавек, пра якога ведалі, што ён ходзіць бязмэтна, пустаход, бадзяга.

— Як пажываеш? — сустрэла яго Фёкла.

— Хаджу патроху па свеце, вось дай, думаю, у Пруску загляну, вас праведаю.

— Дзякуй, што не забываеш.

— А ваша як здаровейка?

— Трываем.

Вандроўнік сцягнуў з галавы старую шапку-магерку і, не спяшаючыся, павесіў на ўбіты ў сцяну гак. Паказаў тым самым, што паважае хату і тых, хто ў ёй жыве, і сябе просіць лічыць сваім. Другое, што зрабіў, — агледзеў боты. Халявы блішчэлі, а падноскі прыцярушыў дарожны пыл.

— Запэцкаўся! — незадаволена прыцмокнуў вандроўнік, дастаў з кішэні прызначаны для такіх выпадкаў шматок нейкай тканіны і старанна абцёр пыл. Тканіну акуратна згарнуў і паклаў назад, у кішэню.

Памыў на кухні над вядром рукі. Агледзеўся і, не пытаючыся дазволу, прысеў на столак каля печы. Вочы, як дзве гарошыны, праменіліся нейкай паблажлівай усмешлівасцю. Пра яго ўзрост цяжка было сказаць дакладна: не малады і не стары, нешта сярэдняе.

Зайшоў Лявон, павітаўся з госцем, спытаў:

— Ну, як?

— Кукую, аднака, як тая зязюля. Ціха навокал, як пасля навальніцы, сонейка свеціць, травіца расце, Бог з неба пазірае — любата! — Кузёмка, з прычыны адсутнасці некалькіх зубоў, крыху шапялявіў.

— Якая там любата, калі вайна ідзе.

— Твая праўда, — згадзіўся вандроўнік. — Гора — шмат...

На момант паявіўся ў хаце Валодзік, але тут жа зноў пабег на вуліцу.

— Гадованік ваш, — адзначыў Кузёмка.

Забегла суседка Хомчыха. Ногі, як звычайна, без атопак, босыя, прыхаваныя пад доўгім андараком. Сама ўжо прыкметна пастарэлая, галава белая ад сівізны. Шчокі пабляднелі і запалі, але вочы, як і ў Кузёмкі, усё яшчэ з цікаўнасцю, неспакойна пазіралі на свет. Яна часта па той ці іншай патрэбе забягала да Кужалёў. То круп, то мукі, то яшчэ чаго-небудзь пазыч, а часам нявестка Дзякрэта прыбягала з накрыўкай ад каструлі па жар — распаліць печ. Апанас на фронце, і Кужалі з суседзямі дзяліліся ўсім. На гэты раз спатрэбілася соль.

Хомчыха павіталася, дала «добры дзень», стомлена крэкнула і запыніла пагляд на Кузёмцы. Потым прысела на столаку, ля сцяны.

— Ну, што чуваць? — звярнулася Фёкла адначасова і да Кузёмкі, і да Хомчыхі.

— Усякае здараецца, — азваўся вандроўнік. — Ужо на яго тэрыторыі ваюем, у Германіі. Супраціўляецца акаянец! Але хутка ўжо будзе перамога.

— Каб хутчэй! — нецярпліва прамовіла Хомчыха, жадаючы прыспешыць падзеі, каб дачакацца сына Апанаса.

— Дачакаемся!

— Чым жа ты займаешся? — папытала Хомчыха. — Усё кажухі шыеш?

— Шыю, але цяпер рэдка. Вочы ўжо не тыя, не проста ўжо нітку ў іголку ўсадзіць.

— Можа, ужо ажаніўся?

— Жаніцца? А куды спяшацца?

— Як — куды?

— Не да таго! — Кузёмка нават хітнуў галавой, як бы шкадуючы, што суразмоўца не ўсё разумее. — Жонка будзе замінаць, трымаць за палу. Я ж на адным месцы не сяджу. Я хаджу, думаю...

— Сэрца, відаць, у цябе лянівае, не здольны ты да кахання.

— Я іншым заняты! Я хаджу...

— Дык гэтак, пакуль ходзіш, і жыццё можа скончыцца!

— Гэта ўжо не ад нас залежыць. Хто калі памрэ — аднаму Богу вядома, — прамовіў вандроўнік і зрабіў глыбокі ўдых.

Усе сумна паківалі галовамі, а Кузёмка са свістам выдыхнуў з грудзей паветра.

— Гэта ж вельмі добра, што чалавек не ведае, калі памрэ, — дадаў Лявон, які рэдка ўмешваўся ў размову, болей любіў і ўмеў слухаць, чым гаварыць, але часам усё ж такі ўстаўляў слова-другое.

— Ой, вайна гэтая праклятая! — уздыхнула суседка. — Каб на яе паморак! Апанас на фронце, а на мне Дзякрэта з дзецьмі. У хаце па вуглах трэск

нейкі чуем. Што б гэта магло быць? Не ведаем — ні я, ні Дзякрэта. Трашчыць і трашчыць...

— А гэта дамавік! — з упэўненасцю павёў галавой Кузёмка. — Ён крыжа баіцца. Перахрысці тое месца, і ён уцячэ. За кожнага вядуць спрэчку анёл з чортам і невядома каторы пераможа.

Прысутныя задумаліся, прымоўклі.

— Хутка вайне канец! — запэўніў Кузёмка. — Марыканцы дапамагаюць. Нашыя з гэтага боку ціснуць, з усходу, а яны — з захаду. І тэхніку даюць: танкі, самалёты, самаходы. Вядома, вайна страху наганяе, але людзі жывуць, адбудоўваюцца, сеюць. Адны жэняцца, другія паміраюць. Усякае здараецца. — Скончыўшы казаць, вандроўнік колькі разоў кашлянуў.

— А мне сёння нейкая ярунда снілася, што быццам з Назарам сваім пераспала, — сказала Хомчыха як бы ў пацвярджэнне Кузёмкавых слоў, што «ўсякае здараецца». — Чула нават, як яго барада казытала мяне. Ніколі б не падумала! Ашалець можна!..

— Няўжо? — здзівілася Фёкла. — Назар жа яшчэ з той вайны не прыйшоў...

Кузёмка незадаволена закашляў.

— Маніш! — нязгодна крутнуў ён галавой. — Выдумляй ды меры глядзі! Пра такое маўчаць трэба. Ты ж ужо, жанчына, не маладайка!

— Не выдумляю! Я праўду люблю казаць. Такая ўжо ўдалася.

— Менш гавары, то больш пачуеш, — павучальна параіў вандроўнік і павадзіў сябе рукою па цемені, нібы хацеў пераканацца, што ўсё на месцы — і галава, і тое, што ў ёй.

— Цікава, што будзе пасля вайны? — камусьці, а можа, сама сабе задала пытанне Хомчыха.

— Гэтага ніхто не можа сказаць, аднаму Богу вядома, — прамовіў вандроўнік. — Што будзе, тое будзе. Жыццё адно, але дні не паўтараюцца. Шмат трэба цярпець, каб трапіць у царства нябеснае.

— Але ж і набожны ты стаў, чалавеча! — здзіўлена пахітала галавой жанчына. — Пажыць бы яшчэ хоць трохі...

— А ў вас хлебам пахне! — зазначыў вандроўнік, уцягнуўшы ў сябе паветра.

— А ў цябе ўжо сліна па барадзе пацякла! — зноў падкалола яго Хомчыха.

Пазычыўшы драбок солі, суседка заспяшалася дадому. Кузёмка памахаў ёй рукой, а калі Хомчыха зачыніла за сабой дзверы, сказаў:

— Старая ўжо, хутка пад бакі трэба будзе падтрымліваць, а пра ліхое думае.

— Не, яшчэ жвавая, — не згадзіўся Лявон, — бягом бегае.

— Пад старасць і кот дурнее! — махнуў рукой Кузёмка, відаць, адчуваючы сябе пакрыўджаным. — Хаця якім ужо нарадзіўся чалавек, гэткім і памрэць, — дадаў ён.

— Зрэшты, хітрасць і дурнота — адно і тое ж, — ізноў азваўся дзівак.

— Есці будзеш? — спытала гаспадыня. — Бульба ёсць, кіслае малако, крупнік. Хлеб у нас цяпер з грэцкай мукі, ды я яшчэ і бульбы дадаю.

— Буду, бо галодны.

— Дык я зараз прынясу.

— А што, у вас і хлеб ёсць?

— Хлеб ёсць. Хоць з бульбай, але ёсць. Без чорнага куска везде тоска, — сказала Фёкла, успомніўшы родную мову. — Калісьці сітны пякла, але даўнавата гэта было, мукі няма.

Вандроўнік нарэшце распрануўся, зняў з сябе світку.

Фёкла наклала ў гліняную міску тоўчанай бульбы, на парэшту перавярнуўшы гаршчок уверх дном, прынесла конаўку кіслага малака, пару вараных яек і лыжку. Кузёмка бліжэй прысунуўся да стала, напаўшэптам памаліўся на абраз, што на покуце, і пачаў сілкавацца.

— У вас тут яшчэ нічога, а на ўсходзе, — ён паказаў рукою кудысьці ў акно, — з крапівы ды лебяды хлеб пякуць. Снітку вараць. Ад сніткі ногі, як ніткі. Тарбэшнікаў шмат, калек, жабракоў, прасіўцаў... У беднасці жывуць, у нэндзы.

Сёрбаючы крупнік, ён акуратна, каб не накапаць на стол, падстаўляў пад лыжку хлеб і асцярожна падносіў да рота. Калі падмацаваўся, адклаў лыжку ўбок, рукавом выцер вусны і, павярнуўшыся ў той кут, дзе вісела ікона, перахрысціўся.

Лявон вярнуўся да ранейшай гаворкі:

— Неяк жа будзем жыць. Калі амерыканцы дапамагаюць, то ўсё будзе добра.

— Так ці інакш, а Гітлеру капут, я яшчэ тады прадракаў, — адказаў Кузёмка і запытаў: — Жыта пасеяў ужо?

— Збольшага пасеяў. Ужо ж грымела.

— Калі сеяць, трэба на месяц глядзець, на той, што на небе.

— На месяц?

— А так! Месяц надта моцна ўплывае на расліны. Ён жа мяняе свае фазы, часам свеціць і ўдзень! Калісьці дзед мой Бутрым нічога па гаспадарцы не рабіў, не паглядзеўшы на месяц.

— Гарох я яшчэ не сеяла, — сказала Фёкла, прыбіраючы посуд.

— Гарох трэба сеяць маладзіком, — параіў Кузёмка. — З гароху смачная каша-гарошніца.

Сказаўшы гэтак, ён змоўк, нібы ўспомніўшы старую прымаўку: хто маўчыць, дваіх навучыць. Але ненадоўга:

— А за Мінскам, — ён уздыхнуў, — коней няма, дык саматугам цягаюць плуг, дзевяць чалавек цягнуць, а дзясяты — арэ.

— Бяда-а! — захіталі галовамі гаспадары.

Затрымлівацца вандроўнік не стаў.

— Яшчэ пасядзі! — прапанаваў Лявон.

— Не, пайду. Нагрэтага куточка шкада пакідаць, але пайду. Трэба рухацца, каб струп на паясніцу не сеў.

Развітаўшыся з Кужалямі, ён з незалежным выглядам выйшаў з хаты і падаўся ў бок Камянецкага гасцінца. На хаду быў нязгоршы.

## II

Паўсюль бачыліся сляды вайны. Прускаўцы закопвалі бясконца доўгую лінію акопаў, якія, уцякаючы, пакінулі за сабой немцы, не паспеўшы іх па сутнасці і выкарыстаць. Кругом валялася зброя, міны, снарады, скрынкі з патронамі і іншае ваеннае начынне, да якога неадольную цягу праяўлялі хлапчукі, з ахвотаю дапамагалі сапёрам-чырвонаармейцам зносіць знойдзеныя міны і складаць іх у кучы. Іх знаходзілі паабапал дарог, у акопах і лясных закутках. Каля царквы наклалі цэлую крушню гэтых вялізных жоўтых талерак.

У такой незвычайнай абстаноўцы праходзіла дзяцінства Валодзіка. Потым, асабліва калі вырас, стаў дарослым, ён адчуваў да яго ўдзячнасць і замілаванне, хаця было яно нялёгкім і не бясхмарным.

Найбольшай павагай і аўтарытэтам з сябрукоў карыстаўся Юрка Відэрка. Самы адважны, ён хадзіў абвешаны зброяй. На шыі вісеў нямецкі аўтамат, за плячыма целяпалася руская трохлінейка, да таго ж пад дзягу ўткнуў яшчэ і трафейную гранату з доўгім драўляным тронкам. З выгляду звычайны і несамавіты, Юрка нікому ні ў чым не хацеў саступаць. Жыла ў ім схільнасць і нават патрэба ў рызыцы і авантуры.

Супрацьтанкавымі мінамі вайсковыя сапёры глушылі ў Лосьне рыбу. Хлапчукі, асабліва Юрка, ад іх не адыходзілі. Аглушаная рыба, вялікая і малая, усплывала брухам уверх, яе даставалі і выкідвалі на бераг. Плотачкі, краснапёркі, шчупачкі, лінькі, сомікі, акунькі. Большую забіралі сапёры, дробязь раздавалі хлапчукам. Некалькі разоў па маленькім шчупачку і плотцы прыносіў дадому і Валодзік. Ад сапёраў навучыўся гэткім жа чынам глушыць рыбу і Юрка. «Дужы, як зубр», — казалі пра яго некаторыя, але Юрка быў не так дужы, як спрытны ды вельмі смелы. Смеласці яму было не пазычаць. Умеў запаліць шнур і шпурнуць міну ў раку, потым разам з усімі адбегчыся ад берага і залегчы. Паднімаўся аграмадны, вышынёй з царкву, серабрысты слуп вады, крыху завісаў у паветры і павольна апускаўся назад у рэчышча. Не ўся рыба ўсплывала адразу, частка заставалася на дне і, гушкаючыся на хвалях, паказвалася на рачной паверхні крыху счакаўшы. Яе прыбівала да берага, у берагавую расліннасць, але яна паспявала ўжо пратухнуць і смярдзела.

Лета змяніла восень, аздобіла ў залатыя строі дрэвы. На прускаўскіх агародах цешыліся сонцам і цяплом цыбатыя сланечнікі, з прывялага зелля вытыркаліся пярэстыя спіны даспелых гарбузоў.

У канцы верасня пачалі прыходзіць пахавальныя. Загінуў, паў смерцю храбрых пад Варшавай Сяргей Сталетнік. На Сандамірскім плацдарме абарваліся маладыя жыцці двух Коляў — Колі Шведа і Колі Відэркі. Палі на полі бою. Вестку пра Колю Відэрку прынесла Кужалям Хомчына нявестка Дзякрэта. Фёкла, палячы печ, заўважыла, як паўз вокан мільганула яе цельпукаватая постаць. Забегла пазычыць іголку.

— Ой, людкове! — застагнала яшчэ з парога. — Колю Відэркавага забіла!

— Колю!? — сумелася Фёкла.

— Паведамленне прыйшло, паштарка з Ратайчыц прынесла. У Відэркаў у хаце плач. Паў смерцю храбрых.

— Божа мой!

— Коля — стрыечны брат Юркі Відэркі. У адрозненне ад Юркі — ціхмяны, сарамяжлівы.

— А які паглядны хлопец быў! Ой-ой-ой! — не пераставала войкаць суседка. — Гэта ж нядаўна на Колю Шведавага пахавальную прынеслі, а цяпер і Відэркаў Коля!

Ваяваў на фронце, недзе ў Карпатах, і муж Дзякрэты Апанас. Жонка, вядома, трывожылася за яго лёс. У хаце на нейкі час усталявалася цішыня. Кожная з жанчын думала пра сваё. Фёкла перажывала за Васіля. Дзе ён? Што з ім? Можа, ужо таксама забіла?

— Чула я, — зноў пачала Дзякрэта, — што Лявон у чацвер да млына едзе, то хай бы і нам паўмяшэчка змалоў.

— Скажу, змеле. У клуні ён.

— Толік штонікі парваў, зашыць трэба. Па дрэвах лазяць, дык усё на іх як гарыць. Зашываць не паспяваеш.

— Вядома, дзеці.

— Іголку пазычце. У лаўку прывязуць, дык куплю сваю.

Суседка ўзяла іголку і пайшла, а Фёклу ўсё не пакідалі неспакойныя думкі пра сына. Даўно не атрымлівалі вестак ад Васіля. Апошні ліст прыйшоў у пачатку лістапада. Паведамляў, што пакуль што жывы і здаровы. Жартаваў, што жыццё на фронце вясёлае: кулі свішчуць і снарады рвуцца. Пытаўся пра ўсіх: як там дзеці, як Прося, пра бацькоў пытаўся і пра цесця з цешчай, і пра тое, ці выкапалі картоплі. Расказваў пра сябе, што жывуць яны цяпер у зямлянках, у лесе. Восень, ідуць дажджы. Над галовамі ляцяць кулі і снарады. Кухня, аднак, блізка. Есці даюць тры разы на дзень: супы, капуста, каша. Даюць цукар. Афіцэры дадатковы паёк атрымліваюць, але на тое яны і афіцэры. Пісаў, што носіць чаравікі з абмоткамі і што гэта лепей, чым кірзачы, таму што ні пяску не зачарпнеш, ні вады, а кірзачы з шырокімі халявамі, з іх толькі паспявай вытрасаць. Паведамляў таксама, што прысвоілі яму ваеннае званне «малодшы сяржант» як камандзіру аддзялення. Абучае новенькіх, неабучаных. А яшчэ паведамляў, што, як і на ўсякай вайне, ёсць забітыя, што ў кожнага свой лёс, што салдаты ад вайны стаміліся. Здараецца нават так, што чалавек сам пачынае шукаць сабе смерць. Сумныя думкі ад сябе адганяе. Гонім, хваліўся, ворага на захад, набліжаем перамогу. У канцы ліста прасіў прыслаць чыстай паперы і аловак...

У тым жа лісце прызнаўся, што даў таварышу на ўсякі выпадак свой адрас. Прося спытала: «А нашто ён даў таварышу свой адрас?» Фёкла з Лявонам прамаўчалі. Потым Фёкла заплакала, прытуліўшы да вачэй ражок хусткі. А Лявон сказаў:

— Я ж таксама на вайне быў. Страх — рэч натуральная, нават неабходная, калі не хочаш загінуць. Страх падказвае, адкуль небяспеку трэба чакаць.

У трохкутнічак Васіль уклаў 10 рублёў. Такое, тлумачыў, атрымлівае жалаванне — 10 рублёў у месяц. Афіцэры, вядома, атрымліваюць болей. Ліст заканчваўся, як заўсёды, выслоўем: «Чакаю атвета, як салавей лета». І дата: «3.09.1944г.»

Фёкла перажывала ўвесь час, старанна малілася, каб сын застаўся жывы, каб вярнуўся. Нявестка Прося пайшла да Амеліі Канстанцінаўны, каб пагадала на картах. Гадалка па-ранейшаму жыла ў сваёй частцы бацькавай хаты, мела асобны ўваход. Каля хаты, на ўсю шырыню вуліцы, пралягала вялікая лужына, напоўненая мутнай вадой, у якую няўдала ўваліўся некалі прускаўскі Трахім. Ля ўваходу ў Амеліна жытло, нібы вартуючы гаспадыню, у чалавечы рост і вышэй паўстала пустазелле. Да дзвярэй было не прабрацца — гэтак зарасло ўсё дзядоўнікам і буякамі. Па вузкай сцяжыне Прося дабралася да парога, адчыніла рыпучыя дзверы.

Амелія сядзела за сталом у капялюшыку са штучнымі папяровымі кветкамі, з-пад якога на ілбе і на скронях віднеліся пасмачкі бледна-жоўтых валасоў. Раскладала на стале карты. На левым запясці паблісквала бранзалетка. Напоўненая барахлом і хламам кватэра не даглядалася, на ўсім навокал ляжаў тоўсты пласт пылу, тхнула смуродам. Пад столлю цямнелі непрасохлыя разводы ад вільгаці, плямы плесні, нейкая слізь. Як напаказ, развесілі свае карункі-мярэжы павукі. Каля дзвярэй стаяла старая, абшарпаная мятла, ужо мала прыгодная для таго, каб ёю можна было карыстацца па прызначэнні. У Прусцы, Прося ўспомніла, казалі, што апоўначы на гэтай мятле Амелія лётае над хатамі і заглядае ў коміны, нібы чагосьці шукае.

Па кутках на розныя лады мяўкалі каты, якіх Амелія трымала ў сваіх апартаментах у вялікім мностве. Некаторыя лічылі яе вядзьмаркаю і сцвярджалі, што яна сама можа зрабіцца кошкай і лазіць па гарышчах. Плацілі варажбітцы мукой, крупамі, салам, яйкамі, грашамі — хто што прынясе. Тым і жыла,

бо нічым болей не займалася. Айцец Клаўдзій калісьці сказаў пра Амелію: «Блудніца Вавілонская», — маючы на ўвазе працяглы перыяд яе знаходжання ў Брэсце, у публічным доме, на Баторыя, 13, але гэта было даўно, яшчэ пры Польшчы, да вайны. Цяпер усё забылася, ніхто не помніў.

— Сядайце, мая дарагая, у фатэль, — запрасіла яна, кіўком галавы паказаўшы на крэсла, што стаяла па другі бок стала.

Крэсла выглядала бруднаватым, невядома калі з яго выбівалі пыл, але давялося, каб не пакрыўдзіць гаспадыню, сесці.

Прося папрасіла пагадаць на мужа, адразу аддала гадалцы прынесены ганарар — пару яек, і з трывогай уздыхнула:

— Сёння ноччу мне прыснілася разваленая печ.

На Амелію Канстанцінаўну гэта не зрабіла ніякага ўражання.

— Ой, маладзіца, табе прыснілася разваленая печ, а мая, бачыш, наяве разваленая. І ніхто не падумае, каб паладзіць...

Сапраўды, цэгла абвалілася зверху на прыпечак і на пліту, і печ выглядала занядбанай, як і сама гаспадыня.

— Ой, а калісьці, пры паляках, як жылі! — пачала ўспамінаць Амелія. — Я, ведаеш, на фартэпіяна іграла, каву піла, па дваццаць кубачкаў у дзень, сукенку з выкатам насіла! — Яна абедзвюма рукамі паказала глыбіню дэкальтэ, з якім была пашытая сукенка. Але наведвальніцу гэта не зацікавіла.

— Глянула ў акно, — Прося змахнула з падлакотніка пыл, працягваючы расказваць свой сон, — бачу: па вуліцы самаход едзе, а ў ім мой Вася сядзіць. Сядзіць, зірнуў у мой бок, але мяне не ўбачыў...

— Раскладаю карты на трэфовага караля. Ён у цябе брунет?

— Чарнавалосы. Сядзіць у самаходзе і праз шкло глядзіць і нібы пасміхаецца...

— Пасміхаецца?

— Ну, так.

— А гэта добра: удача табе нарэшце будзе. Але ладна! — гадалка скончыла раскладаць карты і прыгледзелася да іх.

— Удача?

— А чаму ж не?

Не перастаючы, мяўкалі шматлікія каты.

— Нічога ў свеце няма больш праўдзівага за карты. Вернецца ён з вайны і яшчэ доўга жыць будзеце, толькі...

Прося спалохана паглядзела на гадалку.

— Толькі што?

— Бачыш, побач з каралём трэф лягла бубновая дама.

— Ой!

— Жывы ён, а гэта галоўнае. Вернецца!

— Але ж бубновая дама!

— А што дама? У каго з мужыкоў яе няма?

— Калі падумаць, дык, можа, яно і так.

Ад Амеліі Прося вярталася абнадзеенай: «Галоўнае, што жывы і вернецца. Хаця б жывы быў...» Расказала аб усім свякрові. Абедзве адчулі хоць нейкае супакаенне. Бо такі чалавек — ён хутчэй за ўсё верыць у тое, у што хоча верыць, чаго чакае. Узніклае ў Просі пачуццё рэўнасці паступова знікала.

Хваля страху зноў узнялася, калі прыйшло паведамленне, што забіла Карнілу з Выгнанкі. Цяжка было паверыць. Асілак, якіх пашукаць. У плячах — аглобля. Грудзі — як печ. Бывала, жартам падлезе пад каня і падыме, нясе. Конь толькі перабірае капытамі. Ніхто ў вёсцы не даваў веры, што Карнілу

можа забіць нейкая там куля. І вось, на табе, забіла? «А можа, не нашага Карнілу забіла? — разважалі некаторыя. — Можа, наш ваюе сабе ды ваюе, нішчыць ворага?» На такую надзею спадзяваліся многія...

І яшчэ адна нечаканая і нечуваная вестка: Сяргей Вірко — хлапчына з Ратайчыц, паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава, закрыў сабою амбразуру. Пачуўшы такое, вяскоўцы застылі ў нямым здзіўленні, моўчкі схілілі галовы перад чалавечай мужнасцю. Сяргея добра ведалі: звычайны хлопец, такі, як усе, а, аказваецца, у ім жыў герой...

— Ой-ёй-ёй! — войкала суседка Хомчыха, успамінаючы няйнакш свайго Апанаса.

* * *

З верасня адчынілася школа. Настаўнікамі ў Прускую пачатковую школу прызначаны Мікалай Фаміч Шпронька і Аляўціна Дзіядотаўна Складоўская, якая пры Польшчы настаўнічала ў школе «паўшэхнай», таксама пачатковай. Шпронька пры Польшчы адносін да асветы не меў (займаўся гандлем — трымаў у Прусцы пры гасцінцы лаўку), а калі ў верасні 1939-га прыйшлі Саветы, здаў лаўку дзяржаве і перайшоў на працу ў савецкую школу, якая заняла будынак былой «паўшэхнай». Зараз у той былой Шпронькавай лаўцы — будынак захаваўся і ў вайну — сядзеў Салівэсь з Ліпны, гандляваў такім-сякім таварам.

Мікалай Фаміч пачуваўся даволі ўпэўнена, паклапаціўся пра даведку, што ў перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі дапамагаў партызанам, быў сувязным. Асаблівасцю Шпронькі — чалавека дзелавога і пракідкога — было тое, што ён умеў прыстасавацца да любой улады. Апрануты ў сіні фрэнч, ён выглядаў, як заўсёды, прадстаўніча. Чутно было, як на нагах рыпелі боты. Справіў сабе новую світку з крамнага палатна. Аблямаванае чорнай скурай галіфэ мелася ў гардэробе яшчэ з польскіх часаў. Шкодзіла беспартыйнасць, але Мікалай Фаміч не траціў надзеі па часе выправіць гэты недахоп і ўступіць у партыю.

Пакуль што ў школе было толькі два класы — першы і другі. У другім вучыліся тыя, хто хадзіў у школу да вайны, але не скончыў. Іх сабралася не шмат, і школіў іх сам Шпронька, затое процьма першакласнікаў. Чалавек семдзесят, і не толькі прускаўскія. Прыйшлі з Выгнанкі, з Пакупчыкаў, Бучамля, Сухаволля, з Бабіч і спаленых Зінькоў, з Бранавіч і Алешкавіч. Школа пасля доўгага перапынку зноў напоўнілася гоманам.

Валодзіка не бралі, бо вучняў хапала, аж надта, а яму да сямі яшчэ не ставала некалькіх месяцаў. Крыўдна было, не хацелася адставаць ад сябрукоў.

— Малы ён у вас — метр дваццаць разам з шапкай, — пацвельваючы, сказала Аляўціна Дзіядотаўна.

Фёкла аднак жанчына бойкая, смелая, узяла ўнукаў бок. Упрасіла Аляўціну Дзіядотаўну. Тая пагаварыла з Мікалаем Фамічом, і справа наладзілася. Валодзік ад радасці адчуваў сябе на сёмым небе.

У класе шмат пераросткаў. Валодзіка пасадзілі за першую парту разам з Пецькам Якавуком, які таксама не вельмі выйшаў ростам. Яны равеснікі. Старшы Пецькаў брат Аркадзь у школу не пайшоў, бо ўжо не адпавядаў вучнёўскаму ўзросту, меў ужо гадоў з дваццаць. Такому сядзець за партай побач з падлеткамі нават сорамна. Але чытаць-пісаць умеў: адхадзіў калісьці дзве зімы ў польскую школу.

— З настаўнікамі будзь паслухмяны, — прасіла бабуля, — настаўнікаў слухайся!

— А то я не слухаюся?! — кідаў унук у адказ, не задаволены тым, што яго павучаюць.

— Май цярпенне!

Яны — Мікалай Фаміч, які стаў дырэктарам, і Аляўціна Дзіядотаўна — і павялі увесь навучальны працэс.

— Веле[1] вас сабралася! — падзівілася Аляўціна Дзіядотаўна, азіраючы пасеўшых за парты вучняў.

Зайшоўшы ў клас да сваёй калегі, Шпронька агледзеў памяшканне, павадзіў вачыма па сценах.

— Трэба партрэт Сталіна, нават два: у залу і ў настаўніцкую, дзе мы з вамі будзем сядзець. Без гэтага справа не пойдзе.

Сталіна Аляўціна Дзіядотаўна не цярпела і баялася яшчэ з даваенных часоў, калі нкусаўцы падбіраліся да яе бацькі — былога дзячка, якога лічылі «нетрудавым элементам», і не пасадзілі толькі з-за недахопу часу, пачалася вайна. Ёй чамусьці здавалася, што Сталін знаходзіцца недзе блізка, у Камянцы, у райцэнтры, і ад яго можна чакаць усялякага ліха. Тым больш, што бацька, стары Дзіядот, яшчэ жыў.

— Ой, Мікалай Фаміч! — уздыхнула яна.

— Гэта дзяржаўны падыход да справы, Аляўціна Дзіядотаўна. Інакш нас не зразумеюць. Не забывайце, што мы з вамі былі ў акупацыі. Гэта, на думку Сталіна, вялікі грэх.

— А што нам было рабіць? Нас пакінулі, пра нас забылі.

— Цяпер могуць успомніць. Сталін яшчэ нікому нічога не даравў.

Партрэт прывезлі з Камянца, з райана, дзе яго размяркоўвалі па школах. Як вялікую каштоўнасць, прымацавалі над класнай дошкай.

Навучанне пачалося з буквара, які хлопцы адшукалі сярод папер і польскіх кніжак на школьным гарышчы. Знайшлі таксама скрынку з упрыгожаннямі для навагодняй ёлкі. Цацкі падзялілі паміж сабой і занеслі дадому, але Аляўціна Дзіядотаўна прымусіла ўсё вярнуць назад, на гарышча. На Новы год упрыгожанні могуць спатрэбіцца. Настаўніца яна была строгая. З савецкім педагагічнымі прынцыпамі незнаёмая. Калі што — і за вуха можа крутнуць, і па карку з’ездзіць. Навучала правілам паводзін і добрым манерам. Хорам, пад кіраўніцтвам Аляўціны Дзіядотаўны засвойвалі: «Ау-у!», «Уа-а!»

Пільна сачыла за гігіенай. «Мыйцеся, вады хапае! Мыйцеся з мылам! — настаўляла яна і дадавала, чамусьці па-польску: — Od mydła jeszcze nikt nie umarł»[2].

— Мыла ў вочы ўядаецца, — паскардзіўся Валодзька Хрысцінін, перарастак. — Уядаецца і казыча.

— Казыча і шчыпаецца, — з нахабнай усмешкай дадаў яго сябар Жэнік Яўгенін.

— Бруд не любіць мыла, таму і шчыпаецца! — адпарыравала настаўніца.

Валодзька і Жэнік — падшпаркі ўжо, і вельмі жвавыя, і адзін вяртух, і другі, але «вучыцелька» знаходзіла на іх управу. Паспрабуй, прыйдзі з бруднымі вушамі ці нястрыжанымі пазногцямі. За гэта Аляўціна Дзіядотаўна балюча перыла лінейкай. Лінейка яе часта даставала Івана Павалчука з Зінькоў. Зінькі — вёска, спаленая карнікамі за месяц да вызвалення. На месцы хат стаялі адны коміны. Людзі жылі ў зямлянках і, вядома, надта бедавалі.

---

[1] Шмат (польск.).

[2] Ад мыла яшчэ ніхто не памёр! (польск.).

Абыходзіўся Іван, як і іншыя, без цырульніка. Чупрына на галаве — як стог. Каб стрыглі нагала ды яшчэ нажніцамі — не хацеў, бо нажніцамі, лічыў, стрыгуць толькі авечак. «О-о-о, як авечка!» — смяяўся з такога клас. Ды і да дзяўчат з астрыжанай галавой не пойдзеш, а пераростак Іван патроху ўжо на іх пазіраў. Наведваў школу толькі зімой, цёплым часам пасабляў маці па гаспадарцы.

Былі праблемы з пісьмовымі прыладамі, паперай, алоўкамі. Пісалі, засвойваючы грамату, на газетных палях.

— А ў мяне кітрадзі няма, — ціха паскардзіўся Жоржык Хомка.

— Не кітрадзі, а сшытка, — папpавіла яго Аляўціна Дзіядотаўна.

— Усё адно няма.

Чарніла навучыліся рабіць з крушыны. Тое-сёе са школьных прылад дасылалі з Камянца, з райана.

Мікалай Фаміч вярнуў у школу некаторыя прыборы з фізічнага кабінета, якія ў вайну перахоўваліся ў яго дома.

На сцяне ў калідоры Мікалай Фаміч буйнымі літарамі напісаў словы, якія сказаў Ленін: «Учиться, учиться и учиться».

Вучылі на памяць вершыкі. Вярнуўшыся са школы, Валодзік дэкламаваў іх дзеду з бабай, якія сачылі за поспехамі свайго «гадованіка». Так у Прусцы называлі дзяцей, якія выхоўваліся не ў бацькоў, а ў дзеда з бабай. Першы вершык, які ён вывучыў у школе на памяць, гучаў вельмі задзірыста:

Усе буржуі — дуракі,
Мы іх возьмем на штыкі.
Нам буржуі ніпачом,
Мы буржуя кірпічом.

— Як, як? — перапытаў унука Лявон.

— «Кірпічом».

— Надта ж ваяўнічы. За што чалавека «кірпічом», калі ён невінаваты.

— Мікалай Фаміч з намі яго развучваў.

— Ну-ну! Ён жа і сам былы буржуй. Калісьці лаўку трымаў.

— Дык гэта толькі вершык, — вырашыла спрэчку Фёкла, — для смеху.

Выкладаліся ў школе і спевы. Гэты прадмет вяла Аляўціна Дзіядотаўна. На ўроках спявалі хорам і паасобку. У хоры разам з усімі, з класам, Валодзік спяваў без запінкі, а самастойна, аднаму, спяваць не атрымлівалася. Ад нейкага перанапружвання голас кудысьці знікаў, губляўся, чулася нешта, як казала Аляўціна Дзіядотаўна, «нечленараздзельнае». Але, дзякуй ёй, «тройку» ставіла.

Пад канец заняткаў надта хацелася есці, але даводзілася цярпець. Каму маці паклала ў торбачку праснак, той мог на перапынку з’есці, але не кожны таго праснака меў.

Зімой некаторыя заставаліся дома — не было ў што абуцца.

## III

Валодзік, парабіўшы ўрокі, гуляў з братамі — Віталікам і Лёнікам, якія ў школу яшчэ не хадзілі. Пускалі мыльныя бурбалкі. Валодзік макаў саломінку ў мыльны раствор, прыкладаў да вуснаў і дзьмуў. З другога боку саломінкі ўзнікаў шарык. Адзін, другі, трэці. Ляцелі ў паветры. Бліскучыя трапяткія шарыкі адлюстроўвалі ўсе колеры вясёлкі. Віталік з Лёнікам спрабавалі іх

лавіць і ажно пішчалі ад захаплення. Сёння яны прыйшлі да старэйшага брата ў госці. Валодзік жыў у дзеда з бабай ад нараджэння. Васіль з Просяй паставілі сваю хату, аддзяліліся, нарадзіліся Віталік з Лёнікам, а першынец застаўся ў Лявона з Фёклай, там і прывык. Унукаў дзед з бабай любілі, песцілі, асабліва Фёкла. Ёй хацелася ахутаць іх сваёй пяшчотаю і цеплынёй. Гатавала ім прысмакі. Чырвоныя буракі рэзала саломкай і сушыла ў печы. Атрымліваліся цукеркі свайго вырабу. Дзеці ласаваліся імі, цягаючы ў кішэнях. Калі хто з іх прастуджваўся, Фёкла ставіла банькі. Ледзь не штодня раніцай унукі Віталік з Лёнікам, пабраўшыся за рукі, праз усю вёску ішлі да бабулі. Бабуля чакала іх, ведала, што маюць прыйсці ўнукі, пякла праснак або частавала дранікамі. Спажыўшы пачастунак, малыя хапаліся за венік, каб дапамагчы бабулі падмесці хату.

Вечарам Фёкла даіла каровак і паіла ўнукаў сырадоем. Кожнаму — кубак, а калі хто хацеў, дык і болей. Пілі і смакавалі дасхочу.

— Небажаты мае! — казала яна, пазіраючы на малечаў. Яны яе лепш слухаліся, чым нават Просі, ліплі да бабулі, як да мёду. Зрэшты, малых песцілі ўсе. Лявон умеў рабіць з вярбы свісцёлкі, якія надта цешылі і захаплялі ўнукаў. Малыя былі для дзеда з бабай уцехай на парозе надыходзячай старасці.

Другі дзед — Мікалай з Пакупчыкаў, бацька Просі, змайстраваў унукам крэсельца з коламі. Надта прыдалося для гульняў: адзін у ім сядзіць, а двое папіхаюць ззаду. Але не доўга хлопцы цешыліся. «Брычка», як называў гэтае крэсельца з коламі сам майстар, наехала на камень, і зламалася вось. «Брычку» паставілі пад паветку і перайшлі, калі старэйшы брат вяртаўся са школы, на іншыя гульні. Цяпер пускалі бурбалкі. Штораз прыліпалі насамі і шчокамі да шыб і назіралі за тым, што адбывалася на вуліцы, хто куды пайшоў. Заўважылі, як за вокнамі паказалася жанчына з паштовай сумкай. У руцэ яна трымала пісьмо-трохкутнік. З клуні, убачыўшы паштальёнку, прыйшлі Лявон з Фёклай. Гэта быў ліст ад Васіля. Паклікалі Просю. Яна стала чытаць уголас. Васіль пісаў:

«Дарагая і любая жонка Прося, дзеці Валодзя, Віталік і Лёня, дарагія тата і мама!

Уведамляю вас, што я пакуль што жывы. Перад наступленнем нас паставілі ў шарэнгу, і на «смірна» мы слухалі Гімн Савецкага Саюза. Наша дывізія рушыла ў бой. Гарматы б'юць без перастанку, але мне ўжо не прывыкаць. У жыцці, як вядома, да ўсяго можна прывыкнуць. Выдалася аднак хвіліна перадышкі. Атрымаў ваша пісьмо, чытаў і плакаў, настолькі па ўсіх вас сумую. Каб хоць адным вокам глянуць. Тут, дзе я цяпер, вайна. Немцы пускаюць ракеты, асвятляюць пэрядні край. Вось я вам і пішу. Асаблівых навін няма. Вайна — цяжолая. Самае страшнае — гэта мінамётны агонь. Можа, і вам давядзецца паплакаць, як і многім іншым. Але нічога не зробіш. Хочацца, аднак, ацалець. Лепш за ўсё пра смерць не думаць. Ваяваць навучыліся, дзейнічаем грозна і хутка, са стратамі ніхто не лічыцца.

Б'ём ворага ў яго логаве, гонім далей на захад, да самай яго бярлогі. Навучыліся метка страляць. Сам бачыў, як у іх ад бліндажа паляцелі ўверх бярвенні і тыя, хто там сядзеў. Фрыцы ўжо не тыя, што былі калісьці. Калі трапляюць у палон, дык кажуць: «Гітлер капут!» Але агрызаюцца, ды яшчэ як!

Нашы хлопцы надта хочуць мець гадзіннікі. Гэта лічыцца вялікай раскошай. Калі ёсць такая магчымасць, адбіраюць у палонных. Вайна ёсць вайна, чалавечага ў ёй мала.

Чакаю пісьма ад вас, і каб найхутчэй. Пішыце, што ў вас новага і як жывяце. Надта нуджуся па вам. Як там Віталік і Лёня? Прашу нашага старэйшага

сыночка Валодзю, каб добра вучыўся і добра сябе паводзіў, каб быў дысцыплінаваны і не прыносіў вам непрыемнасцей. Вучыся, сынок, граматнаму жыць весялей. Пахваліце дзяцей ад майго імя за харошыя паводзіны.

Нізкі паклон ад мяне ўсёй нашай радні ў Пакупчыках, прывітанне суседзям і знаёмым. Жыццё цяпер няпростае і нялёгкае. Ну але нічога, будзем жывы — не памром. За мяне не беспакойцесь, я тут сабе рады дам. Не ведаю адкуль, але ў мяне з’явілася цвёрдая ўпэўненасць, што застануся цэлы, што ніштo мяне не кране, што буду жыць. Я — як загавораны. Чакаю атвета, як салавей лета.

Ваш Васіль. 7.XI.1944 г.»

Адпісвала мужу Прося. Расказвала франтавіку пра прускаўскае жыццё-быццё, пра дзяцей. Напісала, як хадзіла варажыць да Амеліі, а таксама пра свой сон.

Васіль на вайне, і Лявон з Фёклай дапамагалі нявестцы, чым маглі, дзяліліся харчамі, забяспечвалі дрывамі. Мінула восень, пачаўся снежань, у паветры ўжо адчувалася набліжэнне зімы, а вайна ўсё не канчалася. Зрэшты, у прыродзе пра яе ніштo не нагадвала. У дрымотным задуменні стаялі бязлітасныя дрэвы. Спакойна і павольна клубіўся па зямлі туман. Ціха падалі на дол рэдкія сняжынкі. Прызябла, прыхапілася тонкім лядком Пліса, што бруілася за прускаўскімі агародамі, замерзлі ставы на Крухмальні.

Адзін за адным мінaлі кароткія зімнія дні, аднак сталую зіму адчулі бліжэй да Піліпаўкі. Мацней сталі ціснуць піліпаўскія маразы. Падваліла снегу. Па навакольных лясах тужліва вылі ваўкі.

Сабралася паміраць старая Хомчыха. Напачатку не надта гэтаму верылася. Усе ведалі, што Хомчыха ўмела выдумаць і часам нават сама не магла адрозніць выдумку ад праўды, умела пажартаваць, але на гэты раз усё выглядала сур’ёзна, насамрэч. Ужо з тыдзень ці болей, акрытая радзюжкай, моўчкі ляжала на прыткнутым да печы ложку, амаль не варушылася, стомлена пазірала на столь. З-пад радзюжкі тырчэлі худыя, парэпаныя ступні з крывымі пальцамі. Абутку Хомчыха не прызнавала. Усё жыццё прахадзіла босая — і ўлетку, і зімой. Валодзіка гэта вельмі дзівіла: ходзіць босая па снезе і не халадно ёй, не прастудзіцца. Аляўціна Дзіядотаўна раіла берагчы ад холаду не галаву, а якраз ногі, хвалілася, што можа выйсці з хаты з голай галавой нават у мароз і нічога з ёй не станецца, а Хомчыха рабіла наадварот: на галаве тоўстая хустка, а ногі босыя. Колькі ёй гадоў, ніхто не ведаў, абыходзілася, як і ўсе прускаўцы, без пашпарта.

— Можа, банькі паставіць? — рупілася каля хворай Фёкла.

— Не, палу ў яе няма, — адзначыла Дзякрэта, крануўшы рукою лоб свякрові.

Хомчыха ляжала моўчкі, а праз нейкі час праз Дзякрэту і дачку Вольку паклікала суседзяў, тых, з кім хацела ўбачыцца і, магчыма, развітацца. Так, не проста ўбачыцца, а менавіта развітацца. Прыйшлі Фёкла з Лявонам, Павал Гальяш, Цімоша Хлябіч, Фэдар-японец, Куліна Каленік, Ганна Бочка, Галёнкава Аляксейчыха, Гамон са сваёй Матронай, Тупчыкава Гапа.

Вярнуўся са школы Валодзік і таксама прыбег. Зірнуў на хворую, потым перавёў позірк на чэзлую, сухую кветку, што стаяла ў гаршэчку на падаконніку. Паміж імі штосьці агульнае, можа, тое, што і Хомчыха, і кветка дажывалі адпушчаны ім лёсам век, паміралі.

Людзі збіраліся. Тым, каму не хапіла месца сесці, стаялі каля парога. Думалі, што зносу гэтай няўрымслівай жанчыне не будзе, аж на табе. Памірае. Чутно было яе адрывістае дыханне. Хворай апекаваліся, падавалі ў кубку ваду, рабілі прымочкі, папраўлялі коўдру — дачка Волька і нявестка Дзякрэта.

Цяжкае жыццё пражыла кабета. Яшчэ на той, царскай, вайне загінуў Назар — муж Хомчыхі. Доўгі час не магла вылечыцца ад удовінага смутку, але ўрэшце ўсё ж такі крыху павесялела. Павесялела ды ненадоўга. Тры сыны памерлі ў дзіцячым узросце — ад голаду. Цяпер малодшага, Апанаса, на фронт забралі. Вялікай вынаходніцай была Хомчыха. Натаўкла ў ступе каласкоў з асакі, папярэдне высушыла іх. Дадала жменю жытняй мукі, яшчэ таго-сяго, замясіла і праснакоў напякла. Горкія атрымаліся, Дзякрэта нават блявала, але што зробіш, елі. Працавала шмат. Цягнула працу і сваю, жаночую, і мужчынскую.

— А мамулечка мая родненькая! А мамулечка дарагая! — сыходзіла слязамі Волька, бачачы, што маці, раней жывая і дужая, стала бездапаможнай. Разам з ёю пацiху шморгала носам і Дзякрэта, сумна жмурачы коса прарэзаныя вочы, з якіх па мучніста-шэрых шчоках сачыліся слёзы. З печы пазіралі ўнукі Жоржык і Толік.

Валодзіку таксама вельмі шкада было Хомчыху. Здавалася, што яна вечная, што жыццё ніколі не зморыць яе, аднак, не. Ён зірнуў на складзеныя на жываце яе сухія, маршчыністыя, з нягнуткімі агрубелымі пальцамі, рукі, на даўно нястрыжаныя пазногці з чорнай і, як цяпер здавалася, жалобнай аблямоўкай.

— Ой, як там Апанас? — ціха, варушачы бяскроўнымі вуснамі, затрывожылася Хомчыха. — Дзіця ж яшчэ, малады...

— Вайна скончыцца, і вернецца, — спрабаваў суцешыць Павал. — Ён не такі, каб пад кулю падстаўляцца.

Лявон сядзеў ля акна, маўчаў.

— Не дачакаюся я, калі яна скончыцца, — глуха, працягла вымавіла Хомчыха.

Усе зразумелі, што яна кажа пра вайну. Слухалі моўчкі, са спачуваннем.

— Прыйшла, чую, смерць. Паслаў нарэшце Гасподзь. Зямля абаранкам пахне. Рассыпся, белы пясочак!..

— А як жа інакш! — не да месца, як гэта часта ў яго атрымлівалася, ляпнуў Гамон, зняўшы з галавы шапку-аблавушку і папраўляючы рэшткі валосся за адтапыранымі вушамі і на патыліцы. — Паміраем патроху, памром усе. Гэта ні для каго не сакрэт.

— Ты, Гамон, лепей памаўчы, — ціха параіў Павал Гальяш.

Гамон не надта зважаў на заўвагі.

— Сціхні! — напудзілася на яго жонка Матрона.

— Балбоча, нібы пацеры гавора! — з дакорам дадала ў адрас Гамона нейкая з жанчын.

— Не хочаш — не слухай, а казаць не перашкаджай! — бараніўся Гамон. — На ладан дыша.

— Душа не памірае, — сказала Фёкла і ўздыхнула, зірнуўшы на ногі паміраючай: «Так, бедная, і прахадзіла босай усё жыццё да самай смерці, такія ногі ўжо і не адмыць. Такая жвавая была, такая пракідкая, так ужо старалася. Адна, без мужыка».

У хаце ўсталявалася маўчанне. Гамон зайшоў у хату, не абстукаўшы ад снегу ног, і цяпер каля яго атопкаў расцякліся вільготныя пляміны. Зноў загаварыла паміраючая:

— Прабачайце, калі каго пакрыўдзіла, можа, зняважыла каго. Я гэтага не хацела. Жыццё да ўсяго змушае. Даруйце...

Яна апусціла вочы, як бы не жадаючы, каб хто ў іх зазірнуў і зразумеў, што ў яе робіцца ўнутры і што яна адчувае. Жанчыны плакалі.

Зноў, ціха, сама з сабою, загаварыла Хомчыха:

— Ой-ой! Няўжо? І са мною здарылася! А я думала, што мяне міне...

Але ўжо гаварыць ёй было цяжка, пакутлівы выраз застыў на твары, слаба варушыліся пацямнелыя павекі.

— З Назарам сваім убачуся, — праз сілу прамовіла паміраючая.

— Кавэнчыцца, — сказаў нехта, спачуваючы паміраючай.

Паўз вокны, вуліцаю, прасунуўся сусед Грышка Латушка, але ў хату да Хомкаў не зайшоў.

— Нам, удавіцам, цяжка, — паскардзілася Груша, якая жыла адна з дачкою Валяй. Муж яшчэ да вайны падаўся ў Аргенціну, і з тае пары пра яго ніякіх звестак не было. Пакінуў пасля сябе пустуючы шнурок, які ніхто не абрабляў, і зямля зарасла пустазеллем, асотам ды малачаем. Сама Груша працавала ў школе прыбіральшчыцай. — Замужам жыці добра! — дадала яна. — Замест «жыць» яна казала «жыці».

Пачуўся стук у дзверы. Гэта прысунулася Амелія. Звычайна яна з'яўлялася на вяселлі, але не мінала і паховіны, не прапускала памінак, куды прыводзіў яе голад. На плячах у яе нейкія старыя лахі, паверх — няпэўнага колеру коўдра, якую прускаўцы называлі коцам. Ды яшчэ над галавою раскрыла стары, дзіравы парасон, што захаваўся, пэўна, яшчэ з даўніх, даваенных часоў. На ганку склала яго і зайшла ў хату. Зачыніўшы за сабою дзверы, яна ўціснулася на лаўку ў самым куточку, шчыльней захінулася коцам. Насунуты на галаву капялюшык аздоблены злінялымі папяровымі кветкамі, на руках пальчаткі з голымі пальцамі. Ніхто не звярнуў на яе ўвагі. Усе ведалі яе востры язык і не чапалі. Амелія дужа гаманкая, пачне гаварыць і збіваецца на крык. А ўсяму вінаватыя, кажа яна, нервы. Разлічвала, як звычайна, на памінкі.

— Ідзіце, я адпачыць хачу, — шэптам, але патрабавальна прамовіла паміраючая.

— Не гавары шмат, бо траціш сілы! — параіў ёй Гамон. Ён пазіраў на Хомчыху, адкрыўшы шчарбаты рот і з нейкай, як здалося Лявону, прытоенай радасцю, што вось Хомчыха воляю лёсу збіраецца на той свет, а сам ён застаецца і будзе жыць, і яшчэ, можа, доўга.

— Перад смерцю чалавека Бог па яго душу анёла пасылае, а той аддае яе Богу, — патлумачыла, як бы напомніла нешта важнае Тупчыкава Гапа.

— Кажуць, што душа чалавека ў сто разоў цяжэйшая за яго цела, — павольна і ўрачыста прамовіў Павал Гальяш.

— А хто важыў? — засумняваўся Гамон.

— Свечку грамнічную запаліце! — падказаў Фэдар-японец.

Дзякрэта адшукала свечку, запаліла і ўсунула паміраючай паміж пальцаў.

— Госпадзі ... блаславі іх ... цяжка ім будзе, блаславі.., — з натугай і астаноўкамі прамовіла Марчыха. Болей ад яе нічога не дачакаліся.

Нехта сказаў векавечнае:

— Такі, відаць, лёс...

Асцярожна, не спяшаючыся, людзі пачалі выходзіць, насоўваць на галовы шапкі. У хаце засталіся Дзякрэта і Волька, ды ў кутку ўсё яшчэ сядзела Амелія. Голасна, сутаргава рыдала Волька. Святла не запальвалі, бо не было газы. У Кужалёў яна была, амаль паўканістры, Фёкла нацадзіла і прынесла поўную бутэльку. Лявон калісьці выменяў на самагонку. Праз Пруску на захад, на фронт, ехала калона з гаручым. Чырвонаармейцы мянялі газу на самагонку.

Запалілі лямпу, укруціўшы, дзеля эканоміі, кнот. Стала святлей. Хомчыха ўжо адыходзіла. Паслалі за папом, айцом Клаўдзіем, каб паспавядаў. Бацюш-

ка айцец Клаўдзій не прымусіў сябе доўга чакаць, паспавядаў ужо нямоглую Хомчыху, даў прычасціцца і сказаў:

— Юдольніца, у турботах жыла і ў трудах.

На заканчэнне памахаў кадзілам, якое яму распаліў Оргій Відэрка, напусціў ладану.

Сканала Хомчыха пад раніцу. Нябожчыцы закрылі вочы і падвязалі падбародак.

— Прадставілася, — з уздыханнем канстатаваў Фэдар-японец, калі даведаўся пра гэта.

Оргій Відэрка адчыніў царкву, ударыў у звон. Зрэшты не ў звон, бо яго не было, забралі ў вайну на пераплаўку, на свае патрэбы, немцы, а ў звычайны кавалак рэйкі. Але гук атрымаўся — працяглы, жаласны, бездапаможны. Гэта быў знак, што памёр чалавек — суседка Кужалёў Хомчыха.

Ля дзвярэй Хомчышынай хаты паставілі, успёршы да сцяны, прынесеныя з царквы крыж і жалобную пратэсу. Не было з чаго збіць труну, не хапала дошак. Давялося разбіраць столь у сенях. Разбіраць дапамог Лявон. Каля труны завіхаўся, майстраваў Павал Гальяш — за вухам у яго, па-цяслярску, тырчэў аловак.

— Абгаблявалі б хоць дошкі! — незадаволена хітаў галавой Фэдар-японец.

— А, якая ёй розніца, — уздыхнуў Павал, вінавата кашлянуўшы ў рукаў.

Напхалі пілавіннем падушку. Жанчыны абмылі нябожчыцу, прыбралі, павязалі белую хустачку і паклалі ў труну. Твар Хомчыхі паспакайнеў і нават, як здалося Фёкле, палагаднеў. На трэці дзень пахавалі. Не паддавалася рыдлёўкам умерзлая зямля, калі капалі магілу. Дапамог дасціпны Юрка Відэрка. Узарваў толавую шашку разам са снарадам і ўтварылася добрая-такі яміна. У ёй і абладзілі магілу, падраўняўшы сценкі.

Адпяваў айцец Клаўдзій. Журботна, працягла, гучала:

— Ве-чная па-мяць!..

Час быў такі, што ніхто па нябожчыцы надта не плакаў, не галасіў. Хіба толькі Павал Гальяш адзначыў:

— Нацярпелася ад гэтага жыцця.

А Оргій Відэрка дадаў:

— Праўду часам сказаць любіла.

— І мы там будзем, — дакінуў Гамон.

На дзявяты дзень зрабілі памінкі. Хата выглядала асірацелай. Кажуць, без гаспадара хата сірата, але ж без гаспадыні таксама.

— Ой, незасланёная я засталася, незасланёная! — ныла Дзякрэта.

Каб хоць трохі суцешыць Дзякрэту, Фёкла сказала:

— Не пераймайся надта, будзем і надалей табе дапамагаць, па-суседску, як і дапамагалі. Яна ж нам як родная была. — А сама падумала: «Хай паплача, са слязамі адыходзяць боль і пакута».

## IV

У Камянцы аднавіўся райцэнтр, а ў Ратайчыцах — сельсавет. Старшынёй прызначылі былога камісара партызанскага атрада імя Вушакова Пятра Мачалава. Тут яго ведалі. У першыя гады вайны жыў на хутары недалёка ад Ратайчыц, а потым у гэтых мясцінах і партызаніў. Па нацыянальнасці рускі, родам ажно з Сахаліна. У армію быў прызваны якраз перад самай вайной, у 1941-м. К таму часу быў ужо жанаты, жонка Анфіса толькі што нарадзіла

двойню — хлопчыка і дзяўчынку, але ў ваенкамаце ніякага значэння гэтай акалічнасці не надалі. Служыць давялося ў другім канцы СССР — у Брэсце. У першы ж дзень вайны, як і многія, трапіў у акружэнне. Даганяць сваіх не пабег і апынуўся ў глыбокім тыле ў немцаў. Наткнуўся на хутар, уладальнік якога, мясцовы дзядзька, прыпісаў акружэнца да сваёй гаспадаркі. Пазнаёміўся з такімі ж, як сам, прыпіснікамі з суседніх вёсак. Моцна пасябраваў з таварышам па няшчасці акружэнцам Санькам Растатуевым, які прыбіўся ў Пруску да Лявона Кужаля. Разам танчылі на вясковых музыках, гулялі з мясцовымі дзяўчатамі, разам хадзілі адзначацца ў паліцэйскі ўчастак у Ратайчыцы, як таго патрабавала тагачаснае становішча. Аднак пра тое, што жанаты, сябру не адкрываўся.

Пра лёс сваёй сям'і нічога пэўнага не ведаў. Восенню 42-га змовіліся ісці ў партызаны. Прынялі ў атрад. Спачатку быў шараговым, а потым пачаў расці. Падняўся да камісара атрада. На гэтай пасадзе ён і сустрэў вызваленне, прыход Савецкай Арміі. Партызанка, якой, здавалася, не будзе і канца, скончылася. Адных мабілізавалі ў армію, паслалі на фронт, другія засталіся, атрымалі кадравыя прызначэнні, парабіліся начальнікамі. Пятро нечакана апынуўся на пасадзе старшыні сельсавета. Калі прапанавалі — даў згоду. Уступіў у партыю яшчэ ў атрадзе, рэкамендацыю далі Афінагенаў і Мурашка. Пасалíднеў. У сельсавеце шмат спраў: паштовая сувязь, медыцынская прафілактыка і дапамога, школьніцтва, арганізацыя вясковай спажывецкай кааперацыі, гандлю таварамі першай неабходнасці і іншае. У Ратайчыцах ён адчыніў нават ізбучытальню, увёўшы ва ўжытак расійскае слова «изба». А ў Прусцы адкрыў лаўку, гандляваць у якую паставіў Салівэся з Ліпны як чалавека, які падыходзіў да гэтай справы, члена партыі.

Не забываў Пятро і пра сябе. Справіў кіцель, галіфэ, белыя буркі. Твар яго пакруглеў, стаў больш значны, самаўпэўнены. Трэба было неяк уладкоўваць сямейнае жыццё. Выклікаць жонку, каб яна ехала ажно з Сахаліна сюды, лічыў па меншай меры немэтазгодным. Яна пры дзецях, а Беларусія далёка. Гэта — па-першае. А па-другое, што ж ёй ехаць на тэрыторыю, якая яшчэ нядаўна знаходзілася пад акупацыяй? Яны там чыстыя, не тое, што тут. Падумаў, што і клімат тут іншы і не проста было б Анфісе тут прывыкаць да новых умоў. Да таго ж, не мог ён забыць караша свайго закадычнага Саньку Растатуева і яго просьбу. Просьбу крыху дзіўнаватую, але шчырую. «Калі мяне заб'юць, — казаў Санька, — дык прашу цябе, Пятро, жаніся на Маняшы, каб не засталася яна адна. Жалка! Люблю я яе, брацішка, і дабра ёй жадаю. Эх, курносенькая мая!..» Здарылася так, як Санька і прадчуваў. Не выйшаў з апошняга бою. Не дачакалася «курносенькая» свайго каханага. Жыла Маняша па-ранейшаму ў Прусцы, у бацькоў. Звалі яе не Маняшай, як называў сібірак Растатуеў, а па-мясцоваму, Манькай. Саньку тут не забылі, дазналіся пра горкі лёс хлопца і часам згадвалі, хоць і не так часта, як калісьці, калі ён лічыўся зяцем. Міхаль, бацька Манькі, — маўчун, а маці, старая Вера, казала: «Добры быў бы зяць» і сумна ўздыхала. Да гэтай страты далучылася яшчэ адна бяда: прыйшла пахавальная на сына Колю — Маньчынага брата. Коля загінуў пад Варшавай, на Сандамірскім плацдарме. Пра Колю Мачалаў не ведаў, а сябра Саньку і яго наказ трымаў у памяці. Знайшоўшы вольную хвіліну, вырашыў наведаць Маняшу.

Праз Пруску Пятро ехаў «на рысях». Параўняўшыся з яе хатай, рэзка асадзіў каня, той нават зрабіў некалькі вымушаных крокаў назад. Затрашчалі аглоблі. Суцішыўшы жывёліну, ён паставіў каня з санкамі каля плоту, расслабіў вупраж і выбраў з-пад хамута грыву. Прывязаўшы за слуп

лейцы, зайшоў у хату. У сенцах пахла паранкай, на сцяне вісела некалькі вянкоў цыбулі. Адчыніў дзверы на чыстую палавіну. Адчуў, як торгнулася левае павека. Гэта пачалося яшчэ ў лесе: уцякалі ад карнікаў, ён бег разам з усімі і не ўхіліўся ад сасны, моцна ўдарыўся, вось з таго часу і не праходзіць.

— Добры дзень! — павітаўся ён, здымаючы з галавы фуражку. Абабіў прыліплы да ботаў снег. Зняў і павесіў на вешалку каля дзвярэй афіцэрскі шынель. Застаўся ў напаўваеннай вопратцы: палінялы на сонцы кіцель, на нагах белыя буркі. Зморшчыўшыся, абмацаў паясніцу. Усё яшчэ даймалі скулы, не пакідала гэта партызанская хвароба.

Манька якраз была дома, прыгледзелася да яго і пазнала. Не раз бачыла каля Санькі, ведала, што сябруюць.

— Добры дзень, — адказала яна. Тонкія дужкі броваў падняліся ўверх, у вачах, заўважыў Пятро, з’явіліся і запытанне, і пробліск надзеі.

Хата напоўнілася маўчаннем. Пахла печанай бульбай і вымытай падлогай. У кутку, у ёмістай драўлянай кадцы, стаяў разложысты фікус. «А яна і сапраўды курносенькая», — падумаў былы партызан, прыглядаючыся да дзявочага аблічча, да сукенкі з шэрага паркалю, у якую яна была апранутая, і кароткага станіка, які зграбна аблягаў грудзі.

Манька — адна дачка ў бацькоў, адзіначка, як казалі ў Прусцы, і выдаваць доню абы за каго Міхаль з Верай не хацелі. Вясёлая была Манька калісьці, грамчэй за ўсіх на музыках смяялася. Цяпер колішнія вочы «з жарынкамі» атухлі, рысы твару пазначыў сум, але выглядала па-ранейшаму стройнай і прывабнай, хоць, мажа, крыху пераспелай. Ранейшай фанабэрыстасці і непадступнасці ўжо не было. Маці спачувала: «Дочухна, ты яшчэ не акабецілася...» Вярэдзілі душу гэтыя спачуванні.

Яна неяк марудліва прайшлася па хаце, мімаходзь зірнула ў люстэрка, што вісела на сцяне, паправіла на скронях валасы, потым села на ложак, на якім узвышаліся, адна на адной, некалькі падушак, а на спінцы бялеў саматканы ручнік з прыгожымі візэрункамі і махрамі. Яму падабаліся яе замаруджаныя, лянівыя рухі.

У хаце было цёпла напалена.

— А дровы дзе бераце?

— З лесу возім, з паломаў, — адказала Манька і ўздыхнула. Умела яна ў патрэбны момант жаласна ўздыхнуць і нават заплакаць. Зноў прыгледзелася да госця, заўважыла чырвоную мецінку на шчацэ, каля вуха. Гэта ныркнуў, пакінуў след асколак ад нямецкай гранаты. Напамінак, як аднойчы даволі няўдала хадзілі на «жалезку». Манька аднак не стала распытваць, таму не было сэнсу і тлумачыць.

— Помню, у цябе былі красівыя бацінкі на скрыпах, — сказаў Пятро.

— Калі тое было!

— Даўно не бачыліся, — счакаўшы, прамовіў ён, сядаючы на столак.

— Я на музыкі ўжо не хаджу, не танцую, — уздыхнула Манька, успомніўшы, відаць, ранейшае.

— Я разумею.

— Без Санькі адна я. Быў бы ён, дык, можа, разам і на музыкі б схадзілі, а так...

— Рэдкія цяпер музыкі.

— Рэдкія, няма каму скакаць...

— Ён жа і мне другам быў. Шкада яго, не сказаць, як шкада. Куля яго скасіла. Загінуў. Апошні бой быў, можна сказаць.

Манька заплакала. Відаць было, як пачалі ўздрыгваць плечы. «А яна прыгожая», — падумаў ён і сказаў:

— Ужо не вазвярнёш. Быў да шаленства адважны.

Дзяўчына стала ўспамінаць свайго Саньку:

— Паглядны быў, прывабны дужа і вельмі добры. Круглаліцы. На танцах усё мяне браў. Ды і я прыгожая была, крэпка на зямлі стаяла. Хораша мы з ім гулялі, пад бярозай, вунь той, — яна кіўнула на старую бярозу за акном, — стаялі. Ноч. Толькі зоркі свецяць. «Паглядзі, — кажа, — на звёзды. Мігцяць, быццам, прывет шлюць».

Пятро мала распытваў, а больш расказваў сам.

— Маняшай ён цябе называў.

— Маняшай, — слаба пасміхнулася яна, удзячная, што сябар успомніў гэтае Санькава слова. — «Адзену, — казаў, — шамрэць будзеш!» Глыбокі след у сэрцы пакінуў... — Яна зарыдала, заплакала яшчэ больш, абхапіла твар рукамі.

— Не плач, Маняша, не пралівай слёзы, дарагая, — ён падышоў, сеў побач. — Жывыя павінны думаць пра жыццё, нада глядзець у будушчае.

— У будушчае?

— Так.

— Можа, і так...

— Вайна прынесла вялікія страты і разбурэнні, а цяпер з кожным днём жыццё савецкіх людзей паляпшаецца. Хаця, зразумела, многія яшчэ ў зямлянках жывуць. Але строім, сазідаем. Да і вайна скора скончыцца. Наша дзела правае, як кажа таварыш Сталін.

Манька ўзяла ручнік, усхліпваючы выцерла вочы, але настрой, відаць было, не палепшыўся. Пятру стала шкада яе. Яна ўсё больш яму падабалася.

— Ведаеш, што Санёк мне казаў? У выпадку, кажа, калі пагібну, жаніся на Маняшы, надта яна харошая і прыгожая.

— Не!

— Ну, чаму!

— Як жа я яму здраджу?

— Не здрадзіш, а, па сутнасці, выканаеш яго наказ. Павер, я не выдумляю.

— Не ведаю.

— Вер мне.

— Ой!

— Харошы, верны кораш быў, апошні сухар дзялілі. Усё папалам. Між іншым, расказваў мне пра цябе, надта ён цябе любіў, клапаціўся, баяўся, каб адна не засталася. Так і сказаў: «Калі я загіну, абяцай мне на Маняшы жаніцца».

— Няўжо гэтак і сказаў? — Манька ад здзіўлення абхапіла рукамі скроні і анямела.

— Клапаціўся ён пра цябе.

— Ой, не ведаю...

— Не упрямься, — сказаў ён па-руску.

Яна задумалася, потым спытала:

— Ці ёсць у цябе хата?

— Я бяздомны. Жыву на кватэры.

— А сям'я? Не жанаты?

— Не, — схлусіў ён, аблізнуўшы вусны.

Яна змоўкла, апусціла вочы, паружавела, доўга пра нешта думала.

— Давай распішамся, — зноў азваўся ён.

— Як жа мы будзем?

— Будзем! Неяк пражывём.

Відаць было, што Манька здалася. Не такая была пераборлівая ды наравістая, як даўней. Весялей зірнула на Пятра, мацней адчула мужчынскі пах, які ішоў ад яго. Бацькі Міхаль з Вераю недзе адсутнічалі, вяртацца не спяшаліся, і Пятро палічыў гэта добрым знакам, прысунуўся бліжэй.

— Маруха мая!

— Санька Маняшай назваў, а ты Марухай...

— У мяне свае словы.

— Сватоў пасылаць будзеш?

— Калі хочаш, дык можна знайсці каго, але нашто?

— А вянчацца?

— Я парцейны.

— Ну дык і што, што парцейны?

— Не паложана.

— Каб пабрацца, дык закахацца трэба, а мы, ты і я, далёкія ад гэтага.

— Нічога, сцерпіцца-злюбіцца, як у нас, у Расіі, кажуць. Будзем жыць адной пасцеляю ды і ўсё.

Чамусьці зноў успомніў Анфісу, не задаволены тым, чаго гэта яна лезе ў памяць.

— А што ты гатовы зрабіць, каб даказаць мне сваё каханне?

— Усё, што захочаш. Хочаш, на калені перад табой стану! Эх, дарагуша ты мая! Усё зраблю. Усё, што ні захочаш!

Манька нічога не адказала. Памаўчаўшы, спытала:

— А бацькам што скажам?

— Паставім перад фактам. Па-партызанску.

— Нахабны ты, але ж дзяўчаты любяць нахабных, — сказала яна, перажываючы салодкі сорам. — Гаворыш, а нават не пацалаваў...

— Давай пацалуемся.

Ён хацеў прыгарнуць, прытуліць яе да сябе, але дзяўчына, на першы раз, не далася, тузанулася ад яго ўбок. «Нядакратка! — пасміхнуўся ён. — Але, здаецца, забрытаў».

— Май цярпенне, — сказала яна на яго заляцанні. — А то надта ўсё ў цябе хутка.

Выходзячы ад яе, ён спатыкнуўся аб парог, непрывычна падвышаны.

«Значыць, вернецца!» — упэўнілася дзяўчына і ўсміхнулася.

Яны распісаліся, і ён забраў Маньку да сябе ў Ратайчыцы. Ніякага пасагу за маладой не ўзяў, апроч таго, што яна прывезла з сабой пару звязаных у посцілку падушак і коўдру з прасцінамі. На гэтую пасцель адразу ж і леглі, не паспеўшы нават як след распрануцца. Манька хацела зняць з сябе гальку, але ён не мог чакаць, пакуль яна ўправіцца з гэтай сваёй ніжняй спадніцай, надта хацелася, прыспешваў...

* * *

Неяк наведаў яго, застаўшы на рабочым месцы, у сельсавеце, Афінагенаў. Прыехаў у легкавушцы з шафёрам, але апрануты сціпла: пад афіцэрскай плашч-накідкай пінжак з памятымі лацканамі, на галаве не новая афіцэрская фуражка. Цывільныя штаны запраўлены ў высокія халявы ботаў. Адгадаваў цяжкія, амаль сталінскія вусы. Дробны, з гэтымі цяжкімі вусамі твар выглядаў змрочным, шэрыя вочы пазіралі насцярожана і патрабавальна. У прыёмнай

старшыні сядзеў добры дзясятак наведвальнікаў, але Іван Мітрафоравіч не стаў затрымлівацца, а адразу адчыніў дзверы, увайшоў у кабінет, уважліва агледзеў гаспадара.

— Пазнаеш?

— Пазнаю.

Парукаўшыся, госць спытаў:

— Ну што, на мірныя рэльсы перайшоў?

— Перайшоў, Іван Мітрафоравіч.

Афінагенаў, зняўшы плашч-накідку, у сваім памятым пінжаку выглядаў нейкім разгубленым. Калі сцягнуў з галавы фуражку, на лбе зачырванеўся след, адціснуты фуражкай. У лесе ўпаўнаважаны ад цэнтра Афінагенаў назіраў навокал больш упэўнена. Цяпер, відаць было, знаходзіўся ва ўпадку духу.

— Я таксама перайшоў. Аддзелам гандлю загадваю ў райвыканкаме. Удружылі друз'я.

Мачалаў прачыніў дзверы ў прыёмную, сказаў наведвальнікам, каб прыходзілі заўтра, бо сёння ён заняты, прыехала важнае начальства.

— Мурашку бачу, — працягваў Афінагенаў, — ён з мясцовых, у міліцыі працуе, старшым міліцыянерам. Архіпава часам бачу. Харахорыцца. Абагналі нас, уверх пайшлі.

Пятро маўчаў, а Афінагенаў працягваў:

— Нас тут прыхаднямі называюць. Чуў?

— Не, не чуў. Што васточнікамі называюць, чуў, а прыхаднямі — не.

— Называюць! З немцам змагаліся, вызвалілі іх, і — на табе! — прыхадні. Абідна. Няўдзячны ўсё ж такі чалавек...

— Няўдзячны, — згадзіўся Пятро, устаў і каб унікнуць скразняка, зачыніў фортку.

— Скразняка баішся? — скрывіўся ва ўсмешцы госць.

— Дык прастудзіцца можна.

— А помніш, як у марозныя ночы на снезе начавалі, як снег глыталі, на далоні хукалі?

— Помню.

— Умываліся на ветры, каля зямлянкі, на холадзе сабачым...

— Было...

Пятро, не пакідаючы кабінета, дастаў з шафы бутэльку «Маскоўскай», сякую-такую закуску і дзве гранёныя шклянкі.

— Давай, Іван Мітрафоравіч, за сустрэчу!

Афінагенаў гарэлкай не злоўжываў, але быў не супраць, падсеў да стала. Першую выпілі без аніякага асаблівага тосту, нібы спяшаючыся, карацей кажучы, па-партызанску. Пятро выцубіў больш, як паўшклянкі, Афінагенаў удвая меней. Прыкусілі салам.

— Смачнае! — пахваліў госць. — Як у лясу! І пахне так...

— А ў мяне і цыбуля ёсць.

— Давай! У вас тут яшчэ можна жыць, а ў горадзе картачная сістэма, усё па картках.

— Усё ідзе на фронт.

— На фронт.

Мачалаў падняўся і прынёс аднекуль дзве пузаткаватыя цыбуліны, абабраў шалупінне, разрэзаў. Затым нейкая жанчына, хутчэй за ўсё з мясцовых, прыбіральшчыца, прынесла талерку з буйна парэзаным і пасыпаным чорным перцам качаном квашанай капусты і хлеб.

— Шчаўем карміліся, — зноў прыгадаў госць. — А скулы як даймалі! У мяне ўся паясніца ў гнойных нарывах была. Паясніца і ніжэй... Страўнік разладзіўся...

— Лясная яда — грыбы ды ягады, — дадаў сябар. — Хто не сядзеў у лесе, той не зразумее. А фурункулёз — страшнае дзела...

Госць маўчаў, нібы нешта ўспамінаў.

— Што ні кажы, а пашанцавала, — як бы самому сабе сказаў Мачалаў, — жывыя засталіся, не раніла, а пагібшых многа было. Пагібшых, пакалечаных...

— Не ўсё так проста, дружа Пятро. — Рана — паняцце бальшое, не ўсякая рана відна. Крыўды засталіся, траўмы...

— Гэта так.

— У лясу было лягчэй? — у нейкім одуме не то запытаў, не то ўжо адказаў Афінагенаў на пытанне, якое дапякала, пэўна, не аднаго яго з тых, хто пасля вайны выйшаў з лесу. — Вядома, у лясу — не ў хаце, цяжкавата даводзілася ды і галавацяпства было многа, аднак і цяпер не ўсё проста і лёгка.

— У чом-та лягчэй, а ў чом-та і не, — разважыў Пятро. — Тысяча вапросаў, не ведаеш, за што хапацца і з чаго пачынаць. У лясу чыр’іназалялі, а тут усё складаней. Тут людзей болей, чым у атрадзе было. Лес нас разумеў. Ціхі шолах дрэў і суцешыць мог, і заспакоіць. Я ў лесе фаталістам стаў: што будзе, тое будзе.

— Там усё проста было, — згадзіўся Афінагенаў.

Не надта і проста. Калі сказаць праўду, то партызаны былі незадаволеныя ўпаўнаважаным ад цэнтра, нават злыя на яго. Прыйдзе ў атрад, а назаўтра — абавязкова аблава.

— Беларусы — цягавіты народ, — зазначыў старшыня сельсавета, наліваючы ў шклянкі.

— Цягавіты, — уздыхнуў Іван Мітрафоравіч, — вот дакументы і расцягнулі.

Яны зноў выпілі.

— Іван Мітрафоравіч, а ці адшукаўся архіў?

Афінагенаў памаўчаў, шумна ўдыхнуў у грудзі паветра і энергічна выдыхнуў, паглядзеў сабе пад ногі. Відаць было, што чалавек нерваваўся. Нарэшце адмоўна пахітаў галавой.

Лёс архіва ляжаў на яго сумленні. Яму адразу гэта паставілі ў віну. У органы пракуратуры, дзе ён працаваў да вайны, не вярнулі. Зрабілі, як ён казаў гандляром. Разбазарыў важныя дакументы, за што і паплаціўся. Шрам на сумленні — гэта таксама рана. Дакладней сказаць — траўма. Некаторыя захады ён распачаў. Паехаў у Брэст, на прыём да «палкоўніка Сцяпана», з якім пазнаёміўся на пачатку незабыўнага 1943-га ў Маскве. Цяпер ён стаў вялікім начальнікам і прыняў яго не адразу, але прыняў, успомніў. Як-ніяк, а ў адной звязцы былі. Тады ён дапамог «палкоўніку» наладзіць сувязь амаль з усімі партызанскімі атрадамі, якія дзейнічалі на ўсход і на поўнач ад Брэста. У канцы жніўня палкоўнік Сцяпан падпісаў загад аб стварэнні з тых атрадаў, што дзейнічалі на тэрыторыі, якая прымыкала да Белавежскай пушчы, брыгады «Савецкая Беларусь».

З Афінагенавым бачыліся даволі часта. Цяпер, па часе, зноў сустрэліся.

— Мы добра папрацавалі! — прыхільна ўспомніў палкоўнік, прымаючы яго.

Афінагенаўскую гісторыю палкоўнік, безумоўна, ведаў. Не толькі ведаў — па сутнасці яны былі людзьмі аднаго лёсу, на пачатку вайны крыху паспяшаліся, у першы ж дзень на ўсход рушылі...

— Ну, таварыш, канкрэтна раскажы, што ў думках маеш! — загадаў ён Івану Мітрафоравічу, строга ў яго паўзіраўшыся.

— Правініўся я, — прызнаўся Іван Мітрафоравіч і ў падрабязнасцях распавёў гісторыю пра знікненне архіва. Затым, калі скончыў, дадаў:

— Прашу накіраваць мяне на фронт.

Субяседнік марудзіў з адказам, нейкі час думаў, чутно было, як ён сіпла дыхаў. Потым сказаў:

— Не спяшайся. Ты не адзін такі. Гэта, можна сказаць, агульная бяда. У Брэсце, каб ты ведаў, у той час яшчэ горшае здарылася. 22 чэрвеня сорак першага года нямецкія дыверсанты захапілі будынак НКУСа і ўвесь архіў, што ў ім знаходзіўся. Усе шыфры, машынкі!

— Няўжо? — не паверыў Мачалаў.

— На жаль, так. Толькі пра гэта маўчок! — Палкоўнік памахаў пальцам. — А то ведаеш...

— Ведаю, не ўпершыню.

— Разбіраемся. А што тычыць цябе, дык ты нам на працоўным фронце патрэбен. — Памаўчаўшы, палкоўнік дакінуў: — Тут ёсць чым займацца. Мясцовым давяраць нельга. Накіроўваю цябе ў распараджэнне райвыканкама. Для камуніста, таварыш, важныя — прынцыпы. Запомні гэта. А ўсё астатняе — ярунда! Працуй! З цябе будзе толк. Ты патрабавальны. Калі што якое, на іншы пост пераставім.

Пра гэтую размову Афінагенаў цяпер расказаў Пятру, той уважліва слухаў.

— Ты, я чуў, жаніўся?

— А што рабіць? Жаніўся...

— Ну, што ж, дзела жыцейскае. На мясцовай?

— Так, на здзешняй.

— Ну і добра! Цярпець не магу разумных жанчын.

Мачалаў у душы пакрыўдзіўся на гэтыя словы калегі, але прамаўчаў, адчыніў акно. З панадворку пацягнула прахаладай. «Але ж кожны выяўляе свой характар, — падумаў ён. — Чалавека трэба прымаць такім, якім ён ёсць. Якім ён ёсць, што далі яму маці і бацька».

Іван Мітрафоравіч крануў левы рукаў пінжака, зірнуў на гадзіннік:

— Мне пара! — сказаў ён і рашуча ляпнуў далонню па стале.

Пятро зразумеў, што яго ўсё яшчэ не пакідала надзея знайсці канцы, адшукаць страчанае.

— Чалавечае жыццё паласатае, — сказаў ён, — то чорная паласа, то раптам светлая.

— Ты, Мачалаў, усё ж такі, калі што пачуеш пра архіў, дай знаць мне. Імей у віду. Думаю, што ўсё ж атышчу.

На гэтым яны развіталіся.

## V

Вясна 1945-га выдалася халоднай і зацяжной. Нават яшчэ ў красавіку, у самым пачатку, плюшчыўся пад нагамі снег, што не паспеў яшчэ канчаткова растаць. Кісла хлюпала пад чаравікамі вільгаць. Зрэдку камякамі ляцела з неба густая вокідзь. Паспелі, аднак, прыляцець шпакі, і раніцаю з дрэў, што стаялі паабапал пruскаўскай вуліцы, чуўся іх гучны посвіст. Адчувалася жыватворная сіла чагосьці такога, што дагэтуль спала, замерла, спынілася, а

цяпер прачнулася, абудзілася і зашумела ў яшчэ празрыстых, голых, дрэвах і кустах, у дарожных прысадах, шырокім наваколлі.

За царквою пачынаўся круты схіл уніз — гэта поймы Лосьны. Разлілася Лосьна, выйшла з берагоў, і па запоўненай вадой пойме ў тумане стомлена плылі льдзіны. Паводка заняла вялікі прасцяг, затапіўшы ўсё навокал. Пад вадой хаваліся прырэчныя лугі, кусты лазняку, невялічкія выспачкі, якія сям-там сустракаліся на гэтых пойменных прасторах.

Цяжка даводзілася тым вучням, хто хадзіў у Прускаўскую школу з Бранавіч, Алешкавіч, Кустыч, — гэта значыць, з-за ракі. Лосьна разлівалася шырока — ад Альбэрціна пад самую Пруску. Найбольш смелы і адчайны з бранавіцкіх «шкаляроў» — пераростак Сяргей Шаўчук. Нездарма за ім замацавалася мянушка Жэшкі — гарачы, па-прускаўску. Рызыкант і авантурыст, ён звычайна перапраўляўся на плоце. Адламае прасла з Пацавага плоту, сцягне ў ваду і плыве. Усе баяцца, а ён рагоча. Замест вясла — штакеціна. Плоская — такой добра заграбаць. Здаралася так, што ніхто з-за ракі не прыходзіў — адзін толькі ён. У шынялі, падпяразаны афіцэрскім рэмнем і з афіцэрскай сумкай цераз плячо, з адарванай штакецінай у руках, якою карыстаўся як вяслом.

Неўзабаве Лосьна мелася ўжо ўвайсці ў берагі. Набірала сілу вясна. Па-інакшаму нават пахла паветра, нягледзячы на холад, стала больш духмяным, волкім, спажыўным.

Як толькі там-сям пракінулася зялёная травінка, прускаўцы выпусцілі на пашу скаціну. Чарада кароў — ланькі, красухі, лысухі, пярэстыя — разбрылася па поплаве за папоўскім садам у пошуках свежага зяленіва. Цёплыя пысы няўпэўнена тыцкаліся ў памякчэлы пасля зімы дол. Ранняя вясна, шкоды нідзе не магло быць, прастор, запыняць не трэба.

З пастухоў толькі двое — Фэдар-японец і Валодзік. Калейка прыйшла і пасуць. У аднаго і другога ў руках кіёчкі. На дварэ яшчэ халаднавата. Дуў золкі вецер з поўначы. Фэдар у зімовым кажушку з аблезлым каўняром і насунутай на лоб старой падранай шапцы. У руках кавенька — кульгае. Навокал, сярод вясенняга макрадолу, віднеліся выкапаныя год назад нямецкія траншэі і акопы, цяпер яны былі да верху напоўнены вадой. Месцамі тырчэлі яшчэ пахілыя слупкі з рэшткамі калючага дроту. Усюды гразка. Пад нагамі чвякала насычаная вільгаццю глеба.

— Рана сёлета мы яе выгналі, — сказаў Фэдар, скептычна паглядаючы на схуднелую за зіму скаціну. — Яшчэ і трава як след не адскочыла.

Валодзік дастаў з торбачкі скібачку чорнага самапёку, якую паклала яму туды бабуля, пачаставаў Фэдара. Фэдар прагна панюхаў, паднёс да рота, адкусіў парадзелымі і сточанымі зубамі і стаў жаваць. Захадзілі пад носам прысмаленыя самасадам парудзелыя вусы.

— Смачны хлеб пячэ Лявонціха! — пахваліў ён. — Умее.

— Маю бабуля хваляць, — згадзіўся Валодзік, пазіраючы на запоўненыя цёмнай вадой акопы.

— Хваляць, але і зайздросцяць, умельству зайздросцяць.

Жуючы, Фэдар падаўся, накульгваючы, у другі канец поплава, дзе пасвілася яго Лысуха. У акопнай вадзе слабым полыскам адсвечвалася сонечнае святло.

«Ці глыбокія яны?» — цюкнула Валодзіку ў галаву, і ён вырашыў памераць дно. Падышоў да акопчыка, апусціў у ваду кій і пачаў поркаць ім, нагінацца. Дна не было. «Няўжо так глыбока?» Кій разам з рукою ўсё больш заглыбляўся ў ваду. «Яшчэ, яшчэ...» І Валодзік не заўважыў, як страціў раўна-

вагу і — галавою ўніз, следам за кіем — даў нырца ў чорную акопную ваду. Акоп быў настолькі вузкі, што хлопец ніяк не мог вызваліць галаву, каб яна аказалася зверху. Цялёпкаўся, паміраючы ад страху. Але нарэшце яму гэта ўсё ж такі ўдалося, аднак вылезці, як ні намагаўся, не мог. Не было за што ўчапіцца, ніякай апоры, берагі абвальваліся, рукі коўзаліся па раскіслым, як цеста, чарназёме, а ногі не даставалі цвёрдага дна. Абкладзенае ватай паліто цягнула ўніз. Усё ўнутры схаладнела ад перапуду. «Усё, канец! — у роспачы жахаўся пастушок. — Выйсця няма, усё! Дастануць ужо нежывым...» Выратаваў Фэдар, які здалёк заўважыў, што адбылося з напарнікам. Падбег, моцна накульгваючы, падаў сваю кавеньку, за якую і ўчапіўся тапелец, які, апроч страху захлынуцца ў тым акопе, нічога болей не адчуваў.

— Ну і акунуўся жа ты! — выбавіўшы хлопца з акопнай каламуці, здзіўлена пахітаў галавою Фэдар. — Чуць Богу душу не аддаў. Ай-яй!

Валодзік ажно тросся ад пражытага жаху. Выбраўшыся з халоднай купелі, увесь мокры, у набраклым адзенні, ён агародамі, з плачам прыбег дадому. Чуў у сабе моцныя ўдары сэрца. Бег і думаў: «Каб толькі бабуля не сварылася». У хаце якраз яе і застаў. Фёкла сядзела за старым сваім «Зінгерам», шыла ўнуку кашулю.

— Ой, што з табой? Як жа гэта здарылася?

Унук, заікаючыся, пачаў расказваць.

— А божачкі! Распранайся! Ты ўвесь мокры! Акалеў! Царыца нябесная!

Валодзік стаў спешна распранацца, скідаючы з сябе ўсё, да сарочкі ўключна. З адзення цурком сцякала вада. Увушшу звінела ад таго, што і туды набралася вады.

— Я думаў, што дно блізка.

— Дзе ж блізка? Там торф, там дна не дастанеш.

— Мне так здалося...

— Гэта яшчэ Фэдару дзякуй! Выратаваў! А каб не ён? Лезь на печ! А то каб завалкі[1] не забалелі...

Шчаслівым Валодзік пачуваўся толькі каля бабулі.

«Які ж ён яшчэ слабы, — гледзячы на ўнука, думала Фёкла. — Надта кволы ўдаўся, не абмінуў, здаецца, ніводнай дзіцячай хваробы».

— Прапацець табе трэба! — непакоілася яна. — Каб, не дай бог, ліхаманка не прыключылася.

Фёкла напарыла зверабою з ліпавым цветам, падала ўнуку кубак адвару. Любіла яна ўнука бязмежна. «Можа, так вось і не спыніцца наш род, не згубіцца, перадасца праз яго», — думала яна. З печы, акрыты кажухам, ён пазіраў на бабулю і, не ў першы раз, таксама думаў: «Якая яна цудоўная, добрая, разумная — мая бабуля, і я вельмі яе люблю...» Давер да бабулі быў у ім непахісны, а любоў — адданая і бязмежная, напоўненая глыбокай верай у яе магчымасці, захапленнем і гонарам за гэтыя магчымасці. Бабуля заўсёды выручыць, дапаможа, знойдзе, як пераадолець любыя цяжкасці.

— Палягчэла трошкі?

— Палягчэла.

Ён усё яшчэ сядзеў на печы, калі прыйшоў Лявон. Выкідаў з хлява гной, перад Вялікаднем збіраўся сеяць авёс. Фёкла расказала, што здарылася з унукам.

— Гэта вайна не дае нам спакою, — уздыхнуў Лявон.

[1] Завалкі – міндаліны (мясц.).

Пачуўшы згадку пра вайну, Фёкла заплакала. Успомніла пра Васіля, усхліпнула і паднесла да вачэй ражок хусціны.

Унук не злазіў з печы, грэўся, а потым і заснуў. Усё абышлося больш-менш добра, і назаўтра, абсушыўшыся, Валодзік ізноў пагнаў скаціну ў поле.

— Цяплей апранайся! — прасіла бабуля. — Надвор'е такое, што і прастудзіцца можна.

Цяпер да іх з Фэдарам далучыўся Відэркаў Юрка, які пасвіў сваю Пярэстую. Пярэстай два гады, пра такую кажуць: аблетак. Юрку ж дванаццаты год пайшоў, але пастух з яго быў выдатны. Так умеў махануць пугай, што яна страляла, як вінтоўка, будзячы і падганяючы гаспадынь хутчэй даіць і выганяць на пашу цялушак. Апрануты Юрка ў зашмальцаваную ватоўку, аперазаную вайсковай брызентавай дзягай. На клышаватых нагах зрэбныя нагавіцы і стаптаныя чаравікі з сырамятнымі раменьчыкамі замест шнуркоў. На галаве насунутая на лоб выгаралая афіцэрская фуражка з чырвонай зорачкай на чорным аколышы. Выраз твару — суровы. Рэдка калі ўсміхаліся па-юнацку пухлыя вусны. Пра няпросты Юркаў характар сведчылі шматлікія сінякі, што амаль не сыходзілі з твару, з-пад вачэй, — сляды высвятлення непаразуменняў з пастушкамі з суседніх вёсак, асабліва з Бранавіч. Бацькі ў яго няма. Сцяпан памёр пасля знаходжання ў нямецкім канцлагеры, што месціўся ў Такарах, яшчэ ў вайну. Трапіў туды за няўплату кантыгенту[1]. Наіўна спадзяваўся, што не пасадзяць, прымуць пад увагу хваробу, якую, дарэчы, спрычыніў сабе сам. Нацёр да крыві нагу ніжэй калена і пасыпаў рану соллю. Моцна балела, патрабавалася лячэнне. Немцы аднак не зліталіся і запраторылі Сцяпана ў канцлагер, на торфараспрацоўкі. Па цэлых днях даводзілася стаяць у халоднай вадзе, капаць той торф. Рана пачала гнаіцца. Праз некаторы час яго выпусцілі, і Сцяпан, кульгаючы, прыйшоў дадому. Рана аднак не зажывала, дайшло да гангрэны. Так ён і памёр, пакінуўшы Гэльцы двое дзяцей — сына і дачку. Юрка не знаходзіў спатолі, хацеў адпомсціць немцам за бацьку і адзін час меў намер збегчы на фронт. Нават зброя была ў яго прыхаваная — нямецкі аўтамат з патронамі. Адгаварыў пляменніка дзядзька Оргій: «На каго ж ты маці з сястрой пакінеш?» Са зброяй Юрка быў, як кажуць, на «ты», знаёмы і з мінамі, і са снарадамі. Пра яго смеласць і безразважнасць ведалі ўсе.

На гэты раз кароў пагналі на Панскае. Тут, каля лесу, якраз ляжала купка нямецкіх снарадаў. Гэтага «дабра» ўсё яшчэ хапала, і ляжала яно ў самых нечаканых мясцінах — па палях, у садах, у лесе.

Часта бухала. У суседніх вёсках здараліся трагічныя выпадкі: то руку адарвала, то яшчэ што, а то ўвогуле капцы. Было і такое.

Фэдар прынёс некалькі бульбін, каб спячы ў прысаку, і Валодзік з Юркам пачалі на грудку, бліжэй да лесу, раскладаць касцёр. Нацягалі з лесу ламачча, знайшлі смалістых трэсак, сухога моху, за які ахвотна хапаецца агонь, склалі ўсё належным чынам, і Юрка, які меў пры сабе запалкі, падпаліў. Закуродымелі мох з ламаччам.

— Давайце пасядзім, пагрэемся! — прапанаваў Юрка. — А вы, дзядзька, за кухара будзеце! — звярнуўся ён да Фэдара.

Касцёр хутка разгараўся, паплыў шызы дым, салыпнула полымя, затрашчала галлё. Агонь убіраўся ў сілу, дыхнуў гарачынёй. Хлопцы грэліся, працягвалі да агню рукі, цешыліся цяплом. Фэдар дастаў з палатнянай торбачкі кавалачак сала, парэзаў на дробныя скрылёчкі, і пастухі сталі пражыць іх на ражончыках, а калі скрылёчкі пачыналі пырскаць, клалі на скібінку і патроху

[1] Падатак, які нямецкія акупанты прызначалі на кожную гаспадарку.

елі. Сала, падсмажанае на кастры, прыемна пахла дымком, але яго было мала. Цялушкі спакойна хадзілі па лугавіне, скублі травіцу.

— Каму добра, — пачаў казаць-скардзіцца Фэдар, — дык гэта дрэву, бо ў яго няма страўніка. Цягне з зямлі ваду, дыхае паветрам, набіраецца сонцам. Добра! А чалавек? Яму хлеб патрэбен, картоплі, сала...

Юрка даеў свой кавалачак, дастаў з кішэні згорнутую ў некалькі столак газеціну (гэта была абласная «Зара»), адарваў шматок, высыпаў туды ладны шчопаць махоркі, згарнуў цыгарку, наслініў край і склеіў. Выцягнуў з кастра асмалак і, сунуўшы цыгарку ў рот, прыпаліў. Пасмактаў, каб разгарэлася, пусціў дым. Потым зацягнуўся глыбей, хукнуў горкім палам Фэдару ў твар.

— Курыш ты, хлопча, шмат! — заўважыў яму Фэдар.

— А што? Хачу і куру.

— Здароўе пашкадаваў бы, здароўе трэба берагчы.

— Прывык, дзядзьку. Ды гэта і не шкодзіць.

— Яшчэ як шкодзіць! Лёгкія пракурыш, дзіркі будуць. А я ведаю сродак, каб адвярнула.

— Які?

— А вось слухай! Трэба злавіць і высушыць рака. Пры гэтым не на сонцы сушыць, а ў цяньку. Потым, калі ён стане сухі, як трэска, расцерці ў парашок і змяшаць з тваёй махоркай. Тое, што атрымаецца, скурыць.

— Гэткую брыду курыць?

— Ну, вядома, раз-другі вырве, не без таго, але затое як адверне!

— Ну, дзядзьку, прыдумалі нейкую ярунду!

Юрка сплюнуў і засмяяўся. Разам з ім засмяяўся і Валодзік.

Каровы засяроджана скублі траву, зрэдку паглядаючы на касцёр і на сваіх пастухоў, якія завіхаліся каля яго. Побач маўкліва стаяў алешнік, крыху далей — дарослы лес. Па другі бок разляглося поле.

В чистом поле, поле, под ракитой,
Где клубится по ночам туман...
Э-эх, там лежит,
Лежит в земле зарытый,
Там схоронен красный партизан...

— заспяваў Юрка. Голас — прыемны, звонкі; шчымлівыя словы песні бралі за душу.

Паступова пад вогнішчам утварыўся прысак, у які Фэдар і паклаў бульбіны, нагарнуўшы зверху попелу і вуглёў. Зверху гарэла галлё.

— Добра спяваеш, — пахваліў Юрку.

Прайшло з паўгадзіны, і Фэдар выгарнуў з прысаку абсмаленую бульбіну, крыху астудзіў, перакладаючы з далоні на далонь.

— Спяклася! — пажвавеў ён. —Мяккая!

Дастаў астатнія і падзяліў. Сабе і Юрку па чатыры, Валодзіку, як меншаму, дасталося тры, і маленькія. Затое смачныя. Асабліва смачнымі яны здаваліся ля кастра, на свежым паветры. У Фэдаравай кішэні аказалася загорнуты ў шматок газеты драбок солі. Селі тут жа ля кастра. Праз нейкі час Фэдар прынюхаўся да паветра і чмыхнуў носам:

— Нешта гарыць!

Агледзіліся. Гарэла Валодзікава паліто, абкладзенае знутры ватай. Сядзеў ён спінай да вогнішча, ткнуў палу ў вуголле, адзежына пачала тлець. І гэта нягледзячы на тое, што не паспела яшчэ як след высахнуць пасля ўчарашняга. Ззаду паліто выгарала амаль да пояса. Фэдар з Юркам кінуліся тушыць, сцяг-

нулі апранаху з хлопца, разаслалі на траве і таўклі нагамі. «Ну, задасць бабуля перцу! — спалохаўся Валодзік. — Спляжыць анучай па спіне!»

— Прысмаліў! Трэба будзе вялікую латку прышыць, — сказаў Фэдар, калі паліто патушылі і Валодзік зноў напнуў яго на сябе.

— Я чую, — дадаў Фэдар, — недзе нешта тлее. Ажно гэты ты гарыш!

Падмацаваўшыся печанай бульбай, ён, абапіраючыся на кавеньку, пайшоў на поле, на свой загон, дзе ён мінулай восенню пасеяў жыта. Хлопцы засталіся каля вогнішча.

— Гэй! — здалёк пачуўся Фэдараў голас. — Хлопцы, паглядзіце! Паглядзіце, што я знайшоў!

Юрка з Валодзікам, не змаўляючыся, кінуліся туды. Фэдар наткнуўся на міну, што засталася, нявыяўленая, яшчэ ад немцаў. Ён стаяў каля гэтага прыцярушанага пясчанай зямлёй страхоцця — зліняла-жоўтай талеркі і адганяў кароў, каб якая, не дай бог, не ступіла на злавесную находку.

— Нямецкая! Супрацьтанкавая! — чамусьці ўзрадаваўся Юрка. — На баявым узводзе!

Яны ўтрох схіліліся над знаходкай.

— Дай-ка, дзядзьку, я яе абясшкоджу! — нібы сам сабе сказаў хлопец і, паблісaskваючы вачыма, пачаў выкручваць узрывальнік.

— Не чапай! — закалаціўся ад перапуду Фэдар. — Хай яе нагла возьме!

— Ты, дзядзьку, я бачу, ад страху ўжо пад сябе напрудзіў.

— Ой, хлопча!

Не кожнага можна стрымаць у яго імкненнях — якраз такім быў Юрка, чалавек нястрымны, упарты і адчайны.

— Ой! — прастагнаў Фэдар. — Юрка! Не пары гарачкі! Пакінь!

У Валодзіка душа была таксама недзе ў пятках, але цікаўнасць перамагала, ды і не хацелася паказваць, што баіцца.

Юрка між тым выкруціў узрывальнік і абвёў позіркам сяброў, падміргнуў:

— Цяпер уся рыба наша!

Узрывальнік паклаў у кішэнь.

— Рыбу маеш глушыць? — перапытаў Фэдар.

— Яшчэ тол са снарада трэба выплавіць. Без толу міна не ўзарвецца. Зараз я тол выплаўлю, толькі трэба асцярожна, а то як рване! Умець трэба!

— Не чапай ліха пакуль ціха!

— Не ў першы раз, дзядзьку!

— Лезеш, як жук у гаўно! Я яшчэ з японскай вайны ведаю.

— Калі тое было!

Фэдар спрабаваў ужыць яшчэ нейкія довады, каб адмовіць хлопца ад яго рызыкоўных намераў, але самаўпэўнены Юрка, як апантаны, быў ужо ў сваёй стыхіі.

— Не марочце мне галавы, дзядзьку! — Ён падняў міну за дужку, якую намацаў збоку і выцягнуў з зямлі. На месцы міны засталася неглыбокая круглая ямка, па дну якой забегалі мурашкі. Не марудзячы, Юрка павалок міну ў напрамку вогнішча, якое яшчэ дымілася, але патухала ўжо. Падклалі дроў. Дзейнічалі ўжо без Фэдара, які, напалоханы, застаўся на полі. Нядоўга думаючы, Юрка кінуўся да тых снарадаў, што купкаю, як парасяты, ляжалі на ўзлессі. Выбраў таго, што ляжаў зверху, з чырвонай галоўкай. Гукнуў Валодзіку, каб дапамог, бо снарад быў цяжкі, ад гаўбіцы. Неслі яны яго да вогнішча ўдвух. Валодзіка даймаў страх і дрэнныя прадчуванні.

— А можа, не трэба? — заныў ён.

— Сціхні! — цыкнуў на яго сябар. — Заныў... Другі раз не вазьму з сабой.

Перш чым класці гэтае страшыдла ў агонь, Юрка вывінціў галоўку, якая з першага разу не паддалася. Раззлаваны «сапёр» заціснуў снарад між каленяў, сеў на яго, ашчаперыў галоўку абедзвюма рукамі і тады толькі выкруціў. Узрывальнік паспеў ужо заіржавець. З краю, каля вогнішча, Юрка нажом выкапаў ямку, куды з дзіркі павінен быў сцякаць расплаўлены тол. Снарад так і паклаў — наканечнікам да ямкі, а тоўстым канцом — да вогнішча, на корпус нагарнуў расчырванелага вуголля.

— Не варта нагартаць столькі вуголля, — працягваў ныць Валодзік.

— Не вучы рыбу плаваць. Малы ты яшчэ, каб вучыць. Слабак! Мне гэта не ў першы раз!

Валодзік не хацеў, але не вытрымаў, адбегся ад кастра, ногі нібы самі аднеслі яго на колькі дзясяткаў метраў у бок поля. Усё ў ім калацілася, і ён у знямозе апусціўся на зямлю. Тады яно і бабахнула. Над вогнішчам, дзе завіхаўся Юрка са сваім снарадам, узняўся тоўсты слуп агню і попелу. Ажно зазвінела. Валодзік пачуў, як над галавой прасвісцелі асколкі. Далёкім пошчакам пайшло па лузе рэха. Ён спалохана зірнуў у той бок, дзе завісла воблака чорнага дыму і пылу. Юркі там не было. Падбег, кульгаючы, Фэдар, і яны, не змаўляючыся, кінуліся да месца здарэння. Спачатку ўбачылі ўтвораную выбухам яміну, раскіданае вуголле і галавешкі.

— Але ж і бухнула! — задыхана прамовіў Фэдар.

Нарэшце заўважылі Юрку. Ён сядзеў каля ямкі без ног, успёршыся на невялічкі альховы куст, — замест ног з адарваных па калені і абшматаных штанін тырчэлі дзве белыя танклявыя косткі. Зрэшты, гэта быў ужо як бы і не Юрка. Калі Валодзік прыгледзіўся яшчэ, дык убачыў, што ў таго, што сядзела каля ямкі, не было і галавы. З нутра, з шыі, цурком лілася кроў.

— А кроў так і хлешча! — прамовіў Фэдар і скрушна прыцмокнуў языком.

Тулава сядзела прама, не валячыся на дол, нібы захоўвала нейкую годнасць, стрыманасць і раўнавагу. Валодзіка апанаваў жах. З крыкам і енкам ён кінуўся ў вёску. Там выбух пачулі ўжо. Збеглася ўся Пруска, у паветры стаяў енк і плач. Над выганам яшчэ плаваў смярдзючы пах снараднага толу. У прасторы над сенажаццю завісла клочча дыму ад кастра, аднак паступова дым рассмоктваўся. Святлела, разгладжвалася паветра.

— Ой, людкове! — хіталі галовамі людзі. — Гора якое прыключылася!

Енчыла, білася аб зямлю Гэлька, пакуль зусім не абамлела і не страціла прытомнасці. Ёй, маці, было цяжэй за ўсіх.

Праз нейкі час прыехаў з возам Оргій Відэрка, прыехаў па пляменніка. Юркава цела паклалі на воз і доўга шукалі галаву. Знайшоў у хмызняку Міша Ярый — прускаўскі падлетак, глухі і нямы ад нараджэння. На Юркавай галаве шчыльна сядзела афіцэрская фуражка з зорачкай на чорным аколышы.

— Такі ўжо кон, — гунява, нібы падводзячы вынік таму, што адбылося, сказаў Гамон.

«Гэта ж і мяне зараз таксама б ужо не было, калі б з Юркам побач быў, — думаў Валодзік, гонячы разам з Фэдарам скаціну дадому. — Не ўтапіўся ў тым акопе, дык на снарадзе б падарваўся... І ўсё ж жывы, дзякуй богу, жывы...»

— Але ж і бухнула! — жахаўся Фэдар. — Да гэтага часу ў вушах звініць, і яго бачу.

Вельмі шкада было Юрку. Хаваць Юрку сышлася ўся вёска, уся школа з настаўнікамі.

— Ну што, хапіў страху? — спачуваючы, спытаў Лявон, бачачы, што на вачах унука не прасыхаюць слёзы.

— Хапіў...

— Эх, Юрка! Без пары ў зямлю лёг.

## VI

Скончыўся разліў Лосьны. Адшумела крыгамі вада. Акідаліся пяшчотнымі коцікамі лазнякі. Яшчэ ў красавіку буйна зацвіла чаромха, нават на адлегласці чуцён быў яе пах. Спешна прыбраліся ў свежазялёную лістоту дрэвы. Прыбавілася святла. На пагорках, што спускаліся да Лосьны і ўтваралі берагі яе поймы, пад сонечным угрэвам адскочыла шчаўе — шчавух, як тут яго называлі. Рэч спажыўная. Ратавала ад галадухі і вясенняга авітамінозу.

Кожнай пары года адпавядалі свае святы, свае традыцыі. У красавіку святкавалі Вялікдзень, які прускаўцы заўсёды, па даўняй звычцы, сустракалі шчыра, з радасным уздымам. Калілі печы, сцены, наводзілі чысціню і парадак. Фёкла дастала зроблены яшчэ летась з асакі квач, развяла глінку і пабяліла печ і сцены ў кухні.

Перад гэтым Валодзік разам з усімі, равеснікамі і дарослымі, хадзіў у царкву да споведзі. Грэх перад Богам прускаўцы лічылі чымсьці горшым нават, чым злачынства. Ад грахоў трэба было пазбавіцца, паспавядацца ў царкве. Спавядаў бацюшка айцец Клаўдзій, які ад кожнага гатоў быў выслухаць пакаянне ў грахах.

Бабуля вучыла:

— Пра што ён ні спытае — адказвай адно: грэшны!

— Чаму?

— Так трэба. Кожны чалавек грэшны. Калі не на справе, дык у думках.

— У думках?

— Падумаў пра што нядобрае — вось і саграшыў. Д’ябал — хітры, кожнага падпільноўвае, падпільноўвае і спакушае...

Царква — месца паважнае, не для жартаў. Тут, даводзіў Лявон, абрадам хрышчэння запачаткоўваецца чалавечы шлях, тут ён і завяршаецца.

Перад Вялікднем да святара айца Клаўдзія — чарга. Вызваліцца ад грахоў жадае кожны. Лічылася, што пабыць у споведзі — вельмі добра для здароўя. Казалі: «Арганізм ачышчаецца». Зрэшты, каб хто надта каяўся, прызнаваўся ў грахах, такога не было. Штосьці з грахоў чалавек, мусіць, забываў, а ў чымсьці і прызнавацца не адважваўся. Адчувалася, што і айцец Клаўдзій ведаў пра іншых і пра сябе нешта такое, што прымушала яго глыбока ўздыхаць і спадзявацца толькі на Бога.

У царкве сутонне, пах ладану і бляск свечак. Ідзе набажэнства. Лётаюць нябачныя анёлы. Калі вельмі прыслухацца, дык можна часам нават пачуць хваляванне паветра і шастанне крылаў. Валодзік не раз аглядаў падлогу з думкай: а ці не ўпусціў дзе-небудзь анёл пёрка са свайго крыла. Пакуль што не ўбачыў. «Молішся, дык не стой, як слуп, — вучыла бабуля, — а кланяйся, схіляй шыю! А то стаіш, як слуп. Свечку трымай у левай руцэ, а правай хрысціся, асяняй сябе хросным знаменіем!» Падлеткі свечак не куплялі, і Валодзік проста стаяў, трымаючы ў руках шапку.

Хор на чале з Кухтам спяваў малітвы, а потым Кухта сам чытаў, трымаючы перад сабой Святое Пісанне, урыўкі пра Дзяянні апосталаў і пра тое, як Хрыстос выгнаў з Марыі Магдаліны сем бесаў, якія ў ёй сядзелі. Са сцен, з

абразоў, патрабавальна пазіралі лікі святых, пакутнікаў, праведнікаў. Гэтыя бачаць усё і ўсё ведаюць.

Урачыста, крыху накульгваючы, прайшоў са скарбонкай Павал Гальяш, збіраў царкоўную міласціну.

Айцец Клаўдзій спаважна, ні на кога не звяртаючы ўвагі, адпраўляў свае святарскія абавязкі, маліўся, махаў кадзілам, пускаў у дзела крапідла. Далёка ляцелі пырскі свянцонай вады.

На клірасе дзяк Лаўр Яўсеевіч з хорам. Надта прыгожа, на розныя галасы спявае хор. Споведзь і прычасце — пасля літургіі, у канцы набажэнства. Спавядаліся нашча — так трэба. Валодзік уважліва сачыў, як айцец Клаўдзій накрываў чалавека палою доўгай сваёй апранахі і пра нешта з ім гутарыў. Гутарыў і адпускаў. Мякка льсніліся расчэсаныя на прабор светаровы валасы. Сціскалася і трымцела сэрца: «А што, калі спытае, ці рваў сліўкі ў яго садзе?» Папоўскі сад багаты, хоць ніхто яго не даглядаў. Шмат чорных і чырвоных парэчак, сліў, яблыкаў, арэхаў. Парэчак столькі, што кусты ад іх гнуліся. На смак кісленькія, але сок дужа салодкі, прыемны. Хлапчукі не міналі выпадку, каб не паласавацца гэтым смакоццем. Тут і Валодзік быў далёка не бязгрэшны.

Але, дзякуй богу, абышлося. Айцец Клаўдзій — чалавек высакародны, гэтай тэмы не крануў. Паспавядаў і прычасціў лыжачкай віна і малюсенькім кавалачкам несалёнага праснячка. Гэта была просвіра. Павадзіў рукой са складзенымі пальцамі, перахрысціў, сказаў: «Ва імя Атца і Сына і Святога духа. Амінь». Кашлянуўшы, дадаў:

— Усе мы грэшныя, сын мой, ідзі!

Так што ўнук мог з лёгкім сэрцам адчытацца перад бабуляй.

— Ну, ці хоць добра ён цябе выспавядаў? — спытала Фёкла, калі ўнук вярнуўся з царквы.

— Выспавядаў.

— Ну, то добра.

На Паску Фёкла пякла велікодныя пірагі, ці калачы, як яна іх называла, павесіла на абраз, што ў покуце, новы ручнік-набожнік. Вярнуўшыся са школы, Валодзік яшчэ ў сенях адчуў прыемны пах. Зайшоў у хату, паставіў на падаконнік бутэлечку з чарнілам, зняў з сябе торбачку са школьным начыннем. Прагаладаўся. Густы, прыемны пах свежага печыва запоўніў хату. На шырокай лаўцы ляжалі накрытыя ручніком пірагі. Ад радасці хлопец ажно прысвіснуў.

— Нашто ты свісціш — чарцей склікаеш? — зрабіла яму заўвагу бабуля.

— Неяк само атрымалася.

На пліце стаялі памытыя чыгункі, каструлі. Бабуля ў абсыпаным мукой фартуху адрэзала ад пірага акраец з акрушчыкам і пачаставала ўнука. Астатняе загарнула ў ручнік, паклала на лаўку і спыніла на ўнуку стомлены позірк. Доўга пазірала на Валодзіка, які каштаваў пірог, і думала, відаць, нешта сваё. Бабуля здавалася яму вельмі прыгожай жанчынай. Уражвалі яе жывыя, разумныя, крыху смяшлівыя вочы, сухія, са скручанымі жыламі, але пяшчотныя рукі, уся постаць, хаця ўжо крыху і прыгорбленая, павернутая да зямлі. Асабліва прыемна і радасна рабілася яму на душы, калі бабуля ўсміхалася.

— Не будзе мяне, памру, дык ты, напэўна, і забудзеш, — прамовіла яна, знарок не глянуўшы на ўнука.

— Не, бабуля, не забуду, — горача азваўся ён і змоўк ад гэтай нечаканай і жахлівай думкі, што бабуля можа памерці. Гэтая думка ніколі не прыходзіла яму на розум. Бабулю ён вельмі любіў.

У Фёклы думкі збягаюцца да аднаго: «Як там Вася?» Апошнім часам яна асабліва была ў трывозе і хваляванні і надта сумавала па ім, часта даставала з шуфляды даўнюю (фатаграфаваўся яшчэ пры Польшчы, кавалерам) фотакартачку і доўга, да слязіны з вачэй, глядзела на яе, а потым з уздыхам ізноў хавала. Непакоілі нядобрыя прадчуванні. Малілася, аднак і малітвы не прыносілі палёгкі. Учора ўбачыла, як па ствале каштана, што рос на падворку (яго садзіў Вася, калі быў малы), прабег вялікі шэры павук. Убачыла і адчула, як у нутры ўсё залекацела: «Што б гэта значыла? Можа, што з Васілём? Ці жывы?» Даўнавата ўжо быў ад яго ліст. Сын пісаў, што прайшоў ужо многа гарачых баёў, што ўжо двойчы кантузіла, але, дзякуй богу, жывы. Фарсіравалі Одэр. Узнагародзілі медалём «За адвагу». Пісаў, што вайна цяпер ужо хутка скончыцца і сустрэча не за гарамі. Лісты ад Васіля прыходзілі рэдка. Пасля таго напісаў быў, што ўжо на падыходзе да Берліна, што выдалі новыя чаравікі і шынялі, што пачалася Берлінская аперацыя.

— Унучак, унучак! — раптам пачуў Валодзік бабулін голас. — Хадзі сюды!

Ён азірнуўся і заўважыў, што бабуля не такая, як звычайна, што яна як бы не ў сабе, з пакутлівым выразам на бледным твары пазірае кудысьці ўбок, у адну кропку. Моўчкі ўзяла пірог, што ляжаў на лаўцы, загорнуты у ручнік, і працягнула яму:

— Тату аднясі! Ён там галодны. Ідзі! Аднясі!

Хлопец сумеўся: «Што гэта яна гаворыць? Куды несці? Няўжо не разумее? Тата ж на фронце. А можа, што нядобрае з ёю здарылася?»

— Бабуля, дык ён жа на фронце, на вайне. Гэта далёка. Дзе ж яго там знойдзеш?

— На тым трохкутнічку напісана, дзе ён. Ты цяпер граматны, знойдзеш.

— Не прапусцяць мяне, там жа страляюць.

— Вася галодны. Аднясі! Ён рады будзе, ён чакае. Аднясі!

«Што ж гэта такое? — ніяк не мог сцяміць унук. — Што з бабуляй? Што з ёй прычынілася?» Фёкла заплакала. Ён заўважыў на шчоках у бабулі слёзы, якія яна старалася выцерці тыльным бокам далоні, і яму стала надта шкада яе, пасівелую і стомленую. Плечы яе скалануліся, і слёзы пацяклі нястрымна, раўчукамі.

— Бабуля, чаго ты плачаш? Я ж з табой, я цябе моцна люблю!..

Ён моцна абхапіў яе рукамі, абняў, ткнуўся носам, прыціснуўся да грудзей, да мяккай ільняной кофты.

— Бабуля! Бабуля-я!

І яны заплакалі разам, абдымаючы адно аднаго. Прыпаўшы да бабулі, Валодзік адчуў, як трывожна і напружана б’ецца яе сэрца. Пасля яна апусцілася на калені, каб памаліцца, тое ж самае загадала зрабіць і ўнуку. Малілася, шумным шэптам прамаўляючы «Багародзіцу», глыбока ўздыхаючы, амаль стогнучы, са ўсхліпамі. Валодзік таксама не ўтрымаўся, заплакаў. Калі плач суціх і яны крыху супакоіліся, бабуля пяшчотна пагладзіла ўнука па галоўцы:

— Брацікам аднясі. Хай пакаштуюць. І мама таксама хай пакаштуе! Хай разгавеюцца!

Гэткае даручэнне было пад сілу і ў ахвоту, і ён кінуўся яго выконваць, панёс пачастунак братам і маці.

Прыйшоў Лявон. Быў у Мікіты Галёнкі на пасядзеньках.

— Рузвельт памёр, — сказаў ён, — і канца вайны, бедны, не дачакаўся...

Фёкла ведала, хто такі Рузвельт. Гэтае імя было на слыху. Амерыка дапамагала Расіі, была з ёй у саюзе.

— Шкада. Разумны быў чалавек, добры. А як далей?

— А як далей будзе, невядома...

* * *

На Паску наведаліся залоўкі — Лявонавы сёстры Фядора з Барбарай. Адстаялі абедню і прыйшлі, знялі сачыкі, развязалі паркалёвыя хусцінкі. І Фядора, і Барбара — дарагія для Фёклы госці, самая блізкая радня. Адна і другая былі без мужоў, бо тыя — Хартон і Іван — не вельмі ладзілі паміж сабой і не надта хацелі сустракацца. Цягнулася гэта яшчэ з таго часу, калі Іван звёў ад Хартона нявесту. Здарылася гэта на самім вяселлі, і той нявестай была Фядора. Тады на пустое месца каля Хартона пасадзілі Барбару...

Прыйшоў Лявон. Селі за стол, выпілі па чарачцы, закусілі святочным, як казала Фёкла, калачом і пачалі ўспамінаць. Успомнілі жыццё ў Расіі, у Запалонным. Родных успомнілі, знаёмых, камуну «Таварыш Троцкі» і яшчэ многае. Столькі было надзей! Гэта быў складаны і нялёгкі час войнаў і рэвалюцый. Усё давялося зведаць — і нястачы, і голад, і смерць блізкіх.

Прыслухоўваўся да гамонкі і Валодзік. Фёкла шмат расказвала ўнуку пра далёкае Запалоннае, пра тое, што рабілася там у грамадзянскую вайну. У многае нават цяжка было паверыць.

Радня не адпускала маладую ўдаву ехаць разам з бежанцамі сюды, на Захад, пакідаць родныя мясціны. Не паслухала Фёкла, закаханая ў Лявона, блізкая з яго раднёй. Паехала разам з сынам, з Васілём. Ох, як шмат вады сплыло з той пары! Як там цяпер тое Запалоннае?

У Фядоры дзяцей не было (Бог не даў — як яна казала), у Барбары іх двое — сын Сенька і дачка Ніна. Сеньку забралі на прымусовыя работы ў Германію. Што з ім там, ніхто не ведаў. Барбара часта выцірала ражком хусціны слязіну на шчацэ. Муж Хартон больш трывалы, маўчаў, віду не паказваў.

— Як там Вася? — папыталася Барбара, якая калісьці, калі вярталіся з Расіі, з бежанства, несла яго, малога, праз увесь Брэст на руках. Падвода ехала па бруку і малы навярэдзіў нутро, надта кволіўся.

— Даўнавата ўжо не пісаў, ніякіх звестак не маем, — уздыхнула Фёкла.

— А ад Сенькі, ад пляменніка, што чутно? — спытаў Лявон.

Сястра толькі плячыма паціснула. Чалавечыя лёсы патаналі ў няпэўнасці і ў невядомасці.

— Вайна, людкове, — панылым голасам дадала Фёкла, — ад яе ўсяго можна чакаць.

— Амерыканцы добра дапамагаюць, — абнадзеіў прысутных Лявон, — свой фронт адкрылі, цяпер справы пойдуць. У амерыканцаў тэхніка!..

Усе спадзяваліся на лепшае...

* * *

Валодзік усё больш упэўнена авалодваў граматай, ужо няблага чытаў і пісаў, асвойваў арыфметычныя дзеянні.

— А ваш унук здольны да навукі, — сустрэўшы Фёклу, хваліла яго Аляўціна Дзіядотаўна, — кемлівы хлопчык. Каб толькі не падленьваўся. А то ёсць такія, што кніжку ўзяць не прымусіш.

Фёклу ўзрадавала гэта пахвала ўнука.

— Ён стараецца! — сказала яна і аднесла настаўніцы бутэльку малака, бо з харчамі было дрэнна. Каровы ў Аляўціны Дзіядотаўны не было, жыла ў асноўным на зарплату.

З поспехамі ўнука Фёкла звязвала вялікія надзеі, якія перш за ўсё тычыліся перапіскі з роднай сястрой Домнай, з якой перапісваліся да вайны. Вайна, фронт — гэтай радасці пазбавілі, а цяпер, пасля вызвалення, такая магчымасць ізноў з’явілася. Успаміны пра родзічаў, пра Запалоннае не выходзілі з галавы. Надта хацелася наведаць родныя мясціны. Стрымлівала тое, што была непісьменнай, не ўмела ні пісаць, ні чытаць. А як у дарозе, ды яшчэ такой далёкай, без гэтага? Асабліва напалохала перасадка ў Маскве, дзе шмат вакзалаў, транспарту, метро. Але надзея ўбачыцца з Домнай, са сваякамі не пакідала. Назіраючы, як унук алоўкам старанна выводзіць у сваім сшытку (які дала Аляўціна Дзіядотаўна) літары, словы, рашае «задачкі», Фёкла спытала:

— А пісьмо ці ўжо напісаў бы?

Валодзік няўцямна пацiснуў плячыма. Такога ён яшчэ не спрабаваў.

— А можа, паспрабуеш?

— Можна.

— Давай паспрабуем.

Хлопчык вырваў з сшытка аркушык і зверху, пад дыктоўку бабулі, старанна і асцярожна вывеў: «Дарагая Домнушка». Фёкла прадыктавала гэта і заплакала, аднак узяла сябе ў рукі, крыху супакоілася і працягнула свае думкі-ўспаміны:

«Як успомню цябе і ўсё наша раднoе Запалоннае, — дыктавала яна, — дык заўсёды заб’ецца сэрца і нешта ў ім зашавеліцца...»

Унук пераносіў бабуліны словы на паперу.

«Даўно табе не пісала па вядомых прычынах, мы знаходзіліся на захопленай ворагам тэрыторыі, у акупацыі. Нас вызваліла Чырвоная Армія. Мы з Лявонціем Міхайлавічам пакуль што, слава богу, жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем. Ціжало было ў акупацыю. Бог памог, выжылі. Сын Вася пайшоў на фронт, палучаем ад яго пісьмы. Дапамагаем сям’і. У яго жонка Прося і трое дзетак, тры сыны...»

Валодзік выводзіць літары з нахілам і націскам — стараецца. Ажно пот на лбе выступіў. Новае пяро задужа калянае, драпае паперу, пакідае за сабой кляксы, як называе Аляўціна Дзіядотаўна чарнільныя пляміны. Папера такая, што яны відаць і з адваротнага боку.

«Не галадаем. Прадукты, хлеб, картошка, малако есть. Хлеб пяку, дабаўляю картошкі. Свая капуста, агурцы. Работаем на сваём хазяйстве. Імеецца ў нас лошадзь, пара кароў, парасёнак, куры, некалькі авец. Стараемся спраўляцца з налогамі, памагаем гасударству.

Дарагая сястрыца, пішы, як пажываеш і як тваё здароўе. Маё здароўе яшчэ нічога, цярпіма. Здараецца, што падскоквае даўленіе. Я гэта чувствую, сохнуць і набухаюць вусны...»

Такіх доўгіх лістоў Валодзік яшчэ не пісаў. Дыктуючы, Фёкла бачыла, што ён ажно засопся, выводзячы літары. Пара было закругляцца.

«Абдымаю цябе, сястрыца, і моцна цалую. Свой паклон табе шле і муж Лявонцій, з якім мы часта ўспамінаем той час. Хоць адным бы вокам глянуць на радную вуліцу, дыхнуць нашым паветрам, пакупацца ў Самарцы. Перадавай мой нізкі паклон усім родзічам і сваякам. Вельмі хочацца з

усімі свідзецца. Паляцела б да вас, здаецца, на крылах. Можа, дасць Бог, і свідзімся».

— У канцы напішы, — сказала бабуля, — што пісьмо пісаў унучак Валодзя.

Ён так і зрабіў.

* * *

Праз месяц які, а можа і хутчэй, прыйшло пісьмо з Волгі, з Запалоннага, ад Домны. Далі чытаць Валодзіку, ён патроху ўжо, па складах, чытаў.

«Здравствуйте, многолюбящая родная сестрица Фёкла Тимофеевна, дорогой дядя Леонтий и Ваш внучек Володя! Пишет Вам Домна из села Заполонное. Сообщаю, что мы слава богу живы и здоровы, хотя приходится трудно. Мужики на фронте, в колхозе только женщины остались да ребятишки, да еще древние старики. Дорогая Феклуша! Мой Флегонт на фронте, воюет. Пишет, хотя не часто. Детишки Емельян да Андрон и Петька с Любашей при мне. Тижало. Мы здесь находимся, как говорится, хоть и в тылу, но никому не легко. В основном всё на бабах держится. Все мы очень устали, но еще кое-как кряхтим. Старается помочь мне старшенький — Емельян. Удался, думаю, в деда, батюшку нашево Тимофея Поликарпыча. Заботливый очень, добрый и сочувственный. Наш колхоз «26 бакинских комиссаров» большой, но порядка нет. Председатель часто бывает выпимши. Пьют у нас, как тебе известно, бражку своего приготовления. Балдеют от нее еще поболе, чем от водки.

В продолжение всего этого времени мы о Вас много думали, гадали, как Вы там под немцем. Понимаем, что не сладко было Вам. Говорят, жестокий он был и безжалостный. Нас эта чаша слава богу миновала.

Здесь у нас много заводов, эвакуированных с запада в 41-м году. Работа на них продолжается без перерыва день и ночь. Не легче и в колхозе, но справляемся. Колхоз, конечно, не сахар, тяжело. Того съестного, о котором ты сообщаешь, у нас не хватает, а то и попросту нет. Продукты получаем по карточкам. Сеем редьку, она, родимая, издавна нас спасает. Питаемся неважно, одеваемся во что придется. Дороговизна однако жуткая. Работаем для фронта, для Победы над проклятым немцем, самим, конечно, не хватает, а голод, как известно, испытание тяжелое. Однако нам не привыкать, выдюжим. Чтобы только не было засухи. Что же касательно характера, так характер у нашего народа твердый.

Дорогая сестрица, приезжай вместе с Леонтием и внучком Владимиром посмотреть на родимые места. Родина есть родина, она не забывается.

На этом заканчиваю. Целую Вас всех, дорогие сродственники, и крепко обнимаю, дай Бог всем здоровья и терпения. Может, свидимся.

Ваша Домна Немцова. 2.02.1945 года».

На працягу чытання Валодзік колькі разоў запыняўся, натыкаючыся на неразборліва напісаныя словы, але ліст усё ж адолеў, прачытаў. Бабуля ўздыхала, слухаючы напісанае сястрой, а пад канец і зусім расчулілася, заплакала.

— Цяжка ім там, — скрозь слёзы сказала яна, калі ўнук скончыў чытаць.

— Пра ўсё, відаць, і не напішаш, — дадаў Лявон. — У пісьме ўсяго не скажаш. А напішы, дык і прычапіцца могуць.

— А помніш, як ты пошту ў Бузулук вазіў?

— Помню, — Лявон пасміхнуўся. — Ледзь не замерз аднойчы...

## VII

Прускаўская школа рыхтавалася да адказнага свята працоўных усяго свету — 1 Мая. Мікалай Фаміч задумаў адсвяткаваць 1 Мая ў маштабе сельсавета. Дзеля гэтага быў запланаваны паход у Ратайчыцы і ўдзел у мітынгу. Меліся ісці ўсёй школай, гэта больш за сотню чалавек. Цэлая калона! Калону трэба было па-святочнаму ўпрыгожыць. Рыхтавалі транспарант, і кожны вучань павінен быў несці сцяжок. Пра гэта Валодзік расказаў дома. Фёкла адрэзала ад сувоя кавалак палатна і пафарбавала яго, патрымаўшы ў кіпені, дзе да гэтага варыліся буракі. Дастаўшы з чыгунка, палатно павесілі сохнуць, потым, яшчэ вільготнае, Валодзік яго адпрасаваў і прымацаваў да дрэўка, якое зрабіў з бярозавага вудзілішча. І Фёкла, і Лявон ухвалілі.

З Лявонам у Валодзіка сяброўскія адносіны. Дзед Лявон яго рэдка ўшчуваў і заўсёды, як і бабуля Фёкла, быў уважлівы і зычлівы, падтрымліваў і дапамагаў, з ім пра ўсё можна было пагаварыць, абмеркаваць любую справу. Неяк сусед Толік Хомка сказаў: «А ён не родны твой дзед». Валодзік, зрэшты, пра тое ведаў, ведаў, што родны дзед — Мікалай, матчын бацька, але ён жыў у другой вёсцы, у Пакупчыках, з ім такой блізкасці не было.

Раніцаю 1 Мая Валодзік панёс сцяг у школу. Свяціла сонца. Надвор'е стаяла выдатнае. Хлопцу здавалася, што ўсе на яго пазіраюць, з захапленнем глядзяць, як ён крочыць, трымаючы над галавою сцяг.

Недахоп знайшоў Мікалай Фаміч, апрануты дзеля такога моманту ў напаўвайсковы фрэнч.

— Што ж ён у цябе нейкі не чырвоны, а бурачковы? — засумняваўся ён, агледзеўшы гэтую не зусім звычайную рэч. — Бля-яклы! Чырвані яму нестае, нашай, пралетарскай!

Выручыла Аляўціна Дзіядотаўна:

— Хай будзе дзеля размаітасці.

Пачалося пастраенне.

— Таварышы, станавіцеся! — гукнуў Мікалай Фаміч.

— Па чатыры ў рад! — дадала, удакладніўшы, Аляўціна Дзіядотаўна.

— Грудзь упярод! — камандаваў Мікалай Фаміч.

Кожны быў са сцягам, а наперадзе Валодзя Хрысцінін і Сашка Яўгенін неслі транспарант: «Няхай жыве 1 Мая!» Высока ўзняў свой сцяжок Пахолкаў Гога. Чырвонасці ў ім было болей, чым у каго.

— П-паглядзіце на мой сцяг! П-паглядзіце! — хваліўся ён, заікаючыся ад хвалявання.

Валодзік таксама выпнуў, можа, нават і занадта, грудзі, вышэй узняў свой сцяжок, хоць у ім і не хапала чырвані.

— І каб ішлі мне нага ў нагу! — запатрабаваў Мікалай Фаміч. — Па-ваеннаму! Бо ўсе вы будучыя салдаты, абаронцы Радзімы.

Некаторыя з вучняў мелі сякі-такі абутак, большасць аднак басанож. Лягчэй ісці. Мікалай Фаміч — на чале калоны, Аляўціна Дзіядотаўна — замыкаючая. Ранішні халадок студзіў твар, шыю, струменіўся праз сарочку, пранікаючы да цела. Ішлі праз Пруску. З хатаў да весніцаў павыходзілі людзі. Каля сваёй хаты Валодзя ўбачыў дзеда з бабуляй. Абліччы — радасныя, вясёлыя. Ім таксама перадаваўся святочны настрой.

— Валодзя-я! Тупай! Тупай! — гукнуў Лявон, каб падбадзёрыць свайго гадаваніка, які валка крочыў разам з сябрамі, стараўся не адставаць.

— Тупай! Тупай! — засмяяліся, зарагаталі навокал.

Валодзік засаромеўся ад гэткай увагі. Было крыху няёмка, ён апусціў галаву, але стараўся ісці ў нагу з усімі.

— Слабы ён у нас, дзіця яшчэ, — сказала Фёкла. — Можа, вярнуць?

— Не слабейшы за іншых, — спыніў яе Лявон, — хай прывыкае.

За калонай узнімаўся пыл, але па сухім ісці добра. Высахла нават спрадвечная лужына каля Відэркаў, — у яміне на яе месцы мяккі шэры пясок.

Да Ратайчыц шэсць кіламетраў. Павярнулі на гасцінец. Каму прыспічыла спаражніцца, перадаваў сцяжок сябру, а сам адбягаў у кусты, затым даганяў. Грамадою ісці лёгка, утомы не адчуваеш. За якую гадзіну-паўтары былі на месцы. Тут ужо віраваў народ. Каля сельсавета стаяла новенькая, аплеценая дзеразой трыбуна. Святкаванне пачалося. Панавалі рух і ўздым. Усе бачылі, як на трыбуну ўзышоў Пятро Мачалаў — старшыня сельсавета, былы партызан, разам з ім яшчэ нейкія людзі. Хацеў падняцца заадно і Мікалай Фаміч, але яму нешта сказалі ці растлумачылі і ён застаўся ўнізе. Мітынг адкрыў старшыня сельсавета. Гаварыў хрыплым, пракураным басам. Прамова яго аказалася не доўгай, але гучнай. Радасна было пачуць, што наша армія ўжо ў Берліне, дабівае ворага ў яго логаве і хутка зловяць самога нягодніка Гітлера. Зловяць і пасадзяць за тоўстыя краты. Хай падумае над тым, што нарабіў. Далей у прамоўцы ішлі лозунгі і заклікі на бягучы момант. Старшыня не адзін раз пажадаў моцнага здароўя таварышу Сталіну як правадыру і палкаводцу, арганізатару ўсіх нашых перамог, уславіў доблесную Савецкую Армію і непарушны саюз народаў нашай краіны, саюз рабочых і сялян. Выраўняўшы дыханне, сказаў:

— Мы, таварышы, таксама не спім у шапку, а шмат робім. Нядаўна адчынілі ізбу-чытальню. Адчыняем амбулаторыю.

Далей паведаміў, што ў Камянцы арганізавалі МТС, якая гатова аказаць сялянам дапамогу сельскагаспадарчымі машынамі і інвентаром.

Усе, хто стаяў на плошчы, перад трыбунай, дружна пляскалі ў далоні. Разам з усімі пляскаў і Валодзік.

— Гаворыць, як чытае, — адзначыў нехта ў натоўпе.

— Начальства! — патлумачыў чыйсьці голас побач. — Галавасты мужык.

— Разважлівы! — пахваліў нехта.

Напарэшту прамоўца з усяе сілы гукнуў:

— Няхай жывуць савецкія пажарнікі!

Гэта было крыху нечакана. Мясцовыя аднак растлумачылі, што ў Ратайчыцах нядаўна здарыўся пажар і яго патушылі пажарнікі, і цяпер старшыня, успомніўшы пра іх, аддае ім належнае.

Пасля мітынгу вярталіся дадому. Ішлі ўжо не шчыльнымі радамі, а бязладным натоўпам. Згарнулі нават транспаранты. Эмоцыі стамілі. Мікалай Фаміч пазычыў у кагосьці з ратайчыцкіх знаёмых, іх у яго было шмат, падводу, пасадзіў Аляўціну Дзіядотаўну і сеў сам. Апроч таго, на падводу паклалі агітацыйны матэрыял — лозунгі і сцяжкі, згарнулі транспарант. Адзін толькі Гога Пахолкаў не аддаў свой сцяжок, нёс яго, паклаўшы на плячо.

Валодзік без абеду страшэнна змогся. Ледзьве дадыбаў дадому, але свой бурачковы сцяг, узяўшы прыклад з Гогі, нідзе не кінуў, прынёс, і ён яшчэ доўга ляжаў пад страхою, куды засунуў яго на захаванне Лявон.

Навучальныя поспехі ў Валодзіка былі даволі сціплыя і, як кажуць, пакідалі жадаць лепшага. Аляўціна Дзіядотаўна не раз рабіла заўвагу, калі ён не спраўляўся з арыфметыкай.

— Што, Платонаў, мусіць, падленьваешся? Падленьваешся!

— Я б рашыў, — апраўдваўся вучань, — але газа ў лямпе кончылася.

— Якая газа? Газа? Я ж вам казала: трэба гаварыць «керасін». Так будзе правільна. Дарэчы, твая стрыечная сястра Ніна з Пакупчыкаў рашыла гэтую задачу пры месяцавым святле. Вось што значыць стараннасць.

Ніна сядзела за суседняй партай, і ёй прыемна было чуць пахвалу ад настаўніцы. Неяк, калі клас, ланцужком па двое, пабраўшыся за рукі, спускаўся па лесвіцы з другога паверха, Аляўціна Дзіядотаўна паставіла іх — Ніну і Валодзіка — першымі. Не было за што трымацца, ззаду напіралі, і ён, не вытрымаўшы гэтага напору, спаткнуўся і ўпаў. Зверху пападалі іншыя дзеці. Добра яшчэ, што справа скончылася сінякамі і не надта балела.

Бедная Фёкла ўяўляла школу ні больш ні менш як турмой, куды трапіў яе ўнук. Але трапіў па сваім жаданні. Зрэшты, нічога не даецца без цяжкасцей. А вучыцца — трэба! Па сваім досведзе ведала, як цяжка быць непісьменнай.

У Прусцы не было ні газет, ні радыё. Паведамленне пра заканчэнне вайны, перамогу над Германіяй, прыйшло з Ратайчыц, з сельсавета. Гэтую вестку прагна чакалі, спадзяваліся, але чаканае звычайна адбываецца нечакана. Так і на гэты раз.

У школе аб'явілі канікулы, і ўчарашнія вучні ператварыліся ў пастушкоў, жыццё якіх перамясцілася ў поле, у лес, на луг. Лета! Справа дзяцей — бегаць, гуляць, радавацца жыццю. Усё гэта аднак сумяшчалася з працай, трэба было дапамагаць бацькам. Спаць клаліся рана. «Раней ляжаш, — казала бабуля, — раней устанеш». Раніцай, з усходам сонца, выганялі скаціну на пашу. Часцей за ўсё буронак кіравалі на Панскае — шырокі, адкрыты луг паміж лонкай і полем. Прыволле! Цялушкі ішлі, рыкаючы, матляючы рагатымі галовамі, шумна прынюхваючыся да навакольных пахаў, скубучы траву. Хораша ўзыходзіла сонца, песціла свежымі, маладымі промнямі, і добра было напоўніцу дыхаць ранішняй свежасцю.

Кожнага дня пастушкі чакалі, калі сонца, апісаўшы дзённую сваю дугу, апусціцца за Макаўню, за далягляд, кінуўшы адтуль на ўсё неба доўгія пасмы вечаровых праменняў. Пад вечар статак вяртаўся дадому. За каровамі, кожны за сваёй, ішлі пастушкі. У чымсьці яны былі надта падобныя адзін на другога і магчыма таму шчыра сябравалі. Да сяброў звычайна прывыкаеш і дружыш з імі, якія б яны ні былі. Забаў хапала. Пару дзён назад у Макаўні Валодзік знайшоў птушынае гняздзечка, у якім ляжалі чатыры цёпленькія рабыя яечкі. Памкнуўся быў адно ўзяць, але адумаўся, не ўзяў, не захацеў укрыўдзіць безабаронную птушку. Калі вечарам ён пра гэта расказаў дома, дык бабуля з дзядулем пахвалілі: «Добра зрабіў, што не ўзяў, пашкадаваў птушку».

Вольнага часу хапала. Тады гулялі ў «пікара», у «свінку», «чыжыка», у «пагарэлкі» ці ў «каменьчыкі» або ў што-небудзь яшчэ. Гульняў — шмат. І ў карты гулялі — у «дурня». У той дзень Валодзік з сябрамі ды яшчэ з Фэдарам-японцам былі са статкам на Панскім, калі пачулі крык з гасцінца, што вёў у Ратайчыцы. Па гасцінцы ехала падвода. Хлопцы гулялі ў «вогня», нехта прынёс самаробны мячык, змяты з воўны, і ўсе былі захоплены гэтай рухавай, імпульсіўнай гульнёй. Крык аднак пачулі і спыніліся. На возе сядзела жанчына, нешта крычала і махала чырвоным сцягам.

— Па-бе-да! — апантана крычала жанчына. — Па-бе-да!!!

— Ура-а-а! — закрычалі ў адказ пастушкі.

— Пабеда-а-а! — неслася па наваколлі.

Усе аціхлі. Падышоў Фэдар-японец і, зняўшы сваю падраную шапку, падставіўшы сонцу галаву, узбуджана і радасна загаманіў разам з усімі.

— Няма ўжо вайны, няма!..

«Нарэшце! — узрадаваўся Валодзік. — Значыць, хутка вернецца тата! Бабулі трэба сказаць, і маме!.. Вось рады будуць і плакаць перастануць...» Хацеў бегчы дадому, перашкодзіла збродлівая Красуля. Паводзіла сябе надта неспакойна, усё наравіла некуды бегчы, даводзілася яе запыняць. Пад вечар выбіўся з сіл.

— Палюе яна ў цябе, — сказаў Фэдар як найбольш абазнаны ў пастухоўскай справе, — да быка просіцца, каб апладніў. Чуў, як яна рыкае?

Красуля шумна рыкала, валаводзілася з іншымі сваімі сяброўкамі і ўвесь час наважвалася бегчы на поплаў. У маі пасвіць на поплаве ўжо забаранялася — тут была «лонка», сенажаць, і пускаць скаціну не дазвалялася. Але каровы такія істоты, што не надта звярталі ўвагу на гэтую забарону. Словам, давялося чакаць вечара, калі статак вернецца з пашы дамоў.

Ніцае сонца мелася ўжо схавацца за далягляд, калі буронкі брылі па закапычанай вясковай вуліцы.

— Няма ўжо вайны, няма, — паведамлялі сустрэчным пастухі.

Валодзік ад радасці ішоў з падскокам і таксама ўсім пра гэта казаў. Хацелася спяваць. У Прусцы аднак пра ўсё ўжо ведалі. Абвясціла тая самая жанчына, што ехала на падводзе і махала чырвоным сцягам. Ноччу, ночы былі ўжо цёплыя, цьмяна зіхацеў месяц, удалечыні, над Брэстам, відаць было, як крамсалі неба featureзнакаляровыя ракеты пераможнага салюта: чырвоныя, аранжавыя, зялёныя. Цэлае суквецце. Чуўся нават далёкі гул.

Пасвятлелі людскія абліччы, прыўзняўся настрой. Гэта ж была вайна, і вось нарэшце яна скончылася, наступіў мір, спакой. Па-святочнаму выглядала навакольная прырода.

У гэтую вясну раскошна цвіла бузіна. У пойме Лосьны жоўтым вогнішчам палымнела калужніца. З прускаўскіх гародаў пахлі высокія ўжо канаплі, чырванеў мак. З панскага саду даносіўся водар акацыі, асабліва пад вечар, калі хавалася за далягляд сонца і пачынала цямнець. Ноччу шчыравалі, разлівалі свае трэлі салаўі.

На падворку, каля Лявонавай хаты, буйна цвіў каштан, пасаджаны калісьці Васілём, яшчэ падлеткам. Цвіў так, што кожны, хто ішоў вуліцай, заглядаўся на гэтае дзівоснае белае воблака, якое, здавалася, спусцілася на нейкі час з неба, каб суцешыць людзей у іх трывогах, аслабіць душэўнае напружанне.

Каля калодзежа, на Мішыным прыгуменні, стаяла, як аблітая густой смятанай, купчастая чаромха.

Насупраць Оргія Відэркі, каля знакамітай прускаўскай лужыны, буяў бэз. Буяў і квітнеў усімі сваімі гронкамі.

З адчыненага акна чутно было, як, радуючыся вясне, іграў на скрыпцы Восіп Дзванарык.

У Прусцы часцей сталі здарацца прыемныя навіны. Вярнуліся дадому Нюрка Ламака і Коля Пралеска, якіх немцы забралі яшчэ ў сорак трэцім на прымусовыя работы ў Германію.

Праз нейкі час з’явілася дачка Цімошы Хлябіча Параска, якую напаткаў такі ж самы нялёгкі лёс гастарбайтараў. Стомленая, схуднелая, але жвавая і вясёлая. Вясёлая, бо прыбілася нарэшце дадому. Нябрыдкая з выгляду, у постаці зграбная, нос капялюшыкам, з-пад хусцінкі віліся рудаватыя валасы. У нейкага хутаранца даглядала курэй і качак. І мужчынскую работу рабіла. Давалі ёй, расказвала, хлеб з кавай. Дужа знуткаваліся, адносіліся, як да цацкі, з якой можна рабіць, што заўгодна. Расказваючы, жалілася:

— Працавала ад світанку да змяркання за ліхую страву. Пасля тыдня работы рукі мне так папухлі, што ноччу ад болю не магла я спаць. Ну, думала,

выканчуся. Гаспадыня ўвесь час сачыла за мной, думаючы, што буду красці. «Вы доўгія рукі маеце, вы — свінні, нелюдзі», — гаварыла мне часта. Наелася я там страху і сораму, калі абвінаваціла мяне ў тым, што я спакушаю яе мужа. Я ж яго ўсяго пяць разоў бачыла ў жыцці. Пасля гэтага гаспадыня пачала мяне амаль штодзённа біць, каб, як гаварыла, навучыць мяне пашаны. Вечарам я малілася Богу, каб забраў мяне да сябе, каб гэта скончылася. Аднак гэта не было мне пісана. Аднойчы прыйшла знаёмая гаспадыні і забрала мяне да сябе. Мела я даглядаць дваіх дзяцей, прыбіраць і варыць. Работы я не баялася, пры дзецях час хутка ляцеў. Прабыла я ў гэтай сям'і год, аднак не наракала, лепш было чым у папярэдняй гаспадыні. Пані нават стары свой капялюш дала панасіць.

Пасля з іншымі такімі, як я, накіравалі ў Зэебург, зноў пасялілі нас на хутары, там есці варылі, сабе і немцам. Пасадзілі бульбу. Нарасла канюшына. Мяне скіравалі канюшыну свіням вазіць, бо я ўмела касіць. А апошнюю канюшыну касілі касілкамі і немцам развозілі, каб сушылі.

Парасчын аповед доўжыўся доўга, але слухалі яе не перабіваючы, з цікавасцю.

— Чакалі рускіх, блізка ўжо былі. Прыйшлі нарэшце рускія, загадалі цюкаваць тую канюшыну і ў Расію рыхтаваць. Падставілі транспарт і мяне ў той транспарт прызначылі. У вагоне знізу свінні былі, а мы наверсе на нарах спалі. Дзесяць вагонаў мукі і цыстэрну вады, коней, салдат везлі. Мы бульбу скрэблі. Хлопцы з суседніх вагонаў прадавалі муку і куплялі таўканіцу, што бабы да вагонаў прыносілі прадаваць, і нас ёю частавалі.

Ехалі два месяцы, у Іркуцк. Па дарозе здавалі свіней; у Іркуцк адну свінню з парасятамі завезлі. Як свіней здалі, то нас адпусцілі, а тых, што кароў гналі, не адпусцілі, бо трэба было даіць. Наш загадчык не плаціў нам належных грошай, іх, разам з вагонам усялякага дабра, каханцы паслаў.

Нарэшце дазволілі дадому вяртацца. На дарогу далі нам па паўмяшка гароху. Афармілі дакумент, адзін на ўсіх, у Чэлябінск. Са мною была Соня з Алешкавіч, Дуся з Сухаволля, Ліда з Трасцяніцы. У Чэлябінск скорым поездам ехалі пяць дзён. Распытваем, як ехаць далей. Адзін кажа, што праз Маскву не трэба ехаць, бо там мноства народу.

— Эшалон у Харкаў стаіць, — кажа, — вам бліжэй праз Украіну будзе. Прыняў нас начальнік, адправіў у Харкаў. З Харкава заехалі ў Кіеў, а там не хочуць нам даць білет у Брэст, бо ў лазню трэба ісці, дэзінфецыравацца.

З намі малады баец ехаў. Ён стаў касіршы камплiменты правіць, і яна дала білеты. А Дуся апекавалася яго рэч-мяшком, і той мяшок у яе ўкралі. Нам сорамна было. Ён злез недзе раней, а мы ў Брэст прыехалі. У Берасці фільтрацыя, у турму кінулі. Ноччу прыляжаш, самкнеш вочы, дык пацукі! Ратунку ад іх няма, хвастамі вочы выбіваюць. Цяжка было, але ўсё абышлося, выжыла, дадому прыдыбала».

Слухаючы, радаваліся добраму завяршэнню Парасчыных прыгод. У дзявочым гурце прызнавалася, што ні каму не скарылася. Хвалілася і ганарылася: «Нявінніца я, усе спакусы вытрымала». Прыгледзеўшыся, аднак, можна было прыкмеціць у Парасчыных вачах і рэшткі нейкага нязбыўнага суму, але дзяўчына імкнулася пераадолець яго, здавацца вясёлай, усмешлівай.

Ацалеў Лявонаў пляменнік Сенька з Бранавіч, які таксама не па сваёй волі апынуўся ў часе вайны ў рэйху, а цяпер на радасць сямейнікаў вярнуўся дахаты. І, вядома, таксама шмат расказваў.

* * *

Зноў распачаліся, закурэлі пылам пад абцасамі, азваліся дзявочым віскатам музыкі, якія аціхлі былі пасля таго, як немцы многіх з моладзі забралі на працу ў Германію, а потым, пасля прыходу Чырвонай Арміі, падрослыя мацакі-хлопцы пайшлі на фронт. Маладосць патрабавала і брала сваё, шукала збыту і выйсця назапашаная жвавасць і няўрымслівасць. Прускаўцы здаўна і заўсёды мелі нахіл і смак да імклівых скокаў пад гармонік. Першай выходзіла моладзь. Нездарма пра яе казалі тут, што яна павінна адскакаць сваё. Старэйшыя станавіліся каля парога, пад вокнамі, назіралі, каменціравалі, але потым не ўтрымліваліся і некаторыя са старэйшых таксама кідаліся ў скокі, асабліва калі хто быў на падпітку. Самыя папулярныя танцы — полька, вальс і кракавяк. Зрэдку танцавалі высакародны падэспань, але гэта калі ўжо прытаміліся на іншых «рухавых» танцах. Ігралі на акардэонах, кожны на сваім, часцей за ўсё Коля Цыцка з Пакупчыкаў і Сяргей Шаўчук з Бранавіч — той самы Жэшкі. Мянушка і тут адпавядала характару дзецюка, які ўмеў надаць сваёй музыцы нейкую асаблівую заліхвацкасць. Зрэшты, файна ігралі адзін і другі. Коля Цыцка — стары, яшчэ польскі, кавалер, хадзіў на кастылях. Калека (адна нага карацейшая за другую), але на веласіпедзе ездзіць без праблем, спрытна круціць педалі на сваёй «дамцы» адной нагой і ад маладзейшых не адстае. Адзін з маладзейшых возіць за плячыма яго акардэон. Музыканту — павага.

— Коля тонка іграе, выцінаць умее, — хваліла Цыцку Параска. Сама Параска апранутая па-гарадскому, у прыгожай сукенцы, на таўставатых лытках — светлыя панчохі і не самаробныя, а фабрычныя, відаць, з Германіі. Какетліва завіваюцца за вушамі і каля шчок рудаватыя кудзеркі.

На танцах адбываліся знаёмствы, сыходзіліся пары — каму хто падабаўся. З Параскай часцей за ўсё танцаваў Аркадзь Якавук з Пакупчыкаў, імкнуўся шчыльней абняць партнёршу, прыціснуцца. Адчувалася, што гэты дотык прыемны і яму, і ёй. Аркадзь — хлопец відны, з заможнай сям'і, пры касцюме, часам нават чапляе гальштук вішнёвага колеру ў крапінку. Тугі лоб нізка зарос цёмнымі валасамі, расчасанымі на бакавы прабор. Калі танец заканчваўся, Аркадзь гулліва намагаўся абняць Параску, памацаць, адчуць, што ў яе запазухай, казаў:

— Спакуса ты мая...

— О які цваны! — не давалася дзяўчына. — Глядзі! А то я калісьці нават немцу сіняк пад вокам паставіла.

— Але ж і незачэпа ты! Нават дакрануцца нельга.

Валодзік аднойчы чуў, як Парасчын бацька, стары Цімоша, казаў дачцэ: «Скачы асцярожней, бо ваўка з-пад спадніцы вытрасеш!» Цяжка было даўмецца, што гэта магло азначаць, якога ваўка меў на ўвазе Цімоша. Магчыма, усяго толькі жарт.

Гарманіст тнуў польку. Хвацка кружылі дзяўчат Сашка Яўгенін і малодшы Парасчын брат Валодзька. І ў адзін бок умелі кружыцца, і гэтак жа спрытна ў другі. Але калі гаварыць пра сапраўдны спрыт і ўмельства танцораў, дык тут сапраўдным артыстам быў Коля з Зінькоў. Гэтага ведала ўсё наваколле. Матчына імя Марына перадалося сыну ў спадчыну, і Колю звалі Марынчык. Ніякія вясковыя гульні без яго не абыходзіліся, і ніхто ва ўсёй ваколіцы лепш за яго не танцаваў польку. Танцуючы, ён амаль не адрываў ад падлогі ног, а проста неяк перамінаўся на іх, нібы коўзаючыся на абедзвюх адразу. Праўда,

партнёрша часам збівалася з рытму, але ў цэлым усё абыходзілася вельмі шляхетна.

— Дайце круг! Дайце круг! — падтрымлівалі гледачы, якіх набіралася звычайна шмат.

— Ну, хват, ну, можа! — хвалілі тыя, хто назіраў за Марынчыкам, за яго ўмельствам.

Згодна, у пары, скакалі Аркадзь з Параскаю. То ён запрашае, а то часам сама яго ў круг цягне. Калі Аркадзь глядзеў на яе, у яго блішчэлі вочы. Парасцы Аркадзь таксама падабаўся. Вясковы хлопец, спакушаць надта не ўмеў, але дзяўчына хінулася да яго. Любіў ён паслухаць яе аповеды пра жыццё ў Германіі. Параска не мала перажыла, але засталася весялухай, якой была ад прыроды.

— Ты на немца не падобны, — смяялася яна з Аркадзя пры сустрэчы, — ты наш, ты мой. Немцы ўсе рудыя і лысыя. Куды ім да цябе! Ты малады і вясёлы. Я вясёлых люблю, бо і сама вясёлая.

Танец, здаралася, доўжыўся і дзесяць мінут, і пятнаццаць, і болей, але нарэшце пальцы ўжо не слухаліся музыканта і гранне аціхала, змаўкаў, спыняў сваё буханне напорысты бубен. Разыходзіліся на адпачынак, абмахваючы сябе хусцінкамі, успацелыя пары. Апошні танец быў надта доўгі, бакі нібы паспрачаліся, хто каго: ці танцоры перватанцуюць гарманіста, ці ён іх перайграе. Згадзіліся на нічыю. Хлопцы выходзілі пакурыць, дзяўчаты таксама збіраліся ў гурт, іхнія няўрымслівыя пачуцці пераліваліся ў песні і прыпеўкі. Спявалі пра сівага каня:

Ой, сівы конь бяжы-ыць,
На ім бела грыва-а,
Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне тая дзяўчына-а...

З музыкаў Аркадзь праводзіў Параску. Доўга, перад тым, як яму ісці ў свае Пакупчыкі, стаялі за кузняй. У жырыле квакалі жабы. Каля былога панскага палаца густа цвіла акацыя, паветра поўнілася яе духмяным водарам.

***Працяг будзе.***



Мікола МЯТЛІЦКІ

# ВОКА СУСВЕТУ

* * *

Шануем усё ж
Паэзію — з’яву жывую.
Пісалі пра дождж,
А не пра ваду дажджавую.

Дождж — вечны працэс,
У вершах паўсюдна апеты.
К дажджу інтарэс
Здавён праяўлялі паэты.

Ён крапае скрозь
І спорна сячэ, ашалела.
Зямлі нашай вось
Даўно б без дажджу зарыпела.

Дождж — вечны палёт,
Рухомая вільгаць, жывая.
Праліўся з высот —
І ў лужах — вада дажджавая.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч** нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013).*

Яе нацякло
Два поўных вядры пад страхою.
Ёй вымыта шкло,
Паветра ачышчана ёю.

І колас, і грыб
Не ўбачылі б сонца жывое,
Не мелі калі б
Удосталь вады дажджавое.

Дождж густа адсек,
Схаваў сваё рэдкае сіта.
Зноў рэчышчы рэк
Вадой дажджавою наліты.

Прайшоў па зямлі,
Прыбіўшы павеі-пыліны.
Палі ажылі
Да кожнай згібелай сцяблiны.

Зарой агнявой
На ранку шугае край небны.
З вадой дажджавой
Год будзе і шчодры, і хлебны.

* * *

Сягоння не бачыў ніводнага чалавека,
Ніхто не прайшоў берагам са спінінгам ці вудаўём.
Толькі працёгся, кульгаючы, як калека,
За хмарамі следам сіпаты прастуджаны гром.

Няўжо на зямлі такое яшчэ магчыма,
Дзе ў гонцы жыццёвай — локаць у локаць —
Адзін аднаго наскрозь працінаем вачыма,
Шкадуючы ў спешцы, што не навучыліся лётаць?

А тут — анікога… За дзень даўжэзны — нікога,
Нібыта вярнулася бязлюдная эра калішняя.
Паўзе за рэчкай на быстрыцкі бераг дарога,
Здалося ў маркоце, што і яна ўжо лішняя.

А месяц ранні глянуў з нябёс праз хмарыва,
Збляклы, ледзь кметны, стыў недасяжна-высока.
Колькі, падобных мне, дзень такі стрэціць марыла?
Ну вось хоць адно — старога Сусвету — вока!

* * *

Шуміць мая зялёная рака,
З шумотнай ліпай гутарку вядзе.
Хвалююся з-за кожнага растка,
Што выткнуўся ледзь кметна на градзе.

То сібер сцебане пякотна злы,
То зноў дажджу нясходлівы паток.
Ці выстаіць ён, кволы і малы,
Успешчаны маёй рукой расток?

Я тут, як першабытны прашчур мой,
Між дзірваноў капаў сваю граду.
Не здатнай на цяпло скупой вясной
Паліць насенне нёс з ракі ваду.

Ды кожны дзень з нябёс няспынна лье,
І сэрца ўздрыгне зноўку, як лісток…
Як думкі ўсе высокія мае
Ён прызямліў, малюсенькі расток!

Гляджу на свет з-пад стомленых павек,
Дзе над ракой павіс туман густы,
І думаю: ты ўсё-ткі — чалавек,
Шчэ здатны гэтак хваляваецца ты.

За дрэва, птушку пеўчую, лісток
Хвалюйся так і ты, наступнік мой.
І ведаю: ў рост пусціцца расток
Тваёй душы сагрэты цеплынёй.

* * *

Хмурыцца восені спад,
Смуціцца мутнымі лужамі.
Заўтра міне лістапад,
Снежань азвоніцца сцюжамі.

Зыркую бель удыхне
Ў змрочную далеч трывожную.
Мякка снягамі кране
Ссохлую былачку кожную.

## ЯНКА КУПАЛА Ў БАБЧЫНЕ

Я зноў на радзіме, у Хойніках — дома.
І мне, беспрытульніку, стала вядома
Падчас гэтай сумна-трывожнай гасціны
З аповеду стрэчнай сівое жанчыны

(Ад маці пачула, была там, казала),
Што ў Бабчыне калісь быў Янка Купала.

— Пачатак вясны быў… А год — дык трыццаты.
Ўляцела навіна ў вясковыя хаты, —
Ёй кожны быў шчыра, сардэчна сагрэты, —
У тэхнікум наш завітаюць паэты!
Не помню астатніх, — так маці казала, —
Мінулі гады… Не забыўся Купала.

Стаяў ён у светлым сваім задуменні
Прад намі, студэнтамі, блізка — на сцэне,
І ў тым незабыўна суровым трыццатым
Ён вершы чытаў нам, сваім арлянятам,
Каб высака ўзнялі магутныя крыллі,
Якія віхуры вайны апалілі…

Я слухаў усцешна. Не меў я прычыны,
Каб слову не верыць зямлячкі-жанчыны,
Бо гэтак не толькі ў маёй Беларусі —
Ніколі матулі прад дзецьмі не схлусяць,
Дык значыць Купала — не чуў раньш ніколі —
Быў некалі ў нашай праслаўленай школе,
У тым жа будынку, у знанай мне зале,
Ягоныя словы ў трыццатым гучалі.

Абвеяны быў нашым бабчынскім ветрам,
І дыхаў ён тым жа палескім паветрам,
І тым жа падворкам ступаў у трыццатым,
Дзе потым ступалі і нашыя пяты.
І бачыў яшчэ маладыя таполі,
Што потым, акрэпшы, стаялі пры школе.

Далёкую памяць жанчына гукала.
О, як жа быў блізка Вялікі Купала.

* * *

Каб нешта пачуць хоць пра час сівагрывы,
Я ўсе ператрэс Беларусі архівы,
І там, дзе мінулага дзеі паснулі —
Былі ў нас Купала, Дудар і Бядуля.

## АРНОЛЬДУ ФЁДАРАВІЧУ СМЕЯНОВІЧУ

У век, дзе нервы напяты, як струны,
Дзе ўзяты бар’ер звышгукавы,
Не тоячы позірк прасветлена-юны,
Між смерцю й жыццём устаеце Вы.

Надзея ступае чуйна і прытка.
Святлее ў вачах чалавечых імжа.
Ледзь кметная, кволая нерва нітка
Бывае — жывога жыцця мяжа.

Напружаны моташна свет сучасны,
Ды блісне ратоўчая зорка ў акне.
Нялёгка быць там, дзе зыход заўчасны
Ніву сваю чорную жне.

Чуючы ўсю правату за сабою,
Зноў адвялі Вы бяды крыло.
Смяротнае поле полем бою
Безліч разоў для Вас было.

Зноў рукавом пот з ілба сцерці,
Пальцы ў нервовай напрузе сцяць.
Мужна і годна зноў супраць смерці
Сутнасцю ўсёй чалавечай паўстаць.

## АНКЕТА СУМЛЕННЯ

Імя, прозвішча?
Мікалай Чаргінец.
Год нараджэння?
Тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмы…
Кагосьці гулагаўскі ссек свінец,
Пад дзёрнам ляжыць, невядомы.
А я, адзін, з немаўлят-галышоў,
Каўтаючы першай начы хвіліны,
Як руні расток на раллі, узышоў
На восеньска-скутым полі Айчыны.
Быў ранак мой
на сонца скупы,
Маланкаю вогненна бліскаў
Фашыста позірк тупы
Над майго маленства калыскай.
Урэшце рассеяўся, як туман,
Сум скрушнай варожай навалы…
Ды ў лёсе маім — Афганістан
Узнёс свае чорныя скалы.
Я ведаю хрусткага міру цану,
Слязы чалавечай вагу.
Таму вайну няспынна кляну,
І быць другім не магу.
Я сэрца клічу ў вышыні святла —
Шляхам прайдзіся Млечным,
Каб Беларусь пад небам была
І сёння, і заўтра, і вечна…

* * *

Хто я быў на зямлі? —
Летуценны паэт,
Хто жадаў праўдай верша
Змяніць гэты свет,

Каб, як спее зара, —
Прыбывала дабра,

Гаслі цені маны,
Знікла згуба вайны.

Ды не слухае свет
Тых, хто праўдай жыве.
Хто я?
Толькі паэт, —
Блік расы на траве…

* * *

Бачыў зорку зыркую ўначы
І шаптаў ёй зорныя санеты.
Уявіў, як круцяць абручы
Там арбіт нязнаныя планеты.

На адной, падобнай да Зямлі,
Акіян імкнуў на бераг сушы.
Там на строме вогненнай жылі
Продкаў нашых вогненныя душы.

І святлом азораныя зноў,
Як малыя немаўляты-дзеці,
У лагодна-светлых чарах сноў
Вандравалі ў ззораным Сусвеце.

Дзеці Сонца, іскрамі яны
У парыве светлавое хвалі,
За гады абтрэсшы пыл зямны,
Новыя планеты засялялі.

* * *

Неба, вылітае сінявой,
Ані воблачка,
Ані хмурынкі.
І толькі ў глыбінях сінізны
Белая стужка за самалётам,

І сам ён
У сонечных промнях
Белы, іскрысты —
Як хрышчэнскі крыжык
На грудзях
Вечнага Неба.

* * *

Успудзіць жэрах плёс рачны —
Віхляе шустра верхаводка.
Над хваляй сніць маркотна сны
Ільдом падрапаная лодка.

Зайздросціць жэраху спаўна —
Такі б разгон і ёй на хвалі.
Ды вось самоціцца адна —
Старую ўвосень пахавалі.

На бераг той пераплыла,
А з ёй — гадоў пражытых шэраг.
Даўно забыты ўсплёск вясла.
І толькі плёс успудзіць жэрах.

* * *

За навальніцай навальніца —
Зашчодры травень на дажджы.
А ранак сонечна ільсніцца,
Ды зноў плывуць хмурын глыжы.

За бор хаваецца Ярыла,
Раскатна вухкае Пярун.
Маланка неба азарыла,
І ўслед гудзе сто тысяч струн.

Арган сярдзітае прыроды,
Ў чыіх ён, вусцішны, руках?
Не дорыць хвілі асалоды,
А наганяе ў душы страх.

І ў грамавіта-гулкім свеце,
Дзе грозна гупае ўгары,
Мы — запалоханыя дзеці,
А не зямлі гаспадары.



Віктар КУНЦЭВІЧ

# ВЯРНІ МАЮ ДУШУ...

*Містычная аповесць*

## 1

Іх машыны спыніліся побач. Андрэю Хруцкаму давялося даволі рэзка тармазіць. Ён хацеў націснуць на акселератар і праехаць на жоўты ці няхай сабе і нават чырвоны сігнал светлафора, але паспеў за шэрым слупам убачыць даішніка. Вадзіцель суседняй машыны ў паралельным радзе спыняўся плаўна. Выгляд у яго быў гэтаксама спакойны. Хаця бачылася, што ён яшчэ малады, можа, равеснік яму — Андрэю Хруцкаму. І аўто не тое, што яго, Андрэева калымага. Тады і мільгнула ў галаве Хруцкага нечаканая думка: «Вось бы памяняцца з гэтым самаўпэўненым шчаслівчыкам месцамі ў жыцці… Была б такая сіла, якая б перакінула мяне ў яго шыкоўны «лексус», а яго ў маё замызганае таксі. Я нават згодзен займець яго аблічча. А што?» — У гэты момант Хруцкі пасміхнуўся. Пасміхнуўся і маленькі чорненькі чорцік з чырвонымі вочкамі, які боўтаўся ў машыне каля люстэрка. Андрэй нават не паспеў уцяміць, сапраўды чорцік пасміхнуўся ці гэта яму падалося, як чорцік раптам загаманіў:

— Ты хочаш пажартаваць з лёсам? Ты сапраўды гэтага хочаш?

— Хачу, вельмі хачу, — усклікнуў Хруцкі, — абрыдла мне не спаць начамі і з надзеяй выглядваць патэнцыяльнага кліента. Ды быў бы хоць прыбытак з гэтае працы, а так… Хачу быць багатым, як чалавек у суседняй машыне. Адразу ж бачна, што ён багаты.

— Ну што ж, будзь ім, — чырвоныя вочкі чорціка бліснулі і зрабіліся абыякавымі.

Андрэй хацеў разгледзець: ці з'явіцца ўсмешка на чорным твары лялькі, але раптам чорцік знік. Перад вачамі з'явілася пукатая панэль аўто. Гарэў мяккі чырвоны колер прыбораў. Гучала музыка — чыста, танальна. Андрэй павярнуў галаву налева і ўбачыў… свой разгублены твар. Асабліва ўразілі

---

*__Кунцэвіч Віктар Іванавіч н__арадзіўся 21 сакавіка 1957 года ў вёсцы Чырвоны Бор Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў электразваршчыкам, шафёрам. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1995).*

*Выдаў зборнікі вершаў «Зваротныя масты» (1996), «Горкая спакуса» (1999), «Гул у звоне» (2010).*

*Жыве ў Магілёве.*

вочы — поўныя здзіўлення і сполаху. «Божа, калі там я, то хто я тут?» — мільганула роспачная думка, і Хруцкаму зрабілася холадна. Раптам пачуліся нервова-патрабавальныя гудкі: на светлафоры гарэла зялёнае святло, а шыкоўны «лексус» і старэнькі «форд» Хруцкага стаялі, і іншыя ўдзельнікі руху не маглі іх аб'ехаць. У той момант, калі зялёнае святло заміргала, папярэджваючы, што хутка зменіцца на чырвонае, «форд» тузануўся і паехаў. Хуткасць ён набіраў марудна, таму што вадзіцель чамусьці пераключаў перадачы. Леваруч ад Хруцкага пачынаў ужо рухацца аўтобус — плаўна, прапускаючы жоўты «форд-таксі». У гэты момант з-за аўтобуса вылецеў «Маз». Вадзіцель грузавіка спяшаўся на будаўнічы аб'ект, бо званіў прараб, лаяўся і мацюкаўся, пагражаў, што разбярэцца з яго левымі рэйсамі і давядзе начальству. Таму, рухаючыся ў вольнай паласе, шафёр грузавіка паддаў газу і з-за аўтобуса, які быў у яго леваруч, яму не бачыўся «форд» жоўтага колеру. Ён яго заўважыў, калі ўжо тармазіць было надта ж позна. Пачуўся глухі ўдар, трэск і скрыгатанне. Легкавушка перакулілася на правы бок, і грузавік сваёй масай працягнуў яе па асфальце яшчэ метраў дваццаць.

— Чо-о-орт, што гэта было?! — уголас усклікнуў Хруцкі. А да месца здарэння ўжо беглі людзі. Выскачыў з кабіны і вадзіцель «Маза» — невысокі, з залысінамі — ён разгублена азіраўся, нібыта кагосьці вельмі нецярпліва вышукваў.

— Шэф, здай назад, — тузануў яго за рукаў каржакаваты мацак, — трэба легкавую паставіць на колы…

— Ага, — хітнуў ён галавой і даволі хутка ўскараскаўся ў кабіну, павольна ад'ехаў назад.

Каля дзясятка мужчын учапіліся за легкавушку і плаўна апусцілі яе на колы. Мужчыны сталі тузаць дзверы — адчынілася толькі правая задняя. Праз яе яны і пачалі асцярожна даставаць вадзіцеля.

— Мяне, гэта ж яны мяне выцягваюць! — жорсткая рэальнасць азвалася пякучым болем у грудзях. — А машына… Божа, што сталася з маёй машынай? — боль у грудзіне аціх, па целе разлілося цяпло і Хруцкаму стала млосна. — Ды што гэта я зусім размяк? Трэба штосьці рабіць? Так, па-першае, трэба неяк забраць з машыны гумавага чорціка, — мільгнула рашучая думка. Зноў пачуліся ззаду патрабавальныя гудкі.

Хруцкі праехаў скрыжаванне, прыпаркаваў машыну і падаўся да людзей, якія, — о Божа! — паклалі ўжо каля машыны яго, Хруцкага, цела і ўжо чулася скавытанне сірэны «хуткай». Праз разбітае шкло знявечанай дзверцы Хруцкі зазірнуў у салон. Чорцік пазіраў на яго чырвонымі вочкамі — глядзеў сляпым, нічога не вырашальным поглядам. Андрэй хуткім рухам зняў ляльку з прысмочкі на шкле і паклаў у кішэню. Павольна абышоў легкавік, зірнуў на скрываўлены твар чалавека, які ляжаў побач з машынай, і рушыў да прыпаркаванага «лексуса».

## 2

Гучала аркестравая музыка. Хруцкі не быў аматарам інструментальных кампазіцый, дакладней, ён не адчуваў у іх мелодыцы ні кранальнай шчымлівасці, ні летуценнай рамантычнасці. Андрэй адкінуўся на спінку ўтульнага крэсла, адчуў, як штосьці сціскае яму шыю. Здагадаўся, што гэта гальштук. Паслабіў вузел, а потым і зусім зняў і кінуў на суседняе сядзенне: ён не любіў гальштукі і завязваў гальштук толькі аднойчы — калі жаніўся. Хруцкі заплю-

шчыў вочы і ўслухаўся ў мелодыю. І яна — о дзіва! — захапіла яго. Узрушанасць перарастала ў трывогу, трывога мацнела, поўнілася адчаем і раптам наплываў спакой. Зноў высокую ноту бралі скрыпкі і ажывала трывога. Хруцкі адчуў непрыемную гарачыню ў грудзях. Рука яго пацягнулася да маленькай кішэні каля левага пляча, пальцы намацалі пласцінку з таблеткамі.

— Што гэта — рэфлекс? — падумаў Андрэй. — Я ж не ведаў пра таблеткі… — ён прачытаў назву лекаў, але што магло патлумачыць яму незнаёмае слова? Крыху павагаўшыся, ён выціснуў з пласцінкі белую прадаўгаватую таблетку, узяў мінеральную ваду, рыльца пляшкі якой вытыркалася між сядзеннямі, і прагна запіў таблетку з бутэлькі. Музыка скончылася, з магнітолы аўтаматычна высунуўся дыск. Хруцкі яшчэ колькі хвілін сядзеў нерухома, гарачыня ў грудзях павалі сціхала. Ён узгадаў пра гумавую ляльку і, дастаўшы яе з кішэні, пачаў углядацца ў бліскучыя чырвоныя вочкі. — «Што ж ты, чорцік, нарабіў… Я ж толькі проста пазайздросціў чалавеку, а зайздрасць — яна паўсюдна, яна ўсеабдымная. Дый я і не падумаў, што пытанне пра жарцікі з лёсам задаваў мне ты альбо нейкая там вышэйшая сіла… У мяне было адчуванне: я размаўляю сам з сабою… А ці мог я ў той момант паверыць, што са мною размаўляе хтосьці іншы ці штосьці іншае?»

Маўчыць чорцік. А можа, ён і нічога не казаў раней. І не ўсміхаўся. Але ж Хруцкі яўна памятае ягоную ўсмешку. І вочкі — яны бліснулі чырвоным святлом. А зараз нібыта пацямнелі, зрабіліся барвовымі. Задумаўся Хруцкі. І ўзгадаўся яму выпадак з далёкага дзяцінства, калі было яму гадоў шэсць ці сем. Ягоны дзед Мікалай стаіць у хаце перад люстэркам, а нажніцы — шчоўк-шчоўк — акуратненька раўняюць дзедавы вусы. Шчоўкне дзед нажніцамі і ледзь бачная ўсмешка схаваецца ў ягоных вусах. А малы Андрэйка стаіць воддаль, назірае за дзедам і пытаецца: «Дзед, а навошта табе вусы?»

— Для прыгажосці, — адказвае дзед Мікалай, і ўсмешка ўжо не хаваецца ў вусах, а ўспыхвае жаўтаватым колерам, — а яшчэ мой бацька і дзед насілі вусы — можа, і ты іх таксама насіць будзеш.

— У мяне будуць вусы? — здзіўлена пытаецца Андрэйка і пальцамі дакранаецца да верхняй губы. Яму не верыцца, што над ёю вырастуць колкія валасы.

А дзед Мікалай ужо сыпле махорку на шматок газеціны і, прыжмурыўшы вочы, глядзіць на хлопчыка зверху ўніз. Андрэйка ведае, што дзед ездзіў на працу кудысьці вельмі далёка і працаваў там пад зямлёй у нейкіх шахтах. А яшчэ ён чуў ад бабулі Алены, што пад зямлёй «жывуць чэрці», і таму пытае ў дзеда: «Дзеда, а ці бачыў ты пад зямлёй чорта?»

— Бачыў, — адказвае дзед Мікалай. Адказвае сур'ёзна. І вочы ў яго сур'ёзныя, а ўсмешкі і блізка не відаць.

— А ты размаўляў з ім?

— Не, з чарцямі нельга размаўляць. Трэба хрысціцца і казаць — згінь! Казаць і хрысціцца да таго часу, пакуль ён не знікне, а інакш нячысцікі могуць утварыць з табой дзівосныя і вельмі непрыемныя рэчы.

Хруцкі моцна сціснуў у руцэ гумавага чорціка. Гэтую ляльку падараваў яму араб, якога Андрэй падвозіў да аэрапорта. — Сувеніра, — пасміхаўся тады, бліскаючы белымі зубамі, невысокі каржакаваты мужчына.

«Які сам, такія і сувеніры», — падумаў Хруцкі. Але ляльку ўзяў і падзякаваў шчыра: як-ніяк чалавек з замежнай краіны і ставіцца да цябе прыязна, з павагай.

Хруцкі хацеў выкінуць чорціка праз акно, але перадумаў і зноў паклаў яго ў кішэню. Няўтульна пачувалася Андрэю ў чужым целе.

«Трэба штосьці прадпрымаць… Але што? Ісці дамоў? Толькі што падумае жонка, калі нават і выслухае ўсю праўду. Канешне ж, палічыць за вар'ята. А можа, яна зараз ужо там, у бальніцы?.. А што, калі траўмы цяжкія? А што, калі я памёр?.. Цікава. Не, будучы нябожчыкам я, напэўна, не змог бы думаць. Але ж як гэта магло адбыцца? Адкуль гэта? Што гэта? Павінна ж быць у навязлівай чартаўшчыны нейкая прычына, мэта. А калі гэта ўва мне? Калі гэта я раблю сам? Але ж свядома я нічога не задумваў, праўда, летуценна марыў. Зноў жа, думаць-марыць — гэта ж мала, каб нешта рабіць рэальнае»

## 3

Дзесяць гадоў таму Андрэй Хруцкі скончыў прафтэхвучылішча і атрымаў прафесію токара. Каля года працаваў на аўтазаводзе. За гэты тэрмін паспеў зразумець, што праца, якая патрабуе ўвагі, цярплівасці і засяроджанасці, не для яго. У ім кіпела энергія руху. А тут прыкаванасць да станка на ўсю змену. Калі вярнуўся са службы з войска, даведаўся, што таксаматорны парк горада набірае на паскораныя курсы шафёраў таксі. «Вось гэта маё!» — падумаў тады хлопец. І не памыліўся. Прафесія таксіста прыйшлася яму даспадобы. Хруцкаму імпанавала вазіць людзей, назіраць, размаўляць з імі, камусьці дапамагаць, а часам ад кагосьці атрымліваць падтрымку ці параду. І хоць Андрэй не працаваў, як казалі тады таксісты, на сябе, але заўсёды выконваў план. Ідучы дамоў пасля змены, ён нёс у кішэні неблагі грашовы прыбытак і дзівіўся: чаму гэтыя грошы называюць «чаявымі» — хто б змог выпіць столькі чаю?

Аднойчы раніцай да таксі Хруцкага падбегла дзяўчына: «Калі ласка, як можна хутчэй завязіце мяне да гарадской бальніцы…»

— Сядайце, — коратка прамовіў Андрэй, і завёў матор. І толькі паспела дзяўчына зачыніць дзверцы, як «Волга» ўжо набірала хуткасць. Андрэй з цікавасцю паглядзеў на дзяўчыну. У гэты момант і яна паглядзела на яго. Хруцкага ўразілі вочы пасажыркі: вялікія, светла-карычневыя, болей нават жоўтыя. Ён тады падумаў, што жоўтыя вочы бываюць у жывёл-драпежнікаў, і ў іх яны халодна-жорсткія. А тут яго нібыта агарнула сонечным цяплом. І валасы ў яе былі жоўта-вогненнага колеру.

— Штосьці здарылася? — спытаўся Хруцкі.

— Не, нічога, проста катастрафічна спазняюся на працу, — адказала дзяўчына і прыязна ўсміхнулася.

Хвілін праз дзесяць машына спынілася каля будынка на фасадзе, якога красаваўся надпіс «Гарадская паліклініка № 1».

— Колькі з мяне? — спытала пасажырка.

Хруцкі зірнуў на лічыльнік і разгублена прамармытаў: «Ведаеце, я забыўся ўключыць лічыльнік… — пасля непрацяглай паўзы ён ужо бадзёра і рашуча дадаў: — Ну калі так атрымалася, то плаціць не трэба. Давайце лепей пазнаёмімся. Мяне завуць Андрэй, а вас?

— Наташа.

— А з працы вы гэтаксама будзеце спяшацца?

— Не, — пасміхнулася дзяўчына, — з працы спяшацца няма куды.

— А да якой гадзіны працуеце?

Дзяўчына зноў пасміхнулася і прамовіла: «Дзякуй вам, і да пабачэння».

Яна лёгка ўзбегла на прыступкі высокага ганка. Гэтым часам аднекуль прыляцеў жартаўнік-вятрыска, зачапіў сваім крылом валасы дзяўчыны, і яны

затрапяталіся, залаціста заіскрыліся ў сонечных промнях. А ногі дзяўчыны лёгка неслі яе па прыступках...

Усю змену ён думаў пра Наташу: «Дрэнна, што яна не сказала, да якой гадзіны працуе... Калі з васьмі раніцы ў яе пачынаецца працоўны дзень, то заканчвацца ў 17. А што, калі я яе сустрэну, а яна і размаўляць са мной не стане? А можа, у яе ёсць хлопец ці нават жаніх? А што, калі яна ўвогуле замужам? Але ж яна сказала, што ёй няма куды спяшацца...»

Пасажыры, немаладая пара, папрасілі адвезці іх на прадуктовы рынак. Спыніліся якраз каля шапікаў з кветкамі. У ім і набыў хлопец вялікую чырвоную ружу, паглядзеў на гадзіннік — было без чвэрці шаснаццаць — і вырашыў ехаць да паліклінікі. Там запаркаваў машыну пад кронай старога каштана і пачаў назіраць за ўваходам.

Праз нейкі час ён заўважыў Наташу. Вось яна няспешна ідзе па прыступках уніз. Хруцкі разгубіўся, глядзеў зачаравана на дзяўчыну і нібыта скамянеў за рулём: «Ат, што ж гэта я?»

Ён схапіў ружу і дагнаў дзяўчыну, якая павярнула ўжо за рог будынка, працягнуў кветку і прамовіў: «Гэта вам...»

— Мне? А, гэта вы, мой ранішні выратавальнік, — Наташа прыязна паглядзела Андрэю ў твар, усміхнулася. — Дзякуй за прыгожую кветку. І што ж далей?

— Далей? — сумеўся Хруцкі. Ён адчуў, што зноў ім авалодвае нерашучасць. Здагадаўся, што, калі не знойдзецца сказаць штосьці арыгінальнае, то будзе выглядаць смешным. «А што, калі сказаць ёй праўду пра тое, што адбываецца са мною цяпер?..» — Ведаеце, Наташа, вы мне вельмі спадабаліся і настолькі, што я адчуваю сябе нібы хлопчык на першым спатканні...

— Дык вось якімі метадамі карыстаюцца таксісты пры знаёмствах, — засмяялася дзяўчына. — Уражвае...

— Ну што, паехалі, — прапанаваў Хруцкі.

— І куды ж мы паедзем?

— А куды загадае прыгажуня, туды і паедзем.

Андрэй з Наташай пачалі сустракацца. Ён заўсёды, калі працаваў у першую змену, адвозіў раніцай яе на працу. Часта сустракаў пасля заканчэння змены. Аднойчы Хруцкі падвозіў Наташу з яе супрацоўніцамі на святочнае мерапрыемства з нагоды дня медыцынскага работніка і тады чарнявая поўная жанчына пажартавала: «Добра табе, Наташка, маеш уласнага вадзіцеля».

Жанчыны сцішана засмяяліся. Вось тады ўпершыню адчуў Андрэй Хруцкі душэўны неспакой: «Няўжо я для Наташы проста кавалер, а не каханы?» Яму і раней здавалася, што Наташа дазваляе яму сябе кахаць, а сама па-сапраўднаму не кахае яго. Што да чаго высветлілася крыху пазней, калі Андрэй прапанаваў дзяўчыне руку і сэрца.

— Андрэйка, ты мне падабаешся, але ж, паглядзі, дзе мы будзем жыць? Кватэры ў цябе няма, грошай, каб яе набыць — таксама. Машына — дзяржаўная...

Кажучы гэтыя словы, Наташа апусціла вочы долу.

— У мяне ж ёсць рукі, Наташа, галава, ёсць жаданне зарабляць, — горача стаў даводзіць Андрэй. — Урэшце, мы ж усё можам нажыць разам. Так жа жывуць усе людзі...

— Усе людзі? — перапытала Наташа. — Яны дзесяцігоддзямі бадзяюцца па здымачных кватэрах. Перабіваюцца ад аванса да палучкі. Што гэта за жыццё? Так жылі і жывуць мае бацькі, а я — не хачу. Разумееш, не ха-чу!

Хруцкі зніякавеў. Роспачна падумаў: «Значыць, сапраўды, я для яе толькі прыступка, я для яе — асабісты вадзіцель».

Усю ноч ён не спаў. Адчыніў акно інтэрнацкага пакоя, курыў цыгарэту за цыгарэтай. Ён і раней адчуваў, што яго адносіны з Наташай не маюць перспектывы. Цяпер жа зразумеў: Наташа проста карысталася ім. Часова.

«Выходзіць, што і я карыстаўся ёю, як жанчынай, — як жа гэта ўсё брыдка...»

Ён вырашыў расстацца з Наташай і наступным ранкам не паехаў да яе дома, каб адвесці дзяўчыну на працу. Праўда, вельмі цяжка перажываў гэта.

## 4

З месяц Андрэй жыў надзеямі, што Наташа знойдзе яго сама, папросіць прабачэння, скажа, што ёй дрэнна без яго. А тады і ён прызнаецца, што без яе вачэй, рук ды вуснаў спакутавалася ягоная душа. Рамантык па натуры, Хруцкі верыў, што яго каханне можа на адлегласці сваімі нябачнымі флюідамі ўздзейнічаць на Наташу. Так мінула тры месяцы. Урэшце Хруцкі зразумеў, што калі ён хоча зберагчы сваё каханне, то яму патрэбна нешта рабіць, дзейнічаць, як кажуць, змагацца за каханага чалавека.

Восеньскім вечарам накрапваў дробны дождж. Вецер ужо даўно раскідаў, разнёс лістоту дрэў — учарнелая і цяжкая ад вільгаці, яна неўзбаве ператворыцца ў пыл, стане глебай.

Хруцкі выйшаў з аўто, узняўся на чацвёрты паверх «хрушчоўкі» і націснуў на кнопку званка. Дзверы адчыніла Наташына маці Тамара Васільеўна. Яна прыязна ўсміхнулася Андрэю. На яго просьбу паклікаць Наташу жанчына вінавата паглядзела на хлопца і паведаміла, што Наташа паехала са сваім жаніхом да яго бацькоў, знаёміцца…

Вечарам у шафёрскім пакоі таксапарка Хруцкі лічыў грошы, каб здаць іх касіру. Тады да яго і падсеў калега Віктар Ляшко, а ўсе яго называлі Лесавіком. Ён быў поўны, круглатвары, доўгія валасы калмаціліся на галаве.

— Што ты, Андрусь, такі змрочны?

Хруцкі змаўчаў.

— Ты заўтра выхадны? — зноў спытаўся Ляшко.

Андрэй сцвярджальна хітнуў галавой.

— Ну і выдатна. Да маёй дамы сэрца прыехала сяброўка з Гомеля. Наказалі мне, каб я прыйшоў з сімпатычным сябруком. Гульнём! Хата двухпакаёвая... свабодная. — Ляшко, прыжмурыўшы вока, з усмешкай на пульхных вуснах запытальна глядзеў на Хруцкага.

— А чаму б і не?! — Андрэй гарэзліва зірнуў у твар сябруку. — Мне не зашкодзіць развеяцца. Кажуць жа, што клін клінам выбіваюць...

У той вечар воляй лёсу Андрэй Хруцкі пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Ганначкай. Дзяўчына вельмі спадабалася Андрэю. Статная, з выразнай фігураю і з прыемнай зычлівай усмешкай, яна змагла зацікавіць Хруцкага. Аказалася, што Ганна прыехала ў Магілёў па размеркаванні пасля заканчэння інстытута і павінна адпрацаваць два гады на вытворчым аб’яднанні «Хімвалакно». Тады, у час сумеснай іх вечарыны з Лесавіком і яго дзяўчынай Галінай, Ганна сваімі паводзінамі і выказанымі думкамі дала зразумець, што яна чалавек кампанейскі, але не настолькі, каб у першы ж вечар начаваць з хлопцам, які няхай сабе і спадабаўся...

— Спадабаўся ты ёй, вельмі спадабаўся, — шаптаў на вуха Андрэю Лесавік, — вось і паказвае сябе цнатліўкаю з цвёрдымі правіламі паводзін. — Ён хітравата жмурыўся і падліваў у келіхі віно. — Не хвалюйся, братка,

захмялее і сама павісне ў цябе на шыі. У яе ж з вачэй сыплюцца іскры, калі яна глядзіць на цябе...

Было далёка за поўнач. Лесавік і Галіна, пажадаўшы добрай ночы Андрэю з Ганнай, зачыніліся ў спальні. Андрэй прапанаваў дзяўчыне выйсці на вуліцу, яна згадзілася. Прыселі на лаўцы пад старой яблыняй, якую, напэўна, пашкадавалі будаўнікі, калі ўзводзілі шматпад’ездную будыніну, і цалаваліся. А потым Андрэй крочыў да інтэрната начнымі вуліцамі і думаў пра Ганначку: «Яна такая шчырая, адкрытая, справядлівая. — З усмешкай узгадваў Лесавіка: — Усё ж такі ён малайчына, што ўгаварыў мяне на гэтую авантурную сустрэчу. Я паглядзеў на свет іншымі вачыма». Хруцкі адчуваў, у яго ў душы нараджаецца светлае, радаснае пачуццё і спадзяваўся, што яно дапаможа яму пазбавіцца пакутнага кахання да Наташы. Вобраз яе аддаліўся, але не знік. У яго было такое адчуванне, што Наташа зводдаль назірае за ім. І яму было нават няёмка за сваю здраду. «Але, урэшце, гэта ж яе здрада паставіла мяне ў такія абставіны, што і я змушаны паўтараць яе ўчынак, — думаў Хруцкі. — Можа, яе душа і назірае за мной, каб нарэшце ўбачыць, што гэта адбылося... Хто ведае...»

## 5

З унутранай кішэні пінжака Андрэй Хруцкі дастаў партманет. Расклаў яго. Візітоўкі, банкаўскія карткі, дакументы, грошы — беларускія і некалькі соценных амерыканскіх купюр. «Чужое, — падумаў Андрэй. — Чужое цела, чужыя дакументы... чужое жыццё... Цікава, як жа цяпер мяне завуць? — Андрэй разгарнуў пашпарт і прачытаў: — Борчык Альфрэд Эдуардавіч. — Альфрэд, ну і імя... І дзе ж я жыву? — Хруцкі пачаў гартаць старонкі пашпарта і на адной з іх прачытаў: — Зарэгістраваны шлюб з грамадзянкай Сямёнавай Наталляй Мікалаеўнай...»

«Вось табе і чужое... — мільганула ў галаве Хруцкага. — Мая Наташа — жонка гэтага Борчыка...»

Адчуванне страты, якая адбылася амаль дзесяцігоддзе таму, нахлынула на яго з небывалай сілай, з вастрынёй нават большаю, чым тады, калі Наташа адмовілася выходзіць за яго замуж. Яна заўсёды была і ёсць у ягоным сэрцы. І толькі высілкамі волі ён дамогся душэўнай раўнавагі. Бясспрэчна, была ў тым і заслуга Ганначкі: яна ўжо даўно зразумела, што муж пакутуе. Спрабавала выклікаць яго на шчырую размову. Але дзе там... дачцэ было тры гады, калі аднойчы Андрэй прывёз Ганну і Юлю на аўтавакзал: яны мусілі ехаць да жончыных бацькоў. На пасадачнай пляцоўцы аўтавакзала Ганна заўважыла, што Андрэй разгубіўся, бо ён не чуе таго, што яна яму казала. Ён увесь час пазіраў на суседнюю пляцоўку. Там стаялі дзве жанчыны і двое мужчын — ажыўлена размаўлялі. «Адна пара праводзіць другую», — зразумела Ганна.

— Наташанька, прыязджайце да нас на Новы год, — сказала стройная брунетка і пацалавала ў шчаку мілавідную сяброўку з доўгімі жоўтымі валасамі.

Памяць Ганны ажывіла выпадак, калі Андрэй аднойчы ноччу ў парыве жарсці назваў яе чужым імем, Наташай. Тады яна нават не папракнула яго, не спрабавала высвятляць: хто такая Наташа? Крыўда апякла яе: «Няўжо ён, будучы са мной фізічна, у думках імкнецца да іншай жанчыны? Няўжо так бывае?»

І раніцай Ганна таксама не стала штосьці пытацца ў Андрэя. Ёй вельмі не хацелася абмяркоўваць далікатную тэму. Разумела, што праўду ён не скажа.

А размова — гэта ўжо нешта канкрэтнае, яна магла параніць сэрца і адзывацца потым у ім балюча-балюча.

Едучы з дачкой у аўтобусе, Ганна зразумела, што Наташа — гэта не мроя, а канкрэтны чалавек, з якім яе муж Андрэй меў альбо мае адносіны.

«Добра, калі паміж імі ўсё скончана, і гэты выпадак ноччу, і гэтыя разгубленыя пагляды на аўтавакзале цяпер толькі — водгулле. А раптам яны сустракаюцца ці пачнуць сустракацца пасля гэтага».

Ганна заўважыла, што і рыжавалосая ўпотайкі кідала погляд на Андрэя, таму вырашыла асцярожна паназіраць за мужам: аглядвала яго кашулі, але не знаходзіла на іх вогненных валасоў ці паху незнаёмай парфумы. А калі Андрэй казаў, што ў выхадны дзень яго папрасілі папрацаваць, бо таксапарк не выцягвае план, правярала, ці працуе ён сапраўды. Ён працаваў.

Урэшце супакоілася і зноў верыла, што Андрэй кахае яе, і толькі яе...

У той час, калі Хруцкі стаў сустракацца з Ганнай, вобраз Наташы непакоіў яго ўсё менш і менш. Ганна вырасла ў сям'і, дзе гадавалася пяцёра дзяцей, і старэйшай была яна. Прывыкла клапаціцца пра малодшых братоў ды сясцёр. Гэты свой клопат, ласку яна шчодра дарыла і Андрэю, што станоўча ўплывала на яго душэўную раўнавагу. Аднак жа, пасля нараджэння маленькай Юлькі сітуацыя пачала мяняцца: дзіцё хварэла, плакала. Засынала, калі яго закалыхвалі на руках. Тады Ганна аддавала сябе поўнасцю маленькай дачушцы. Аказалася, што жонка яшчэ і цярплівы, самаахвярны чалавек. Ноччу, па некалькі гадзін носячы і закалыхваючы дзіця, яна не будзіла мужа, каб той падмяніў яе, разумеючы, што вадзіцелю перад працай трэба добра выспацца. Менш стала звяртаць увагі і на сябе як жанчыну. Непакоіла адно: набрацца б сіл, каб трымацца на нагах.

Здароўе Юлькі пакрысе паляпшалася. Напэўна, і жыццё Ганны і Андрэя вярнулася б у сваю звычайную каляіну, калі б не выпадак, які звёў Андрэя Хруцкага і Наташу: познім вечарам Андрэй пад'ехаў на заказ да будынка высокай шэрай шматпавярхоўкі, і ягонай пасажыркай аказалася Наташа. Яна была шыкоўна апранутая. На пальцах рук блішчэлі залатыя пярсцёнкі. Масіўныя колцы завушніц адцягвалі мочкі вушэй. Святочная, вясёлая, крышку нападпітку, павіталася, нібы яны толькі ўчора развіталіся. Даверліва патлумачыла: «Мае бацькі паехалі адпачываць у Турцыю — зяць адправіў, а я вось сустракалася з сяброўкай, цяпер еду на іх кватэру паліваць кветкі».

— Шмат кветак? — спытаўся Хруцкі толькі дзеля таго, каб схаваць сваю разгубленасць.

— А, хапае! Застаўлены ўсе падаконні і на падлозе ў зале дзясяткі з два гаршкоў. Дарэчы, Андрэй, як ты жывеш?

— Як бачыш...

— Бачу, што схуднеў ты, пануры... Калі шчыра, Андрэй, вінаватая я перад табою, — уздыхнула Наташа. — Але ж, паглядзі, нават машына, у якой мы цяпер сядзім — дзяржаўная... Дый гэта я ўжо раней табе казала...

— Наташа, — глуха прамовіў Хруцкі, — ды будзе ў мяне ўсё...

— Што ўсё? — пасміхнулася дзяўчына. — Стандартны набор: кватэра, дача, машына, на якія трэба будзе гарбаціцца ўсё жыццё? А бізнес, прэзентацыі, фуршэты?..

Яны крыху памаўчалі.

— Ведаеш, Андрэй, — Наташа зірнула з замілаваннем на Хруцкага, — а ты мне часта снішся і забыць цябе я не магу...

— І я таксама.

— Што таксама?

— Памятаю цябе. Памятаю ўсё, што было ў нас...

— А хочаш, мы паднімемся ў кватэру і ўспомнім былое?

Хруцкі толькі хітнуў галавой у знак згоды. Яму раптам зрабілася горача, а лёгкім нібыта не хапала паветра.

— Тады я выйду ля пад'езда, а ты пастаў сваю таксоўку кварталы за два і прыходзь.

Паркуючы машыну, Хруцкі адзначыў, што Наташа змянілася не толькі знешне, яна яшчэ стала прагматычнай, асцярожнай і разам з гэтым рызыкоўнай. Аднак жа галоўнае адкрыццё яго чакала наперадзе. Разняволеная жаноцкасць… Усё гэта ап'яніла...

Развітваліся, калі за вокнамі пачынала ўжо шарэць. Тое, што сказала Андрэю пры развітанні Наташа, наадварот, ацверазіла, нібыта на галаў кульнулі вядро халоднай вады: «Андрэй, ты ж не ўздумай шукаць са мною сустрэч: гэтае нашае спатканне — яно настальгічна-развітальнае... Прабач, сам разумееш, што былога не вярнуць, можна толькі ўзгадаць, што мы і зрабілі сёння...»

Наташа чмокнула яго ў шчаку, адчыніла дзверы кватэры і лёгкім, але настойлівым рухам рукі падштурхнула Андрэя: «Не трэба нічога казаць, ідзі, калі ласка, ідзі...»

Ён кінуў на яе поўны роспачы і адчаю пагляд і ўбачыў, што ў яе вачах блішчаць слёзы. Яму стала крыўдна, што яго зноў адштурхоўваюць, няхай сабе і шкадуючы, па-свойму кахаючы... «Але, што ж гэта за каханне, калі ад яго можна адмовіцца дзеля багацця?» — задаваў сам сабе пытанне Хруцкі, і не знаходзіў адказу.

## 6

…Раптам пачулася булькатанне вады, потым смех разануў па шкле, нібыта хтосьці настойліва і рытмічна разбіваў шыбы ў вокнах... «Гэта ж мабільнік», — здагадаўся Хруцкі. Хтосьці настойліва тэлефанаваў Альберту.

«А што, калі гэта Наташа телефануе... Я ж змагу цяпер пачуць яе голас... — Хруцкі знайшоў у кішэні мабільнік. — Што ёй сказаць? Прызнацца, што мне без яе жыццё — не жыццё? Сказаць, што нават у сне трызню ёю. Паведаць, што ў жонцы, якую, здавалася, пакахаў, шукаю нейкае падабенства з ёю, што нават аднойчы назваў Ганну Наташай?..»

А трэск шкла рабіўся ўсё гучнейшым і больш нстойлівым. Урэшце Андрэй прыклаў тэлефон да вуха: «Слухаю. Алё!»

— Альфрэд, гэта ты? — пачуўся звонкі, бадзёры Наташын голас. — Я не пазнаю твой голас. Можа, штосьці здарылася?

— Можа, і здарылася, — адказаў Хруцкі.

Узнікла невялікая паўза, а потым ужо глухім голасам Наташа спыталася:

— Андрэй, гэта ты?

— Я, — адказаў Хруцкі. Яму чамусьці зрабілася лёгка і крыху весела. — Ты не паверыш, Наташа, але здарылася штосьці ўнікальнае: я стаў Альфрэдам, а Альфрэд цяпер ніхто іншы, як Андрэй.

— Божа мой, ты п'яны... Скажы, Альфрэд з табой побач? Дай яму тэлефон.

— Ён не побач, ён у мне, дакладней, я ў ім.

— Ідыёт! — у трубцы пачуліся кароткія гудкі.

«Ну і што мне рабіць далей? — Хруцкі адкінуўся на спінку сядзення, заплюшчыў вочы. — Трэба неяк расслабіцца, адпачыць, абдумаць усё... А можа, паехаць у гасцініцу? Так. Цяпер гэта найлепшы варыянт».

Быў ужо прыцемак і горад запаліў ліхтары. Недзе воддаль чулася сірэна спецмашыны. Хруцкі паставіў «лексус» на платнай стаянцы. Уваходзіць у бліскучыя шкляныя дзверы гасцініцы не спяшаўся. Ён глядзеў на людзей, якія заходзілі і выходзілі з будынка: хто няспешна, а хтосьці хутка, імкліва, і думаў: «Усё, што адбываецца навокал, ні што іншае, як звычайная мітусня? Чым мы, людзі, адрозніваемся ад камароў, якія таўкуцца вось тут, каля майго цела?.. — Ён сумна пасміхнуўся. — Трэба заўтра абавязкова даведацца, у якім стане маё цела...»

— Вы ж мясцовы жыхар, прапісаны па вуліцы Каштанавай, а чамусьці хочаце жыць у гасцініцы... — Сярэдняга веку жанчына з высокай прычоскай белага колеру ўважліва паглядзела ў твар уладальніка пашпарта з прозвішчам Борчык Альфрэд Эдуардавіч.

— А калі я пасварыўся з жонкай, дык што, начаваць на вуліцы?

— Мірыцца трэба, — уздыхнула кабета.

— Каб памірыцца таксама патрэбен пэўны час, каб выспелі ўмовы.

— І гэта праўда, — зноў уздыхнула кабета. — Запаўняйце анкету.

— А вячэру тут можна заказаць у нумар?

— Можна. А на колькі персон? — жанчына зноў зірнула на яго, але ўжо не строга, а іранічна.

— І што вы, Васільеўна, вышукваеце ў кожнага кліента нейкі крымінал, — адарвала ад паперы позірк жанчына з кароткай стрыжкай. Вочы ў яе вялікія, цёмныя, але не строгія, лагодныя. — Мне дык бачна, што гэты мужчына сапраўды ў роспачным стане...

— Вось вы пра што... — шырока ўсміхнуўся Хруцкі. — Думаеце, я прыйшоў здымаць нумар, каб сустрэцца тут з каханкай? Памыляецеся, шаноўныя.

— Дык на колькі персон вячэра?

— На адну.

— Вазьміце, калі ласка, ключ ад 21 нумара.

Зайшоў у пакой, зняў пінжак, павесіў яго на спінку крэсла. Ссунуў з ног туфлі і паваліўся на ложак. Колькі хвілін ляжаў нерухома. Ні пра што не думаў, нічога не хацелася. З радыё, якое стаяла на тумбачцы, палілася музыка, мяккі голас Юрыя Антонава данёс да свядомасці Андрэя словы: «Вгляжусь в тебя, как в зеркало...»

«Люстэрка! Тут у ванным пакоі ёсць люстэрка! Трэба пайсці і добра разгледзець, які я цяпер...»

Хруцкі лёгка падняўся з ложка, пстрыкнуў выключальнікам і ўвайшоў у ванны пакой, сцены якога блішчэлі бела-блакітнай кафляй. Андрэй уталопіўся ў люстэрка. Адтуль на яго насцярожана пазіраў чалавек. Вялікі, крыху прыплюснуты нос, пульхныя вусны — ніжняя губа прыкметна тапырылася. Вочы светла-шэрыя, ясныя, чыстыя. Твар поўны, прадаўгаваты.

«Увогуле знешне даволі прыемны тып», — адзначыў Хруцкі. Таксіст, ён за гады працы бачыў зблізку шмат розных людзей. Ведаў, што не заўсёды чыстыя і ясныя вочы сведчаць пра тое, што і памкненні, і ўчынкі чалавека гэткія ж. Хай кажуць людзі, што вочы — люстэрка душы. «Дзе ж вы мае вочы жоўта-карычневага колеру? — падумаў скрушна Хруцкі. — Аднак жа мы такія розныя — гэты Альфрэд і я...»

Хруцкі хацеў знайсці адказ на пытанне, якое яго ўсхвалявала. А менавіта яго: статнага брунета-прыгажуна Наташа памяняла на гэтага цельпухаватага суб’екта толькі дзеля багацця?.. Можа, прычына ў вачах? У яго ж такія непаўторныя вочы... Можа, імі ён і зачараваў Наташу? «Ты апраўдваеш яе. Хочаш пераканаць сябе, што яна закахалася альбо яе зачаравалі светла-шэрыя вочы,

каб толькі супакоіць сваё самалюбства, — унутраны голас без спагады і жалю перарываў пытанні Хруцкага. — Яна карыслівая, вельмі карыслівая. Ты што, яшчэ не пераканаўся ў гэтым?..»

У дзверы нумара ціха пастукалі.

— Хто? — спытаў Хруцкі, падышоўшы да дзвярэй.

— Вы замаўлялі вячэру...

Хруцкі адшчапіў замок, і ў пакой зайшла паўнацелая жанчына, паставіла на стол паднос, на якім былі цёмныя гаршчэчкі, графін з гарэлкай і хлеб. Пры гэтым яна няспешна агледзела Хруцкага зверху ўніз і ўсміхнулася: «Прыемнага вам апетыту».

— Дзякую, — буркнуў ён у адказ.

Жанчына выйшла. Хруцкі ўзяў шклянку, якая стаяла ля графіна з вадой, наліў гарэлкі і выпіў. Толькі ўзяўся за накрыўку круглага гаршчэчка, як зноў забулькатаў мабільнік Альфрэда. На гэты раз Хруцкі, не вагаючыся, адказаў.

— Андрэй, растлумач мне, калі ласка, што адбываецца? Позні вечар ужо, а Альфрэд яшчэ не вярнуўся дамоў. Скажы, што ты яму наплёў? — у знешне спакойным голасе Наташы чулася прыхаваная трывога.

— Гэта не так проста растлумачыць, — уздыхнуў Хруцкі. — А ты прыязджай да мяне ў гасцініцу «Губернская», нумар 21. А твой Альфрэд... Ён сёння не прыйдзе дамоў...

— З ім штосьці здарылася? А можа, ты дрэннае нешта зрабіў яму? Андрэй, навошта ты ўмешваешся ў нашае жыццё?

— У гэтым выпадку маёй віны няма. А калі і ёсць, дык яна ўскосная... Я нікому нічога дрэннага не рабіў. Тут штосьці іншае... Прыязджай, так ты ўсё хутчэй зразумееш. І павер, Наташа, з майго боку тут няма якойсьці інтрыгі ці падставы.

— Добра, — адказала Наташа. — Я хутка буду.

Яна і сапраўды з’явілася хутка, узрушаная, з іскрыстымі вачыма, з лёгкім прыемным пахам парфумы і адразу ж зніякавела, разгубілася, але толькі на імгненне. Як і ўсе рашучыя жанчыны, яна тут жа авалодала сабой, імгненна ацаніўшы сітуацыю, як крытычную:

— І што гэта за спектакль? Інсцэніроўка вялікага парадыста? А галоўнае, чаго ты гэтым хочаш дабіцца?

— Наташа, мілая, якая ж ты прыгожая! Асабліва вось у такім узрушаным стане. — Хруцкі схапіў яе за руку. — Ты спачатку выслухай, што я табе распавяду...

Твар Наташы зноў зрабіўся разгубленым, нават спалоханым. «Альфрэд так пераканаўча, натуральна гаворыць голасам Андрэя... Як яму гэта ўдаецца?»

— Разумееш, цяпер перад табой нібыта двое ў адным: цялесная абалонка Альфрэда, а духоўная — мая.

Наташа няўцямна заплюскала вейкамі, а потым пільна паглядзела яму ў вочы:

— А дзе ж тады твая цялесная абалонка?

— Шпіталізавана пасля дарожна-транспартнага здарэння. У ёй і знаходзіцца духоўная абалонка твайго мужа Альфрэда Эдуардавіча Борчыка. На жаль, у якім стане цяпер маё цела, я не ведаю... Я разумею, што ўсё, што я кажу, гучыць фантастычна, але гэта адбылося насамарэч.

— Значыць, ты сцвярджаеш, што ў целе Альфрэда цяпер душа Андрэя Хруцкага? Значыць, з гэтай прычыны я і чую яго голас?

— Правільна. І я магу даказаць, што перад табой я — Андрэй Хруцкі. Спытай у мяне пра што-небудзь з нашага, былога.

Наташа задумалася: «Што гэта? Зладкаваны розыгрыш? А што, калі Альфрэд нейкім чынам пазнаёміўся з Андрэеем Хруцкім?.. Мажліва, ён купіў у яго ўсю інфармацыю пра мяне, пра нашае з ім мінулае... А голас? Можа, у Альфрэда талент, як у парадыста Галкіна... Аднак жа колькі трэба размаўляць, каб пераказаць усе жыццёвыя выпадкі за той тэрмін, калі я сустракалася з Андрэеем? Ён жа сам прапануе праэкзаменаваць яго... Божа, ці ж можа быць рэальным тое, пра што апавядае мне Андрэй? Ну вось, я ўжо Альфрэда ўяўляю Андрэеем. Значыць, падсвядома я жадаю, каб так і было...»

— Ну што маўчыш? Няма чаго ўспомніць? — спытаў Хруцкі.

— Ёсць. Памятаеш, мы былі на возеры, там, дзе па легендзе царква правалілася ў зямлю і на гэтым месцы з’явілася возера?

— Канешне.

— Я піхнула цябе ў ваду. Што было далей?

— Левай нагой я ступіў на шкло разбітай бутэлькі. Рана была даволі глыбокая. Ты спалохалася, але не разгубілася: кінулася шукаць медыцынскую аптэчку. Каля возера знаходзілася шмат машын і ўжо праз тры-чатыры хвіліны ты забінтавала мне рану, пацалавала ў шчаку і сказала: «Даруй, Андрэйка». Заўваж, ты сказала Андрэйка, а не Андрэй, як ты кажаш цяпер. Як жа мне спадабалася тады, што ты назвала мяне гэтак ласкава... Ты памятаеш, што было далей?

— Так, — у жоўтых Наташыных вачах з’явілася цеплыня, — потым мы начавалі ў палатцы. Глуха і страшна вухкала сава, але я не баялася, бо побач быў ты. А раніцою мы пілі каву, якую я зварыла на азёрнай вадзе. Якая ж яна была пахкая і смачная...

— Цяпер ты верыш мне, Наташа?

— Калі падобную фантастыку бачыш у кінафільмах, то ўспрымаеш спакойна, бо ведаеш, што гэта прыдумкі сцэнарыстаў. А цяпер, калі я сама сутыкнулася з містыкай у жыцці... Як гэта можа адбыцца? Хто зрабіў такое і чаму?

— Я мяркую, што ў гэтым пераўвасабленні задзейнічана звычайная чужаземная лялька, — Хруцкі дастаў з кішэні пінжака лялечнага чорціка і пасадзіў яго на стол, прыхіліўшы спінай да графіна з вадой.

— Якая ж брыдкая лялька, — скрывіла нафарбаваныя вусны Наташа. — Гэткі талісман боўтаўся ў машыне перад самым тваім носам?

— А што такога? Прыкольная лялька. Мне падараваў яе араб-турыст...

— Ой, Андрэй, глядзі, яна ўсміхаецца і вочы ўспыхнулі, нібыта ў іх загарэўся агонь!

Хруцкі зірнуў на твар лялечнага чорціка, аднак ні ўсмешкі, ні агню ў яго вачах не заўважыў. Запытальна паглядзеў на Наташу.

— Я бачыла, я сапраўды бачыла ўсмешку і агонь у вачах!

— Хацеў выкінуць ляльку пасля аварыі, — задумліва прамовіў Хруцкі, але добра, што не зрабіў так... Я думаю, чорціка трэба спаліць... Можа, тады і згінуць усе гэтыя незвычайныя чары.

— Не, спяшацца не варта, — запярэчыла Наташа, — каб потым, пазней не давялося шкадаваць. Я думаю, чорціка патрэбна зачыніць у нейкую скрынку. Накшталт сейфа. І пачакаць, што будзе адбывацца далей.

— У мяне ў гаражы ёсць металічная скрыня. Яна зачыняецца на замоквісяк. Прапанова цікавая. — Андрэй узяў ляльку ў далонь. — Ну што, гаспадар пекла, як табе ідэя Наталлі Мікалаеўны? Ці згодны ты быць вязнем скрыні?

На твары ляльки застыла абыякавасць. Хруцкі зноў паклаў чорціка ў кішэню пінжака.

— У мяне ёсць ідэя! — узрушана сказала Наташа. Яна расшпіліла сумачку, дастала з яе нататнік і ручку. Распішыся, калі ласка...

— Навошта?

— Ты што, не зразумеў? Трэба высветліць, чый у цябе цяпер подпіс... Гэта вельмі важна.

Хруцкі ўзяў ручку і размашыста распісаўся.

— Ура! — ускрыкнула Наташа. — Ты валодаеш подпісам Альфрэда. У цябе яго знешнасць і пашпарт... Андрэй, гэта шанец, надзвычайны шанец...

— Што ты маеш на ўвазе?

— Стоп! Я павінна табе шмат што расказаць і растлумачыць. — Наташа глыбока ўздыхнула і паглядзела Хруцкаму ў вочы. — Не вельмі салодка і шчасліва мне жылося з Альфрэдам. Ён прагматычны цынік. Праўда, спачатку я гэтага не бачыла. Нядаўна даведалася, што ён здраджвае мне.

— Вось дык нумар! — выдыхнуў Хруцкі.

— Я для яго — прыгожая застаўка на экране камп’ютара, каб схаваць за ёй пачварнасць гомасексуала. Я не ўтрымалася і шмат што сказала яму на гэты конт. Ён прапанаваў мне працягваць жыць далей разам. Сказаў, што будзе забяспечваць маё бязбеднае існаванне, а я павінна быць вернай яму, дакладней, нашаму сямейнаму супольніцтву. Бачыце, яму патрэбна выглядаць прыстойна! Я вырашыла агледзецца, падумаць. Можна было б, канешне, развесціся. Але што мне даваў развод? Тады, калі мы жаніліся, я была асепленая яго багаццем і, не чытаючы, падпісала шлюбны кантракт: лічыла, што сваёй прыгажосцю і абаяльнасцю змагу дабіцца ўсяго, чаго пажадаю. Цяпер жа, калі ўчыталася ў дамову, то зразумела: мне ў выніку разводу дастанецца тое, што ёсць на мне і асабістыя рэчы... І на гэта я спаліла столькі лепшых гадоў жыцця!..

Узнікла паўза, якую Хруцкі спадзеўна чакаў.

— Наташа, з гэтай гісторыі я зразумеў: мая духоўная існасць цяпер знаходзіцца ў целе Альберта... Але гэта, напэўна, не так. Ведала б ты, як я хачу быць з табой...

— А хто табе гэта забараняе, — загадкава ўсміхнулася Наташа і падышла да Хруцкага.

## 7

Ганна Хруцкая пасля начной змены вярталася з працы дамоў. Нецярпліва паглядвала ў той бок, адкуль павінен з’явіцца тралейбус. Яе чамусьці ахапіў неспакой і яна не звяртала ўвагі на мітуслівых вераб’ёў, якія скакалі каля ног. Тут жа праходжвалася варона, зыркаючы бліскучым вокам на людзей, нібы запрашаючы: паглядзіце на мяне, я ж такая самастойная, упэўненая і прыгожая.

Ганна не магла зразумець прычыну неспакою, які ахапіў яе. Ён з’явіўся вечарам, калі яна прыйшла ў лабараторыю і пачала рыхтаваць апарат і прылады для правядзення аналізаў. Яна не магла сканцэнтравацца, бо ёй авалодаў неспакой, які і перашкаджаў выконваць звыклую, але адказную працу. Ноччу яна нават патэлефанавала Андрэю, што рабіла вельмі рэдка, бо муж не любіў, калі жонка званіла яму без дай-прычыны. Яна проста хацела пацікавіцца дзе ён і што робіць. «Ды ўсё нармальна, працую, — звычайна адказваў муж незадаволеным голасам. — Спі, да раніцы буду дома».

«І чаго злуе? — думала Ганна. — Можа, лічыць, што я яго кантралюю? А які сэнс кантраляваць ? Каб загуляць, мужчыну неабавязкова быць таксістам...»

Гэтым разам яна пачула ў трубцы: «Абанент недасягальны». На душы стала яшчэ больш трывожна. Ганна патэлефанавала суседцы — адзінокай пенсіянерцы Вользе Сяргееўне, бо ведала, што тая ўстае заўсёды вельмі рана і выводзіць на прагулку сваю таксу. Папрасіла суседку паглядзець, ці стаіць у двары іх жоўценькі «фордзік».

— Няма, — адказала Вольга Сяргееўна, — і пасля таго, як ты пайшла на працу, ён не прыязджаў паглядзець Юльку. З ёй усё добра. Я заходзіла, каб пакласці яе спаць. А Андрэй, можа, паехаў куды далёка, дзе мабільная сувязь не спрацоўвае...

— І то праўда, — уздыхнула Ганна, — так ужо колькі разоў было...

Аднак трывога не пакідала яе. З трывогай Ганна і пераступіла парог кватэры, ужо не сумняваючыся, што з Андрэем штосьці здарылася. Як прапранулася, адразу ж патэлефанавала дзяжурнаму ДАІ, спыталася, ці трапляў у аварыю «форд-мандэо» дзяржаўны нумар ТАХ 17—49.

— Так. Ёсць у зводцы здарэнняў такая машына. — Пачуўся ў трубцы крыху асіплы мужчынскі голас. — Вадзіцеля забрала «хуткая дапамога». А вы хто?

Ганна не адказала. Тэлефонная трубка выпала з яе рукі і патрапіла на сваё звычайнае месца. Ледзь чутна рыпнулі дзверы: са спальні выбегла Юлька, ускараскалася маці на калені. Але Ганна не прылашчыла дачушку, не абняла малую і тая пакрыўджана зірнула на маці, убачыла ў яе вачах слёзы, затым спалохана прытулілася да грудзей. Ганна нібы ачомалася, абняла дачку, пацалавала.

Яны сядзелі сцішаныя, перапалоханыя.

## 8

Хруцкі і Наташа размаўлялі і спрачаліся ўсю ноч. Тое, што прапанавала зрабіць Наташа, выклікала ў душы Андрэя непаразуменне і расчараванне. «Якое я маю права распараджацца чужымі маёмасцю і бізнесам? — пытаўся сам у сабе ў думках Андрэй. — А што будзе, калі ўсё стане на свае месцы? Што будзе, калі мая душа вернецца ў маё цела? І ці будзе гэта? Прынамсі, я хачу гэтага. Вельмі хачу. А калі так, то не выключана, што жаданне можа збыцца. Цікава, чаму так адбылося, што ў чужым целе я маю свой голас? Галасавыя ж звязкі — цялесны орган... А подпіс у мяне яго — Альфрэда Борчыка. А як жа ўзрадвалася Наташа, калі ўбачыла гэты подпіс... Я, напэўна, і не падумаў бы высвятляць, чыім подпісам валодаю цяпер. А Наташа... Яна хоча завалодаць кватэрай, бізнесам і нават катэджам, які знаходзіцца недзе пад Вільнюсам. Ці не будзе гэта злачынствам з майго боку? Але ж, калі што якое, то можна спаслацца на тое, што я не ўсведамляў, што рабіў... Толькі ж які бізнес! Будаўнічая фірма, плюс завод па вытворчасці сілікатных вырабаў. Праўда, на пару з сынам аднаго вельмі, як цяпер кажуць, крутога чалавека. Небяспечна... За такія грошы могуць проста забіць. Няўжо Наташа гэтага не разумее?..»

Хруцкі падышоў да акна, адхіліў штору, паглядзеў праз шкло. На вуліцы ішоў дробны дождж. Яна поўнілася машынамі, а тратуары — людзьмі з парасонамі. Быў той ранішні час, калі ўсе спяшаліся на працу. Андрэй адчуў сябе нявольнікам, чалавекам, які не належыць сабе.

«Каму я цяпер патрэбны ў чужым абліччы? — задумаўся Хруцкі. — Наташы?.. А калі я толькі зброя ў яе руках, якая дапаможа ёй здабыць багацце?..

І што яна будзе з ім рабіць? Я ж адмаўляўся, катэгарычна адмаўляўся ісці з ёю да натарыуса... А ў яе паглядзе такая ўпэўненасць, што будзе так, як яна хоча. Разумее, што мае вялікую сілу і ўладу нада мной. І чаму я згадзіўся не ісці ў бальніцу? Пераканала, што я атрымаю стрэс, пабачыўшы сваё пакалечанае цела? Канешне, ёй як былой супрацоўніцы паліклінікі лягчэй і хутчэй высветліць усе акалічнасці. Траўма галавы і пераломы нагі ў двух месцах... Пра гэта яна ўжо даведалася ноччу па тэлефоне ад дзяжурнай сястры... Цікава, ці бачыў сябе ў люстэрку гэты Альфрэд? Пэўна, не. Якое люстэрка, калі ён знаходзіцца ў рэанімацыі? Ён... Можа, не ён, а я? Ад усяго гэтага можна звар'яцець... А Ганна з Юлькай... Што яны робяць цяпер? А што, калі пайсці дамоў і ўсё расказаць жонцы. Паверыла ж мне Наташа — паверыць і Ганначка. Галоўнае — не спалохаць яе. Можа, сустрэць з працы і пагаварыць? Ці пазваніць ёй? Але ж у што гэта можа выліцца? Забяруць у псіхічную клініку... Забяруць і мяне, і Альберта, і, магчыма, ужо ніколі не выпусцяць... Што ж мне застаецца? Ісці разам з Наташай. Але я і без Наташы магу, напрыклад, прадаць гэты шыкоўны «лексус»... Ну і колькі я пражыву на тых грашах і дзе?.. А Наташа?.. Ці змагу я перамагчы пачуццё, якое з новай і большай сілай чым раней ахапіла мяне? Трэба з ёй пагаварыць пра будучыню. І, пэўна, варта рабіць так, як яна хоча... Яна ўсё-ткі па законе жонка Борчыка Альфрэда... І маёмасць, і бізнес застанецца ў сям'і Борчыкаў. Ад імя Альфрэда я магу зрабіць ёй такія шыкоўныя дарункі...»

Узгадаўшы, як Наташа папракала яго за беднасць, Хруцкі ўсміхнуўся: цяпер ён, бядняк, дапаможа ёй здзейсніць ейную мару жыцця. Толькі дзеля чаго яна гэтага хоча?.. Можа, гэта будзе помста чалавеку, які не апраўдаў яе надзей, які падмануў, скарыстаў?

«А што, калі брыдкае жаданне хаваецца ў целе? — Ад гэтай думкі Хруцкі ажно цепануў плячыма. — Але ж мая духоўная існасць перамагае сардэчную хваробу Альфрэда: у грудзіне больш не пячэ і таблеткі не спатрэбіліся, пры тым, што выпіў больш як паўбутэлькі моцнага спіртнога... Аднак жа хопіць сумбурных разважанняў. Трэба неяк разняволіцца і, можа, заснуць...»

Андрэй адышоў ад акна. Наліў у шклянку каньяку і выпіў. Уключыў тэлевізар і сеў у крэсла. На экране з'явіліся мужчына і жанчына. Яны спрачаліся:

— Ты загубіў мае самыя лепшыя гады жыцця. І цяпер пакідаеш мяне дзеля нейкай шалахвосткі, дзеля прафуры Ванды!

— Яна не шалахвостка, а жанчына, якая кахае мяне.

— А ты што, не ведаеш, каго кахаю я?

— Ведаю. Аднак, прабач, у мяне ўжо няма пачуццяў да цябе...

Хруцкі з цікавасцю стаў назіраць, як паводзіў сябе мужчына ў такой сітуацыі. Ён няспешна складваў у чамадан рэчы. Рухі ўпэўненыя. Тэніска шчыльна аблягала яго цела, выдзяляючы моцныя мускулы.

«Яму вельмі пасуе кароткая стрыжка з павольным пад'ёмам, — падумаў Андрэй і схамянуўся, — Божа, чаму я разглядваю мужчыну, думаю пра яго?..»

Ён адчуў, як закалацілася, загрукала сэрца. Націснуў на чырвоны кружок на пульце тэлевізара: экран патух. Наліў і выпіў яшчэ грамаў пяцьдзясят ды лёг у пасцель, бо цвёрда вырашыў заснуць. Пакрысе яму стала ўзгадвацца ноч, праведзеная з Наташай... Млявасць і асалода авалодалі целам, і Андрэй заснуў.

Але і ў сне мроі пра Наташу не пакідалі: яны кудысьці ішлі разам, Наташа так спяшалася, што пачала аддаляцца, і так хутка, што Хруцкі быў вымушаны бегчы за ёй.

Нарэшце ён схапіў Наташу за руку. Спыніў. Яна засмяялася залівіста, звонка. Але раптам яе смех стаў жудасным ды злым. А праз хвіліну ўжо сама Наташа зрабілася вялікай чорнай птушкай. Птушка расправіла адбеленыя, як воблака, крылы, узмахнула імі і ўзнялася ў неба. Хруцкі адчуў, як узнімаецца ў вышыню разам з ёю. Спалохаўся, што не ўтрымаецца і ўпадзе, закрычаў і прачнуўся.

Вецер калыхаў жоўта-зялёную штору і ад яе руху сонечныя промні то знікалі, то з’яўляліся на шпалерах. Хацелася піць. Высокая шклянка з апельсінавым сокам стаяла на тумбачцы. Андрэй прыўзняўся, дацягнуўся рукой да шклянкі і пачаў прагна піць. У гэты момант адчуў, як штосьці патрапіла яму ў рот і пякучы боль працяў горла. Ён закашляўся, выплюнуў на падлогу рэшкі соку і заўважыў у ім асу. «Я ледзьве не праглынуў асу», — падумаў Андрэй, адчуваючы здзіўленне і страх.

Разам з гэтым яму стала цяжка дыхаць. Узгадаў выпадак, калі ён, будучы падлеткам, бачыў, як вясковы баламут і п’яніца па мянушцы Сапронька піў віно і яго ў язык уджаліла пчала. Спачатку Сапраньковы хаўруснікі весела рагаталі, а потым, калі ён захрыпеў і твар яго пачаў налівацца сінечай, спалохаліся. Кінуліся ў краму, у якой толькі што куплялі віно, каб выклікаць «хуткую дапамогу». «Хуткая» з’явілася праз паўгадзіны. Доктарка — поўная круглатварая кабета хвіліны дзве пазавіхалася каля Сапронькі і бездапаможна развяла рукамі...

Хруцкі падышоў да стала, зняў трубку з тэлефоннага апарата і набраў нумар «хуткай».

— Ало! Слухаю вас. Што здарылася?

— Такая вось бяда... Піў сок і праглынуў асу... А можа, іх было дзве... Аса мяне ўджаліла ў горла і цяпер цяжка дыхаць, і вельмі балюча.

— Кажыце адрас...

Разам з доктарам у пакой увайшла і мілавідная адміністратарка з кароткай стрыжкай, якая пры засяленні спагадліва аднеслася да кліента з пашпартнымі дадзенымі Борчыка Альфрэда Эдуардавіча. Цяпер жа ў яе паглядзе разам са спачуваннем бачылася і асуджэнне. Яна нібыта казала: «Вось да чаго даводзяць лаянкі з жонкай і сустрэчы з каханкамі ў гасцініцы».

Хруцкі, якім ужо авалодала млявасць, ціха прамовіў ёй: «Прабачце...»

Доктар адразу ж зрабіў яму ўкол, змераў тэмпературу і ціск. Ціск быў павышаны.

— Вам, малады чалавек, трэба будзе дзень-два паляжаць у аддзяленні таксікалогіі, паставіць кропельніцы, пабыць пад кантролем медыкаў, бо, крый божа, разаўецца ацёк Квінке, а гэта небяспечна, вельмі небяспечна, — сказаў доктар, ужо складваючы свой чамаданчык. — Так што прашу праехаць з намі...

## 9

Ганна Хруцкая стаяла каля высокіх белых дзвярэй, над якімі чырвоным па белым было напісана «рэанімацыя». Яна чакала, калі выйдзе дзяжурны хірург, які, як сказала медыцынская сястра, павінен даць ёй усю інфармацыю пра пацыента Хруцкага Андрэя Васільевіча. Гэтая ж медсястра запэўніла, што пашкоджанні, якія атрымаў пацыент, не смяротныя і ўжо праз некалькі дзён ён будзе пераведзены ў агульную палату. «Але ж каб траўмы былі лёгкія, то не трымалі б яго ў рэанімацыі, — думала Ганначка, хаця на сэрцы ў яе паспакайнела: дзякуй богу, жывы.

Ганне карцела адчыніць гэтыя вялікія белыя дзверы і зазірнуць у памяшканне, а, можа, і зайсці, знайсці там Андрэя, паглядзець на яго, патрымаць ягоную руку. Яна была перакананая, што яму цяпер вельмі патрэбная яе дапамога. А яна не мае магчымасці нават адным вокам зірнуць на яго. Не правільна гэта, не справядліва...

Нарэшце дзверы адчыніліся, і ў калідор выйшаў малады русы мужчына ў сінім халаце. Ганна памкнулася да яго, а ён і сам зрабіў крок насустрач: «Бальшакова?»

Ганначка паглядзела ў твар доктара і пазнала свайго аднакласніка Сяргея Сарокіна. З тых часоў, калі Ганна паехала з Гомеля ў Магілёў, яны не бачыліся. Сяргей ставіўся да яе ўважліва, нават спрабаваў заляцацца, аднак Ганна тады ўвесь свой час аддавала вучобе, бо вучыцца ў тэхнічным інстытуце ёй было даволі цяжка.

Сарокін узяў яе за руку і нават прыгарнуў да сябе: «Ганначка, як ты тут апынулася?»

— Мой муж у вас... Андрэй Хруцкі. Прывезла «хуткая» пасля аварыі.

— Я толькі што быў каля яго. Сёння мы пераводзім твайго мужа ў агульную палату. Так што не хвалюйся — усё павінна быць добра. На жаль, я спяшаюся, а ты зайдзі як-небудзь у ардынатарскую, тады і паразмаўляем як след. Ну, бывай.

Ганна вырашыла пасядзець і дачакацца, калі Андрэй выйдзе ці яго вывезуць з рэанімацыі. І вось недзе праз гадзіну дзверы шырока расчыніла медыцынская сястра і санітар выкаціў у калідор каляску, у якой сядзеў Андрэй. Твар яго быў бледны, але было бачна, што ён з цікаўнасцю пазірае навокал. Ганна ступіла крок насустрач. Андрэй толькі зірнуў на яе і адвёў позірк, пачаў глядзець прама перад сабой.

«Ён што, не пазнаў мяне? — мільганула ў галаве жанчыны. — Паглядзеў на мяне, як на незнаёмага чалавека».

Каляска пракацілася міма зніякавелай Ганны, потым яе ўпіхнулі ў ліфт, і тады Ганна спахапілася, кінулася да ліфта і спытала: «Куды вы яго пераводзіце?»

— Аддзяленне траўматалогіі. Палата нумар пяць, — адказаў санітар, і дзверы ліфта зачыніліся.

Зверху па лесвіцы пачуліся крокі і жанчына зноў убачыла Сяргея Сарокіна.

— Сярожа. Я не магу зразумець, што адбываецца: ён не пазнаў мяне... Муж не пазнаў мяне...

— Праўда? — здзівіўся Сарокін. — Ты, можа, памыляешся?

— Ён паглядзеў на мяне як на абсалютна незнаёмага чалавека.

— Не панікуй, Ганна. У яго звычайнае сатрасенне мазгоў. Ён адэкватны. — Сарокін задумаўся. — Дык бывае ўсякае. Бывае, што людзі пасля такіх прыгод і стрэсаў раптам пачынаюць размаўляць на невядомай ім дагэтуль мове... Ведаеш, я прынясу табе халат і мы разам пойдзем да яго і ўсё высветлім. Толькі ты, калі ласка, паводзь сябе спакойна, без эмоцый.

— Добра, — адказала яна.

Калі Сарокін і Ганначка ўвайшлі ў палату, Хруцкі ўжо ляжаў у ложку, заклаўшы далоні рук пад галаву, глядзеў у столь.

Сарокін і Ганна селі каля яго на табурэты.

— Як вы сябе адчуваеце? — спытаўся Сарокін.

— Крыху баліць галава.

— Вы можаце назваць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку?

— Канешне. Я — Борчык Альфрэд Эдуардавіч.

Ганна памкнулася штосьці сказаць, але Сарокін узяў яе за локаць і злёгку сціснуў яго.

— Кім вы працуеце?

— Займаюся бізнесам, — Борчык павольна павярнуўся на бок, каб бачыць, з кім ён размаўляе.

— У вас ёсць сям’я, дзеці?

— Ёсць жонка. Завуць Наташа. Дзетак пакуль што не маем.

— Дзе і калі вы нарадзіліся.

— 19 снежня 1976 года ў горадзе Вільнюсе.

— А пражываеце цяпер у Магілёве і па якім жа адрасе?

— Вуліца Каштанавая, дом 5, кватэра 101.

— Добра. Адпачывайце. Пойдзем, — Сарокін тузануў Ганну за рукаво. — Хвораму трэба адпачываць. Хадзем...

Калі выйшлі ў калідор, Сарокін сказаў:

— Яго нельга хваляваць. Выпадак унікальны... А можа, ён прыдурваецца?

— Не думаю, — адказала Ганна. — Тады б нешта ды прамільгнула ў яго вачах. Божа, што ж будзе далей?

— Прыйдзецца падключаць псіхатэрапеўтаў. Яго могуць пакласці ў псіхічны дыспансер. Мяркую, гэта непажадана. Цікава, а ці існуе на самай справе Борчык Альфрэд Эдуардавіч? Пойдзем у кабінет, зараз мы гэта праверым.

У кабінеце Сяргей Сарокін кудысьці пазваніў: «Андрэй Васільевіч, гэта Сарокін з гарадской бальніцы. Невялікая просьба: мне трэба ўдакладніць, ці існуе ў рэальнасці грамадзянін Борчык Альфрэд Эдуардавіч, ураджэнец Вільнюса?»

Крыху пачакаўшы і выслухаўшы, што яму сказалі, Сарокін падзякаваў і паклаў трубку:

— Ёсць такі чалавек. Дата нараджэння і адрас супадаюць.

— Што ж гэта ўсё азначае? — задумліва прамовіла Ганна.

— Усё-ткі падобна на фальсіфікацыю, — адказаў Сарокін. — Можа, твой муж добра ведае гэтага Борчыка ці яго жонку... Наташу — гэта імя табе штосьці гаворыць?

— Аднойчы муж назваў мяне гэтым імем.

— Ого! — выгукнуў Сарокін. — Тут, магчыма ёсць нейкая сувязь з нашым выпадкам. Ты бачыла гэту Наташу?

— Я некалі бачыла, але не ведаю, была гэта Наташа ці якаясьці іншая жанчына. На аўтавакзале муж адпраўляў мяне з дачкой у вёску і дужа занерваваўся, калі ўбачыў адну жанчыну. Яна, дарэчы, знаходзілася ў кампаніі. Але гэта толькі здагадкі...

— Зробім так: пакуль што пакінем усё як ёсць і паназіраем, як ён будзе паводзіць сябе далей. Думаю, што як жонка, ты не павінна яго наведваць. Можа, зрэдку разам са мной, як сёння. Калі ён сапраўды нічога не памятае, то будзе думаць, што ты супрацоўніца бальніцы.

— Бяда адна не ходзіць, — уздыхнула Ганна.

## 10

Калі доктар Сарокін выйшаў з палаты, Альфрэд Борчык лёг на спіну і заплюшчыў вочы. Яго непакоіў галаўны боль. Ён то ўзмацняўся, то заціхаў. Абязбольваючыя ўколы ненадоўга здымалі боль, гэта давала магчымасць хоць на хвіліну заснуць. Тады ён нібы правальваўся ў бездань. А вяртаўся ў рэальнасць ад моцнага болю. «Хутчэй бы зрабілі ўкол», — думаў Борчык. Аднак медсёстры нібыта забыліся пра палату нумар 5.

«Што гэта за дзіўная жанчына прыходзіла з доктарам? — думаў ён, прачнуўшыся. — І чаму яна глядзела на мяне, як на выкапня? Чаму ў яе вачах было столькі здзіўлення і суму, і роспачы... Чаму яна была ў калідоры, калі мяне вывозілі з памяшкання рэанімацыі? Чаму памкнулася падысці да каляскі і раптам спынілася? Хто яна такая і чаму прыходзіла разам з доктарам?»

— Гэй, новенькі, у цябе ёсць цыгарэты? — нібыта здалёк пачуў асіплы голас Борчык.

— Якія цыгарэты! Чалавека толькі што прывезлі з рэанімацыі. Не чапай яго, няхай адпачывае, — густы бас спыніў таго, хто пытаў у Борчыка цыгарэты.

— А я што, не даю яму адпачываць? — агрызнуўся сіпаты...

Раптам Борчыку ўспомнілася дарожнае здарэнне. Ён не мог зразумець, якім чынам перад тым, як страціць прытомнасць, бачыў сябе ў сваім «лексусе»?.. Бачыў выразна, натуральна. «Можа, я быў у стане клінічнай смерці і мая душа глядзела на цела пасля таго, як пакінула яго? — ужо каторы раз задаваў сам сабе гэтае пытанне Борчык. — Але ж тады цела павінна быць мёртвым. І яно глядзела ці я сам глядзеў... На каго глядзеў? На сябе? На прывід?»

Борчык адчуў, як хтосьці ўзяў яго за руку. Адзначыў лёгкі боль укола. Знямога пачала адступаць, у галаве ўсё затуманілася, і ён урэшце заснуў.

Прачнуўся Борчык гадзіны праз тры. У галаве пасвятлела. Боль ужо быў не такі надакучлівы, і Альфрэд крыху прыўзняўся ў ложку, падсунуўшы пад спіну падушку, стаў аглядаць палату, у якой стаяла каля дзясятка ложкаў. На двух ляжалі людзі, на адным сядзеў кудлаты мужчына з вялізным сіняком пад вокам, астатнія — пуставалі.

— Ну што, зямляк, пакрысе аджываешся? — прасіпеў кудлаты і бадзёра падміргнуў.

Альфрэд пазнаў голас таго, хто пытаў цыгарэт.

— Здаецца, і праўда, аджываюся...

— Кажуць, тваю таксоўку сцебануў «Маз»?

— Таксоўку? — перапытаў Борчык.

— Ну так. А ты што, нічога не памятаеш? Можа, быў п’яны?

— Ды не... Я амаль не п’ю.

— Паслухай, пакуль ты спаў, да цябе прыгажуня прыходзіла. Сядзела мо з гадзіну, то па руцэ цябе пагладзіць, то па галаве. Файная кабетка...

«Наташа, — адзначыў Борчык. — Цікава, чаму ж яна мяне не разбудзіла?»

Звяртаючыся да сіпатага, спытаў:

— Можа, прасіла што перадаць?

— Не. Яна пагледзела на мяне як на брыдкага ката. Душа фанабэрыстая... А тут якраз і доктар Сарокін зазірнуў, убачыў прыгажуню каля цябе і пытаецца: «Скажыце, вы Наташа?» І, ведаеш, братка, нічога яна не адказала доктару, узнялася і выйшла з палаты. Доктар нешта прамармытаў дый пабег за ёй следам. Аднак жа пайду я на паветра: можа, цыгарэтку дзе раздабуду...

Борчыку захацелася піць. На тумбачцы ўбачыў бутэльку з мінеральнай вадой, рука пацягнулася да бутэлькі, але раптам ён падумаў, што гэтая вада не яго, а некага з хворых. Паглядзеў на сваю працягнутую руку і сумеўся: рука была зусім не такая, якой павінна быць ягоная рука. І пальцы іншыя, і пазногці чужыя... Тонкай і худой стала яго рука, а была ж пульхнай, і пальцы, калі іх звесці ў кулак, утваралі ўнушальнай вагі кувалдачку. А тут...

Здзівіўся Борчык і задумаўся: колькі ж часу я быў у рэанімацыі, калі так схуднеў?

Ён адкінуў з цела коўдру і паглядзеў на ногі: яны былі стройныя, хударлявыя, але ж зусім не такія, якімі былі да здарэння на дарозе.

«Трэба спытацца ў доктара, што гэта са мною сталася?..» — вырашыў Борчык і адчуў, як зноў боль сціснуў, нібы скаваў, галаву.

## 11

У палаце таксікалогіі Хруцкаму зрабілі яшчэ адзін укол і паставілі крапельніцу. Дыхаць стала лягчэй, аднак горла ўсё балела, а калі глытаў, дык балела яшчэ горш.

Уразілі пацыенты аддзялення — чорна-сінія, амаль усе яны сталі ахвярамі няякасных алкагольных напояў. Нібыта прывіды, хворыя сноўдаліся па палаце і калідоры: выходзіць з аддзялення забаранялася і нават вокны палат былі закратаваныя.

— Вось папалі дык папалі, — падышоў да Хруцкага прыстойнага выгляду чалавек, — а мяне, ведаеце, укусіла змяя. Такое ўражанне, што мы адрэзаны ад усяго свету.

— А мяне ўкусіла аса, — сказаў Хруцкі. — Праўда, доктар абяцаў, што заўтра выпішуць.

Хруцкі і незнаёмец сталі каля акна, праз якое бачыўся бальнічны двор і расчыненыя насцеж вароты. Праз вароты праязджалі аўтамабілі, праходзілі людзі. Раптам на пешаходнай дарожцы з’явілася постаць жанчыны, якая падалася Хруцкаму вельмі знаёмай. Ён прыгледзеўся і пазнаў Наташу. За ёй хутка крочыў мужчына ў белым халаце, дагнаў і яны спыніліся, пачалі размаўляць. Праз хвіліну Наташа пакрочыла да брамкі, а мужчына вярнуўся назад, да будынка бальніцы.

«Што гэта ўсё значыць? — усхваляваўся Хруцкі. — Трэба ёй пазваніць: яна ж не ведае яшчэ, што я патрапіў сюды...»

— Прабачце, я вымушаны вас пакінуць, — сказаў Андрэй незнаёмцу, з якім толькі што размаўляў. — Мне патрэбна тэрмінова патэлефанаваць.

Ён выйшаў у калідор і набраў нумар мабільніка.

— Добра, што ты пазваніў, хаця я і сама ўжо дастала тэлефон, каб набраць цябе, — пачуўся ўсхваляваны Наташын голас. — Я толькі што выйшла з бальніцы. Ведаеш, мне цяжка вызначыцца, як называць хворага, якога я толькі што наведала. Ён спаў і тваё аблічча спакушала мяне сказаць: «Андрэй, прачніся...» Ды я і не пайшла б у палату, калі б сястра мне не сказала, што хвораму Хруцкаму зрабілі ўкол і ён спіць. Мне зрабілася жудасна, што ў тваім целе цяпер ён... І раптам мяне нібыта праціяла электрычнасцю: я зразумела, што ва ўсім, што адбылося з ім і з табой, я вінавата... Вінаватая мая меркантыльнасць, ды што там змякчаць словы: вінаватая мая сквапнасць. Я доўга сядзела і думала. Усё, што я казала табе ўчора наконт натарыуса і ўсяго астатняга — лухта. Цяпер галоўнае — ты і ён. Трэба вас абодвух ратаваць... Ён жа пачне сцвярджаць, што ён Альфрэд Борчык, а не Хруцкі Андрэй... А што будзе, калі ён пабачыць сябе ў люстэрку. Магчыма, яго забяруць у псіхбальніцу ці накіруюць у якісьці навукова-даследчы інстытут. Гэткі ж лёс чакае і цябе. Мы павінны яму растлумачыць усё, як мне растлумачыў ты.

— І што ж тады будзе? — спытаў Хруцкі.

— Трэба, каб ён застаўся Хруцкім, а ты — Борчыкам... Да таго часу, пакуль не стане ўсё на свае месцы.

— А ці стане яно на свае месцы? — уздыхнуў Хруцкі. — Дый Альфрэд, як ён будзе сябе паводзіць, калі пачуе ўсю праўду? І што ён будзе рабіць?

— Андрэй, іншага варыянту няма.

— Наташа, я павінен табе паведаміць: я цяпер у бальніцы — піў сок і мне ў горла патрапіла аса ды ўджаліла. Я, дарэчы, бачыў, як за табою гнаўся, пэўна, доктар. Штосьці адбылося?

— Гэты доктар, магчыма, ужо нешта ведае. Калі я была ў палаце, ён спытаўся ў мяне, ці не Наташа я. А на вуліцы, дагнаўшы, сказаў, што ён доктар, які лечыць Хруцкага, і хацеў бы ведаць, хто я для хворага, бо хворы паводзіць сябе неадназначна.

— Як іменна? — спытала я.

— Пакуль што не магу сказаць, — адказвае.

— Ён блізкі для мяне чалавек, — гавару яму, дадала, што спяшаюся і літаральна збегла. Дык што там у цябе з асой адбылося?

— Стала цяжка дыхаць... Давялося выклікаць «хуткую». Заўтра мяне выпішуць. Цяпер тут я быццам у нейкай ізаляцыі.

— А-а, ты на пятым паверсе ў аддзяленні таксікалогіі?

— Так.

— Дык гэта, можа, і шанец для нас... Вечарам папрасіся ў сястры выйсці падыхаць паветрам. Цябе яна павінна выпусціць, ты ж не нейкі злачынца, цябе проста ўджаліла аса. Выпусціць... Тады і кіруйся на трэці паверх у аддзяленне траўматалогіі, палата нумар 5.

— І што будзе, калі Борчык убачыць двайніка? — сумеўся Хруцкі.

— А бінты для чаго? — адказала пытаннем на пытанне Наташа. — Там жа хворыя нібыта толькі што з лініі фронту вярнуліся: у каго сківіца зламаная, у каго — нос... Забінтуй сябе так, каб Борчык не пазнаў, хто да яго прыйшоў і дзейнічай, як кажуць дэтэктывы, па абставінах. Акуратна ўсё трэба даводзіць і тактоўна. Прадумай, як усё зрабіць.

— Добра. Наташа, я вельмі рады, што ты адумалася і адмовілася ад гэтай прыхватызацыі.

— Радасці мала, — адказала яна. — Ідзі адпачывай і распрацоўвай аперацыю. Потым патэлефануеш, раскажаш, як прайшло.

## 12

Альфрэду Борчыку сніўся сон... Нібыта крочыць ён аселіцай, міма кладзішча, а насустрач яму ідзе мужчына. Калі параўняліся, Альфрэд пазнаў свайго колішняга аднакурсніка Ігара Бугаёва. Паздароўкаліся і адразу ж Бугаёў прапанаваў: «Пойдзем са мной».

— Не, — сумеўся Борчык, — як і куды я магу пайсці з табой? Ты ж мёртвы...

— Ну як хочаш, — абыякава прамовіў Бугаёў, — тады я пайшоў. Бывай.

— Бывай, — сказаў Борчык.

А потым яму ўжо сніўся нябожчык бацька. З ім Альфрэд стаяў у вялікім светлым доме, які, здаецца, вось толькі зрубілі з новенькіх бярвенняў. Затым і ён прачнуўся.

«Што б мог азначаць гэты сон? — думаў Борчык. — Бугаёў памёр каля дзесяці гадоў таму, ды і не сябравалі мы з ім, і на яго пахаванні мне быць не давялося. Чаму ж ён сустрэўся мне ў сне і куды хацеў павесці?»

І тут Борчык узгадаў, як галоўны бухгалтар іх будаўнічай фірмы апавядала яму пра тое, як захварэла на анкалогію і як двойчы ў сне яе спаткала даўняя знаёмая і прапанавала пайсці з ёй.

— А я ёй адказваю, — шырока расплюшчвала вейкі круглатварая Альбіна Пятроўна. — Галачка, ты ж даўным-даўно памерла. Куды мне з табой ісці? Не пайду я з табою. А потым мне людзі сказалі, што, калі б я пайшла з ёй, то абавязкова памерла б. А так уратаваў Божанька... Дапамагло мне абпраменьванне.

Узрадаўся Альфрэд Борчык. Узрадаўся, што не пайшоў з Бугаёвым: «Значыць, выжыву, ацалею...»

І тут жа засмуціўся: «А што значыць сустрэча з бацькам? Не, я не памятаю, каб бацька мяне кудысьці запрашаў ісці, але што азначае гэты светлы драўляны дом і мы з ім у гэтым доме? Не, не можа быць, каб родны бацька прыходзіў да сына, каб павесці яго на той свет...»

У галаве з’явіўся такі ўжо абрыдлы боль. Борчык рсплюшчыў вочы і ад святла электрычнай лямпачкі, якая вісла над яго галавой, паплылі пад столь, пашыраючыся, аранжавыя кругі. Альфрэд хацеў заплюшчыць вочы, але разгледзеў, што хтосьці сядзіць каля яго ложка. Тады ён паволі павярнуўся набок і ўбачыў чалавека, галава якога была забінтаваная. Вочы і вусны — іх толькі і ўбачыў Борчык і падумаў: «Гэтаму бедаку, відаць, дасталося больш чым мне. Спытаўся:

— Вы хто?

Незнаёмец нахіліўся да Альфрэда: і ледзь чутным голасам адказаў:

— Я прысутнічаў пры дарожна-транспартным здарэнні, пасля якога вас забрала «хуткая».

— Вы што, вадзіцель грузавіка? — прашаптаў Борчык.

— Не, — адказала забінтаваная галава і спыталася: — А вы памятаеце, у якой машыне былі, калі здарылася аварыя?

— Напэўна ж у сваім «лексусе», — павольна прамовіў Борчык — Але перад тым, як убачыць кабіну грузавіка я чамусьці заўважыў сваю машыну ў суседнім радзе. І што мяне надта ж здзівіла: згледзеў за рулём сам сябе. Як такое магло быць?

— Я вам усё растлумачу, толькі не здзіўляйцеся, не перабівайце і слухайце мяне ціха і ўважліва. — Незнаёмец паклаў руку Борчыку на плячо. — Дамовіліся?

Борчык у знак згоды павольна міргануў вачыма.

— Дык вось, «лексус» ваш цэленькі, на ім няма нават драпінкі, — хутка загаварыў незнаёмец, а разбітая ў друз мая таксоўка маркі «форд-мандэо». Яна стаяла побач з вашым «лексусам», калі гарэла чырвонае святло на светлафоры. Вы памятаеце жоўтую таксоўку?

— Так.

— Дык вось, у момант аварыі вы знаходзіліся ў жоўтай таксоўцы за рулём... Гэтая машына належыць мне. А завуць мяне Хруцкі Андрэй.

Борчык памкнуўся прыўзняцца і штосьці сказаць. Хруцкі сціснуў пальцы на ягоным плячы:

— Мы ж дамаўляліся... Слухайце далей: калі ваш «лексус» і мой «форд» стаялі побач, то я паглядзеў на вас, а вы — на мяне, і я вам пазайздросціў, я пажадаў апынуцца на вашым месцы... І гэта адбылося! Мая душа апынулася ў вашым целе, а ваша — пераляцела ў маё.

Вочы Борчыка, здаецца, пачалі вылазіць з вачніц.

— Спакойна, — сказаў Хруцкі. — Усё дзіўнае яшчэ наперадзе. Скажыце, вы пасля здарэння бачылі свой твар у люстэрку?

— А што такое? — збянтэжана спытаў Борчык.

— Дык бачылі ці не?

— Не, яшчэ не давялося...

— Я вам дам люстэрка... Толькі ўспрыміце рэальнасць спакойна, па-мужчынску...

— Хопіць інтрыгаваць! — Борчык адчуў, што пачынае злавацца на гэтага суб'екта ў бінтах. — Пакіньце свае казкі для дзетак. — Аднак падсвядома адчуваў нарастаючую трывогу.

Хруцкі дастаў з кішэні кашулі невялічкае круглае люстэрка і падаў Борчыку. Той узяў яго і нерашуча зазірнуў у глыбіню срэбнага шкла. Твар, які ён убачыў у люстэрку, пабялеў, потым паступова зрабіўся чырвоным, а Борчык усё не мог адарваць пагляд ад незнаёмага аблічча. Урэшце яго рука апусціла люстэрка і паклала люстраной гладдзю на коўдру.

— Ну, якія ўражанні? — спытаўся Хруцкі і сумна пасміхнуўся.

— Ён яшчэ скаліцца, — злосна прамовіў Борчык.

— Навошта злавацъ, — уздыхнуў Хруцкі, — трэба думаць і вырашаць, што рабіць далей.

— Мне трэба пабыць аднаму, усё асэнсаваць, абдумаць, — ужо без злосці прамовіў Борчык.

— А свой твар вы хочаце ўбачыць? Я магу выйсці ў прыбіральню і зняць бінты. Здагадваецеся, чаму я так закатаўся ў іх.

— Разумею, — адказаў Борчык, — каб не напалохаць, не ўзрушыць мяне. Я б хацеў, каб вы вярнуліся недзе праз гадзіну.

— Добра, — згадзіўся Хруцкі.

Калі праз гадзіну Хруцкі вярнуўся ў палату, у якой ляжаў Борчык, той ужо нецярпліва чакаў яго. Яны, як даўнія знаёмыя, доўга пра штосьці размаўлялі...

## 13

Раніцай наступнага дня Ганна Хруцкая вырашыла зноў ісці ў бальніцу да Андрэя. «Чаму ён называе сябе чужым імем? — задавала яна сабе пытанне і не знаходзіла адказу. — Ну няхай бы страціў памяць і нічога не мог успомніць з мінулага жыцця — гэта было б больш зразумелым і лагічным. А тут... Борчык Альфрэд Эдуардавіч. Проста нейкая містыка».

Ганначка падсвядома адчувала прысутнасць чарадзейства. Ёй не верылася, што чалавек, згубіўшы памяць у выніку траўмы, можа ўявіць сябе кімсьці іншым. Гэтая акалічнасць палохала жанчыну.

«Як добра, што мне спаткаўся Сарокін...» — думала яна.

Яе роздум перапыніла мелодыя мабільніка. Ганна прыклала тэлефон да вуха і пачула голас Сяргея Сарокіна:

— Прывітанне. Ёсць навіны і нават класічнага характару: адна — добрая, а другая... Дык з якой пачынаць?

— Давай, напэўна, дрэнную, — крыху памарудзіўшы, — адказала Ганна. — Потым з добрай навіны можа і пачнецца светлая паласа ў жыцці.

— Учора напрыканцы змены я вырашыў зазірнуць у палату да твайго мужа і ўбачыў такі малюнак: ён спаў, відаць, пасля ўкола, а з ім побач сядзела даўгавалосая прыгажуня-бландзінка і трымала хворага за руку. І тут я зрабіў глупства: спытаўся, ці не Наташай яе клічуць. І напэўна ўгадаў, бо жанчына ўстрапянулася, у яе вачах адбіліся трывога і роспач, а потым яна вельмі хутка авалодала сабой: спакойна паднялася і выйшла з палаты, не адказаўшы на маё пытанне. Ведаеш, я кінуўся следам за ёй, дагнаў на вулі-

цы. Яна мне так і не сказала, хто яна і кім даводзіцца хвораму. Прамовіла толькі, што ён блізкі ёй чалавек.

— Яна сярэдняга росту, стройная?

— Так.

— Гэта тая жанчына, якую я бачыла на аўтавакзале, — сумна прамовіла Ганначка.

Сарокін уздыхнуў:

— Мала што бывае між людзьмі... Можа, калісьці кахала твайго Андрэя, як, дарэчы, і я цябе. Цяпер жа я магу пра гэта казаць спакойна... Думаю, не трэба ўспрымаць візіт незнаёмкі як нейкую здраду...

— Час пакажа, — крыху памаўчаўшы, мовіла Ганна. — Ну, а другая навіна?

— Сёння раніцай я пацікавіўся самаадчуваннем Андрэя. Наўмысна назваў яго Альфрэдам Эдуардавічам. А ён мне ў адказ: «Вы штосьці блытаеце, доктар, мяне Андрэем завуць». — А ўчора ж сцвярджалі, што вы Борчык Альфрэд Эдуардавіч, чым надта засмуцілі сваю жонку, — кажу яму.

— І я такое плёў? — усміхаецца.

Сказаў, што галава ўжо баліць менш і што пачуваецца ён больш упэўнена.

— Як добра, — узрадавана прамовіла Ганна. — Вялікі табе, Сярожа, дзякуй.

— Калі ласка, — адказаў Сарокін. — Спадзяюся, што мы яшчэ пабачымся.

Перад тым, як выйсці з кватэры, Ганна спынілася перад люстэркам — прыдзірліва агледзела свой твар у ім. Папраўіла прычоску і раптам убачыла ў ёй сівы валасок.

— Старэю, — уздыхнула.

Мажліва, у іншай сітуацыі гэтая акалічнасць засмуціла б яе, а сёння, пасля такой навіны, што ў Андрэя ўжо няма раздваення асобы, што ён псіхічна здаровы, жанчына схавала гэтую сівізну ў валасы, каб яна не бачылася — падфарбуем як-небудзь.

А праз хвіліну Ганначка ўжо была на вуліцы і пагляд яе зачапіўся за бярозу, бо яна зашумела лістотай, нібыта ўздыхнула: сярод зялёных галін калыхалася адзіная жоўтая разлапіна.

— Яшчэ толькі сярэдзіна жніўня, — падумала Ганна, — рана жаўцець лістоце. А можа, і ў дрэў, як у людзей, ёсць нейкія абставіны, якія дачасна старацъ іх?

Ганна захацела падысці да бярозы і прытуліцца да яе. Але на лавачцы сядзелі бабулі і пра нешта сваё гаварылі — што яны падумаюць пра яе...

Раптам жанчына заўважыла, што ўзбоч ля пад’езда стаіць шыкоўны джып цёмна-сіняга колеру, а кіроўца за рулём назірае за ёй.

«Хто гэта такі? — падумала Ганначка, калі іх пагляды сустрэліся. — Вочы пукатыя, нібы ў павука, глядзіць нахабна, як на ахвяру».

Мужчына ўсміхнуўся праз шкло, тузануўся ў машыне, нібыта хацеў выйсці, але ж застаўся на месцы.

Жанчына прайшла міма машыны і павярнула за рог дома — сцяжына павяла яе на аўтобусны прыпынак.

А тым часам Андрэй Хруцкі, а гэта быў менавіта ён у абліччы Альфрэда Борчыка, апусціў галаву, задумаўся. Учора, позна вечарам, пасля размовы з Борчыкам, ён тэлефанаваў Наташы, і тая вельмі здзівіла яго, паведаміўшы, што з’язджае жыць і працаваць у Расію.

— Заблыталася я зусім у жыцці. Мне трэба змяніць абстаноўку, падумаць, пажыць адной, — казала яму Наташа спакойным цвёрдым голасам. — Глуп-

ствы, якіх я нарабіла тут, канешне ж, застануцца са мной, але я спадзяюся, што яны аддаляцца, згубяцца ў будучым жыцці.

— Наташа, ты пакідаеш мяне, калі мы, калі я... — пачаў гаварыць Хруцкі і замоўк. Крыху памаўчаў і дадаў: — Ты ж ведаеш, у якім я стане, ды і Борчык — таксама. Нам жа патрэбна твая дапамога...

— Нам... Вось бачыш, ты ўжо кажаш «нам». Ты нібыта разам з Борчыкам. А навошта мне быць паміж вамі? А яшчэ ж ёсць і твая жонка, і дачка... Падумай, Андрэй, мы наўрад ці зможам вярнуцца ў мінулае. Табе трэба пераскочыць у сваё цела. Я думаю, што гэтую праблему табе патрэбна вырашаць менавіта з Борчыкам. Разам вы знойдзеце выйсце... Я ўпэўнена, што знойдзеце. Ну, бывай.

Хруцкі пачуў у мабільніку кароткія гудкі. Хутка пераззваніў, але з дынаміка гучала: «Абанент недасягальны».

...Калі Ганна падыходзіла да карпусоў бальніцы, пакрапаў дробны дожджык. Усе пешаходы дружна раскрылі парасоны. Яна ж свой парасон забылася дома, таму пайшла хутчэй, але ж і дождж узмацніўся і неўзабаве жанчына подбегам кінулася да дзвярэй патрэбнай будыніны...

Падсаджваючыся да ложка, у якім ляжаў хворы, заўважыла, што ён глядзіць на яе насцярожана. Ганна адчула яшчэ і нейкую энергетычную напругу, якая нібыта струменілася з яго вачэй.

— Андрэй, я так перапалохалася, калі ты не пазнаў мяне там, у калідоры, як цябе везлі з рэанімацыі ў палату. — Яна ўзяла мужчыну за руку. — Дзякуй богу, да цябе вярнулася памяць. Дарэчы, а дзе твой мабільнік? Я ж табе стольکі разоў тэлефанавала, а ён усё вярзе і вярзе пра недаступнасць.

— Мабільнік быў на панэлі машыны. Мажліва, ад удару ён вылецеў з яго, — «Андрэй» гаварыў слабым, ледзь чутным голасам. Ён крыху прыўзняўся, і Ганна падклала яму пад спіну падушку.

— На жаль, я не ўсё яшчэ памятаю, — зноў зашаптаў ён. — А як Юлька?

— Добра. Зараз у садку. Як пайду ад цябе, то адразу забяру. Вось прынесла сок ды садавіну, — Ганна нахілілася і пачала выкладваць пакупкі.

— Дзякую, — сказаў ён і ў яго паглядзе прамільгнула ніякаватасць.

«Нібыта саромеецца чагосьці», — падумала Ганна і спыталася:

— А як твая нага?

— З нагой лепш, чым з галавой — у яе няма памяці, — адказаў ён жартам і дадаў: — Ты сюды многа не насі: яды і бальнічнай хапае.

— Вось прыдумаў што сказаць, — пасміхнулася яна. — Бальнічнае — гэта бальнічнае, а сваё...

Ганна развіталася і, падыходзячы да дзвярэй палаты, паглядзела на мужа, пачула, як з яго грудзей вырваўся ўздых, са здзіўленнем адзначыла, што ў ім чулася палёгка. А можа, гэта ёй толькі падалося?..

## 14

Рука Андрэя Хруцкага пацягнулася да ключа, каб завесці рухавік, і раптам ён адчуў, што ў кішэні пінжака нешта заварушылася. Андрэй апусціў левую руку ў кішэню і намацаў ляльку. Выняў чорціка з кішэні і пасадзіў перад сабой на панэль.

Вочкі лялькі ўспыхнулі, і Хруцкі пачуў глухі, але даволі выразны голас:

— Ну што, зайздроснік, ты ўжо шкадуеш і хочаш вярнуць сваё цела?

— Так. Хачу, — нібы ў сне прамовіў Хруцкі.

— А мяне вырашыў зачыніць у металічную скрыню. — Лялька засмяялася. Ды так, што Андрэю падалося, нібыта з рыпам адчыняюцца вароты. — Дзівак. Мяне нельга ізаляваць. Я — усюдыісны, як дух. А лялька — гэта проста абалонка, як, дарэчы, і цела Альфрэда Борчыка для цябе. Ты можаш ад яго пазбавіцца. Забі Альфрэда, і твая душа стане вольнай. Табе толькі і застанецца выкінуць яго душу з твайго цела.

— Замоўкні! — крыкнуў Хруцкі, схапіў ляльку і моцна сціснуў у руцэ. Святло ў яе вачах знікла.

Хруцкі ўрэшце завёў рухавік і вырашыў ехаць у офіс Борчыка. Альфрэд, па меркаванні Хруцкага, аказаўся даволі прагматычным чалавекам. У той вечар яны многае абмеркавалі. Вырашылі дзейнічаць асцярожна і дачакацца таго моманту, калі Борчык зможа выйсці з бальніцы. Тады яны разам паспрабуюць знайсці сапраўднага экстрасэнса, каб той дапамог ці параіў ім, як усё вярнуць на свае месцы.

Хруцкі тады не сказаў Борчыку пра свае адносіны з Наташай, вырашыў, што некалі ўзнікне сітуацыя, якая і падкажа — адкрывацца ці не.

— Заедзеш у офіс, скажаш, што хварэееш, — кансультаваў Хруцкага Борчык. — Паглядзі, ці пералічылі грошы літоўскай фірме, — ён назваў яе. — Мае падначаленыя заўсёды чакаюць майго прамога распараджэння. Доўга там не бўся: каб не западозрылі чаго...

— Ой, Альфрэд Эдуардавіч, як выдатна, што ўсё добра для вас скончылася, — забалбатала сакратарка — высокая хударлявая брунетка, калі Хруцкі ўвайшоў у прыёмную. — І як вы не заўважылі асу ў бакале…

— Пачакайце, а вы адкуль ведаеце пра асу? — Хруцкі загаварыў знарок асіплым голасам.

— Дык жа ўчора прыходзіла жонка ваша, прыносіла ад вас распараджэнне пра пералік грошай не ў Літву, а ў Расію. Учора пералічылі. Яна і распавяла пра бяду з вамі. Казала, што вы нават размаўляць не можаце.

— І дзе ж тое распараджэнне? — асцярожна спытаўся Хруцкі.

— Дык вось яно тут, у дакументах для вас. І плацёжка тут. — Сакратарка працягнула Хруцкаму жоўтую папку.

Хруцкі сеў, зазірнуў у папку і пазнаў паперку, на якой Наташа прапанавала распісацца яму ў гасцініцы. Паглядзеў на суму і зніякавеў: вось табе і «трэба вас ратаваць…» Усё-ткі адарвала сабе за страчаныя лепшыя гады жыцця.

— Добра, — прамовіў Хруцкі. — Я яшчэ колькі дзён пахварэю. — Ён узняўся з крэсла.

— Альфрэд Эдуардавіч, а літоўская фірма ўжо трэці раз дасылае нам запыт пра пералічэнне грошай. А ў нас на рахунку нічога няма. Што ім адказаць?

— Адкажыце, што пералічым пазней — праз тыдзень-два.

«Наташка-Наташка, дык вось якая ты, — думаў Хруцкі, калі выйшаў з офіса. — І тады ў гасцініцы я ж быў у целе Борчыка, а яна хоць бы што — палезла мілавацца… Асуджаю… Каго я асуджаю? Сябе трэба асуджаць. Напіцца б цяпер. Напіцца і забыць пра ўсё. Але ж пахмелле не зелле… Трэба паразмаўляць з Ганнай. Устрапянулася ж маё сэрца, калі яна выйшла з пад’езда. Маё сэрца? Дзе яно цяпер, маё сэрца? Не. Хопіць на сёння. А што, калі паехаць у кватэру Борчыкаў? Гэта ідэя! Ключы — яны тут, на звязцы. Трэба адпачыць, расслабіцца…»

## 15

— А я цябе ведаю, — падсеў да ложка Альфрэда Борчыка цельпукаваты дзяцюк. Шырокі твар расплыўся ўсмешкай і разам з бліскучай лысінай ён нібыта сцвярджаў: радавацца трэба, радавацца. — Ты ж працаваў у таксаматорным парку вадзіцелем, а я рабіў на ТА-2. — І не звяртаючы ўвагі, што Борчык глядзіць на яго няўцямнымі вачыма, прадоўжыў: — Ты тады кантактаваўся з Лесавіком. Пацешны ён мужык, вясёлы. Быў я аднойчы з ім у кампаніі. Такія, як Лесавік, у кішэню па слова не лезуць. А жонка яго кінула, з'ехала з якімсьці вайскоўцам на Украіну. А ты ажаніўся ці не?

— Цяпер жанаты, — адказаў Борчык і падумаў: «Ну вось, не хапала мне яшчэ ў дадатак да візітаў жонкі Хруцкага цярпець і яго былога калегу».

— У яго дзве жонкі. Прыходзяць па чарзе, — умяшаўся ў размову сіпатым голасам няголены дзяцюк з сіняком пад вокам. Усмешка агаліла вялікую шчыліну ў верхнім радзе зубоў.

— Дзе зубы згубіў? — спытаўся былы слесар таксапарка.

— Дык жа выбілі…

— Відаць, таму што лезеш у чужыя размовы, — прамовіў Борчык.

У палаце пачуўся стрыманы смех.

Калі мужчыны пайшлі курыць, Борчык задумаўся. Ён хоць і не бачыў Наташу ў палаце, але ж ведаў, што яна прыходзіла да яго, пра гэта яму паведамляў сіпаты. Але вось толькі цяпер ён зразумеў, што прыходзіла Наташа не да яго, а да Андрэя Хруцкага, і яго руку, калі верыць словам сіпатага, доўга трымала ў сваіх далонях. Значыць, яны добра знаёмыя альбо паміж імі існуюць таемныя адносіны. А ён паверыў і даверыўся гэтаму Андрэю Хруцкаму. Э-эх!

Борчык сеў на ложку і апусціў ногі на падлогу. Яму хацелася хадзіць, дзейнічасць, і ён паспрабаваў устаць.

— Не ранавата, браток, сабраўся спрабаваць сілы? — хударлявы мужчына з барадой пільна глядзеў на Борчыка праз акуляры.

— Відаць, рана. Не хапае моцы ўстаць.

— Нічога. Хутка акрыяеш. А пакуль патрэбна ляжаць.

У гэты момант у палату ўвайшла Ганна. Яна трымала за руку дзяўчынку, на русай галоўцы якой красаваліся два чырвоныя банты.

— Тата! — ускрыкнула малая, выхапіла руку з матчынай далоні, кінулася да Борчыка і, ашчаперыўшы аберуч яго за ногі, прытулілася да каленяў.

Надзвычайнае ўзрушэнне ахапіла Альфрэда. Сэрца азвалася цеплынёй і пяшчотай, а вочы зрабіліся вільготнымі: вось яно сапраўднае шчасце жыцця!.. Аказваецца, што яно не ў багацці, не ў каханні да жанчыны, а ў шчырай любові дзіцяці да тваёй нікому больш не патрэбнай істоты. Так думаў Альфрэд Борчык, гладзячы па русавалосай галоўцы дачку Андрэя Хруцкага. Ганна ж з замілаваннем назірала за іх сустрэчай...

Борчыку было па-свойму і радасна, і страшна: а што, калі і Ганна, і яе дачка пазнаюць, што ён не Хруцкі?.. Таму нецярпліва чакаў таго моманту, калі Ганна з Юлькай урэшце пойдуць дадому. Душа ягоная ўвесь час была ўзрушана. Борчык баяўся глядзець ім у вочы, асабліва Юльцы. Яму здавалася, што па яго вачах Юлька здагадаецца пра падман. Калі яны ўрэшце сышлі, Альфрэд нацягнуў коўдру на галаву і адчуў, што па шчацэ павольна пакацілася сляза...

Нарадзіўся Альфрэд Борчык у адным літоўскім мястэчку, непадалёк ад беларуска-літоўскай мяжы. Праўда, тады мяжы не існавала, а з'явілася яна пасля развалу Савецкага Саюза. І аказалася, што такая перашкода, як дзяр-

жаўная мяжа, можа даць магчымасць прадпрымальнаму чалавеку зарабляць сякія-такія грошы. На легкавіку з Літвы ў Беларусь вёз Альфрэд цыгарэты вядомых фірм, сёе-тое з адзення і абутку, што можна было хутка прадаць з неблагім прыбыткам. У Беларусі запраўляў паўнюткі бак аўтамашыны, назапашваўся таннай гарэлкай.

Бацьку Альфрэда гэты сынаў занятак не падабаўся. Ён — майстра цеслярскай справы, лічыў, што зарабляць трэба працай сваіх рук, а не метадам куплі-продажу, і ўсё ўгаворваў сына далучыцца да ягонай брыгады будаўнікоў, якая наймалася рамантаваць і ўзводзіць індывідуальныя дамы.

Альфрэд, хаця і ведаў з маленства, як трэба абыходзіцца з сякерай і кельмай, у будаўнікі не спяшаўся. Але з часам усё больш складана было прадпрымальнаму Альфрэду правозіць свой тавар праз мяжу: удасканальваўся мытны кантроль, грашовы прыбытак змяншаўся, а рызыка канфіскацыі тавару і машыны ўзрастала. Альфрэд урэшце далучыўся да будаўнічай брыгады.

Кемлівы хлопец падаў ідэю, якую падтрымалі ўсе члены брыгады: «Трэба набываць зямельныя ўчасткі ў прэстыжных месцах і ўзводзіць дамы за свае сродкі, а потым іх прадаваць». Брыгада даволі хутка пабудавала першы катэдж і выгадна яго прадала. На вырučаныя сродкі змаглі закласці адразу тры дамы. Пазней брыгада раздзялілася на дзве. Адну з іх і ўзначаліў Альфрэд Борчык. Праца захапіла яго цалкам. З ранку і да позняга вечара Альфрэд быў у клопатах. І ягоны бізнес паступова пашыраўся. Капітал павялічваўся. Раслі і абміцыі Альфрэда Борчыка. Яны і прывялі яго ў Беларусь, дзе спакойна можна было займацца сумленным бізнесам. На форуме бізнесменаў у Мінску Борчык пазнаёміўся з прадпрымальнікам аднаго буйнога беларускага горада. Той прапанаваў Борчыку працаваць сумесна. Звалі таго прадпрымальніка Ігар. Не тоячыся, ён сказаў, што ў яго ёсць цікавыя ідэі, але не хапае грошай, каб іх рэалізаваць. Альфрэд параіўся з бацькам і з сябрамі. Бацька і сябры лічылі: што рызыка вялікая, аднак жа даводзілі, што і прыбытак мусіць быць значным.

— Многае залежыць ад кампаньёна, — казаў бацька Альфрэду. — Калі адчуваеш, што ён чалавек надзейны, — рызыкуй. Але ж і ўлічвай: калі прагарыш, прыйдзецца пачынаць амаль з нуля.

Доўга думаў, сумняваўся, узважваў Альфрэд Борчык і ўсё ж рызыкнуў. Новая справа захапіла, акрыліла. Патрабавала штодзённай прысутнасці і Альфрэд мусіў купіць кватэру ў гэтым горадзе. Тут ён зноў пачаў упарта працаваць.

Ігарава сястра Ірына на фуршэце з нагоды адкрыцця будаўнічай фірмы пазнаёміла Альфрэда са сваёй сяброўкай Наташай, медыкам па прафесіі і рамантыкам па натуры, як сказала Ірына. І Наташа яму спадабалася Яму імпанавала, што дзяўчына паводзіла сябе тактоўна, стрымана. Ён і не здагадваўся, што Наташа ўпершыню трапіла на свецкую вечарынку.

— А-а, я так і ведала, што вы, Альфрэд Эдуардавіч, зацікавіцеся маёй сяброўкай, — сказала Ірына, калі Борчык праз колькі дзён распавёў ёй, што хоча папрасіць Наташу, каб тая дапамагла яму правесці амбулаторнае абследаванне, маўляў, нешта пабольвае сэрца. І ён казаў праўду: сэрца яго часам непакоіла.

Наташу ўсхваляваў званок Борчыка: вось яна рэальная магчымасць авалодаць сэрцам матэрыяльна забяспечанага чалавека. Не бяда, што знешне ён не прынц, якога малявала яна ў сваіх мроях яшчэ дзяўчынкай. Выдавалі ж замуж дзяўчат бацькі раней, не пытаючыся іх згоды — жылі яны, і здаралася, кахаліся. Пакахае і яна. Ёсць за што пакахаць.

Наташа з радасцю дапамагла Борчыку прайсці абследаванне. Выявілася, што Альфрэду трэба ўважліва ставіцца да свайго здароўя.

Борчык пасля абследавання запрасіў Наташу ў рэстаран. У той вечар яна вярнулася дамоў з вялікім букетам руж і з рамантычным настроем. У яе не было сумненняў, што Альфрэд Эдуардавіч сур’езна зацікавіўся ёю.

Іх раман развіваўся бурна. Наташа паводзіла сябе знарок стрымана: ён павінен пераканацца, што яна не якая-небудзь шалахвостка, а дзяўчына цнатлівая, сур’ёзная...

На вяселлі Наташын твар свяціўся ад шчасця. Шлюбны кантракт яна падпісала амаль не чытаючы: што там нейкія дадатковыя ўмовы ў параўнанні з тым, што яна выходзіць замуж за вельмі багатага чалавека. Цяпер не трэба думаць, як размеркаваць грошы ад зарплаты да зарплаты, дый увогуле можна пры жаданні не працаваць. Працу Наташа не пакінула, бо разумела, што ў гэтым выпадку яна абмяжуе сваю свабоду.

У першы месяц іх сумеснага жыцця з Альфрэдам Наташа з задавальненнем адзначыла, што муж не надта цікавіцца тым, як прайшоў яе дзень. Таксама Альфрэд не тэлефанаваў ёй, каб проста паразмаўляць ці пацікавіцца, дзе зараз знаходзіцца жонка і чым займаецца. Звычайна, калі званіў, дык каб паведаміць, што затрымліваецца на працы. І толькі адно засмучала жанчыну: Альфрэд як мужчына не прыносіў ёй той радасці, якую яна зведала калісьці з Андрэем Хруцкім...

## 16

Андрэй Хруцкі крочыў у палату да Борчыка, каб паведаміць яму непрыемную вестку пра Наташын учынак і думаў: «Чаму ўсё гэта адбываецца менавіта са мной? Чыя тут віна? Мая? Борчыка? А, можа, з-за Наташы ўся гэтая калатнеча? Калі паглядзець, хто пацярпеў у гэтай гісторыі, то атрымліваецца, што я і Борчык. Наташу, якая ўсё ж дабілася такога жаданага для сябе багацця, лічыць пацярпелай нельга…»

Борчык моўчкі слухаў Хруцкага, у вачах яго ўспыхвала злосць, і Андрэй адзначыў, што Альфрэд чалавек жорсткі. Хаця, пэўна, такім і павінен быць чалавек бізнесу.

— Вы згаварыліся, — ціха прамовіў Борчык, калі Андрэй Хруцкі змоўк. — Яна ж прыходзіла сюды, сядзела вось тут у крэсле, на якім сядзіш ты. І каго яна бачыла? Андрэя Хруцкага. Ва ўсякім разе бачыла тваё цела і не ведала, што ў гэтым целе пакутуе мая душа. Хто ты, Андрэй? Можа, ты сам д’ябал?

Хруцкі ўздыхнуў, паглядзеў у вочы, якія штодзённа бачыў у люстэрку, сказаў:

— Каюся, не ўсё я табе распавёў. Да таго, як выйсці за цябе замуж, Наташа сустракалася са мною. Я хацеў ажаніцца з ёю. Але яна адмовілася. Наташа марыла пра багацце, і калі я ёй гаварыў, што дастатак мы можам здабыць самі, іранічна адмахвалася… Калі так склаліся абставіны, скажу ўсю праўду да канца. Не вельмі даўно мы выпадкова сустрэліся. Наташа назвала нашу сустрэчу настальгічнай і забараніла мне больш яе непакоіць. А тут гэты выпадак з аварыяй і пераўвасабленнем душы... Яна званіла. Твой тэлефон быў у кішэні і я адказаў. Каб усё растлумачыць, я прапанаваў ёй сустрэцца. Я тады пераканаў яе, што адбылося нешта фантастычнае і невытлумачальнае.

— І вы згаварыліся аблапошыць мяне? — крыва ўсміхнуўся Борчык.

— Гэта абмяркоўвалася, — уздыхнуў Хруцкі. — У нас твой пашпарт, я валодаю тваім подпісам і знешнасцю… Наташа прапанавала ісці да натарыуса і перапісаць увесь твой бізнес і маёмасць на яе. Я адмовіўся. Якое я маю права распараджацца чужым дабром? Я сказаў ёй яшчэ, што ў цябе ёсць і кампаньёны, якія за такое багацце могуць пайсці на крайнія меры. Пэўна, яна спалохалася, таму скрала грошы і ўцякла…

— І ты пайшоў бы ў натарыяльную кантору?

— Яна схіляла мяне да гэтага.

— А хто каго схіляў да інтыму?

Хруцкі пачырванеў і апусціў галаву. Потым паглядзеў у вочы субяседніку і спытаў:

— А чаму гэта цябе так непакоіць? Цябе яна як жанчына не вельмі цікавіць.

— Можа, і так... — ужо сумна ўсміхнуўся Борчык. — Яна і пра гэта табе напляла. Іншая арыентацыя ў майго кампаньёна, ад якога, на жаль, залежыць увесь мой бізнес. Буду і я шчырым: я і ажаніўся толькі таму, каб адбіцца ад яго нястрымных заляцанняў.

— Дык ты не кахаеш Наташу? У вас фіктыўны брак? — выдыхнуў Хруцкі.

— Цяпер можна і так сказаць.

Борчык задумаўся, зморшчыў лоб. Вочы глядзелі кудысьці далёка-далёка і ўжо не бачылі чалавека, які сядзеў насупраць.

«Як жа цікава назіраць за самім сабою», — падумаў Хруцкі. Ён акінуў паглядам палату: усе ложкі пуставалі і толькі на адным каля дзвярэй ляжаў чалавек. Яго нага ў гіпсе была падцягнута ўверх тросікам, вочы заплюшчаны, на лбе блішчэлі кроплі поту. Праз расчыненае акно ў палату заляцела аса, зрабіла некалькі кругоў па палаце і апусцілася на тумбачку якраз насупраць Хруцкага і папаўзла. Хруцкі схапіў газету, што ляжала на суседнім ложку і моцна ляснуў ёй па тумбачцы.

Шум вярнуў Борчыка ў рэальнасць.

— За што забіў божае стварэнне?

— Гэта помста за тое, што аса ўкусіла мяне ў горла, — адказаў Хруцкі.

— Вось як, — здзівіўся Борчык. — І як гэта адбылося?

— Ледзь не праглынуў асу разам з сокам.

— Ты хацеў яе з’есці. Што ёй заставалася рабіць, як не абараняцца? Цяпер у прыкладна такой сітуацыі знаходзімся мы: зло жадае нас праглынуць. Яно ўжо засмактала нас у сваё горла. Засталося толькі каўтануць і… Трэба ратавацца, а што рабіць, я і не ведаю…

— Пра якое зло і ратаванне вы тут гаворыце? — за спінай Хруцкага стаяла Ганна.

Хруцкі крутнуўся на крэсле і сказаў:

— Мы тут гаворым пра катаклізмы, змяненне клімату і дэфіцыт энергарэсурсаў у свеце… — І тут ён убачыў, што ў Ганны ад здзіўлення павялічыліся вочы і зразумеў, што яму лепей было б маўчаць. Узнікла працяглая паўза, якую парушыў Борчык, звярнуўшыся да жанчына:

— Ганначка, я разумею, табе вельмі дзіўна, што незнаёмы мужчына размаўляе голасам твайго мужа, як і здзівіла цябе тое, што я не так даўно не пазнаў цябе на калідоры. Тут ёсць пэўная прычына. — Борчык зірнуў на Хруцкага. — Андрэй, трэба і ёй расказаць усю праўду.

Хруцкі падняўся з крэсла і, узяўшы Ганну за локаць, мовіў:

— Хадзем на вуліцу, на свежае паветра…

— Няўжо насамрэч такое можа быць? Падобныя сюжэты я бачыла ў кіно, але калі такое робіцца ў жыцці — гэта страшна. — Загаварыла Ганна, выслухаўшы ўсё, што ёй распавёў паўнатвары мужчына з голасам яе мужа Андрэя. — Цяпер я ўспомніла, дзе я вас… цябе бачыла. Ты сядзеў у вялікім цёмным джыпе, каля пад'езда нашага дома.

— Так, я хацеў усё табе расказаць, але мне не хапіла рашучасці… Я баяўся, што ты палічыш мяне вар'ятам.

— А гэтая лялька-чорцік, дзе яна цяпер?

— Пакуль што ў кішэні. Пэўна, араб, які зрабіў мне гэткі падарунак, не хто іншы, як сам д'ябал.

— Нячыстую сілу перамагае сіла святая, — задумліва прамовіла Ганна. — А што, калі пайсці ў царкву?.. Памаліцца, і Боженька пачуе і дапаможа.

— Ты думаеш? — у вачах Андрэя ўспыхнула надзея і пагасла. — Не, неяк ужо надта ж проста. Так не бывае…

— А як бывае? Бывае, што ў складанай задачы вельмі простае рашэнне. Галоўнае, яго знайсці. Пайшлі ў царкву!

— А там, у царкве, скажаш бацюшку, што душа твайго мужа перасялілася ў чужое цела?

— Навошта нам камусьці нешта казаць, мы будзем проста маліцца.

— Ну што ж, паспрабаваць можна, — згадзіўся Андрэй Хруцкі. — Толькі трэба пра гэта сказаць Борчыку. Можа, ён штосьці параіць.

Калі яны выйшлі з бальніцы, Ганна спытала:

— Пешшу пойдзем ці праедзем прыпынак на аўтобусе?

— А для чаго тут стаіць вялікі цёмны джып? — пытаннем на пытанне адказаў Андрэй. — Паехалі.

— Ты што? Машына чужая … — замахала рукамі Ганна.

— Не чужая, а Борчыка. У мяне знешнасць Борчыка, яго дакументы ляжаць у кішэні, а таксама ёсць і вусны дазвол гаспадара.

Машына ехала плаўна, мякка і лёгка.

— Машына — клас! — раптам сказаў Андрэй. — Можа, калі мы адолеем гэту бяду, дык Альфрэд Эдуардавіч возьме мяне асабістым вадзіцелем і дасць высокую зарплату.

— За якія такія заслугі? — сказала Ганна. — За тое, што дапамог чалавеку трапіць у такі крытычны стан? Я думаю, калі ўдасца ўсё паставіць на свае месцы, то Борчык пастараецца адгарадзіцца ад цябе, як ад ліха.

— Можа і так, — пагадзіўся Хруцкі і прапанаваў: — А давай заскочым на рынак — пакуль ён яшчэ працуе, і купім Юльцы яе любімых бананаў і мёду.

— Божа, — сумна ўздыхнула Ганна, — як жа ты, падобны на сябе, Андрэй, а знешнасць… Я ніколі не змагу да яе прывыкнуць.

Блізіўся час заканчэння працоўнага дня, аднак на рынку было мнагалюдна. Ганна выбрала бананы, а калі падышлі да гандляроў мёду, то разгубіліся: яны наперабой прапаноўвалі і расхвальвалі свой тавар.

— Вы толькі пакаштуйце, — зняўшы накрыўку з трохлітровага слоіка і калупнуўшы драўлянай лыжкай мёд, казала паўнацелая кабета, — сакавіты, духмяны, так і растае ў роце…

У гэты момант паміж Ганнай і Андрэем праціснуўся мужчына ў шэрым, доўгім — амаль да пят — плашчы і запусціў свой брудны ўчарнелы палец у слоік з мёдам, потым аблізаўшы мёд з пальца, адышоў ад прылаўка і яго высокая, худая постаць павольна паплыла між радамі.

— Трэба было стукнуць лыжкай у лоб нахабніку, — сказаў Хруцкі.

— Што вы, — замахала рукамі кабета. — Гэта ж Восіп Камяніцкі — блазан… Ён можа сказаць такое… А потым сказанае збываецца. Вось у жанчыны схапіў банан, дык тая аблаяла яго апошнімі словамі, а ён ёй: «Малака ў тваіх грудзях больш не будзе, будзе чорная кроў». Так яно і атрымалася: адрэзалі хірургі ёй грудзі.

Калі Хруцкія вярнуліся да машыны, то ўбачылі, што высокі чалавек у плашчы разглядвае і гладзіць рукамі бліскучае крыло машыны.

— А-ну, любіцель мёду, адвалі! — рашуча адпіхнуў бадзягу Хруцкі.

Блазан адступіўся на колькі крокаў ад джыпа і стаў моўчкі глядзець на Хруцкага, а калі той сеў за руль і шкло ў дзвярах павольна і плаўна апусцілася, бадзяга падбег да машыны і хутка пракрычаў:

— Зло ўкралі, але яно не адступіцца, не пакіне цябе!..

— Андрэй, паехалі! — усклікнула Ганна, і Хруцкі націснуў на педаль газу.

Калі ішлі ад машыны да варот царквы, Хруцкі спыніўся і прамовіў:

— Як я забыўся? Лялечнага чорта трэба было пакінуць у машыне… Хоць і лялечнага, а нячысціка нельга несці ў святое месца. — Ён апусціў руку ў кішэню, але там было пуста. — Дзіва. Знікла лялька…

— Укралі на рынку, — сказала Ганна. — Дык вось пра якое зло плёў блазан.

У царкве было ціха і пуста. Панаваў паўзмрок.

— Вунь вялікае распяцце Хрыста, — шапнула Ганна Андрэю. — Ідзі і прасі яго, каб дапамог. А я буду маліцца Дзеве Марыі.

## 17

Злодзей Мікола Новікаў быў пануры і злы: цэлы дзень аціраўся на рынку, вышукваючы ахвяру-разяву. Маладая жанчына, якая трымала за руку дзяўчынку гадоў пяці, аддаўшы грошы за мяса, паклала кашалёк у валізу, следам за пакетам з пакупкамі. У дзвярах рынка, дзе было цесна ад людзей, Новікаў лоўка выцягнуў кашалёк з валізы і хутка сышоў у небяспечнае месца. Рашпіліў кашалёк, а там не грошы — драбяза. Прыйшлося вяртацца, каб зноў рызыкаваць.

Мужчына ў шыкоўным касцюме і маладая стройная жанчына адразу прыцягнулі яго ўвагу.

«Пэўна, багатыя», — падумаў злодзей і здзівіўся, калі жанчына сама заплаціла за пакупкі.

Правая кішэня ў пінжаку багатага мужчыны завабліва тапырылася, і Новікаў падумаў, што там ляжыць кашалёк, туга набіты грашыма, а кабета заплаціла дробязь, каб муж не даставаў свае грошы. І тут раптам побач з парай аказаўся блазан Восіп: у злодзея з'явілася магчымасць засунуць доўгія пальцы ў кішэню мужчыны... Выцягнуў штосьці мяккае: ляльку. Ды якую! Нібыта забаўляўся, пацвельваў лёс над Міколам Новікавым. Таму і сядзеў злы злодзей у палатцы з надпісам «Аліварыя» і піў піва, на якое ледзь нашкроб з кашалька маладой жанчыны.

Новікаў ужо двойчы пабываў у турме і двойчы за крадзяжы. Але свой занятак — красці — не спыніў.

Рабіць яму не было чаго, ён узяў ляльку ў руку. Падалося, што лялька падміргнула яму і яе вочы ўспыхнулі чырвоным святлом. Пальцамі ён націснуў ёй на жывот: можа, на батарэйках, хоць запішчыць, ці засмяецца — ёсць жа такія лялькі.

— Ой, не трэба... — пачуў Новікаў і ад здзіўлення ажно ўвабраў галаву ў плечы. За столікам ён сядзеў адзін, а за суседнім, самым блізкім да яго — дзве мілавідныя кабеты. Яны штосьці горача абмяркоўвалі. Адна з іх зняла сумачку, якая вісела на спінцы крэсла, паставіла на стол і, расшпіліўшы яе, пачала штосьці шукаць.

Новікаў выцягнуў шыю і — о дзіва! — у сумачцы ён убачыў грошы — долары і нашы.

Жанчына дастала з сумачкі памаду і люстэрка, падфарбавала вусны, потым паклала іх на месца, шчоўкнула замком. Сумачка засталася на стале і ў ёй як на нейкім чароўным экране злодзей бачыў грошы...

Праз нейкі час Новікаў адарваў пагляд ад сумачкі і паглядзеў у бок барнай стойкі. Каля яе стаяў плячысты мужчына і праз заднюю кішэню яго джынсаў Новікаў убачыў перакладзеныя напалам грашовыя купюры.

Тым часам жанчыны ўсталі з-за стала і пайшлі да выхаду. Сумачка, перакінутая цераз плячо бландзінкі, пачала аддаляцца, а разам з ёю аддаляўся і пачак з грашыма. Новікаў праводзіў сумачку зачараваным паглядам, а калі за дамамі зачыніліся дзверы, усхапіўся і кінуўся следам.

Да століка, за якім сядзеў злодзей, падышла афіцыянтка, каб прыбраць бутэльку, і ўбачыла ляльку, якая заставалася сіратліва сядзець каля пустой пляшкі.

— Глядзі, якая рэч! — падала яна чорціка бармэну. — Відаць, кліент забыўся.

— Файная лялька, — цмокнуў вуснамі круглатвары бармэн. — Давай я яе пачаплю вось тут пад люстэркам. Няхай палохае дзяўчат...

Мікола Новікаў ішоў воддаль за жанчынамі. Тыя пра штосьці гаварылі. Неўзабаве яны выйшлі на аўтобусны прыпынак, на якім было шмат людзей.

У Новікава перахапіла дыханне: куды б ён ні зірнуў — усюды бачыў грошы. Каля газетнага шапіка стаяла вабная крыху паўнаватая маладзіца. Злодзей затрымаў на ёй свой позірк, каб не бачыць грошы, якія выпіралі з кішэняў і сумачак і, здаецца, так і прасіліся: вось мы, тут — вазьмі нас… Новікаў паглядзеў на дзябёлую кабету, на яе прыгожы бюст і ўбачыў грошы... Грошы яму бачыліся паўсюль... Яму захацелася завыць ваўком: такога раней з ім не было.

«Нейкае вар'яцтва, — ажно застагнаў ён. — Хто ж утварыў такое са мной?»

Да прыпынку пад'ехаў тралейбус, размаляваны рознымі рэкламамі. Людзі дружна пасунуліся да дзвярэй. Кабеты, за якімі Новікаў ішоў ад кафэ, ужо ўвайшлі ў салон. І ён схамянуўся, заскочыў следам.

Высокая хударлявая брунетка-кандуктар, прывычна працуючы тулавам, спрытна прадзіралася між пасажырамі. Новікаў сунуўся за ёй і спыніўся акурат за спінай бландзінкі. Сумачка вісла ў яе на плячы, але кабета правай рукой надзейна прыціскала яе да таліі, а левай трымалася за парэнчу.

«Почапку можна абрэзаць, але што толку, — думаў злодзей. — Нават пры выхадзе з тралейбуса дама можа не адпусціць прыціснутую да сумачкі руку, ды і забраць яе непрыкметна наўрад ці ўдасца».

Праз два прыпынкі жанчына выйшла з тралейбуса. Выйшаў за ёй і Новікаў, але следам не пайшоў. Стаяў, наўцямна кідаючы пагляды на прахожых, і паўсюль бачыў грошы, грошы, грошы… Галава закружылася і, каб не ўпасці, ён адышоў убок, прысеў на лаўку пад каржакаватым каштанам...

## 18

— Ну, лягчэй у цябе стала на душы? — спытала Ганна ў Хруцкага, калі яны выйшлі з царквы.

— Не ведаю, яшчэ не разумею, — няпэўна адказаў Андрэй. — Ёсць нейкая разгубленасць ці збянтэжанасць. Я ж ніколі не маліўся ў царкве.

— Адной малітвы мала, — шматзначна сказала Ганна і змоўкла.

— Ганна, — сказаў Андрэй, — давай вернемся да нашых зямных спраў: што будзем рабіць далей?

Жанчына з сумам паглядзела на Хруцкага. Вось ён побач, чалавек, якога яна пакахала, за якога выйшла замуж, нарадзіла яму дзіця. У яго цяпер іншае аблічча, незнаёмае, ёй чужое, і ўсё ж адчуваецца штосьці такое блізкае, роднае… Вось яна, сапраўдная сіла чалавечай душы: «Ведаеш, Андрэй, мы ўсёткі не можам жыць разам… Ну, пакуль ты ў чужым абліччы. Што падумаюць суседзі? А Юлька?»

— Разумею, — хутка адказаў Хруцкі. — Я буду жыць у кватэры Борчыка. Ён дазволіў мне.

— Добры гэты Борчык. На машыне — катайся. У кватэры — жыві, — Ганна зірнула ў вочы Хруцкаму і прамовіла: — Андрэй, давай мы, як кажуць, паставім усе кропкі над «і». Скажы мне, хто такая Наташа? Кім яна даводзіцца табе? Ты аднойчы ноччу назваў мяне гэтым імем…

Хруцкі цяжка ўздыхнуў.

— Што маўчыш? Праўда ачышчае душу…

— Ці не занадта многа мы сёння гаворым пра душу, — з лёгкім раздражненнем прамовіў Хруцкі.

— Андрэй, чаму, калі я спрабую пагаварыць з табою шчыра, ты пачынаеш злавацца?

— Ды не злуюся я… Добра… Наташа — гэта жанчына, з якою я сустракаўся да знаёмства з табою. Цяпер яна  жонка Альфрэда Борчыка. Яна марыла пра багацце і дабілася яго: Альфрэд вельмі багаты. Ёй трэба багацце, а не Альфрэд.

— І як гэта высветлілася?

— Яна скрала ў яго вялікую суму грошай і з’ехала…

— Кінула мужа ў такой бядзе і нават абакрала яго, — задумліва прамовіла Ганна.

— Борчык сказаў, што іх шлюб фіктыўны: яму чамусьці трэба было тэрмінова ажаніцца — гэта не мая справа, — а тут падвярнулася Наташа.

— Добра, што гэта жанчына знікла. Цяпер можна будзе спадзявацца на лепшае, — адзначыла Ганна.

Хруцкі адвёз жонку дамоў і паехаў на Борчыкаву кватэру. Прыпаркаваў машыну ля пад’езда, але ісці ў кватэру яму не хацелася. Непадалёк убачыў кафэ-палатку з надпісам «Аліварыя». Вырашыў зайсці ў яе і паснедаць.

За барнай стойкай гаспадарыў круглатвары цельпукаваты бармэн. Хруцкі замовіў шашлык, салату і піва. Агледзеў залу, выбіраючы столік. У вялікім люстэрку ўбачыў сваё адлюстраванне. Зморшчыў твар і раптам над люстэркам заўважыў ляльку-чорціка акурат такую, якая зусім нядаўна ляжала ў кішэні ягонага пінжака.

— Паслухайце, — звярнуўся ён да бармэна. — Дзе вы набылі гэтую дзіўную ляльку? — Ён кіўнуў галавой на люстэрка.

— А, гэта сёння нейкі дзівак забыўся за столікам, а, можа, спецыяльна пакінуў — вось мы вызначылі з Ірынай (ён паказаў на стройную афі-

цыянтку) гэтаму гаспадару пекла месца пад люстэркам, каб ён палохаў дзяўчат.

— І праўда, можна спалохацца, — сказала Ірына. — У яго такія вочы… Яны нібыта жывыя…

— Гэта мая ляль… — пачаў гаварыць Хруцкі, як у гэты момант ля барнай стойкі з'явіўся каржакаваты, каротка пастрыжаны мужчына і, звяртаючыся да бармэна з афіцыянткай, хутка прамовіў:

— Я тут забыўся ляльку-чорціка — дзе яна?

— Вунь вісіць, — бармэн паказаў рукой.

Злодзей Новікаў працягнуў руку да лялькі, але ў гэты момант Хруцкі схапіў яго за запясце рукі:

— Пачакай, братка, трэба разабрацца, каму належыць гэты д'ябал.

— Што за такі дурны сёння дзень? — Новікаў злосна скасавурыў пукатыя вочы на Хруцкага.

Хруцкі зняў ляльку і, не адпускаючы руку Новікава, прапанаваў яму:

— Сядзем, вып'ем, пагаворым…

— Чаму б і не, — адгукнуўся Новікаў. Са свайго вопыту ён ведаў, што пакуль яго не схапілі за руку ў той момант, калі крадзеш, хваляваацца няма чаго, тым болей, што гэты сыты дзяцюк прапануе выпіць.

Хруцкі паклікаў афіцыянтку. Хутка на стале з'явіліся гарэлка і закуска. Мужчыны выпілі, Новікаў зірнуў у твар Хруцкаму:

— Дык кажаш, што твая лялька… Я знайшоў яе на рынку.

— Такія, як ты, не знаходзяць, такія — крадуць, — пасміхнуўся Хруцкі. — А ты ведаеш, што гэта лялька незвычайная?

— Не так даўно здагадаўся… Таму і вярнуўся па яе.

— З табой адбылося штосьці неверагоднае? — Хруцкі наліў гарэлку ў шклянкі.

Новікаў праглынуў сваю порцыю адным глытком, крыху адпіў таматнага соку:

— Я бачу грошы, як дактары бачаць вантробы чалавека на рэнтгене. Хочаш, скажу, дзе ў цябе ляжаць грошы?

— Не трэба. Веру…

— А што ён зрабіў з табой? — Новікаў хітнуў на ляльку, Хруцкі прыхінуў яе да вазы, у якой стаялі штучныя кветкі.

— Язык не паварочваецца гаварыць… Дык ты што, хочаш забраць яе? Думаеш, яна будзе выконваць твае жаданні?

Новікаў маўчаў.

— Я думаю, яна сама павінна выбраць кагосці з нас, — крыху памаўчаўшы сказаў Хруцкі. Ён крануў ляльку-чорціка за плячо. — Ну, выбірай сабе гаспадара ці, можа, ахвяру…

Новікаў уталопіўся на ляльку. Яму падалося, што чорцік падміргнуў яму вокам, і злодзей падміргнуў у адказ.

Хруцкі ж адкінуўся на спінку крэсла і заплюшчыў вочы. Вусны яго штосьці бязгучна шапталі: «Божа, даруй мне мае грахі. Дапамажы». Раптам цела яго стала калаціцца і ён упаў на падлогу.

— Вой, што з ім?! — спалохана ўскрыкнула афіцыянтка.

— Эпілепсія, — спакойна прамовіў вусаты мужчына, які сядзеў за суседнім столікам. — Яго трэба трымаць.

Новікаў кінуўся Хруцкаму на ногі, а вусаты дзяцюк наваліўся на тулава і рукой прыціснуў яго галаву да падлогі.

Канвульсіі цела Хруцкага пачалі слабець. Тым часам Новікаў з кішэні штаноў Хруцкага непрыкметна выцягнуў грошы і пераклаў у сваю кішэню. Калі Хруцкі знерухомеў, Новікаў узняўся з падлогі, забраў ляльку са стала і сышоў.

Бармэн паднёс да носа Хруцкага бутэлечку з нашатыром. Хруцкі нюхнуў і расплюшчыў вочы. Бармэн дапамог яму падняцца і сесці ў крэсла. Праз імгненне Андрэй здзіўлена агледзеў памяшканне і спытаў:

— Дзе гэта я? А куды падзеліся ложкі.

— Во дае! — зарагатаў вусаты мужчына. — Пэўна, думае, што патрапіў у гасцініцу.

— Я быў у бальніцы... Як я тут апынуўся?

— Іра! — крыкнуў бармэн. — Звані ў псіхушку.

— Якую псіхушку? — махнула рукой афіцыянтка. — Ён камедыю ламае, каб не аплачваць рахунак за заказ. — Яна падышла да Хруцкага. — Разлічыцеся, калі ласка.

— Я тут нешта заказваў?

— Я заказвала. І выпівала, і закусвала...

Хруцкі расшпіліў пінжак, апусціў руку ў кішэнь і дастаў партманет:

— Вось картка. Ёсць тут побач банкамат?

— Канешне, ёсць, — сказала афіцыянтка.

## Замест эпілога

Халодны вецер коціць цераз дарогу ўчарнелую лістоту. Падмёрзлая, яна неахвотна сунецца па шэрым асфальце, і калі б не гул машын, то можна б пачуць, як яна пагрымлівае-звініць.

Каля газетнага шапіка стаіць жанчына ў скураным паліто і глядзіць то на дамы, то на плынь машын, то на людзей, якія снуюць побач. Яна хвіліну як сышла з цягніка, і калі яшчэ зусім нядаўна ехала ў цёплым камфортным вагоне, то марыла, што хутка будзе дома, у бацькоў, якіх не бачыла амаль два гады. Але цяпер, калі ад сустрэчы з роднымі яе аддзялялі толькі два аўтобусныя прыпынкі, яна спынілася, стаяла і глядзела на вячэрні горад, які любіла з малых гадоў.

Наталля Борчык, пасля сваіх уцёкаў з мужавымі грашыма, патэлефанавала бацькам толькі месяц таму. І маці, калі пачула голас дачкі, заплакала. А потым, супакоіўшыся, пачала распавядаць дачцэ пра падзеі, што адбыліся за той час, пакуль тая адсутнічала: «Наташа, штосьці дзіўнае ўтварылася з тваім мужам: ён закінуў бізнес, з’ехаў у Літву і там перабудоўвае свой катэдж на каталіцкі храм, — маці жаласліва ўздыхнула. — Няўжо так на яго падзейнічалі твае ўцёкі? Ён прыходзіў да нас. Казаў, што не трымае на цябе крыўды і прасіў, каб ты, калі з’явішся, прыехала да яго альбо хаця б патэлефанавала. Бачыла я і Андрэя, з якім ты сустракалася да замужжа. Ён, напэўна, нейкім чынам разбагацеў, бо машына ў яго, відаць, вельмі ж дарагая і надта ж падобная да шыкоўнага аўто, у якім калісьці ездзіў твой муж. Зусім нядаўна ў яго нарадзіўся сынок...»

«Божа, а я ж хавалася, баялася нават патэлефанаваць родным і ўсё з-за гэтых нікчэмных паперак-банкнот, — думала Наташа. — Што яны мне далі? Няма сапраўднай сям’і, няма кахання. Не было нават радзімы...»

Яна зірнула на невялікіх памераў сумку, якую трымала ў правай руцэ. У сумцы былі яе асабістыя рэчы і сто тысяч долараў, якія хацела перадаць

бацькам у падарунак на бязбедную старасць. Яна разумела, што бацькі могуць адмовіцца ад грошай і ў такім выпадку вырашыла прасіць іх, каб узялі гэтую суму на захаванне.

Непадалёк ад Наташы, прыхінуўшыся плячом да слупа, на якім вісела шыльда з раскладам руху аўтобусаў, стаяў каржакаваты мужчына і курыў. Ён, пэўна, чакаў патрэбны яму аўтобус і зрэдку паглядаў на Наташу.

Наташа вырашыла да бацькоўскага дома прайсці пешшу: радасць жаданай сустрэчы раптам пачала азмрочваць роспач: бацькі ўсё ж выкажуць ёй шмат непрыемнага... Хаця ёсць за што.

Калі пераходзіла дарожнае скрыжаванне, недзе ззаду пачула рэзкі скрыгат тармазоў. Азірнулася. Нічога незвычайнага не заўважыла, вось толькі падалося, што мужчыну, які крочыў воддаль за ёй, яна ўжо недзе бачыла. На наступным скрыжаванні яна звярнула направа і яшчэ раз азірнулася, каб паглядзець, ці знік той мужчына. Каржакаваты дзяцюк крочыў следам.

«Гэта ж той мужчына, што курыў каля слупа, — мільганула згадка. — Чаму ж ён не дачакаўся аўтобуса? Ён мэтанакіравана рухаецца за мной...»

Наташа спалохалася і ёй захацелася пабегчы, але стрымалася, толькі крыху паскорыла хаду. Зусім блізка ад яе ўжо быў наступны аўтобусны прыпынак. Воддаль ад яго стаяла таксоўка і Наташа вырашыла пакарыстацца яе паслугамі. Калі падыходзіла да машыны, азірнулася яшчэ раз і ўбачыла, што мужчына ўжо бяжыць. Раптам ён спыніўся, нібыта наляцеў на нейкую перашкоду, хаця перад ім нікога і нічога не было. Падалося, што нейкая невядомая сіла штурхнула яго назад і ён упаў спінай на тратуар, знерухомеў.

Да небаракі падышла нейкая жанчына. Потым — двое мужчын. Вадзіцель таксоўкі выглянуў з-за машыны і спытаў у Наташы:

— Што там адбылося?

— Бег і раптам упаў, — няўцямна адказала яна.

Таксіст заспяшаўся да месца здарэння. Наташа, пераадолеўшы страх, падалася следам.

Да мужчыны, які ляжаў на тратуары, нахіліўся міліцыянер, які выскачыў з міліцэйскай легкавушкі, што раптам з’явілася тут. Следам падышоў другі:

— Ну што?

— Мёртвы.

— Пашукай дакументы.

Міліцыянер пачаў абшукваць кішэні нябожчыка. Урэшце сказаў:

— Дакументаў пры ім няма. Толькі сцізорык кішэнны, востры, як лязо, ды вось гэтая дзіўная лялька.

Усе прысутныя глядзелі на ляльку-чорціка, а тая нібыта бліснула-міргнула ім чырвонымі вочкамі...



Марыя КОБЕЦ

# ПАДАРЫ МНЕ Ў НАРОДЗІНЫ НЕБА

* * *

Мне здаецца — так мала мне трэба.
Я не прагну раскошаў зямных.
Падары мне ў народзіны неба,
Адно неба з табой на дваіх.
Там калышуцца мроі ў аблоках
Пад загадкавых зорак матыў.
Падымі да вышыняў высокіх,
І скажы мне: «Найлепшая — Ты!»

Так сцаліш мяне. Мабыць, не позна.
Таямніцай прычасця к сабе
Уратуй жа! Свет гэтакі злосны!
Прымушае ўсміхацца ў журбе,
Прымушае чарсцвець і мірыцца
З абыякавым светам людзей.
Падары ж мне! Я стану сініцай —
Птушкай шчасця ручной для цябе.

Мне здаецца — так мала мне трэба!
Толькі тое, што ў многіх, спазнаць.
Падары мне ў народзіны неба.
Я пад ім навучуся лунаць.

---

***Кобец Марыя Уладзіміраўна*** *нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскае медыцынскае вучылішча (1994). Працавала загадчыцай Валішчанскага фельчарска-акушэрскага пункта, дырэктарам Валішчанскага сельскага Дома культуры. Цяпер — рэдактар аддзела навін карэспандэнцкага пункта г. Пінска РУП РТЦ «Тэлерадыёкампанія «Брэст». Студэнка IV курса Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкавалася ў розных перыядычных выданнях краіны. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі» (2011), член Саюза пісьменнікаў Беларусі (2011), лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка (2012).*

* * *

Ападаюць першыя лісты.
Восень ціха падае на косы.
Так згараюць хісткія масты,
Што калісьці прадракалі вёсны.
Углядацца ў неба не з рукі,
Бо юнацтва болей не пакліча.
І ў сцэнар маёвы, караткі,
Не ўпісаць ужо майго аблічча.

* * *

Даруй мне, Божа, мой сляпы сумнеў,
Мае памылкі, крыўды ад адчаю.
Даруй і тым, хто прыніжаў мяне,
Я ім, хоць цяжка, усё-ткі прабачаю.

Ты бачыш, Божа, я не ў сілах больш,
Хадой па шкле скрываўленыя ногі…
Я заслужыла... Не адмоўлю. Усё ж,
Куды мяне вядуць твае дарогі?

Не дай, Усявышні, мне зняверыцца, прашу!
Не дай упасці ў шлях непратаптаны.
Ты ж чуеш маю грэшную душу,
Калі малюся кожны дзень аддана:
Даруй мне, Божа, мой сляпы сумнеў,
Маё нявер’е і бездапаможнасць.
Я ўсё прыму: твой справядлівы гнеў
І нават тое, што стрываць няможна.



Уладзімір ДАНІЛЕНКА

# СОНЕЙКА МАЁ, ЧОРНАЕ І КАЛМАТАЕ

*Аповесць*

## Вярба Ая

Іхто б мог падумаць, што праз тры гады беспрацоўя, мой бацька нарэшце знойдзе работу, за якую яму будуць плаціць прыстойныя грошы. Хаця знайшоў яе ён не сам, а выпрасіла баба Соля. Завуць майго бацьку Яўген Луньё. Ён — піяніст, музыкант не ад свету гэтага, як любіць казаць мама. Хаця баба Соля ў такіх выпадках не забываецца і ўшчыкнуць:

— Ліля, пра што ты гаворыш? У яго розум пяцігадовага дзіцяці.

Ліля — гэта мая мама. Яна выкладае нямецкую мову ў лінгвістычным універсітэце, мае чвэрць стаўкі ва ўніверсітэце Шаўчэнкі, вечарамі вядзе моўныя курсы ў Інстытуце Гётэ, падпрацоўвае рэпетытарам і перакладчыкам, калі ў Кабмін прыязджаюць нямецкія палітыкі і бізнесмены, і піша доктарскую дысертацыю. Мая мама — высокая стройная брунетка. У яе вялікія карыя вочы на паўтвару, і калі хтосьці ўпершыню на яе паглядзеў, то бачыць толькі яе вочы. Хаця ўсё астатняе ў яе таксама добрае, як часам любіць пасмяяцца з гэтай нагоды Аліса Цыцалюк.

---

*__Даніленка Уладзімір Рыгоравіч__ нарадзіўся 13 верасня 1959 г. у сяле Туравец Жытомірскай вобласці (Украіна). Скончыў Жытомірскі будаўнічы тэхнікум. У 1985 г. скончыў філалагічны факультэт Жытомірскага педагагічнага інстытута, у 1993 г. — аспірантуру Інстытута літаратуры ім. Т. Шаўчэнкі НАН Украіны. Працаваў настаўнікам украінскай мовы і літаратуры, загадчыкам аддзела культуры Жытомірскага гарвыканкама, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Слово і час», выкладчыкам кафедры перыядычнай прэсы Інстытута журналістыкі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта ім. Т. Шаўчэнкі, галоўным спецыялістам Сакратарыяту Кабінета Міністраў Украіны, дацэнтам кафедры інфармацыйнай палітыкі Нацыянальнай акадэміі Дзяржаўнага кіравання пры Прэзідэнце Украіны, дацэнтам кафедры журналістыкі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Украіны.*

*Аўтар кніг «Горад Ціравіван» (2001), «Струнны квартэт для сабак» (2006), «Сон з дзюбы стрыжа» (2006), «Лесаруб у пустэльні» (2008), «Газэлі беднага Рэмзі» (2008), «Каханне ў стылі барока» (2009), «Капялюш Сікорскага» (2010), «Цені ў маёнтку Тарноўскіх» (2012), «Навальніцы над Тураўцам» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі гумару і сатыры (1993), літаратурных прэмій «Благавест» (1999), ім. Івана Агіенкі (1999), Усеўкраінскага конкурсу радыёп'есы (2007), літаратурных часопісаў «Кур'єр Кривбасу» (2005), «Березіль» (2010), «Кур'єр Кривбасу» (2013), прэміі Валерыя Шаўчука (2013).*

Мой бацька, вядома, той яшчэ фрукт. Усе лічаць, што ён — выдатны піяніст, але пры гэтым у яго прасторавы ідыятызм, ён не запамінае імёны людзей, і ніколі нічога не чуе. Калі мама адпраўляе яго ў магазін, то шмат разоў паўтарае:

— Возьмеш тры пакеты малака, хлеб, булку, пачак солі, імбір, смятану, сухі корм і сіліконавы напаўняльнік для кацяняці.

Бацька збіраецца, і ўжо ў дзвярах яна яго перапытвае:

— Паўтары, што павінен купіць.

— Малако, хлеб і запалкі, — няўпэўнена мармыча ён.

— Вось, бачыш, — дакарае яна. — Зноў нічога не слухаеш. Пра што ты думаеш?

— Ды слухаю я, — адказвае сярдзіта.

— Ну дзе ж ты слухаеш, калі нічога не запомніў.

Мама запісвае яму ўсё на паперцы, якую ён па дарозе разгублена выкідае ў сметніцу, і ўжо з магазіна тэлефануе і здзіўлена пытаецца:

— Дык што ты хацела, каб я купіў?

Яна злуецца, зноў паўтарае і чакае, калі ён вернецца. Нарэшце бацька вяртаецца. Да яго адразу падыходзіць Бахус, трэцца аб штаны і абнюхвае пакет з пакупкамі.

— Ты купіў кату напаўняльнік і сухі корм?

— Ай, а кату забыўся, — вінавата бармоча і корпаецца ў пакетах.

— Давядзецца ісці яшчэ раз, — кажа мама. — Няхай Слаўко збегае, бо як пойдзеш, яшчэ заблукаеш.

— Што я ўжо зусім страціў розум? — сапе і парываецца выйсці на вуліцу, але мама яго спыняе.

— У Слаўко гэта атрымаецца хутчэй.

Яна выкладвае пакупкі ў лядоўню, а я іду ў «Вялікую кішэню» на Барыспальскай, там ёсць заакрама «Дай лапу!», купляю Бахусу сухі корм і сіліконавы напаўняльнік для яго прыбіральні.

Слаўко — гэта я, а Бахус — наш чорны калматы кот. Бацька яго назваў так, бо ён выпівае ўсю нашу валяр'янку. Адчыняе носам у шафе-купэ дзверы, залазіць на паліцу з лекамі, скідае пляшачку з валяр'янкаю, заціскае лапамі, адкручвае зубамі і ліжа языком, пакуль не высмакча да дна, а пасля гэтага задаволена качаецца на дыване.

— Ты, п'янюга, нашто валяр'янку выхлябтаў?!

Бахус закатвае вочы, задзірае лапы і падоўгу ляжыць у поўнай прастрацыі. Калі б Бахус быў чалавекам, то гэта было б для сям'і вялікай карай. Напэўна, штодня прыходзіў бы дадому п'яны. Хаця баба Соля найвялікшай карай лічыць бацьку. Яна гаворыць, што яго цікавяць толькі музыка, мама і я. Усё іншае ён не заўважае і прапускае міма вушэй, бо і яны яму, як кажа баба Соля, зусім не патрэбны. Як бачыце, у сістэме бацькавых каштоўнасцей я займаю ўсяго трэцюю прыступку.

Мы жывём у старым будынку на Нова-Дарніцкай, а бацькава работа месціцца на Шаўкавічнай у кавярні «Стары раяль». Далекавата, што ні кажы. Калі пад вечар ён упершыню туды збіраўся, то апрануў адпрасаваны мамай фрак, святочную кашулю, бабачку і выйшаў з дому. Гэта было так пасвяточнаму і нязвыкла для нашай сям'і, што я паехаў разам з ім. Ехалі мы маршруткай, а потым на метро. На Шаўкавічнай ён падвёў мяне да невялікага скручанага дрэва.

— Бачыш? Гэта вярба Ая. Яна сімвалізуе вечнае каханне.

— Як у цябе з мамай?

— Як у мяне з мамай! — хітнуў галавой.

Вярба нагадвала сплеценыя абручы, як на вясельных лімузінах. Дрэва расло ля шэрага будынка, у якім жыў некалі Аляксандр Даўжэнка, а праз дарогу — кавярня «Стары раяль».

Мы перайшлі на другі бок Шаўкавічнай. «Стары раяль» меў авальны дах з нотамі над дзвярыма. Кавярня размешчана ў будынку крэмавага колеру са старымі балконамі. Па абодва бакі дарожкі, каля дзвярэй, стаялі каменныя вазы, у якіх квітнелі аксаміткі. Увесь будынак быў аблеплены аўтамабілямі. Шаўкавічная ўпіралася ў Вярхоўную Раду, і з кавярні быў відаць шкляны купал на шэрым будынку.

Бацька спыніўся каля каменнай вазы, павярнуўся да мяне тварам і, здзіўлена пазіраючы ў вочы, заклапочана спытаў:

— Паглядзі, ці не тырчаць у мяне з носа валасы.

— Тырчаць, як у ката вусы.

Ён незадаволена засоп, і пачаў рабіць пальцамі нейкія маніпуляцыі. Мне падалося, што ён калупаецца ў носе.

— Перастань! Што ты робіш?! — сарамліва азірнуўся я.

— Запіхваю ў нос валасы.

— А чаму ты іх не выдзераш?

— Бо баліць.

Нарэшце ён прывёў у парадак свой нос, паправіў гальштук і адчыніў дзверы. У кавярні да нас падышла сімпатычная афіцыянтка. І бацька сказаў:

— Гэта мой сын Слаўко. Яму марожанае за мой кошт, калі ласка.

Ён выпіў, апусціў рукі на клавішы і пачаў граць. Гэта было так прыгожа. Усе парачкі і кампаніі, што сядзелі за стойкамі, зачаравана слухалі жывую музыку. Калі сцямнела, бацька адправіў мяне дадому, а сам застаўся ў кавярні. Пасля таго першага дня яго работы я заходзіў з ім у кавярню «Стары раяль» шмат разоў, і мяне там ужо добра ведалі афіцыянты і пастаянныя наведвальнікі. І я быў задаволены, што ў нас усё так добра наладзілася.

І найбольшым святам у сям’і стаў першы дзень яго заробку. Мама купіла велізарны кавун, вінаград, дыню, якія я ледзь дацягнуў з «Вялікай кішэні». Прыгатавала фаршыраванага шчупака і запрасіла на вячэру нашу суседку і сваю саму блізкую сяброўку Алісу Цыцалюк.

Калі стол быў накрыты, прыйшоў бацька з пляшкаю «Чорнага палкоўніка», мы ўселіся за стол, ён разліў віно, нават трохі выдзеліў мне, і сказаў:

— Давайце вып’ем за тое, каб такія вечары былі ў нас штомесяц, і каб праходзіла Анфіса, мы пілі віно і цешыліся простымі радасцямі жыцця.

Ад святочнага ўзбуджэння мы пачалі ва ўвесь голас смяяцца.

— Божа мой, якая Анфіса?! — пырскнула мама. — Аліса! За колькі гадоў не можаш запомніць.

— Але ж усе ведаюць, каго я меў на ўвазе, — адказаў бацька.

— А яшчэ ён называе мяне Алінаю, Альбінаю, Альвінаю, — пачаркавалася з ім Аліса Цыцалюк.

Мы сядзелі за сталом, елі кавун, дыню і вінаград, а потым мама запаліла свечкі, выключыла святло, бацька сеў за піяніна і пачаў іграць. Ад гэтага Аліса засумавала, а ў мамы горача заблішчэлі вочы.

Мама адчыніла ўсе вокны і балкон. Быў спякотны чэрвеньскі вечар. У кватэры было душна. Я пазіраў скрозь акно на заліты агнямі горад і бачыў, як трымціць паветра ад таго, што яго аддае нагрэтая за дзень зямля. У небе, павернуты рожкамі на поўдзень, вісеў маладзік. Мы задыхаліся ад спёкі, быццам гэты вечар быў не ў Кіеве, а ў Кабуле. Над нашым будынкам праходзіла

нябесная траса, па якой, пабліскваючы агнямі, ляцелі вячэрнія самалёты. За вокнамі стракаталі цвыркуны. У ліпкім ад спёкі паветры глуха клацалі аўтамабільныя дзверцы. Я піў шмат вады і не мог напіцца. Над вулічнымі ліхтарамі кружылі начныя матылькі, што было адзінай рэальнасцю, якая не дазваляла паверыць, быццам гэтая асветленая ліхтарамі вуліца — не дэкарацыі тэатральнай пастаноўкі, а сапраўдны гарадскі краявід.

— Штосьці Аліса засумавала, — сказала мама, разліваючы віно. — Давайце я ёй штосьці вясёлае раскажу. Напрыклад, як мой Луньё спяваў пад маім балконам рамансы, калі я была яшчэ дзяўчынаю.

— А што, ён і на такое здатны? — здзіўлена заламаліся бровы Алісы Цыцалюк.

— І не толькі на такое! — засмяялася мама і пачала расказваць гісторыю, якую я чуў неаднойчы.

## Рамансы за канаваю

Не люблю, калі расказваюць тое, што я ўжо шмат разоў чуў. Яшчэ калі слухаеш гэта другі ці трэці раз, але ў розных інтэрпрэтацыях, дык можна неяк змірыцца, але калі адно і тое ж расказваюць пяцьдзясят першы раз, то толькі і застаецца рабіць выгляд, што чуеш упершыню і табе гэта надзвычай цікава. Я не хачу паўтараць усё мамінымі словамі, бо жанчыны любяць свае распоеды прыхарошваць усялякімі драбнічкамі, якія для іх маюць значэнне, таму перакажу гэтую гісторыю сваімі словамі.

Яшчэ некалі, да майго нараджэння, мама жыла ў старым жоўтым трохпавярховым будынку на Падоле. Іх пакоі размяшчаліся на другім паверсе з каваным балконам непадалёк ад станцыі метро «Кантрактавая плошча» над сучаснай крамай жаночага адзення. І гэтая кватэра на Ніжнім Вале была заўжды прадметам матчыных успамінаў.

— Мая памерлая бабуля, — любіла яна згадваць, — ніколі не казала «на Ніжнім Вале», а па старой звычцы — «за канаваю».

Дзесьці там пад асфальтам працякае рэчка Глыбочыца, якую спачатку ператварылі ў канаву, а потым пусцілі ў каналізацыйны калектар. Яшчэ за царом Мікалаем II дзед бабы Солі гандляваў на дняпроўскай кручы дровамі. А яе бабка на свята любіла гатаваць старадаўні кіеўскі дэсерт — піраміду з празрыстага жэле, у якой гарэла свечка. Калісьці гэта на кіеўскіх вяселлях лічылася караваем.

Калі мама вучылася ў дзясятым класе, яна пазнаёмілася з бацькам, які ўжо быў студэнтам кансерваторыі. Яго род паходзіць з маленькай вёскі Лічманы паблізу Оўруча. Гэта яшчэ тая глухмень, скажу я вам. Пачулі б вы, як гаворыць мая бабуля Паўця, бацькава маці:

— Што ж ты прычапіўся, як певень да квочкі?

Піяніна ў вёсцы не было, бацька ездзіў вучыцца граць за дваццаць пяць кіламетраў у Оўруч. У дзяцінстве ён быў такі апантаны, што нават калі хварэў і не хадзіў у школу, ад піяніна яго было не адарваць. Ездзіў з тэмпературай у райцэнтр, і граў, пакуль яго не праганялі. Бацьку не цікавіла вясковае жыццё, і аднавяскоўцы лічылі яго дзівакаватым хлопчыкам, бо не ўмеў накляпаць касу і запрэгчы каня, а гэта для вёскі выглядала адзнакай абсалютнага крэтынізму.

— Няма ў мяне жыцця! — лямантавала баба Паўця, калі бацька заганяў у зямлю касу, з трэскам ламаў кассё і разгублена стаяў з двума абломкамі касы сярод няскошанай канюшыны.

Але баба Паўця дужа цешылася, калі ён іграў на гітары ці баяне.

— Гэта Луньёў хлопец так іграе ці хто іншы? — перапытвалі ў Лічманах.

— Гэта ж той Жэнік так разышоўся, — казала баба Паўця. — А вы думалі, што гэта хто іншы?

І гэты дзівак з забытай цывілізацыяй вёскі закахаўся ў кіеўскую школьніцу Лілю Маціборку, такое прозвішча ў дзявоцтве было ў мамы, і нарабіў перапалоху ў яе радні. Мой дзед Аксень баяўся, што яго дачушка выйдзе замуж як толькі закончыць школу. А мама, як шмат хто з украінскіх дзяўчат, была прыгажуняй і выглядала больш дарослай, чым на самай справе. Яны пазнаёміліся на Труханавым востраве, калі мама купалася са школьнай сяброўкай, а бацька — з аднакурснікам з кансерваторыі. І адразу між імі завязаліся стасункі, якія больш нагадвалі школьнарскія. Бацька сустракаўся з мамай у горадзе, яны гулялі, елі шакаладнае марозіва і хадзілі на канцэрт піяністаў. Калі мама пачала прыходзіць дадому пазней, чым звычайна, а бабуля Соля рознымі хітрыкамі выцягнула з яе прызнанне, што яна сустракаецца са студэнтам, на падольскай кватэры запаліўся нечуваны скандал.

— Каб была дома не пазней дзевяці, — хмурна сказаў дзед і сярдзіта грымнуў дзвярыма. — Іначай не ведаю, што табе зраблю.

І тады мой бацька, студэнт кансерваторыі Яўген Луньё, роўна а дзявятай вечара станавіўся пад балконам Маціборкі і так пранізліва спяваў, што з грукатам расчыняліся ўсе вокны і балконы, на іх з'яўляліся дзяўчаты і маладыя жанчыны, каб паслухаць гэтае лічманаўскае дзіва. Насупраць будынка дрызгацелі трамваі, гудзелі аўтамабілі, размаўлялі людзі, дык мой бацька мог перакрычаць шум вуліцы і зрываў апладысменты ў жыхароў дома і выпадковых прахожых. А мама баялася нават выглянуць, каб не наклікаць гневу дзеда Аксеня Маціборкі, які ў той час, калі бацька пачынаў спяваць, на ўсю моц уключаў тэлевізар, каб толькі не было чуваць пад вокнамі адчайных серэнад.

Так мінула восень, пасля — зіма. Надышла вясна. А бацька з рэгулярнасцю вячэрняга экспрэса прыходзіў пад вокны Маціборкаў і апантана спяваў. У двары ўжо ўсе ведалі, як яго завуць і да каго ён прыходзіць, толькі дзед рабіў выгляд, што гэта яго не датычыць. А калі суседзі пачалі ў яго выпытваць, калі ён нарэшце справіць дачцэ вяселле, дзед ускіпаў і пачынаў праганяць бацьку з-пад акон. Спачатку ён выліваў яму на галаву вядро вады і сурова крычаў з балкона:

— Што ты выеш, як сакавіцкі кот?

Але бацька працягваў прыходзіць «за канаву» і спяваць, ператварыўшы ціхае сямейнае жыццё Маціборкаў у суцэльны канцэрт, прысвечаны шараговай кіеўскай школьніцы Лілі Маціборцы. Нарэшце дзед перайшоў да больш рашучых дзеянняў і пачаў праганяць бацьку з-пад акон. Бацька знікаў, але наступным вечарам зноў прыходзіў. І тады баба Соля ўгаварыла дзеда запрасіць бацьку дадому і выслухаць, чаго ён хоча. Дзед прызначыў яму сустрэчу, і на другі дзень роўна а дзявятай гадзіне вечара бацька з букетам руж пераступіў парог Маціборкаў. Уся сям'я сядзела за сталом, і Ліля Маціборка, чырванейшая за бацькавы ружы, нервова церабіла кончыкі абруса.

— Ну?.. — прамовіў дзед Аксень. — І што ты хочаш нам сказаць?

— Выдайце за мяне Лілю, — забляяў бацька, кідаючыся да маці з кветкамі.

Але баба Соля абурана перахапіла букет. Яе ажно затрэсла ад бацькавага нахабства:

— А ты ведаеш, колькі ёй гадоў?

— На Украіне дзяўчаты заўжды выходзілі ў сямнаццаць, а некаторыя ў шаснаццаць і пятнаццаць гадоў, — знайшоўся бацька, з надзеяй зазіраючы ў вочы бабе Солі. — Так што і ёй пара ўжо...

— Ты раскажы нам, — засоп дзед, ледзь стрымліваючыся, каб не задушыць захопленага любоўнай жарсцю хлопца. — Хто ты і за што жыць збіраешся?

— Яшчэ тры гады я буду вучыцца ў кансерваторыі, — закахана забляяў бацька. — У гэты час з Ліляй будзем жыць у інтэрнаце і зарабляць на вяселлях музыкай. А калі закончу, стану піяністам, праслаўлюся. Ліля будзе мною ганарыцца, і вы таксама, бо лепш мець зяцем вядомага піяніста, чым невядомага інжынера ці сантэхніка.

— А яна што будзе рабіць? — пацікавіўся дзед.

Яна сядзела за сталом, нават не дакрануўшыся да штрудзеля з яблыкамі, які бабуля Соля падала з гарбатай.

— А яна, — адказаў бацька, — будзе жыць са мною.

— І чым жа яна будзе займацца? — перапытала бабуля Соля, праглынаючы вачыма бацьку, якому здавалася ўжо, што яго аргументы ўсё ж пераканалі ці даканалі Маціборкаў, і ён зараз даб’ецца поспеху.

— Яна будзе любіць мяне і гадаваць дзяцей.

— Добра мець спецыяльнасць, — засоп дзед.

— Паслухай, што я табе скажу, — нарэшце апамяталася бабуля Соля і ўзяла размову за сталом у свае рукі. — У гэтым годзе Ліля заканчвае школу. Яна — выдатніца. Якое можа быць вяселле?! Яна ў нас адна, і яна павінна вучыцца. А ты хочаш, каб адразу пасля школы села каля цябе і пачала, як квочка, разводзіць табе дзяцей. А ты з ёю пажывеш, развядзешся, знойдзеш сабе іншую. І што ёй тады рабіць? Без дыплома, з дзіцем на руках. Каму яна пасля гэтага будзе патрэбная?

— Для чаго мне іншая жонка?! Мне хапае Лілі! — выгукнуў бацька.

— Гэтага ніхто не ведае, — разважліва прамовіла баба Соля. — І ты гэтага не ведаеш. Сёння ты пабачыў Лілю, палюбіў яе, а заўтра пабачыш Аксану і яшчэ больш палюбіш. Гэта жыццё...

— Давай мы з табою дамовімся так, — сказаў дзед Аксень. — Ты можаш з ёю сустракацца, але табе яшчэ вучыцца і вучыцца. Пажывём — пабачым. Можа, некалі і пажэніцеся, калі да таго часу не пасварыцеся. А цяпер пра гэта рана гаварыць. І каб я больш гэтага не чуў.

Яны стрымана развіталіся, і ўжо ў парозе дзед нагадаў:

— Але каб яна да дзевяці заўсёды была дома, бо я нараблю табе такіх клопатаў, што пра гэта будуць ведаць і ў кансерваторыі, і дзе трэба.

Пасля тае размовы бацька працягваў сустракацца з мамай. Яны пажаніліся, калі мама вучылася на чацвёртым курсе.

— На той час мае бацькі ўжо не былі супраць нашага паяднання, — сказала мама. — Яны бачылі, што за столькі гадоў Луньё не змяніў да мяне свайго стаўлення. Яго ўзялі ў кіеўскую філармонію, і гаварылі пра яго як пра перспектыўнага піяніста. Жэнік падпрацоўваў на вяселлях, і мы здымалі аднапакаёўку на Ветраных гарах. А на апошнім курсе, перад выпускнымі экзаменамі, я нарадзіла Слаўко. Інстытут, атрымліваецца, закончыла з дзіцем на руках.

— Якая рамантычная гісторыя, — захоплена прашаптала Аліса Цыцалюк.

— Нават Анфісе яна спадабалася, — разліў віно ў келіхі бацька.

І за сталом усе зноў узбуджана засмяяліся.

— Аліса, а не Анфіса, — нагадала мама.

— Выбачай, — прамармытаў бацька, — але ж ты на мяне не крыўдуеш?

— Я ўжо да гэтага прывыкла, — адарвала некалькі ягад ад вінаграднай гронкі Аліса Цыцалюк. — Мне самой часам бывае прыемна, калі мяне называюць Анфісай, Алінай, Альбінай, Альвінаю. Выдатна мець багата імён, шкада толькі, што гэта можна пачуць толькі ад Яўгена Луньё.

Да мяне падышоў Бахус, ускочыў на калені, стаў пярэднімі лапамі на край стала і пачаў нюхаць усё, што на ім было.

— Давайце вып'ем за тое, каб мой Луньё утрымаўся на гэтай рабоце, — падняла келіх мама, — і каб мы вычухаліся са сваіх праблем, і каб у нас усё было добра.

Мы пілі віно і слухалі, як бацька грае «Востраў радасці», сваю ўлюбёную фартэпіянную рэч, напоўненую сонцам, морам, небам, смакам персікаў, пагойдваннем нармандскіх траў і шэптам закаханых — беднага Дэбюсі і жонкі французскага мільянера Эммі, пра каханне якіх распавядаў бацька. Яго пальцы, як начныя матылькі, трапяталі над клавішамі, і гэтая музыка, запаўняючы вячэрнюю прастору, разлівала дзіўны настрой над Дарніцаю, і толькі Бахус бестурботна гуляў з кутасікамі святочнага абруса.

## Скандал з Крэмпохам

Раніцай, пасля святочнага вечара з Алісаю, мама расклала на стале грошы, што прынёс бацька, дзесяць стосікаў па тысячы, і радасна сказала:

— Божа, як добра! Дзесяць тысяч грывень за адзін месяц. Я змагу кінуць рэпетытарства і Інстытут Гётэ, заняцца нарэшце доктарскай дысертацыяй.

А бацька сядзеў у крэсле і дзівіўся, як яна захоплена перабірае грошы. У гэты момант ён нагадваў першабытнага паляўнічага, які прывалок у сваю пячору падстрэленага вепрука. Маміна радасць раздзьмухала агонь яго чалавечага самалюбства. Ён быў задаволены, што пасля трох гадоў безграшоўя сям'я пачала глядзець на яго з хваляваннем, як на самага паважанага чалавека.

Бацькавы дзівацтвы часам прымушалі заўважаць у яго паводзінах, характары тое, што не заўжды можна было знайсці ў іншых людзях. Асабліва маці кранаў бацькаў пункцік у дачыненні да газавай пліты.

— Калі б сярод усіх фобій у псіхіятрыі трэба было даць назву страху, звязаным з газавай плітой, то больш трапнай назвы за комплекс Луньё не варта і шукаць, казала мама.

Калі бацька выходзіў з кватэры, то гэты рытуал, скажу я вам, быў не для танкаскурых. Спачатку ён ішоў на кухню, прысядаў, доўга глядзеў на газавыя камфоркі, пытаўся:

— Газ выключаны? — і няўпэўнена дадаваў: — Здаецца, выключаны.

Але за танальнасцю адказу адчувалася, што ён не дае веры сваім вачам. Апранаўся, зноў ішоў на кухню, ставіў перад плітой табурэтку, сядаў, утаропліваўся ў газавае сопла і пільна назіраў. У такі момант ён нагадваў карпа на дне вадзяной ямы, што ўпадае ў зімовую спячку. Мне здавалася, што ў яго замаруджваецца сэрцабіццё, дыханне і рух крыві, а на шыі выпінаюцца жылы, падобныя да зебры, зніжаецца тэмпература цела і электрычная актыўнасць мозгу. І калі я нецярпліва пакашліваў, вяртаючы яго да рэчаіснасці, ён здзіўлена пазіраў на мяне, усё адно як бачыў упершыню ў жыцці, згадваў, хто я, і разгублена мармытаў:

— Мабыць, ужо пойдзем.

Мы ішлі на вуліцу, але, чым далей адыходзілі ад будынка, тым больш няўпэўненай рабілася яго хада. Нарэшце бацька спыняўся, хапаў мяне за руку і прасіў:

— Пачакаеш на прыпынку? Мне трэба вярнуцца.

Я ведаў, што ён пабяжыць дадому, зойдзе на кухню, адарве шматок газеты і над кожнай камфоркай будзе правяраць, ці не загарыцца папера.

Мінулым летам між бацькамі разгарэлася сварка, што сапсавала нам летні адпачынак. На пачатку ліпеня мы сабраліся да мора, у Жалезны Порт. Адвезлі Бахуса бабе Солі, спакавалі валізкі і сабраліся ў дарогу. Наш цягнік адыходзіў бліжэй да дзесяці вечара. За дзве гадзіны перад гэтым бацька пачаў заклапочана раз-пораз заходзіць на кухню і правяраць газавую пліту. Нарэшце мы выцягнулі валізкі з кватэры, селі на маршрутку, даехалі да метро і за паўгадзіны да адпраўлення цягніка былі на вакзале. Знайшлі сваё купэ. Усю дарогу бацька думаў пра штосьці, і калі да адпраўлення заставалася пяць хвілін, кудысьці выйшаў. Спачатку мы думалі, што ён стаіць на пероне, пасля — што зайшоў у тамбур. Але праз пятнаццаць хвілін падарожжа мама пачула падазроную мелодыю. З бацькам не было тэлефоннай сувязі. Тэлефонны аператар адказваў, што ён у зоне недасягальнасці. Нарэшце праз паўгадзіны нам удалося звязацца.

— Ты дзе?! — закрычала мама.

— Іду дадому, — пачуўся яго адчужаны голас.

— Дык чаго ж?!

Ён маўчаў, толькі дзесьці на лініі чуўся і аддадены жаночы смех.

— Што зрабілася? — істэрычна вішчала мама.

— Іду правяраць газ, — нарэшце выдушыў ён з сябе.

— Ах ты ж, Госпадзі! Які газ? У тваёй галаве, мабыць, клёпкі не хапае.

Усю дарогу яе біла ў істэрыцы, і яна не знаходзіла сабе месца.

— Каб у трыццаць сем гадоў быць такім ненармальным! Не, я гэтага так не пакіну! Пасля вяртання або разыходзімся, або няхай ідзе да псіхіятра!

У дзесяць раніцы мы прыехалі ў Херсон, перацягнулі свае сумкі да аўтобуса, прыехалі ў Жалезны Порт, размясціліся, і толькі праз дзень, калі ўжо паспелі падсмажыцца на сонейку, з'явіўся бацька.

— Я рознае бачыла! — абуралася мама. — Але каб такое… Чаму ж ты не прыехаў учора?

Мы сядзелі на беразе мора, бацька пазіраў, як боўтаюцца ў вадзе малыя дзеці, як гаўкае, паскокваючы на пеністыя хвалі, беласнежная балонка, і маўчаў.

А я думаю, што ён суткі сядзеў насупраць газавай пліты і падсцерагаў, ці не з'явіцца сіняя газавая кветка, дзеля якой ён і ўцёк з купэ.

Калі бацька быў на першым курсе кансерваторыі, з ім здарыўся выпадак, які на ўсё жыццё застаўся ў яго свядомасці.

На пачатку лета яго запрасіў пажыць у сваёй кватэры на Русанаўцы кіеўскі аднакурснік Алесь Бурдэнка, бацькі якога паехалі адпачываць у Адэсу. Цёплым летнім вечарам бацька з Бурдэнкам гулялі па набярэжнай і пазнаёміліся з высокай бялявай дзяўчынай. Запрасілі яе ў кавярню і доўга сядзелі, пілі віно, забаўлялі гісторыямі пра музыкантаў. Пасля Бурдэнка вырашыў правесці яе дадому, а бацька паехаў на кватэру. Спярша ён іграў на піяніна, а пасля зазірнуў на кухню, знайшоў крухмал і вырашыў зварыць кісель. Запаліў газ, паставіў эмаліраваную каструлю з вадою, уключыў тэлевізар, лёг на канапу і заснуў. Вада закіпела, заліла газ, а бацька спіць. Газу находзіць усё больш і больш, а бацька спіць. У гэты час Бурдэнка правёў дзяўчыну на Караваевы Дачы і вярнуўся дадому ў прыўзнятым настроі. Зайшоў у кватэру, бачыць, што бацька спіць. Прынюхаўся — чуе пах газу. Зазірнуў на кухню, запаліў цыгарэту — і адразу прагрымеў выбух, якім выбіла дзверы, вокны, а самога Бурдэнку

выкінула з трэцяга паверха, але ён удала ўпаў на букавае дрэва і такім чынам выратаваўся ад пераломаў і калецтва. З перапуду бацька прачнуўся: акон няма, дзверы ў калідоры сарваны з завес, а ўнізе верашчаць дзяўчаты, што цалаваліся з хлопцамі на лавачках. Калі б Бурдэнка прыйшоў пазней, бацька ўчадзеў бы ад газу, і не было б мяне. Ад таго, што нарабіў, бацька ледзь з глузду не з'ехаў. Выходзіць, што Алесь Бурдэнка запрасіў яго на сваю галаву дадому, выратаваў яму жыццё, а бацька знішчыў яго кватэру і ледзь не скалечыў. Пасля таго выпадку бацька ўсё лета граў на вясковых вяселлях, каб заплаціць за рамонт кватэры на Русанаўцы.

З таго часу страх перад газавай плітой пасяліў у бацькавай галаве яшчэ адно дзівацтва, якога ніхто не мог выцерпець, акрамя мяне, звычайна.

Але навошта згадаваць даўні выпадак, калі тое, што адбылося ў гэтым годзе, калі ў нас нарэшце ўсё наладзілася, страсянула нашу сям'ю мацней за цянь-шаньскі землятрус.

З часам мама казала, што, радуючыся бацькавым грашам, перастаралася. Як цяпер памятаю яе аблічча, калі яна раскладвала грошы на стале, пералічвала і захоплена гаварыла:

— Хаця б не пачуў ніхто, як я цешуся, і не сурочыў.

Пасля тых слоў бацьку выгналі з кавярні «Стары раяль».

Пасля трэцяй зарплаты мама кінула сваё рэпетытарства і Інстытут Гётэ. І як толькі яна гэта зрабіла, у бацькі ўзнік канфлікт з адміністратарам кавярні Крэмпохам.

Са з'яўленнем бацькі ў «Старым раялі» пачала збірацца публіка з усяго Кіева. Калі раней у кавярню заходзілі ўрадавыя чыноўнікі і дэпутаты парламента, то неўзабаве ўсё часцей пачалі наведвацца студэнты кансерваторыі, музычныя крытыкі і проста сціпла апранутая інтэлігенцыя, для якой ігра бацькі стала выклікам снабісцкім густам поўнага пыхі буржуазнага Кіева.

Я быў сведкам сваркі бацькі з Крэмпохам. Тым вечарам усе столікі ў кавярні былі занятыя. Я прымасціўся ў куточку за барнай стойкай, куды загадзя пасадзіла мяне афіцыянтка Катруся, нібы прадчувала нябачны дагэтуль аншлаг. Неузабаве ўсе столікі былі занятыя, а гледачы ўсё падыходзілі і падыходзілі.

— Выбачайце, у нас няма вольных месцаў, — казала Катруся.

— Мы прыйшлі паслухаць музыку, — папраўляючы акуляры, адказаў хударлявы хлопец. — Не будзеце супраць, калі мы пастаім каля барнай стойкі? Чатыры кавы і адзін зялёны чай, будзьце ласкавы.

Бацька бачыў, што наведвальнікаў заходзіць усё больш і больш і што яны чакаюць яго музыкі. Катруся паднесла яму традыцыйную чарку каньяку, ён апусціў рукі на клавішы і пачаў іграць. Яго музыка нагадвала ціхія кроплі дажджу, у якіх адчуваліся веліч і трывога.

— Сільвестраў, «Постлюдзіум», — сказаў хударлявы маладзён.

— Я чула гэта ў фільме Франсуа Азона «Час развітання», — прашаптала русавалосая дзяўчына. — Музыка на мяжы цішыні.

— А вунь хіба не лысіна Валянціна Сільвестрава?

— Дзе?

— Здаецца, вунь. Як пафасна сядзіць!

— Ён іграе забаронены колішняй уладай кіеўскі авангард шасцідзясятых гадоў.

— Ціха! Дайце паслухаць…

Бацька замоўк. У кавярні стала напружаная цішыня. Толькі пачулася, як нехта паставіў на стол кубачак кавы. І тады ён зайграў штосьці дынамічнае

і гучнае. Я ўбачыў, як у куточку пачырванеў поўны чалавек у касцюме ад Брыёні, узвіўся і падышоў да Катрусі:

— Мне адміністратара!

— Зараз паклічу, — адказала яна.

Каля чалавека ў касцюме ад Брыёні з'явіўся адміністратар кавярні Крэмпоха.

— У што вы ператварылі кавярню?! — запытаўся ён Крэмпоху, перакрываючы бацькаву ігру. — Раней тут гучаў добры шансон. А гэта што? Музыка?! Гэта чорт ведама што! Падайце мне рахунак!

Катруся спалохана пабегла за стойку, паглядзела на манітор і прынесла рахунак. Чалавек працягнуў ёй пяцьсот грывень.

— Рэшты не трэба, сказаў мужчына і выйшаў з кавярні.

Пасля музычнай паўзы Крэмпоха паклікаў бацьку і прашыпеў яму ў твар:

— Гэта што, ігра на нервах?!

— Што вы маеце на ўвазе? — стрымана спытаў бацька.

— Што ты граў?

— Дваццаць другую прэлюдыю Карабіца.

— З-за цябе толькі што я згубіў нашага пастаяннага кліента, — важна выдыхнуў Крэмпоха. — За адно яго наведванне кавярня зарабляла больш, чым за ўсіх студэнтаў, якія папрыходзілі сёння, каб паслухаць тваю малахольную музыку.

— Як вы са мною размаўляеце?! — абурыўся бацька. — Я запісаў уласную транскрыпцыю дваццаці чатырох прэлюдый Шапэна.

— Да сракі твой Шапэн! — закрычаў Крэмпоха. — Ты ператварыў «Стары раяль» у чорт ведама што! Сюды пачала збірацца ўсялякая бедная шушара, у якой граша ламанага за душою няма. А нам патрэбна такая музыка, каб прыходзілі салідныя людзі.

Ён зайшоў за касу, адлічыў грошы і, пырскаючы слінай, працягнуў бацьку:

— Вось за пяць дзён работы ў гэтым месяцы — 1666 грывень і 66 капеек. І каб больш я цябе тут не бачыў.

Бацька моўчкі ўзяў грошы, паглядзеў на перапоўненую кавярню, на студэнтаў, што былі сведкамі гэтае размовы.

— Пайшлі адсюль, — падштурхнуў мяне бацька да дзвярэй.

Мы выйшлі на Шаўкавічную і перайшлі на супрацьлеглы бок вуліцы. Дзьмуў пранізлівы халодны вецер. Каля вярбы Аі я злавіў камара і спытаў у бацькі:

— Што ты скажаш маме?

## Інтрыгі Кукурыйкі

— Ну, і што ты мне скажаш? — спытала мама, калі бацька працягнуў ёй грошы.

— Тут за пяць дзён работы, — панура адказаў бацька.

Яна сядзела на канапе з кніжкай у руках і пазірала на яго. Бацька падышоў да шафы-купэ і спыніўся спінаю да люстэрка.

— Гэта апошнія грошы, якія ты прынёс?

Яна закіпала ад абурэння, а Бахус падышоў да яе, абапёрся лапамі на яе калені і пачаў зазіраць у вочы. Кот заўжды так робіць перад пачаткам скандалу.

— Выбачай, што не змог доўга затрымацца. Я трымаўся, як толькі мог, — развёў рукамі. Я збіраў шмат наведвальнікаў, але адміністратар кавярні не даў мне граць сваю музыку.

Мама сядзела як на іголках, адштурхоўваючы Бахуса, які цёрся аб яе ногі і стараўся ўтаймаваць сямейныя жарсці.

— Што ты ім іграў?

— Я граў кіеўскіх авангардыстаў і сваю музыку.

— А яны што хацелі?

— А яны хацелі, каб я граў шансон.

— Для каго ты пішаш музыку?! — закрычала мама, кідаючы на канапу кніжку.

— Для сябе.

— Божа мой, і што я знайшла ў тваім эгаізме?! Ты не думаеш пра мяне, пра Слаўко! Ты не думаеш пра тое, за што мы будзем жыць! Ты думаеш толькі пра тое, як не прынізіць свой музычны гонар! А як жа зарабляюць грошы папулярныя піяністы?

Я стаяў у дзвярах залы і насцярожана сузіраў, як закіпае і набірае моц хатні скандал, як электрызуецца ў кватэры паветра, і ад мамінага голасу звіняць шкляныя келіхі на высокіх ножках.

— Хто такі папулярны піяніст? Для мяне гэта чалавек, які не мае сваёй філасофіі! — выгукнуў бацька.

— А ў чым твая філасофія? У чым? — закрычала мама і сярдзіта адштурхнула Бахуса, які палахліва адбег да бацькі і пачаў церціся аб яго штаны.

— Мая філасофія — быць самім сабою. Вось мая філасофія, — з націскам вымавіў ён. Піяністы, якія за грошы задавальняюць несамавітыя густы публікі, як музыканты, можа быць, і неблагія, але як творчыя асобы мне проста нецікавыя.

Яго густыя чорныя валасы на галаве ўскудлачыліся, і доўгія прамыя валасінкі натапырыліся і вылезлі з носа. Скурчыўшы зняважлівую грымасу, ён важна стаяў каля люстэрка.

— Затое яны зарабляюць грошы, і іх жонкі не працуюць на пяці работах, як я!

— Але ж ты кінула дзве работы.

— І што з таго, што я кінула? Як на сёння, то зноў трэба вяртацца і прасіць, каб не адмовілі. Няўжо да канца жыцця я буду сама ўтрымліваць сям'ю?!

Мама ўсхліпнула і дастала насоўку з кішэні махровага ружовага халаціка.

— Хіба я калісьці адмаўляўся ад заробкаў? — пакрыўдзіўся бацька.

— Ты не адмаўляўся, але табе ўвесь час адмаўляюць! — зноў закрычала яна. — І з філармоніі цябе выгналі.

Пры згадцы пра філармонію бацька сярдзіта выйшаў з залы ў мой пакой.

— Перстань, — абазваўся я. – Хіба гэтым крыкам штосьці зменіш?

— Не змяню, дык хоць душу адвяду! — выгукнула мама і бразнула кніжкай аб піяніна. — Як ён мяне ўжо дастаў з сваімі прынцыпамі!

Філармонія — асобная тэма ў нашай сям'і. Любая згадка пра гэты перыяд бацькавага жыцця выклікала ў яго дэпрэсію. Прычынай гэтага быў мастацкі кіраўнік і дырыжор філармоніі Юрый Кукурыйка.

Усё пачалося з таго, як на Рурскім фартэпіянным фестывалі нямецкая крытыка напісала пра бацьку як пра фенаменальнага майстра настрою, а пасля запісу канцэрта фартэпіянных твораў Сяргея Пракоф'ева англійскі часопіс «Грамафон» назваў яго канцэрт адным з найаўтарытэтнейшых запі-

саў, што існуюць на сённяшні дзень. Калі ў філармоніі з'явіўся пераклад артыкула з часопіса «Грамафон», у Кукурыйкі разбалелася сэрца, і яго ледзь не хапіў удар. Дырыжора забрала «хуткая дапамога», і два тыдні яго не было ў філармоніі.

Пасля выхаду на працу Кукурыйка змяніўся. Раней ён жартаваў, не абмінаў увагай жанчын, а пасля бальніцы стаў непрыкметны, ціхі, быццам яго хтосьці падмяніў. Пры сустрэчах з бацькам Кукурыйка неяк дзіўна крывіўся і адводзіў пагляд. Але за год Кукурыйка зноў ажыў, забегаў, у яго галаве пачалі раіцца планы новых канцэртаў і гастрольных паездак.

Нарэшце аркестр выправіўся ў вялікае турнэ па Францыі, Швейцарыі і Ліхтэнштэйне, і ўсюды былі захопленыя водгукі пра непераўзыдзеную бацькаву ігру. А пасля канцэрта ў Ліхтэнштэйне з ім захацела пагутарыць жонка князя Ліхтэнштэйна Марыя Аглая Кінскі фон Вхініц і Тэтаў. Яе строгая прычоска, вячэрняя сукенка, стрыманасць і жаноцкасць падкрэслівалі ў ёй арыстакратку з даўняга роду. Бацька не дужа добра валодае нямецкай, але разабраў, як яна сказала:

— Я шчаслівая чуць такую віртуозную музыку. Гэта было як пасланне Бога, — і пацiснула яму руку.

Пасля турнэ бацька захацеў зрабіць маме падарунак на дзень нараджэння, але яго здзіўленню не было межаў, калі Кукурыйка заплаціў яму за гастролі сто еўра.

— І гэта пасля таго поспеху, які выклікалі мае фартэпіянныя канцэрты ў замежным друку? А як жа мая тарыфная стаўка? — абурыўся бацька. — Вы заплацілі мне сто еўра за гастрольнае турнэ?

— Будзь задаволены, што я цябе ўзяў у гэтую паездку, — адказаў Кукурыйка, і ў яго голасе загучалі металічныя ноткі.

— Вы паклалі сабе ў кішэню грошы, якія зарабіў аркестр, — пачырванеў бацька.

— Што?! — падскочыў з-за стала Кукурыйка. — Ты будзеш мяне вучыць, колькі я магу браць сабе грошай, а колькі плаціць аркестру?!

— На канцэртах былі аншлагі. Пра мяне захоплена пісалі ў друку. Вы павінны плаціць хаця б па тарыфах.

— Тут я вызначаю, колькі каму плаціць, а не тарыфы! — грукнуў кулаком па стале дырыжор і пачырванеў.

А калі бацька даў сольныя канцэрты ў Адэсе, Львове, Харкаве і Чарнаўцах, Кукурыйка пачаў ненавідзець яго яшчэ больш.

— А за што ён цябе так не ўзлюбіў? Хіба ты яму штосьці дрэннае зрабіў? — запытаўся я.

— Гэта ўсё зайздрасць.

Ён заварушыўся і зірнуў сабе пад ногі.

— А што было далей?

— А далей, — ціха вымавіў ён, — мне далі сыграць «Другі канцэрт» Рахманінава. А там была партыя валтарніста. Падчас канцэрта валтарніст не справіўся са сваёй партыяй, а правал канцэрта звалілі на мяне.

— А чаму не на валтарніста?

— Бо валтарністам быў зяць Кукурыйкі, — заварушыў пальцамі бацька, быццам іграў у паветры па нябачных клавішах. Ён заўжды так робіць, калі хвалюецца. — Так што мяне выгналі з філармоніі з фармулёўкай «за непрафесіяналізм».

— А каго ж узяў на тваё месца Кукурыйка?

— Хіба я знаю? Кагось узяў…

Мы сядзелі ў маім маленькім пакоі, застаўленым кніжкамі, дыскамі з музыкай і фільмамі маіх улюбёных рэжысёраў. Дыскамі была завалена ўся тумбачка, на якой ў жоўтым вазоне стаяў каўчуканосны фікус. Я сядзеў на канапе, а бацька каля мяне. Адчувалася, што яму цяпер патрэбна мая падтрымка. Магчыма, нават больш, чым маміна. Ён закінуў нагу на нагу гайдаў тапкам са стаптанай пятою.

— Штосьці ў твайго вазона лісток пажаўцеў, — сказаў, каб толькі не маўчаць.

Я падзівіўся, што часам ён пры сваёй абыякавасці і творчым хаосе ў галаве здатны заўважаць такія рэчы. Мне здавалася, што бацька, заўсёды пагружаны ў нейкія глыбокія, толькі яму вядомыя перажыванні, і ўвогуле нічога не прыкмячае.

— Фікус не любіць лішняй вільгаці. А мама пачала яго часцей паліваць.

— Ведаеш, — прыўзняў галаву, — сярод музыкантаў, што іграюць Баха, ёсць піяністы, якія робяць гэта шмат прыгажэй, скажам, за Глена Гульда. І скажу табе без лішняй сціпласці, што я належу да іх. Толькі гэтага ніхто не ацэніць, бо аўдыторыя піяністаў майго класа невялікая і закрытая.

Ён змоўк і ўтаропіўся ў фікус, чакаючы, што скажу я.

— І дзе ты будзеш зарабляць грошы?

Бацька прыслухаўся, як паверхам вышэй плача дзіця, і важна заварушыўся.

— На прыватных канцэртах. Ёсць у мяне адзін багаты знаёмы. Думаю, што неяк выкручуся…

Ён апусціў галаву і тужліва абмяк, а я адчуў, як усе ў кватэры — піяніна, камп’ютар, посуд, кнігі, фікус, мама і Бахус напружыліся, усё роўна як перад навальніцай.

## Паляванне на кажаноў

Усю ноч бацькі сярдзіта шапталіся ў ложку. Часам мама забывалася, што я за сцяною, і ўголас гаварыла:

— Цэны растуць, а цябе выгналі ў тры шыі. Сядзеш зараз, як рак на дно, і будзеш бурбалкі пускаць. А я буду зноў разрывацца між пяццю работамі.

— Я ж казаў, што пазваню Нужнаму, — агрызнуўся ён.

На тое мама не звярнула ўвагі, прадоўжыла:

Мая аднакласніца Ева Ікаўка гандлюе на Дарніцкім кірмашы гароднінай і садавінай. Расказвае, прыйшоў нядаўна да яе пастаянны пакупнік. Раней ён выцягваў з кішэні набіты партманет, набіраў некалькі скрынь садавіны і нёс да аўтамабіля. А тут зайшоў купіць крымскага вінаграду, папрасіў тры кіло. Яна ўзважыла, а ён адкрывае партманет і здзіўлена высвятляе, што ў яго не хапае грошай, каб разлічыцца.

— Крызіс, — буркнуў бацька.

Але штосьці цяжка грукнула. Я пачуў піск на лоджыі і чыюсьці валтузню.

— Бахус кажана злавіў! — закрычала мама.

Я адчыніў дзверы на лоджыю.

На падлозе, раскінуўшы крылы, сядзела рудая вячэрніца і адчайна цакатала, Бахус намагаўся схапіць яе за спіну, але яна не давалася.

— Не выходзь з пакоя! — крыкнуў бацька.

Бахус прылаўчыўся, ухапіў кажана і скочыў у мой пакой.

— Пусці яго! — стукнуў я тапкам ката.

Бахус абурана павярнуўся да мяне, і гэтага аказалася дастаткова, каб кажан зашарудзіў скуранымі крыламі, паляцеў і ўчапіўся кіпцікамі ў цюль. Кот падскочыў, але кажана не дастаў. Падаючы, Бахус перакуліў фікус, і гліняны вазон са звонам разбіўся.

— Што гэта там робіцца?! — прыбегла ў начной кашулі мама. — Вось зараза кацiная!

Бахус грабануў па падлозе лапамі і ў наступны міг выскачыў з пакоя.

— Выпусці кажана!

Бацька накрыў рушніком начніцу, як ашпараны выхапіў руку і ўскрыкнуў:

— Шчыпаецца!

Выкінуў рушнік за акно — і кажан знік у начным небе.

— Прынясі савок і венік.

Я прынёс, і, лаючы Бахуса, мама згрэбла з дывана чарапкі і зямлю, а тата дастаў з шафы каля сцяны стары гаршчок, і мы перасадзілі фікус. Некалькі лісткоў было зламана, і на сцяблінах выступіла малачко. Я прынёс з кухні мёд і замазаў раны кветцы, а з залы, нібы нічога не адбылося, выйшаў Бахус, пачаў нюхаць паветра, шукаючы кажана. Калі б Бахус быў хлопчыкам, то меў бы праблемы з фізкультурай. Часам ён скакаў з кухоннай ракавіны на пасудамыйную машыну і, не разлічыўшы адлегласці, падаў на падлогу і прысаромлена ўцякаў з кухні, бо не любіў, калі з яго смяюцца.

— Кладзіцеся спаць, — выгукнула са спальні мама.

Я выключыў начную лямпу, павярнуўся на бок, накрыўся коўдрай. За сцяною рыпнуў ложак і зноў загаварыла мама:

— Калісьці я кожны сезон купляла летнія туфлі, а цяпер ужо трэці год хаджу ў старых. Усё, што я магла сабе купіць, гэта белы крэм, каб старыя туфлі мелі прыстойны выгляд. Раней у людзей было больш грошай, і яны былі весялейшымі, а цяпер спахмурнелыя, і грошай у іхніх кашальках стала менш.

— Спі, — прамармытаў бацька.

У кватэры наступіла начная цішыня.

Я пачуў, як Бахус лапай прыадчыніў дзверы, зайшоў на лоджыю, шумна скочыў на падаконнік, сеў у прачыненым акне, за якім марахаліся ў паветры кастакрылыя лятаючыя істоты.

«Толькі б зноў не заляцеў кажан», — засынаючы, падумаў я.

Змораны сваркай бацькоў, кажаном і разбітым вазонам з фікусам, я праваліўся ў глыбокі сон. Сярод ночы я пабачыў стары дарэвалюцыйны будынак. Мы з мамай зайшлі ў ліфт, які падняў нас у залу, дзе гучала музыка і кружыліся жанчыны ў бальных сукенках і мужчыны ў фраках.

— Чый гэта дом, — спытаў я.

— Гэта дом Нужнага, — адказала мама.

— А хто такі Нужны?

— Хіба ты не ведаеш?! — здзівілася яна. — Гэта чалавек, які выседжвае куранят. Бачыш?

Я разгледзеўся і ўбачыў тоўстага чалавека ў чырвоным пер'і і акулярах з залатою аправай, які, расхінуўшы фрак, сядзеў на яйках. А каля яго на фартэпіяна нехта нудна граў «Сабачы вальс».

— Хто гэта так агідна барабаніць па клавішах? — зноў спытаў я.

— Гэта твой бацька, — адказала баба. — Гэтая музыка дапаможа Нужнаму выседзець куранят. Паглядзі, зараз яны пачнуць вылупляцца з яек.

Бацька зайграў так натужна, што белы хорт, які сядзеў каля ног худой, як

і ён сам, паненкі ў пышнай белай сукенцы, пачаў завываць, а з-пад мужчыны ў пер'і пачалі выскокваць жвавыя кураняты.

— Якія прыгожыя! Якія пухнаценькія! — прыцмоквала мама.

— Гэта яна так падлашчваецца да Нужнага, бо на самай справе я магла выседжваць гэтых куранят, — сказала жынчына ў масцы курыцы.

— А вы хто? — спытаў я.

— Хіба не ведаеш? — засмяялася жанчына. — Я — Аліса Цыцалюк.

Зняла маску і па-змоўніцку падміргнула, але гэта была не Аліса Цыцалюк, а нейкая зусім маладая дзяўчына з русымі валасамі, сабранымі ў хвосцік. Нужны злавіў кураня і паднёс маме.

— Толькі адно? — скрывілася яна.

Я паглядзеў на незадаволеную маму, на куранё, што ператварылася ў кажана. Ажно раптам з-пад раяля выскачыў Бахус, ухапіў зубамі кажана, і ён зацакатаў, а мама закрычала:

— Кот зноў кажана злавіў!

Маё цела было млявым і не слухалася. На лоджыі чуліся бацькавы і маміны крыкі, піск кажана і бурчанне Бахуса. Я здагадаўся, што гэта не сон, уключыў начнік і вызірнуў на лоджыю.

— Не адчыняй дзверы! Кажан заляціць!

— Коцю! — тупнуў нагою бацька і накрыў кажана кардонным вечкам з-пад маміных ботаў.

Закрыў каробку вечкам, выпусціў кажана і зачыніў вокны на лоджыі. Нейкі час Бахус бегаў па хаце, зазіраючы ў розныя куткі. Я чуў, як за сцяною мама сказала:

— Дзівіся, як вырас кошт на камунальныя паслугі. У Польшчы прадукты таннейшыя, чым у нас, а зарплаты вышэйшыя.

— Спі, — адказаў тата.

Я пачуў, што яна штосьці сказала, але не разабраў і паваліўся ў глыбокі сон.

Раніцай мяне разбудзіў мамін голас:

— Падымайся, праспіш школу.

Я памыўся, пачысціў зубы. Мы паснедалі і выйшлі разам з дому: мама — на працу, а я — у школу.

Вечарам тата павёў нас на хатні канцэрт да Нужнага. Усё было як у сне. Мы падняліся на трэці паверх старога будынка, пазванілі ў дзверы. Нам адчыніла прыветлівая жанчына нявызначанага ўзросту. Ёй можна было даць ад трыццаці пяці да пяцідзесяці гадоў. Мы прайшлі ў залу, пасярод якой стаяў стары «Бёзендорфер» з чорным скураным крэслам.

— Знаёмцеся, Усевалад Нужны, — адрэкамендаваў нам яго бацька. — А гэта мая жонка Ліля і сын Слаўко.

Нужны аказаўся таўстуном з вусамі і бародкай у стылі Міколы Леантовіча. У залу ўсё заходзілі і заходзілі людзі. Блыталіся пад нагамі малыя дзеці, якія прыйшлі з бацькамі. Паўсюль было багата карцін і старадаўніх музычных інструментаў.

— Пачынаем — прашаптаў Нужны.

Бацька ўсеўся за фартэпіяна. На сярэдзіну ярка асветленай залы выйшаў сівы чалавек і сказаў:

— Ужо даўно ў нас перасталі запрашаць на хатнія канцэрты. Таму мне вельмі прыемна, што сярод старой кіеўскай інтэлігенцыі, да якой належыць Усевалад Нужны, пачала адраджацца гэтая добрая традыцыя. Сёння мы паслухаем фартэпіянныя мініяцюры музычнага ерэтыка шасцідзясятых гадоў

XX стагоддзя Леаніда Грабоўскага, якога называюць апосталам украінскага авангарда. За фартапіяна — Яўген Луньё.

Мне здавалася, што авангард Грабоўскага падабаўся далёка не ўсім, хто прыйшоў на хатні канцэрт, бо калі пасля самаадданай бацькавай ігры гаспадар запрасіў усіх на фуршэт, я прыкмеціў радаснае абуджэнне на тварах, быццам гэта і было галоўнай і найпрыемнейшай часткай гэтага вечара.

Гаспадар прыадчыніў залу — і госці з шумам пацяклі да пакоя з доўгім сталом, застаўленым гарэлкай, каньяком, вінамі і стравамі. Мы з мамай убачылі, як жанчына ў дыяментах загарнула ў сурвэтку два бутэрброды і доўгімі мяккімі пальцамі ў пярсцёнках схавала ў сумачку. На яе падбароддзі была асліная ямачка, а паміж вялікіх грудзей пагойдваўся залаты кулон са смарагдам.

— Гэта для майго сабачкі, — нязмушана прамовіла яна, убачыўшы нашы позіркі.

Якраз да нас падышоў гаспадар з бацькам, і я пачуў урывак бацькавай размовы:

— Грабоўскі заўжды намагаўся сцерці супярэчнасці паміж танальным і атанальным і аб’яднаць гэта ў сваю эстэтыку.

Гаспадар няўважліва даслухаў, думаючы пра нешта сваё, і падвёў нас да сцяны, завешанай карцінамі.

— Між іншым, вось карціна Яблонскай.

— Прыгожа ў вас, — адказала мама.

— А вось скульптура Архіпенкі, а гэта — Малевіч, — паказваў Нужны. — Гэта ўсё арыгіналы. А нядаўна я купіў «Сад спакус» Віктара Зарэцкага.

Я паглядзеў на карціну, дзе было багата чырвонага, чорнага і блакітнага, а напалову аголеныя мужчыны і жанчыны былі пераплецены між сабою. Была гэта нейкая прыхаваная ад мяне праўда жыцця, пра якую мне неаднойчы шматзначна намякалі мае равеснікі.

Калі гаспадар пакінуў нас у спакоі, і мы нарэшце прыкладаліся да канапэ з каваю, каля нас неспадзявана вырас чалавек, такі худы, такі кволы, такі нікчэмны, што калі бацька вітаўся з ім за руку, то перажываў, каб у яго, крый божа, не зламалася рука. Мужчына балюча крывіўся, усё адно як не бацька, а ён быў піяністам і баяўся, каб яму не пашкодзілі руку.

— Ляўко Рыбкала, — адрэкамендаваўся і працягнуў візітоўку. — Філасаф. Даследую глыбіні адносін паміж мужчынамі і жанчынамі.

Бацька круціў у руках візітоўку і ветліва ўсміхаўся пану Рыбкалу, які рабіў кампліменты яго віртуознаму выкананню мініяцюр Грабоўскага. З-за гэтага філосафа мы не павячэралі, і мама была дужа злосная. У калідоры, апранаючы на маму паліто, бацька разгублена працягнуў мне візітоўку, і я схаваў яе ў кішэню. А калі мы выйшлі да метро, мама спынілася і спытала:

— Колькі ён табе заплаціў?

— Трыста грывень, — пачырванеў тата.

— Дужа сціпла як для калекцыянера Малевіча і Архіпенкі, — холадна вымавіла яна, хаваючы ў кашалёк зробленыя грошы.

## Антось Птуха

Мама вярнула сабе дзве падпрацоўкі і шукала трэцюю, якую яна страціла. І калі нарэшце знайшла трэцюю, і пачала шукаць чацвёртую падпрацоўку, то паміж трэцяй і чацвёртай падпрацоўкамі здарылася прыгода, якая проста ў

галаву не ўкладвалася. Мама пачала думаць пра развод. Але не буду забягаць наперад і раскажу ўсё, як было.

Праз два дні пасля канцэрта ў Нужнага ў сям'і выбухнуў скандал. Мама была на Ніжнім Вале ў гасцях у дзеда з бабаю, паскардзілася на жыццё, баба Соля дала ёй дзве тысячы грывень, і ў мамы не знайшлося сіл адмовіць.

— Дажыліся! — сярдзіта выгукнула яна. — Замест таго, каб дапамагаць бацькам, мы жывём за іх кошт.

Усю ноч бацькі сварыліся, а пад раніцу разышліся спаць у розныя пакоі. Наступным днём бацька пайшоў іграць на нейкі юбілейны вечар у Доме акцёра, а дома я застаў маму з Алісай Цыцалюк.

— Ён нічога не ўмее, — абурана сказала мама.

— У твайго Луньё дзве левыя рукі, — пагадзілася Цыцалюк.

Мама з Алісаю сядзелі на кухні і размаўлялі.

— Калі б ён хоць грошы зарабляў. У маёй школьнай сяброўкі Евы Ікаўкі, пра якую я табе ўжо расказвала, муж цвік у сцяну забіць не можа, але працуе круп'е ў нейкім казіно і дадому прыносіць немалыя грошы. А тут панабірала работы, а грошай нестае.

— А як вылеціць з працы?

— Хто вылеціць?

— Круп'е.

— Як вылеціць, то Ікаўка не прападзе, бо сама добра зарабляе на рынку.

Я слухаў гэтую жаночую балбатню і думаў, што Аліса Цыцалюк любіць назіраць за руйнаваннем сям'і. Яна была незамужняя і не ўспрымала сямейнага жыцця, хаця мужчыны ёй падабаліся.

Цыцалюк нюхам адчувала, што на нашу сям'ю насоўваецца ўраган, і пачала часцей да нас прыходзіць. Асабліва зачасцілася яе гасцяванне са з'яўленнем Антося Птухі.

З Птухам мама пазнаёмілася выпадкова. Неяк у нас зламаўся кран, і мама выклікала сантэхніка, які аказаўся мужчынам з круглым тварам і чырвонымі рукамі з кароткімі пальцамі. Мама дала бацьку грошы на кран і змяшальнік і пайшла на працу. Увесь дзень сантэхнік правалаводзіўся ў ваннай, зламаў змяшальнік, узяў палову абяцанай яму сумы і пайшоў. Увечары прыйшла мама і падняла крык:

— Навошта ты аддаў яму грошы? Ён жа нічога не зрабіў!

Бацька вінавата лыпаў вачыма:

— Ён сказаў, што трэба заплаціць за палову работы, я і заплаціў.

— Але ж кран не працуе!

— Я ж не ведаю, пра што ты з ім дамаўлялася.

— А што ты калі ведаеш? — грукацела на кухні каструлямі. — Ніколі ні ў што не ўнікаеш. Грошы аддаў. Кран не працуе. Змяшальнік зламаны. Што цяпер рабіць?

Яна схапіла радыётэлефон і пачала званіць бабе Солі.

— Мама, гэта я. Ёсць у цябе знаёмы сантэхнік? Сёння тут адзін хапуга садраў дзвесце грывень. Узяў грошы на набыццё новага крана, хаця ўсе ўключаюць гэта ў агульны рахунак, зламаў змяшальнік і пайшоў. Ды не!.. На заўтра. У мяне заўтра вольны дзень, а Жэнік ідзе граць на нейкую карпаратыўную вечарыну. Як дамовішся, пазвані.

Праз гадзіну патэлефанавала баба Соля і сказала, што знайшла чалавека, і тым чалавекам з'яўляецца Антось Птуха. Я не бачыў, як ён рамантаваў кран і змяшальнік, бо ў той час быў у школе, а бацька на карпаратыўнай вечарынцы.

Калі я прыехаў са школы, кран ужо працаваў, а мама на кухні піла гарбату з Алісай Цыцалюк.

— Уяўляеш, ён з мяне нічога не ўзяў. За паўгадзіны ўсё зрабіў, — пахвалілася мама.

— А дзе ты яго знайшла?

— Гэта пляменнік даўняй сяброўкі маёй маці.

Цыцалюк зачарпнула верасовы мёд, які нам прывезла баба Паўця і аблізала лыжачку. Яе маленькія круглыя вушкі аж натапарыліся і ад узбуджэння пачырванелі, так уважліва яна слухала пра новага для яе чалавека.

— А колькі яму гадоў?

— Дзесьці трыццаць пяць — сорак.

— Жанаты?

— Я хіба яго пытала?

— Трэба было неяк папытаць.

— Дарэчы, ён мне пакінуў сваю візітоўку. Сказаў, калі што трэба, каб я звярталася. Вось, зараз пакажу.

Дастала сумачку, пакорпалася і працягнула візітоўку.

— Антон Птуха, мастак, — прачытала Аліса Цыцалюк. Цікавае прозвішча. Гэта табе не Затулівуха ці Неплюйуборшч, а Птуха! Дарэчы, як ён?

— Высокі, русавалосы.

— Ты яму спадабалася.

— Адкуль ты ведаеш?

— Бо ён з цябе грошай не ўзяў.

Праз два дні, калі бацьку папрасілі пайграць на юбілеі нейкага дзяржаўнага функцыянера, мама папрасіла Птуху памяняць аварыйны патрон у плафоне, і ён заадно паставіў некалькі новых разетак. Я застаў Птуху, калі ён ужо развітваўся з мамай.

— Павітайся з Антосем, — усміхнулася яна.

— Добры вечар.

Птуха мне адразу не спадабаўся. Асабліва, як ён глядзеў на маму, быццам пажыраў вачыма. І голас у яго быў нейкі ліпкі і непрыемны.

Калі за ім зачыніліся дзверы, Аліса выгукнула:

— Што табе сказаць?.. Поўная супрацьлегласць Яўгена Луньё!

А праз два тыдні я здагадаўся, што між мамай і Птухам штосьці адбылося. Яны сядзелі з Алісай на кухні і размаўлялі.

— Ты была ў яго? — запыталася Цыцалюк.

— Была.

— І як ён?

Заціскаючы далонькай рот, мама нахілілася да Цыцалюк і штосьці зашаптала ёй на вушка.

— Ух ты!.. — выгукнула тая. — А дзе ён жыве?

— На Лохвіцкай. Але ў яго свае прыбамбасы.

— Якія? — у вачах Цыцалюк загарэліся агеньчыкі.

Яны пілі гарбату з тортам і ўзбуджана размаўлялі.

— Уяўляеш, ён жыве без электрычнага святла.

— А як жа ён тэлевізар глядзіць?

— Ён яго не глядзіць. Кажа, што гэта інструмент для маніпулявання чалавечай свядомасцю.

— А прасам ён карыстаецца?

Мама адкусіла кавалачак торта «Рамэа і Джульета» чамусьці з трыма гронкамі ружовага гіяцынту і зрабіла інтрыгуючую паўзу, пакуль Аліса Цыцалюк нецярпліва ёй не нагадала:

— Як жа ён малюе?!

— Ён жыве пры газавых лямпах.

— Эканоміць на электраэнергіі?!

— Гэта ў яго такі прынцып, — запіла грабатай торт мама. — Ставіць газавыя лямпы і малюе. Кажа, што хоча адчуць унутраны стан Сальвадора Далі, які маляваў пры святле чатырох газавых лямп.

— А як ён зараджае мабільны тэлефон?

— У яго ёсць сонечныя батарэі, ад якіх праз пераходны шнур зараджае тэлефон. А вопратку ён не прасуе. Носіць усё з бавоўны і лёну.

— Во гэта кадр! — пырскнула Аліса Цыцалюк. — Гэта ж аслепнуць можна пры лямпах.

— Перад сном медытуе, падоўгу глядзіць на язычок полымя ў газавай лямпе. Пасля гэтага спіць, як дзіця. Кладзецца і прачынаецца з птушкамі. Кажа, што адмовіўся ад цывілізацыі, каб адчуць свабоду напоўніцу.

— А што ён малюе?

— Сюррэалістычныя мясціны і ананасы ў шампанскім.

— А машына ў яго хаця б ёсць?

Мама лізнула крэм з торта і задаволена сказала:

— У яго найбольшы ў свеце джып «Вепр». Можа перавозіць больш як дваццаць пасажыраў.

— А як у яго ў кватэры?

— Усюды кніжкі і карціны. І пахне газай і фарбамі.

— Які лапусік, — мурκнула Аліса Цыцалюк

— Суседзі моляць Бога, каб яго захапленне натуральным жыццём доўжылася як мага больш. Раней ён не даваў ім спаць, слухаючы «Лэд Зэпелін».

— А як ён як мужчына? — пацікавілася Аліса Цыцалюк, і яе вочы сталі круглымі, як у кошкі, што пабачыла за акном птушаня.

— Ну-у-у! — адказала мама і зрабіла шматзначны жэст рукою.

Якраз у гэты час у дзверы нехта пазваніў. Мама паглядзела ў вочка, заклацала дзвярнымі замкамі, і ў кватэру зайшоў бацька, нападпітку і прапахлы цыгарэтным дымам.

## Любоў Дзеньга

З таго часу, як бацька страціў работу ў кавярні «Стары раяль», хатнія сваркі ў нас распачыналіся штодня з усходам сонца і доўжыліся да ночы. Наша сям’я нагадвала ненадзейны папяровы караблік, якога каламутнае цячэнне несла ў адкрытае мора, і здарыцца якая перашкода, разарве на шматкі ці выкіне на бераг суровай рэчаіснасці.

Мама так дапякала бацьку з-за яго адарванасць ад жыцця і канфліктнасць, што ён хапаў ротам паветра, як выкінуты на бераг сом, чырванеў, сапеў і разводзіў рукамі. Сваркі з-за грошай у нашым доме сталі сямейным рытуалам. Каб хоць неяк зняць дома напружанне, бацька ўладкаваўся пагадзінна ў кансерваторыю, але зарабляў там небагата. Са з’яўленнем на маміным гарызонце Антося Птухі я не ведаў, як іх памірыць, і кідаўся то да яе, то да яго.

Аднаго разу пасля ўрокаў я зайшоў у кансерваторыю. У той дзень бацька працаваў са сваімі студэнтамі. Я спяшаўся, бо ў яго заканчваліся заняткі, і застаў яго, калі ён ужо выходзіў з кансерваторыі з нейкай студэнткай.

— У гэтай музыкі ёсць глыбіня, — пачуў я ўрывак яго размовы. — Дарэчы, знаёмцеся, мой сын Слаўко.

— Любоў Дзеньга, — дзяўчына паціснула мне руку.

— Вельмі прыемна.

Была яна ў джынсах, куртцы кававага колеру і з рукзачком. Я заўважыў, як часта яна папраўляе рукзачок, відаць, думае, што так выглядае больш прывабна, і зразумеў, што гэта ў яе ад нерваў. Дзеньга не асабліва зважала на маю прысутнасць, бо круцілася каля бацькі і задавала яму ўсялякія бязглуздыя пытанні.

— А якая ваша версія найлепшых піяністаў усіх часоў? — сказала дзяўчына, папраўляючы рукзачок.

— Гэта даволі правакацыйная тэма, — адказаў бацька. — Усё так суб'ектыўна.

Мы выйшлі на Гарадзецкую і пайшлі да Крышчаціка.

— Але ж існуюць роўныя духоўныя сілы. Скажам, Рыхтар і Падзярэўскі. Я маю на ўвазе сілу гучання, — пранізліва віскнула Любоў Дзеньга, праслізнуўшыся на плітцы. — Можна я вазьму вас пад руку?

Бацька падставіў ёй руку і няўважліва прамармытаў:

— Гледзячы ў чым…

— Рыхтар у Шапэне — проста монстр, — дзяўчына прытулілася да бацькі.

І гэта мне вельмі не спадабалася, асабліва, як гэтая нахаба каля яго круціцца. Я для яе станавіўся дакучлівым камаром, што выпадкова прычапіўся на вуліцы. Дзеньга прыліпла да бацькавай рукі, нават не падумаўшы, што ён не абавязаны выслухоўваць пасля заняткаў яе нудныя развагі.

— Дарэчы, якраз у Шапэне Рыхтар робіцца штучным і непрадбачным, — сказаў бацька. — Ён зусім не слухаецца аўтара. Гэта як Шэкспір у пастаноўцы Андрэя Жолдака, у якой ад Шэкспіра засталося толькі імя, а ўсё іншае — рэжысёрская выдумка.

— Хочаце ведаць мой рэйтынг? — спытала яна.

— У вашым узросце, Люба, я таксама складаў рэйтынг піяністаў, а цяпер разумею, што ўсю гэта дужа ўмоўна.

Калі мы спускаліся ў Трубу[1], Дзеньга, страсянуўшы русай коскаю, што нагадвала мышыны хвосцік, неспадзявана прапанавала:

— Як вы глядзіце на тое, каб прадоўжыць размову ў «Кафі»?

— А што гэта такое?

— Кавярня ў афрыканскім стылі.

— Нават не ведаю, што вам адказаць… — разгубіўся бацька.

— Сёння нам стыпуху далі, — задаволена праспявала яна.

— Але плачу я. Дамовіліся? — цвёрда сказаў бацька.

— Дамовіліся, — страсянула хвосцікам Люба. Вось вы кажаце на занятках, каб мы шукалі свой стыль. Але што можна сказаць свету пасля Штакгаўзена і Дэбюсі?

— У мастацтве заўсёды ёсць што сказаць, — адказаў ён. — Сучасны піяніст ці кампазітар павінен ставіць звышзадачу і рэагаваць на тое, што адбываецца ў свеце.

— У дваццатыя гады мінулага стагоддзя варта было маладому Шастаковічу напісаць Першую сімфонію — і яе адразу зайгралі ва ўсім свеце, але

[1] Труба — неафіцыйная назва пераходу ў Кіеве на Майдане Незалежнасці.

ўявіць сабе ажыятаж вакол выпускніка сучаснай кансерваторыі проста немагчыма, — задзірліва паглядзела яна на бацьку.

Ён прытрымаў дзяўчыну за руку.

— Не раўняйце тыя часы з сённяшнім інфармацыйным перасычэннем. Інтэрнэт, Люба, паставіў кропку на класічным часе, калі можна было лёгка стаць класікам у якім-небудзь відзе мастацтва. Тэарэтычна хто-небудзь з нас можа напісаць сімфонію лепшую за Гайдна. Але практычна ў нас вельмі мала часу на творчасць, бо трэба ж зарабляць грошы, неяк выжываць, хадзіць у супермаркеты, гадзінамі праседжваць у інтэрнэце, аддавацца асалодам. Зрэшты, ламаць галаву над тым, як звярнуць увагу перанасычанай публікі на гэтую новую сімфонію.

Мне ўжо абрыдлі іхнія нудныя размовы, але Дзеньга сама прывяла нас да кавярні з глінабітнымі сценамі і шкляным дахам, скрозь які быў бачны шматок шэрага восеньскага неба.

— Адну каву з вострымі прыправамі, адну з бергамотам і адну па-мексіканску, — замовіў афіцыянтцы бацька.

Калі Дзеньга пайшла ў прыбіральню, я спытаў у бацькі:

— Дзе ты ўзяў грошы?

— Аднаразовы заробак, — замяўся ён. Учора недалёка ад «Левабярэжнай» у прыватным садку граў на дзіцячым ранішніку.

— А вось і я, — задаволена прымасцілася за стол Любоў Дзеньга. — Як смачна пахне!..

Яшчэ ў кансерваторыі я заўважыў усю бесцырымоннасць гэтай дзяўчыны, а ў кавярні Дзеньга проста навісала над бацькам сваімі вялікімі налітымі грудзямі ў кофтачцы колеру ачышчанага ківі. Мы разлілі з кафейнікаў у кубкі каву, і Дзеньгу зноў пацягнула на балбатню:

— А што вы слухалі, калі вучыліся ў кансерваторыі?

— Напрыклад, бліскучыя сімфоніі «Лірыка» і «Ларго» маладога Яўгена Станковіча.

— Мне здаецца, што кіеўскі авангард — гэта проста набор гукаў, — падліла кавы Дзеньга, дэманстратыўна пагойдваючы сваёю тоўстай ножкай у пацёртых джынсах.

Бацька даліў з кафейніка ў кубак кавы.

— Мне таксама калісьці здавалася, што музыка, больш складаная за Яніса Ксенакіса, гэта проста набор гукаў. Але прайшло некалькі гадоў, я паслухаў розных кампазітараў, і мне шмат што пачало падабацца з сучаснага. Я з задавальненнем сыграў бы, скажам, што-небудзь Дзьёрдзя Лігеці ці Аліўе Месіяна.

— Але для такіх твораў трэба мець віртуозную тэхніку, — пасунулася да яго бліжэй Любоў Дзеньга.

— Уладзімір Гаравіц, які быў студэнтам нашай кансерваторыі, увогуле не надаваў значэння тэхніцы. Ён проста захоплена граў музыку, якая яму падабалася.

— Па праўдзе кажучы, не разумею яго шалёнага поспеху. Чым ён браў?

— У Гаравіца быў цудоўны гук. Асабліва ў басах. Такі насычаны бас, як у Гаравіца, я больш ні ў каго не чуў. З такімі басамі ён быў недасягальны ў выкананні арганнага Баха. Я слухаў канцэрты Гаравіца з грампласцінак. Гэта была ўласная музыка, нецярплівая, экспрэсіўная.

Дзеньга дакранулася да бацькавай рукі, нібы яе найбольш цікавіў Гаравіц, а насамрэч бесцырымонна да яго клеілася. Здавалася, яшчэ трохі — і гэтая штучка сядзе яму на калені.

— А вы чулі хаця б адзін яго жывы канцэрт?

— У 1986 годзе за год да смерці Гаравіца я слухаў яго ў Маскве. Магутныя канцэрты, якімі ён славіўся з маладых гадоў, па старасці змяніліся на ціхую ўдумлівую ігру. Гэта была музыка старога піяніста, які ўзяў ад жыцця ўсё, што хацеў.

— Кажуць, у яго быў вельмі высокі тэмп, — яна прытулілася да бацькавага пляча і задаволена заплюшчыла вочы. — Неяк Гаравіц іграў з англійскім аркестрам і яму не спадабалася флегматычная ігра музыкантаў.

— Я з Украіны і цяпер пакажу англічанам, што такое сапраўдны тэмп, — сказаў ён. — Пасля яго ігры музыканты былі ў мыле. На жаль, — пазіраючы на гадзіннік, завалтузіўся бацька, — мусім са Слаўко вас пакінуць.

Але яна зрэагавала на гэта па-свойму:

— А вы на метро?

— На метро, — кіўнуў бацька, развітваючыся з афіцыянткай.

— Тады я вас яшчэ трохі праваджу.

На эскалатары яна стаяла паперадзе і трымалася за яго, не забываючыся гаварыць пра піяністаў і іншыя нецікавыя рэчы.

«Якія яны зануды», — падумаў я.

— Дарэчы, Гаравіц адчуваў змену надвор'я і называў сябе хадзячым барометрам, — сказаў бацька.

— А вы гэта адчуваеце? — какетліва запытала Любоў Дзеньга.

— Толькі ў доўгім падземным пераходзе метро паміж станцыямі «Крышчацік» і «Майдан Незалежнасці». Калі павінен пайсці дождж ці снег, там заўсёды мяняецца вільготнасць, і я гэта адчуваю.

— Дык пойдзем праверым.

— Іншым разам, — ветліва адмовіўся бацька.

— А гэта праўда, што Гаравіц не прымаў ніякіх рашэнняў, а ўсё вырашала яго жонка?

— Ванда Тасканіні сваё жыццё прысвяціла кар'еры Гаравіца. Яна была скандалісткай і мела дэспатычны характар.

Мы спыніліся на станцыі «Крышчацік» і чакалі электрацягніка. Дзеньга была вясёлай і безупынна гаманіла.

— Я б таксама прысвяціла жыццё такому чалавеку, — вымавіла яна, прытуляючыся да бацькі. — З дэспатычным і скандальным характарам у мяне пакуль што праблемы, але, мяркую, гэтаму можна лёгка навучыцца.

Якраз падышоў наш цягнік, і мы нарэшце яе пазбавіліся.

— Дзякую за вечар. З вамі было вельмі цікава, — папраўляючы свой рукзачок, задаволена піскнула Любоў Дзеньга.

І калі цягнік ужо рушыў, мне здалося, што ў астатні момант яна перадумае ехаць дадому, ускочыць у наш вагон, учэпіцца ў бацькаву руку і будзе зноў шчабятаць пра Гаравіца, але ў самае апошняе імгненне я паспеў убачыць узмах яе рукі за акном электрацягніка, які з шумам улятаў у цёмны тунэль кіеўскага метрапалітэна.

***Пераклад з украінскай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.***

***Працяг будзе.***

# ДРЭННА СТАЯЦЬ ПАД ДАЖДЖОМ...

*«Можна толькі пазайздросціць нашым класікам: яны ўваходзілі ў літаратуру тады, калі беларуская рэчаіснасць уяўляла сабой амаль не кранутую мастацкім словам цаліну. Да чаго б не дакранулася іх пяро, усё адразу ператваралася, як у міфе пра цара Мідаса, у золата паэзіі. Праўда, той жа Мідас прасіў багоў пазбавіць яго ад гэтага пакарання», — пісаў Міхась Тычына. Можна пагаджацца ці не пагаджацца з аб'ектыўнасцю гэтай думкі, але той факт, што зараз, каб годна заявіць пра сябе, трэба стварыць штосьці сапраўды арыгінальнае, мала хто будзе аспрэчваць. Стварыць нешта такое, каб не паўтарыцца, не згубіцца сярод тых, хто піша «пад Танка», «пад Барадуліна», «пад Гінзберга», «пад Ніканава» (шэраг можна цягнуць бясконца, у залежнасці ад асабістага густу і самаідэнтыфікацыі з пэўным літаратурным кірункам). Толькі таленавіты чалавек можа сам задаваць правілы гульні, вырашаць, што лепшага ўзяць са спадчыны, а што адкрываць наноў. Яшчэ ў сярэдзіне 70-х гг. балгарскі пісьменнік Г. Джагараў, адказваючы на пытанне пра маладую літаратурную змену, канстатаваў наступнае: «Цудоўныя юнакі. Адзін за другога таленавіцей. Такія таленавітыя, што часам не адрозніш аднаго ад другога. Прынамсі, сёння асоб сярод іх не відаць». Добра сказана, выкшталцона-іранічна. Аднак іронія горкая. Безаблічнасць, немагчымасць выдзеліць лідараў — фактар вельмі пагрозлівы для аўтарытэту нацыянальнай літаратуры. І прычынай таму можа быць не толькі дэфіцыт адораных людзей, а і банальна невысокая якасць камунікацыі паміж аўтарам і чытачом. Калі разглядаць канкрэтна паэзію, то тут справа ўскладняецца яшчэ той аксіёмай, што паэзія апрыёры з'ява элітарная (хоць у адносінах да некаторых яе гатункаў гэта вызначэнне і здаецца недарэчным). Адсотак людзей, якія перыядычна чытаюць вершаваныя творы, цікавяцца новымі тэндэнцыямі і маюць дакладна акрэсленыя прыхільнасці ў дадзенай вобласці, значна ніжэйшы, чым адпаведны ў дачыненні да прозы.*

*«Чым жа адметная сучасная беларуская паэзія і літаратурны працэс увогуле? Што ёсць станоўчага і адмоўнага? Чаго нам не хапае?» — гэтыя і падобныя пытанні былі зададзены маладым паэтам, аўтарам дадзенага нумару. Вось што адказаў, напрыклад, Раман Абрамчук: «Няма альтэрнатывы альтэрнатыве. Патрэбна болей розных саюзаў, аб'яднанняў, рухаў, суполак, аднолькава моцных, каб быў дыялог, розныя галасы, меркаванні, падыходы». І гэта падаецца даволі слушным, калі ўлічыць вопыт стварэння літаратурных суполак на Беларусі. Аддаючы іх арганізатарам належнае як пачынальнікам, піянерам, трэба ўсё ж такі адзначыць прынцыповы суб'ектывізм, часам варожае стаўленне да неаднадумцаў, тактычныя памылкі ў арганізацыйнай дзейнасці. Напрыклад, «Тутэйшых» у 80-я абвінавачвалі*

*ў празмерным адмаўленні традыцый, хоць яны «прынеслі новыя жанры ў літаратуру: эсэ, абразку, разанаўскія пункціры, версэты й вершаказы, запазычаныя паэтычныя формы, такія як хайку й танка» (М. Шчур). Таварыства Вольных Літаратараў у 90-я — у пэўнай замкнёнасці, нешматлікай колькасці яго сяброў пры станоўчым моманце высокай арганізацыйнай актыўнасці (заснавалі літаратурную прэмію «Гліняны Вялес», разгарнулі выдавецкую дзейнасць («Бібліятэка часопіса «Калоссе»). «Бум-Бам-Літ» — у крытыцы калег па літаратурным цэху, зыходзячы толькі з асабістых эстэтычных ідэалаў. Сённяшняе беларускае «пакаленне Next» (вызначэнне Г. Кісліцынай) усё больш змяшчае свае творы ў інтэрнэт-прасторы ці спрабуе выдаць зборнікі самвыдатам. «Інтэрнэт запоўнены недапаэтамі. Але, з іншага боку, менавіта інтэрнэт дае магчымасць неяк распаўсюджваць літаратуру. Разважаць тут, канешне, можна бясконца. Тым не меней, я гляджу на гэта пазітыўна. У любым выпадку, калі чалавек адукаваны, ён знайдзе тое, што варта, нават сярод бясконцай плыні мішуры», — кажа маладая паэтка Яна Мацюшава. Аднак тут ёсць свае нюансы. Адна справа — мець уласную (з абмежаванай колькасцю наведвальнікаў) старонку, іншая — стаць удзельнікам вялікага партала. Тэндэнцыі глабалізацыі, безумоўна, закранулі і літаратурны працэс, які актыўна перамяшчаецца ў сеціва. Прыклад няблага арганізаванага падобным чынам праекта даюць нам суседзі. Расійскі інтэрнэт-партал «Журнальный зал» аб'ядноўвае шматлікія літаратурныя часопісы — «Новый берег», «Октябрь», «Крещатик», «Иностранная литература», «Дружба народов» і шмат у чым вызначае літаратурнае надвор'е. Прычым ёсць у шэрагу выданняў і часопісы, якія арыентуюцца выключна на паэзію: «Арион», «Интерпоэзия» і «Дети Ра».*

*Яшчэ адной вострай праблемай маладыя паэты лічаць нераспрацаванасць аб'ектыўных крытэрыяў ацэнкі паэтычнага тэксту. «Нельга не адзначыць "непаўнату" (дыханне не на поўныя грудзі) літаратурнай крытыкі. Не часта даводзіцца знайсці якасны крытычны матэрыял», — сцвярджае Алена Ясэк. Увогуле, аналітычныя матэрыялы пра сучасную паэзію з'яўляюцца даволі рэдка. Аналіз паэтычнай прасторы часта перамяшчаюць у вобласць навуковых і даведачна-бібліяграфічных манаграфій, прадмоў да анталогій і зборнікаў і г. д. Нельга не адзначыць і суб'ектыўнасці крытыкаў («штатныя» крытыкі пэўнага аб'яднання ці проста крытыкі-паэты з ярка акрэсленымі ўласнымі прыхільнасцямі). С. Кавалёў аднойчы выказваўся пра творчасць сваіх калег па пяры наступным чынам: «У аднаго крытыка слушныя патрабаванні да пісьменніка на ўзроўні класікі, у другога — на ўзроўні рэгіянальных падгруп, у трэцяга — на ўзроўні ранейшай творчасці самога пісьменніка, у чацвёртага — увогуле ніякіх патрабаванняў». Вось і хацелася б, каб з'явіліся выразныя аб'ектыўныя патрабаванні... А таксама больш бесстаронніх крытыкаў, здольных абстрагавацца. Крытыкаў, якія не баяцца адкрытай палемікі і цвёрда адстойваюць свае меркаванні. Былі ж у нас выдатныя прыклады менавіта такіх плённых «спрэчак»: ад абмеркавання першага нумара «Полымя», што правакавала далейшую дыскусію аб лёсе беларускай паэзіі («Савецкая Беларусь», 3 студзеня 1923 г.) да літаратурных дыскусій на старонках «ЛіМа» і «Першацвета»... Апошні, да таго ж, прадстаўляў бягучую крытыку маладых маладымі, што вельмі карысна, бо «паэт набірае разгон, калі яго творчасць знаходзіць месца ў сэрцах аднагодкаў і водгаласам, прызнаннем вяртаецца да яго» (Д. Бічэль-Загнетава).*

*Нельга абысці і адвечную праблему повязі пакаленняў. У пераважнай большасці маладыя паэты выказваліся наконт таго, што не адчувалі аса-*

*блівай дапамогі з боку старэйшых. Вядома, што не заўсёды маладыя самі шукаюць яе, а часам нават і не прыслухоўваюцца да парад. Аднак тое, што масцітыя літаратары зараз з некаторым недаверам і сумненнем адносяцца да творчых эксперыментаў новай змены — гэта факт. І дарма. Бо чалавеку заўсёды пажадана быць вучнем. У адваротным выпадку пачынаецца дэградацыя, духоўнае апустошанне. Зараз як ніколі важна аднавіць слаўныя традыцыі апякунства (у лепшым сэнсе гэтага слова) старэйшых пісьменнікаў над маладымі. Узгадаем тыя часы, калі першыя публікацыя ці зборнікі творцы адразу траплялі пад пільную ўвагу сучаснай крытыкі і актыўнага рэцэнзаваліся вядомымі пісьменнікамі. Напрыклад, першы зборнік «Снежныя грамніцы» Яўгеніі Янішчыц, які выйшаў за год да заканчэння ёй універсітэта, адразу атрымаў водзывы Н. Гілевіча, Дз. Бугаёва, Р. Бярозкіна, А. Грачанікава. Натуральна, што пасля такой падтрымкі маладая паэтка не збавіла творчага рытму і апантана працавала далей (новыя зборнікі выходзілі з зайздроснай перыядычнасцю: у 1974, 1978, 1980, 1983, 1988 гг.)…*

*Аднак трэба разабрацца, як і пра што пішуць маладыя. Ці вартыя яны дапамогі класікаў? Нельга сказаць, што творчасць сучасных беларускіх паэтаў не падпадае пад тэндэнцыі агульныя ва ўсім свеце. Але ёсць адзін нюанс. Запозненае з сацыяльна-гістарычных прычын развіццё беларускай літаратуры, якая ў пэўны час праходзіла «паўтарыцельны курс», вымагае ад нас стаўлення з разуменнем да ўкаранення новых кірункаў. Зразумела, што некаторыя рэчы, выхапленыя з кантэксту еўрапейскай культурнай парадыгмы, будуць ніякавата глядзецца без папярэдняй падрыхтоўкі на беларускай глебе. Ды час вымагае перамен. «Чым складаней аказваецца эпоха, тым больш прэтэнзій да тэрмінаў, якімі яе спрабуюць вызначыць. Магчыма, таму постмадэрнізм так часта называюць прывідам і хімерай», — піша Ганна Кісліцына. І сапраўды, часта, не маючы пад сабой трывалай глебы, твор, створаны па правілах постмадэрновай гульні, літаральна «трашчыць па швах», а некаторыя вобразы-алюзіі прашыты белымі ніткамі. Паказальным з'яўляецца ў гэтым плане меркаванне яшчэ аднаго рэспандэнта Алеся Круткіна: «Многія з сучасных паэтаў (і даволі вядомых і паспяховых, трэба зазначыць), паддаўшыся хуткаму ветру постмадэрнізму (хаця, дарэчы, ужо год як восем некаторыя адмыслоўцы кажуць аб надыходзе новай эпохі: постпостмадэрна) страцілі ў капанні ўглыб шырыню палёту і думкі». Думаецца, што некаторым творцам спачатку трэба тэарэтычна азнаёміцца з эстэтыкай дадзенай мастацкай плыні, а ўжо потым ствараць нешта самім. Бо хочацца, каб падобныя творы выконвалі наступныя пазітыўныя, зададзеныя постмадэрнізмам, функцыі: рэабілітацыя папярэдняй мастацкай традыцыі, а таксама рэалізму, класікі, адмаўленне шавінізму і нігілізму, арыгінальнае пераасэнсаванне класічных эстэтычных каштоўнасцей, выяўленне новых, часам парадаксальных, стыляў, дыялог з сусветным мастацкім вопытам. І часам мы можам назіраць цалкам удалыя эксперыменты. Не траціць надзею на лепшае і кіраўнік паэтычнага гуртка «Альтанка» на філалагічным факультэце, вядомая паэтка і навуковец Ірына Багдановіч: «…сто гадоў назад здзейснены «прарыў» традыцыйнага паэтычнага слова футурыстамі… Але нават футурызм — ужо мінуўшчына гісторыі сусветнай літаратуры. А творчы пошук, сугучны сучаснасці, працягваецца… І так, як размаітаю з'яўляецца наша сучаснасць, так непадобныя да сябе мастацкія спробы пяра маладых паэтаў, што прыходзяць у літаратуру...» Так, хваля шоуцэнтрычнасці не магла не захапіць маладую змену. Аднак усюдыпранікальная іронія, парадоксы, эпатаж таксама бываюць вельмі дарэчы. А яшчэ пішуць зараз*

*надзвычай суб'ектыўна, пра сябе і праз прызму сябе. Ды інакш быць і не можа. Ужо з сярэдзіны XX стагоддзя беларуская лірыка становіцца ўсё больш інтравертнай. Гэта прыўкрасна, бо «талент — гэта слых і зрок, свой голас і адчуванні, свой «болевы парог», тэмперамент, асаблівасці, фантазіі, мысленне» (У. Гніламёдаў). Аднак так званай «самасцю» таксама нельга злоўжываць. Галоўнае памятаць, што верш ствараецца і для чытача таксама. Празмерная ўскладненасць і цьмянасць вобразаў, манеры пісьма наўрад ці залічыцца ў дасягненні паэта... Ды і знешняе павінна адбівацца ў люстэрку душы, пераасэнсоўвацца сапраўды глыбокім, неабыякавым творцам.*

*Што ж да фармальных прымет, то тут не можа не цешыць тэндэнцыя паступовага павышэння паэтычнай культуры. Можна сустрэць зараз у беларускай паэзіі наступныя цвёрдыя формы: лімерык, рандо, рубаі, тэрцына, рытурнэль, танага, рандо, танка і інш. Многія працуюць у камбінаторнай манеры (візуальная паэзія, паліндрамія, анаграматычнае пісьмо, брахікалон, аднастрок). Зразумела, што незвычайна павышаецца і ўдзельная вага верлібраў. Гэта зноў жа тэндэнцыя сусветная. Аднак, адмаўляючыся ад «другасных прымет» вершаванай мовы, нельга забываць, што добры верлібр — гэта не дрэнная проза, гэта тое, што прозай пераказаць цяжка. У добрым верлібры прысутнічаюць сродкі мастацкай выразнасці, характэрныя выключна для паэзіі, а таксама асаблівае паэтычнае светаадчуванне. Толькі тады не прыйдзецца зніжацца да звычайнай прозіметрыі. І, дзякуй богу, многія маладыя паэты гэта тонка адчуваюць. Але і тыя, хто піша класічныя сілаба-танічныя вершы, імкнуцца да творчага ўзбагачэння вершаванай страфы на ўзроўні рытмікі, фонікі, страфікі... Наколькі гэтыя спробы ўдалыя, меркаваць паважанаму чытачу. І дарэчы тут будзе ўзгадаць радкі з вядомага верша «У дождж» Максіма Танка:*

Дрэнна стаяць пад дажджом
Пачынаючаму паэту,
Калі кожная кропля сячэ і сячэ.

*Будзем жа ставіцца з паразуменнем да творчасці маладых, якія яшчэ павінны сцвердзіць пра сябе на поўны голас.*

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

## Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

# УСПАМІН ПРА КУПАЛЛЕ

Небасхіл аціх у зорным пыле,
Берага насупраць не відаць.
Позірку жарынкай запаліла
Сэрца мне, калі пайшла шукаць

У гушчар разложысты хваёвы
Папараці агняцвет руды,
Пад гучанне вечнае замовы
У расе купаючы сляды.

Пакрыёма ў цемрадзі растане
Постаць легкаважная твая,
Вернешся на залатым світанні
Промнямі народжанага дня.

Не пасмела, шчодрая, прыўласціць
Тое, што належыць маладым,
Бо без запаветнай кветкі шчасця
Ператворыцца паданне ў дым.

Дагарае кволае цяпельца,
Але легла ў даланю далонь,
І раздзьмуты палымнее ў сэрцах
Пачуццяня нязгаснага агонь.

### Раман АБРАМЧУК

## АКЦЁРКА КУПАЛАЎСКАГА

**I**

Бегла, спазнялася моцна на працу,
У тралейбусе — бівісы, батхеды, пацавацы
Едуць з другое змены,
Смокчуць з пластыкавых, лузгаюць семкі.
А зрэшты, і ты — на змену,
А зрэшты — і ў вас перасменкі,
Ды начальнікам цэха — сама Мельпамена.

**II**

Ледзь паспела, бяжыш матылёчкам па сцэне.
Дзея першая адбываецца ў Вене,
У галаве — суп і ці малодшы ўранку паснедаў.
«Мон амі, дэмандэ о вале дэ[1] не спазняцца з абедам»
Учора муж упершыню назваў дурай
«Сі цю цё сан малад, мон шэры[2], я пашлю за мікстурай».

**III**

Жарсці, інтрыгі, карнавалы, ядбавы.
— Да якой працуем-та сёння, бабы?

---

[1] Mon ami, demandez aux valets de… — фр. Друг мой, папрасіце служак.

[2] Si tu te sens malade, mon cheri… — фр. Калі ты адчуваеш сябе дрэнна, мая мілая.

— Да дзявятай працуем, мілая.
…У антракт выйшла ў сквер, да анёлка з абвіслымі крыламі.
Галоўрэж пляце нешта пра нацыянальны канон,
беларуска-нямецкія паралелі,
А табе увачч у — ён,
Як дарыў пярсцёнак перад вяселлем.

**IV**

Блізкі сыход, прайграная п’еса,
Для гераіні пры смерці правіцца меса.
Так, мілая, гэта сапраўдны анёл
Пад сафітамі нацыянальнага акадэмічнага.
Бог з табой, ідзі дамоў,
Адпрацавала, залічана.
І не забудзься змыць грым,
Хоць ён і так амаль не наклаўся.
Бог з табой, ідзі дамоў, спектакль удаўся.

## Яна МАЦЮШАВА

## ЦЫГАНСКАЕ КАХАННЕ

Яны сядзелі побач.
Лавілі позіркі адзін аднаго.
Маладыя шчэ зусім. Дзіцяткі.
Бараніць бы яму самаго сябе,
Бо няма ў цыганскім жыцці парадку,
А ўсё туды ж. Каханне...
Перакруціўся па-сучаснаму на аднойназе.
Уражанне так выклікае.
А яна ў захапленні.
Іншая мова, іншы свет, а адсюль
вынікае:
Чалавек — ён паўсюль чалавек,
І паўсюль усё тыя ж «каханні».

## Алена ЯСЭК

* * *

Шукала я выйсце поруч —
З надзеяю і адчаем.
Піла непамерна горыч,
Крычала ў глухім маўчанні.

Нялёгка было аж вельмі,
Шукаць — не знаходзіць. Вецер...
Другія — ці шчасце мелі?
Я ж — словы для новых песень.

Мінула, прайшло, прапала...
Звіняць адбалеўшы ноты.
Кагосьці даўно не стала,
А хтосьці — наперад крочыць.

* * *

Вершы пішуцца з жыцця
і з пачуццяў —
прыглядзіся, а пасля
і паслухай.
Ноч тупоча за акном,
ходзіць вецер —
ды не знойдзеш іх слядоў
На ўсім свеце.
Аб чым марыць галубок —
невядома.
У цемры не шукай дарог,
але Бога.
Вершы пішуцца з жыцця
і з пачуццяў —
прыглядзіся, а пасля
і паслухай...

## Марына ВАРАБЕЙ

* * *

мы раздзёртыя
пойдзем гуляць горадам
паліваючы сцежкі
жалезнымі кроплямі
зрываючы з ланцугоў сабак
сваімі крокамі
сваімі пахамі
хай чуюць сляпыя
хай бачаць глухія
хто можа
хай пойдзе за намі
спярша ненавідзячы нас
не прымаючы нас
абражаючы нас
пазней зразумеюць
што мы ратаванне іх

* * *

Вячэрняга неба чырвонае рэха,
Пад ім — гарадскія барвовыя стрэхі.

Так Сёння пунцоваю захаду стужкай
Вянчае сваё панаванне.
І служку
Да раніцы зноў запрашае на варту,
Бо з новаю моцай наважыцца варта,
Каб Заўтрашнім Днём нарадзіцца.

## Іван ЦВІРКА

## ЧАЙ

Хадзіў шчаслівым я ўсяго тры дні.
Тры дні з вялікім, радасным адчаем:
Гарэлі нашы вочы, бы агні!
І ўсе тры дні мяне паіла чаем.

А чай той горкі мёдам мне здаваўся,
Салодкім мёдам, п'яным, нібы хмель.
Пачуццямі ўвесь я напаўняўся,
І шчок тваіх любіў я акварэль.

І хмель той па ўсім целе разліваўся
І шызым туманом мне вочы засцілаў…
Імгненне… Пацалунак… Я прызнаўся…
Я ахмялеў ад шчасця, я прапаў…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло тры дні… Няма ўжо больш адчаю —
Быў выпіты апошні кубак чаю.

## Алесь КРУТКІН

* * *

Белыя крылы,
Залатыя пялёсткі,
Дзеўчына-Вырай
Сонечнай вёскі.
Шэрыя казкі
У сіні ручай,
Шляхам варажскім
Піў я твой адчай.

* * *

Вусны — электрычнасці ток,
Навальніцы дотык.
Напаіла пяшчотай знарок,
Твой каток
Не пабег да котак.
Чынш дзеля сэрца — вяснушкі,
Кошык — радзімак палёт.
Голасам, сіняю юшкай,
Шэптам на вушка:
Я толькі кот.

### Андрэй КІМБАР

## СВІСЛАЧ

Люстэрка вады перарэзалі хвалі,
Адбітка нябёсаў у ім больш няма.
Як быццам незбалансаваныя шалі,
Знайсці раўнавагу не можа вада.

* * *

Паглынае
чарговая ноч з галавою,
Забівае
штодзённасць сваёю тугою.
Дапіваю —
бо келіх не мусіць быць поўным.
Я кахаю
цябе ці твой вобраз няўлоўны.

### Сяргей САМАХВАЛ

## СНЫ АБ ПЕНЕЛОПЕ

Хацеў аб’ехаць ўсю Еўропу,
Ды рэжа думка ўсё мацней:
«Куды  вяртацца? — Пенелопу
Ты не знайшоў, мой Адысей».

І мары зблыталі мне яву,
І часта бачыць стаў у снах,

Як на ўзгорку кучаравы
Пускае стрэлы Тэлемах.

А ля яго, нібы русалка,
З вянком на русай галаве
Стаіць дзяўчына — погляд палкі —
І сыну стрэлы падае.

Вось толькі Эрас штось не хоча
Сваю стралу ў мяне пускаць,
Каб бачыць іх не ў снах у ночы,
А ў сапраўднасці абняць.

Я б кінуў думаць пра Еўропу,
Бо сам не здолеў бы чакаць...
Вось толькі дзе ты, Пенелопа?..
Выходзь на ганак сустракаць!

## Аліна АГРЭНІЧ

* * *

Мы сустрэліся сонечным ранкам у Карпатах,
Ты лавіў залацістым брылём матылёў.
Навакол — сёлаў казачных ладныя хаты,
Сцірты сена, рачулка, разгалісты клён.

Ты дарыў мне каралі, што з росаў світальных,
Слаў пад ногі з ядвабнай травіцы дыван.
Накрываў мяне небам, калі засынала,
Спевам краю святога свайго саграваў.

«Я віддав би тобі все, що сам маю, Ладо,
Ти побачиш, як вміє кохати гуцул», —
Так сказаўшы, схаваўся ты за даляглядам
І пайшоў здабываць найцудоўнейшы цуд.

Ты хадзіў вечнасць дзесьці ў чорта на рогах,
І вярнуўся нарэшце, і ціха сказаў:
«Був я, ненька, високо-високо в цих горах,
Але зміг і знайшов! Він на мене чекав!»

Ўзяў у рукі свае мае рукі пяшчотна,
На стагоддзі сабой захінуў свет увесь.
«Це тобі, моє вічне щастливе Сьогодні», —
І паклаў на далоні мае эдэльвейс.

## Цімур БУЙКО

* * *

*А. Л.*

Вітаю сонейка-задзіру
любовяй хмарыстага дня!
З’явіся белай птушкай міру
да задзіракі-авадня!
Завечарэлай цішынёю,
дзе набліжаецца заход,
схіліся мякка нада мною:
стаміцца мусіла за год.
Угледзіш раптам кветку-ружу,
да неба зорнага ўзвядзеш —
і вочы ў сполаху прымружу
сляпцом, нібыта на крадзеж.
У сасляпеласці відушчы,
з нябёсаў многа не скраду,
хіба што сонца ў зорнай гушчы
ды вочак небную ваду.
Ты толькі белай птушкай міру
Ляці — крыляй да авадня,
Адорыш сонейка-задзіру
любовяй хмарыстага дня.

Іван САВЕРЧАНКА

# ВЯРЫГІ ЦАРКОЎНАГА САНУ

## I

Іпацій Пацей (у сапраўднасці *Адам Львовіч Пацей*) нарадзіўся ў 1541 годзе на Берасцейшчыне ў шляхецкай сям'і. Яго бацька — Леў Пацей служыў найвышэйшым пісарам Жыгімонта І Старога, а таксама займаў надзвычай адказную пасаду падскарбія (міністра фінансаў) Вялікага Княства Літоўскага. Маці — Ганна Лашчанка, па сведчанні сучаснікаў, была надзвычай адукаванай жанчынай свайго часу.

Дзяцінства Пацея праходзіла ў асяроддзі вышэйшай арыстакратыі, што паўплывала на выхаванне юнака, шмат у чым прадвызначыла яго будучыню. Пачатковую адукацыю атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе. Затым, пасля смерці бацькі, маці накіравала яго ў Кракаўскі ўніверсітэт, дзе ён паступіў на факультэт свабодных мастацтваў.

Па вяртанні на радзіму да 1572 года служыў пры двары Жыгімонта ІІ Аўгуста. У 33-гадовым узросце пакінуў кальвінскае веравызнанне і вярнуўся ў праваслаўе. Вядома таксама, што ў 1580 годзе займаў пасаду берасцейскага суддзі, а ў 1589 годзе атрымаў прывілей на Берасцейскае кашталянства, а разам з ім і месца ў Сенаце — верхняй палаце Вальнага Сойму. Каля 1590 года аўтарытэтны ўрадовец выступіў ініцыятарам стварэння Берасцейскага брацтва, пры якім былі адчынены школа і шпіталь.

## II

Духоўнае імя Іпацій ён узяў пасля смерці жонкі. Пакінуў свецкае жыццё і пастрыгся ў манахі. Але ў манастыры ён чаканага спакою не знайшоў. Увесну 1593 года атрымаў духоўнае пасвячэнне і прывілей манарха на пасаду ўладзіміра-берасцейскага епіскапа.

У якасці епіскапа далучыўся да праекта падрыхтоўкі уніі паміж Праваслаўнай царквой ВКЛ і Каталіцкім касцёлам, ідэя якой набыла рысы практычнага ўвасаблення пасля з'езда епіскапаў у сакавіку—красавіку 1590 года. Далучэнне ўладзіміра-брэсцкага епіскапа да таемнага праекта мела прынцыпова важнае значэнне, бо на момант разгортвання вострай царкоўна-рэлігійнай палемікі ён быў найбольш адукаванай асобай у Праваслаўнай царкве. Луцкі каталіцкі біскуп у лісце да папскага нунцыя Анібала так характарызаваў Пацея: «Паводле адукаванасці, аўтарытэту і дасведчанасці — гэта чалавек надзвычайны, да таго ж, спаміж сваіх, ён найбольш абазнаны ў рэлігійных справах».

Ужо ў 1593 годзе ўладзіміра-берасцейскі епіскап уключыўся ў распрацоўку канцэпцыі ўз'яднання Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла, вакол чаго напачатку сярод прыхільнікаў уніі не было поўнага адзінства. З архіваў Уніяцкай царквы вядома, што рознагалоссі паміж імі існавалі па двух пытаннях. Першае, ці варта пры падпісанні уніі абмяжоўвацца толькі Праваслаўнай царквой ВКЛ,

або неабходна дамагацца ўдзелу ў ёй Грэчаскай і Маскоўскай цэркваў, гэта значыць, паступова рыхтавацца да аб'яднання ўсяго заходняга і ўсходняга хрысціянскага свету. Другое, пад чыёй уладай — Папы Рымскага, або грэчаскага патрыярха — мусіць адбывацца аб'яднанне.

З'яўляючыся прыхільнікам ідэі ўсеагульнага яднання Каталіцкага касцёла і Праваслаўнай царквы, Іпацій Пацей з улікам рэальнай сітуацыі ўсё ж меркаваў, што ва ўмовах канца XVI стагоддзя далучыць да справы уніі Маскоўскую і Грэчаскую цэрквы немагчыма. Пагадненне з рэфарматарамі ён поўнасцю выключаў, бо лічыў іх рэлігійную дактрыну цалкам несумяшчальнай з вучэннем Ісуса Хрыста.

Пасля папярэдніх узгадненняў і ўдакладненняў, аб чым вядома з перапіскі тых часоў, дамогся, каб праваслаўны сабор 1594 года, які праходзіў у Берасці, большасцю галасоў, у тым ліку пры згодзе мітрапаліта Міхаіла Рагозы, прыняў Саборную грамату (2 снежня 1594 года). У ёй якраз і былі вызначаны асноўныя мэты аб'яднання Царквы і Касцёла. Апрача дасягнення міру і паразумення ў грамаце падкрэслівалася другая, не менш важная задача, — кансалідаванне намаганняў праваслаўных і католікаў у барацьбе з «еретычнымі сектамі», да якіх залічваліся пратэстанты ўсіх мадыфікацый.

Тады ж, у снежні 1594 года, праваслаўныя іерархі, прыхільнікі уніі, на чале з І. Пацеем прынялі і падпісалі новую Грамату, накіраваўшы яе вялікаму князю і каралю Жыгімонту III Вазу. У ёй, галоўным чынам, фармуляваліся ўмовы, на захаванні якіх настойвалі праваслаўныя лідары, рыхтуючы унію.

Іпацій Пацей і астатнія іерархі настойвалі на захаванні ўсіх усходніх абрадаў і рытуалаў, незалежнага распараджэння ўласнымі зямельнымі ўладаннямі — цэрквамі і манастырамі, патрабавалі захавання старога (юліянскага) календара. Яны дамагаліся права на ўдзел епіскапаў у дзяржаўным кіраванні, — уключэнні іх у склад Сената, ліквідавання юрыдычнай моцы грамат грэчаскіх патрыярхаў, каралеўскай абароны ў выпадку магчымых прэтэнзій Канстанцінопаля, роўнасці ва ўсім з каталіцкімі біскупамі, права самім выбіраць уласнага мітрапаліта.

Усе гэтыя ўмовы амаль без змен былі паўтораны ў Грамаце ад 12 чэрвеня 1595 года да Папы Рымскага Клемента VIII. У пасланні ў адказ Папа Рымскі браў на сябе абавязак выконваць усе выкладзеныя патрабаванні праваслаўных іерархаў ВКЛ узамен на іх згоду перайсці пад яго духоўную і юрыдычную ўладу.

Неўзабаве Пацей уступіў у публічную дыскусію з князем Канстанцінам Астрожскім, які хацеў далучыць да ўніяцкай справы беларускіх пратэстантаў. У *«Лісце да князя Канстанціна Астрожскага»* ад 25 сакавіка 1595 года ён катэгарычна выказаўся супраць уз'яднання праваслаўных з рэфарматарамі, тэалагічную дактрыну якіх лічыў цалкам памылковай.

На прапанову звярнуць увагу на «добры парадак» і «дасканалую навуку» евангелікаў Пацей адказаў: «Ваша міласць раіць мне пераняць парадкі іншаверцаў, маўляў, яны надта добрыя. Няхай яны будуць самыя лепшыя, але ж яны ўзведзеныя на памылковым фундаменце. Усё, што маюць пратэстанты — гэта смецце, і іх школы, і друкарні, і мноства прапаведнікаў. Бо іншаверцы — гэта непрыяцелі Сына Божага, зневажальнікі Божай улады. Іх плады не надта прыемныя Богу. Усё іх збудаванне — на пяску, а не на моцнай аснове, якой з'яўляецца Хрыстос, Сын Божы, Бог і сапраўдны чалавек».

Далей Пацей адзначаў, што ён не схільны захапляцца наваўвядзеннямі пратэстантаў, параўноўваў іх з небяспечнай атрутай: «Я зусім не зайздрошчу іх парадку. Калі б атруту не саладзілі мёдам, дык, пэўна, да яе б не прыліпалі ўбогія мухі! Д'ябал прывык выкарыстоўваць анёльскае святло і на ваўкоў нацягваць авечую шкуру!» Настойліва раіў Астрожскаму не верыць пратэстантам, быць асцярожным і абачлівым у адносінах з імі. Заклікаў яго шукаць згоды з сапраўднымі паслядоўнікамі Ісуса Хрыста.

16 чэрвеня 1595 года Пацей напісаў чарговы *«Ліст да князя Канстанціна Астрожскага»,* у якім прасіў уплывовага магната ўважліва разабрацца ў сутнасці прапаноў іерархаў Царквы па справе уніі. Аднак просьбы і пранікнёныя заклікі царкоўнага іерарха да князя не былі ім пачутыя. У сваю чаргу прапановы князя Астрожскага не знайшлі падтрымкі ў большасці праваслаўных епіскапаў.

## III

У 1595 годзе Пацей, маючы на мэце прыцягнуць да справы уніі як мага больш прыхільнікаў, напісаў і выдаў на старабеларускай мове твор *«Унія, або Выклад галоўных артыкулаў лучнасці грэкаў з Касцёлам Рымскім»* (Вільня, 1595), які меў велізарнае значэнне для беларускай і ўсёй славянскай культуры. Аўтар «Уніі…» упершыню ў славянскай літаратуры сказаў не пра адрозненні Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла, а аб тым, што іх аб’ядноўвае, збліжае. Прывёў канкрэтныя прыклады, якія пацвярджалі агульнае паміж дзвюма асноўнымі адгалінаваннямі Хрысціянства,

Апрача таго, у трактаце прапанаваў канкрэтныя шляхі пераадолення супярэчнасцеў паміж Праваслаўнай царквой і Каталіцкім касцёлам. Падазены глыбокі аналіз сутнасці пяці артыкулаў — пра зыходжанне Святога Духа, Чысцілішча, Папу Рымскага, каляндар, Антыхрыста.

Твор Пацея не толькі адыграў выключную ролю ў гісторыі Царквы, але і паклаў пачатак новаму буйному напрамку нацыянальнай культуры — уніяцкай літаратуры Беларусі.

Восенню 1595 года Пацей, разам з Кірылам Тарлецкім і вялікай дэлегацыяй у складзе свецкіх і духоўных асоб, накіраваўся да Папы Рымскага.

23 снежня 1595 года ў святочнай атмасферы дэлегацыю прыняў Клемент VIII. Пацей і Тарлецкі, выконваючы даручэнне сабора, прысягнулі Папу Рымскаму, за сябе і за іншых, — на вечнае злучэнне Царквы і Касцёла пад уладай Рымскага прастола.

На наступны дзень адбылася служба, якую па чарзе адпраўлялі беларускія епіскапы і Клемент VIII. Папа Рымскі аказаў гасцям з ВКЛ вялікі гонар: ён зрабіў Пацея і Тарлецкага «прыдворнымі прэлатамі».

Адной з важных спраў, здзейсненых Іпаціем Пацеем у Рыме, была падрыхтоўка да друку кнігі: «Ключ на пасхалію водлуг нового календара рімскаго, направлены через Леонарда Авеля, епіскопа Сідоньскаго». Кніга была выдадзена кірыліцай у 1596 годзе, у «друкарні апостольской Ватыканской».

У першых числах студзеня 1596 года пасольства выехала з Рыма. Візіт быў удала завершаны, але на радзіме яго чакалі новыя выпрабаванні. У Варшаве ў гэты час адбываўся Генеральны вальны сойм, на якім дэпутаты менскага, навагрудскага, полацкага, валынскага і кіеўскага паветаў, даведаўшыся пра вяртанне Пацея і Тарлецкага, аб’ядналіся вакол князя Канстанціна Астрожскага і запатрабавалі ад Жыгімонта III Вазы пазбаўлення ўладзіміра-берасцейскага епіскапа архіерэйскага сану. Але манарх палічыў іх прэтэнзіі неабгрунтаванымі і абараніў Пацея.

## IV

Улетку 1596 года Пацей завяршыў падрыхтоўку да міжцаркоўнага пагаднення. На Берасцейскім саборы, які праходзіў 6 — 8 кастрычніка 1596 года, адбылося падпісанне пагаднення паміж Праваслаўнай царквой ВКЛ і Каталіцкім касцёлам. Такім чынам, у выніку перамагла канцэпцыя уніі, выпрацаваная Пацеем. Аднак здарылася непрадбачанае — частка праваслаўных не пагадзілася на альянс з каталікамі. Там жа ў Берасці правялі асобны сабор пад кіраўніцтвам патрыяршага экзарха Нікіфара, на якім асудзілі дзеянні іерархаў, якія падпісалі Унію.

Давайце ўслухаемся, удумаемся ў дыялог Праўдзіна і Старадума:

«— Прямое достоинство в человеке есть душа.

— Без неё просвещенная умница — жалкая тварь. Невежда без души — зверь…

— Оставлять богатство детям? В голове нет. Умны будут — без него обойдутся, а глупому сыну не помощь богатство. Нет, мой друг, наличные деньги — не наличное достоинство. Золотой болван — все болван… Последуй природе, никогда не будешь беден. Последуй людским мнениям, никогда богат не будешь…

— Прямую цену уму дает благонравие. Без него умный человек — чудовище…»

Чытайма класіку з аловачкам. І мы ўпрыгожым наша мысленне, узбагацім мову. А галоўнае, абвострым розум — наша душэўнае вока.

* * *

Невуцтва і бяспамяцтва харчуюцца целам Душы.

Яны не нараджаюцца разам з чалавекам. Тады адкуль трапляюць да яго?

Думаю, гэта прышчэпы самога нячысціка. Як жа ён дзіка і задаволена рагоча, калі пасля яго выкрутасаў чалавек робіцца грубым, цёмным, неабчэсаным, абыякавым. Ну, зусім як ён, балотны шкодзя.

А яшчэ думаю, невуцтва і бяспамяцтва — ад вірусаў сучаснага жыцця.

У гіпермаркет зайшоў — выбірай, што кашалёк пажадае. Клавішу камп'ютара цісканнуў — шпаргалка гатова. Праграм у тэлевізары, як баянных кнопак, увесь свет цябе забаўляе. Слыхаўку ў вушы ўтыркнуў, вочы заплюшчыў — ты ў пацешным, віртуальным космасе.

А жыць жа нам наканавана на гэтай зямлі. З тымі, хто побач, з тымі, хто тут ужо быў.

Шнуруем па старым, закінутым пагосце. Унучка не можа адшукаць земляны пагорачак, пад якім спачывае яе любімая бабуля. Не помніць, калі дакладна яна памерла, затое з прыемнасцю носіць на сваім пальчыку яе вясельны пярсцёнак.

У дом дзіцяці завітала маці-зязюля, захацела ўбачыць сваё дзіцё. «Шукайце», — даверылі ёй зайсці на гульнёвую пляцоўку. «Маці» пераступіла цераз свайго сынка, які «пёк» пірагі ў пясочніцы.

Ведаю выпадак, калі сын пісьменніка вывез бацькаў архіў на сметнік. Настаўніца мінскай школы заявіла дзецям, што беларуская мова не перспектыўная і яе можна не вывучаць…

Якое дрымучае невуцтва! Якое злобнае бяспамяцтва!

Гэта — душэўныя раны. А ўсе раны — загойныя, балючыя, крывавыя — вылечваюцца любоўю, ведамі, надзеяй, малітвай.

Нястомна шукайма гэтыя лекі.

* * *

Якіх толькі тытулаў не напрыдумлялі сабе сучасныя начальнікі. Мэр. Глава. Старшыня. Дырэктар. Загадчык…

А здаўна-прыдаўна, яшчэ ў старажытных рымлянаў, дый у беларусаў таксама, галоўным тытулам быў «pater familias» — бацька сямейства. Ён клапаціўся, каб усе яго падначаленыя былі накормлены, адзеты, абуты. Ён забяспечваў дысцыпліну ў сваім войску, клапаціўся пра фізічныя і духоўныя мускулы спадчыннікаў, каб не зводзіўся род, каб не сорамна было за фамілію.

Існавала нават званне Бацька Айчыны. Гэты ганаровы тытул меў яшчэ да новай эры Марк Тулій Цыцэрон, рымскі палітычны дзеяч, выдатны прамоўца і пісьменнік. У Расіі такое знакамітае прызнанне атрымаў ад сената цар Пётр Першы Вялікі.

Было б добра і цяпер увесці ў арсенал званняў ганаровы тытул — Сын, Дачка Айчыны. І хай бы гэта высокая мерка чалавечай годнасці стала дасягальнай для многіх нашых сучаснікаў. Тады, можа, спраўдзім надзею Янкі Купалы:

Нам трэба жыць і долю папраўляць,
Каб нас патомкі з часам не клялі.

* * *

Народ выштукаваў такія залацінкі афарызмаў, што яны ў памяці вякоў.

«Ён нашаму слесару — дваюрадны каваль».

«Толькі і радні, што лапці адны».
«На адным сонцы анучы сушылі».

Так то яно так, але ж мусім прызнаць: усе мы на зямлі — радня. Хаця часам і дзясятая вада па кісялі. Але ганарова адчуваць: куды ні зірні, там твае карані.

Нядаўна парадніўся з самім Якубам Коласам. Грэбаючыся ў архіўных паперах, устанавіў: брат маёй бабулі Праксэды, Пётр Старжынскі жаніўся на роднай сястры слыннага акадэміка Сцяпана Некрашэвіча Наталлі. У іх нарадзілася дачка Соф'я. Тая ў замустве з Уладзімірам Кулеўскім, параднёным з Ліпскімі, нарадзіла дачку Зарыну. А Зарына стала першай жонкай старэйшага сына Якуба Коласа Данілы. Ад іх шлюбу дзеці — Жэня і Андрэй, мае сучаснікі. Дык хто цяпер усумніцца, што свет людзей не клубок радні? Ці не пра гэта думаў народны паэт Беларусі Якуб Колас, калі пісаў верш «Я жыву»?

Я зачараваны маўчу, стаю
У чарах цішыні і чарамі сагрэты,
І ў тон адзін з зямлёю я пяю,
І кожны міг сябе я пазнаю
Часцінкай злітаю вялікага сусвету.

І, можа, маё адкрыццё глыбокіх радаводных каранёў, натхняльна вадзіла ручкай малодшага сына Якуба Коласа Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча, калі ён падпісваў мне кнігу: «Шаноўнаму Уладзіміру Сцяпанавічу з глыбокай падзякай…»?

* * *

Пра шчасце столькі напісана, каб сабраць усё разам, то і «МАЗ» не павязе.

У кожнага сваё ўяўленне пра шчасце.

От і я сёння зіхачу, як валачобнае яйка. Шчаслівы ад тэлефоннага званка з Барысава:

— Наш прыёмны сын зноў з намі!

Мячыкам падскочыў з крэсла. Не магу суцешыць шчасця перамогі.

А ўсё ўсчалося з трывожнага візіту да мяне прыёмных бацькоў. Сутнасць іх мальбы: пяць гадоў гадавалі ў сям'і сірату. Давялі да падлеткавага, цяжкога ўзросту. Усё было годна, лагодна ды раптам прыёмны сын забузіў. Не хацеў ісці ў школу, не адарваць ад тэлевізара. Тады бацька (упершыню!) узяў папружку. Пакрыўджаны прыёмыш пабег да сацыяльных чыноўніц і паскардзіўся. У той жа дзень адбылося рашэнне раённых перастрахоўшчыкаў. Сірату забралі ў казённы прытулак. У бацькоў адналі апеку.

Разлучаную сям'ю пазбавілі сустрэч і нават тэлефонных размоў.

Куды толькі ні пісалі бацькі і іх прыёмны сын. Усе дзяржаўнікі, як згаварыліся, разводзілі рукамі. Ёсць, маўляў, рашэнне і кропка.

Тады бацькі з Барысава і прывезлі да мяне ўсю перапіску. Больш за месяц развязваў я тугі дзіцячы «вузел». І вось узрушаны званок:

— Сын зноў у нашай сям'і! Ён хоча вас бачыць. Калі нам прыехаць?..

Божа любы! Дзякуй за міг пераможнага шчасця.

Божа праведны! Давер і надалей у муках нараджаць шчаслівыя залацінкі.

* * *

Закарцела ведаць: пра што пісаў у свой дзённік Леў Мікалаевіч Талстой, калі меў такі ж узрост, які нахлынуў на мяне. Дастаю з паліцы дваццаць другі том «Дзённікі». Адгортваю старонкі, у якіх засведчаны 1901 год. Шаноўнаму, слыннаму Льву Мікалаевічу — семдзесят тры гады. Што хвалюе яго ў гэтым узросце?

«Душевное состояние довольно хорошо, если бы только поменьше празднословия».

«Мужчина должен подняться до целомудрия женщины, а не женщина, как это происходит теперь, спуститься до распущенности мужчины».

«Жизнь — серьезное дело! Ах, кабы всегда, особенно в минуты решений, помнить это!»

«Мы все хотим помогать народу; а мы — нищие, которых он кормит, одевает. Что могут дать нищие богатым? Это надо понять раз навсегда, и тогда исправится наше отношение к народу».

«У женщин только два чувства: любовь к мужчине и к детям, и выводные из этих чувств, как любовь к нарядам для мужчин и к деньгам для детей».

«Нет более ненужного дела, как приобретение себе, удержание или увеличение богатства».

«Единственное спасение — это вынесение из себя своего «я», любовь к другому. Человек невольно, стремясь к этому, любит людей…»

«Наука, учение есть не что иное, как усвоение того, что думали до нас умные люди».

«Ужасен тип людей, хотящих быть всегда правыми. Они готовы осудить невинных, святых, самого бога, только бы быть правыми».

«Часто слышишь, что молодежь говорит: я не хочу жить чужим умом, я сам обдумаю. Зачем же тебе обдумывать обдуманное. Бери готовое и иди дальше. В этом сила человеческая…»

Вось і сустрэўся праз стагоддзе з мудрацом.

Вось і паслухаў яго развагі, думкі.

Пасвятлела на душы. Прыемным стаў слотны дзень позней восені. І хочацца кожнаму сустрэчнаму ўводзіць у вушы запавет Льва Талстога: «Жыццё, якое б ні было, ёсць шчасце, вышэй якога няма аніякага».

* * *

Прачытаў новую кнігу свайго расійскага сябра Альберта Ліханава. Назваў ён яе — «Непрощенная». І вызначыў жанр — маленькі раман.

Альберт Анатольевіч з тых аўтараў, чыё дзяцінства апалена вайной. І гераіня яго новага рамана Алёна Нікіціна таксама апаліла свае крылы ў гады ліхалецця. Яе, падлетка, вывезлі ў Германію. Яна стала вязнем канцлагера.

Там, за калючым дротам, сустрэла чуллівага ахоўніка Вілі Штэрна. Ён праявіў настойлівасць і «ўлюбіў» у сябе рускую дзяўчынку.

Нараджаць дзіцё Алёнка прыехала ў маёнтак Штэрнаў, дзе ўспрынята гаспадарамі насцярожана.

На іхніх фермах Алёнка сустрэла беларускіх равесніц, рабынь. І яшчэ больш зразумела сваё безвыходнае становішча.

Дзеі рамана разгортваюцца хутка, непрадказальна. Алёнка нараджае дачушку, якую бацькі Вілі па сутнасці адразу ж адлучылі ад юнай маці. А калі ў маёнтак завіталі амерыканцы-вызваліцелі, здалі Алёнку, як канцлагерніцу. На кароткі

час яна зноў трапляе за калючы дрот. Даведваецца пра гібель свайго мужа, немца Віллі Штэрна.

Пачынаецца доўгая дарога дадому. А дома — недавер і адзінота ажно да сівой старасці.

Альберт Ліханаў глыбока ўскалыхнуў памяць. Балюча ўзварушыў душу. І даказаў яшчэ раз, што ў нас, пісьменнікаў, безліч клопатаў, пакуль мы дыхаем. Прыслухаемся да Максіма Багдановіча:

Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Навошта ж нам запознена каяцца на пагостах? На кожным з іх маўкліва пахавана бібліятэка непрачытаных кніг. Спяшаймася напісаць патрэбныя кнігі!

* * *

Нашым вясковым бабкам і дзедкам, кажуць, хутка абрэжуць дротавае радыё. Сустрэў гэту навіну балючай крыўдаю. Як жа яны без сталічных навін? Хто ж з іх набудзе лічбавую тэхніку? І, урэшце, хто заменіць вясковых шчыруноў-слухачоў?

А ў тых бабак-дзедак гены трывала знітаваны з вольнымі нівамі, гаманлівымі барамі, птушынымі спевамі, высокімі зорамі. А яшчэ — з дротавым радыё. У сялян такая прыродная крынічка ў душы, ад якой могуць лекавацца ўсе, і нават тыя, хто прыдумаў пазбавіць іх кухоннага, прыпечнага радыё.

Помню, прыехаў у свае Шоўкавічы, прысеў на вулічную лаву, і тут жа да мяне прысуседзіліся вяскоўцы. Слухай іх ды наталяйся, сур'ёзнічай і ўсміхайся. Засталіся ў маім блакноце ад тых пасядзелак залацінкі народнай мовы.

Арына пра сына Мішу:

— Піў добра. Увык. Збудзе сала — купіць бутэльку. Рукі ўжо трымцелі, дак ён еў з місы, як цялёнак…

Сарафіна пра сямейную тайну:

— Як мухі адлягуць, будзем смаліць кабана…

Раман пра зяцеву ляноту:

— Ідзі, кажа, бацька, ты араць, бо цябе валы знаюць.

Аксіння пра ўнучку:

— Абы ўмела танчыць, а рабіць гора навучыць.

Жэня гарадской дачцэ:

— Не загінай язык, па-прастому гавары…

Варка пра ўсіх шоўкавак:

— У нас адна прафесія — бульбу калгасную разам перабіралі. Разам пануем і гаруем…

Як жа хочацца ўсіх-усіх гэтых сялянскіх мудрацоў ахінуць вялізнай укрыванкай, саматканым уціральнікам асушыць пот і слёзы і абараніць ад усялякага ліха, дробнага і цунамнага. Божа, не дай у крыўду людзей, верных нашай зямельцы.

* * *

Рымскі паэт Авідзій яшчэ да нашай эры сцвердзіў: «Бачу я тое, што люблю, але тое, што люблю я і бачу…»

А калі чалавек любіць толькі сябе?

З такіх і выпеставаны эгаісты, себялізы, хвалькі, аматары грамат, медалёў, званняў, ляскаткі ў ладкі.

Адымі ад такіх себялюбства і вочы іхнія ўбачаць, што да паловы яны людзі, а ніжэй — жывёліны. Без любові да сябе чалавек стане мехам з косткамі і мясам. І такім прыгажуном, што сабакі будуць екатаць ад страху, вароны абкаркаюць, пеўні заклююць, куры абсмяюць.

Здарыцца гэта тады, калі чорт памрэ. А ён, ходзіць слых, у твані сядзіць здаровенькі. Яшчэ хварэць не пачынаў.

* * *

«Бацькоўская хата — мой боль, маё свята…»

Словы гэтага верша выпакутаваў паэт Сяргей Давідовіч.

Музыку у верш удыхнуў кампазітар Ігар Лучанок.

Спяваў песню аголенай душой артыст Іван Краснадубскі.

Аднойчы я завітаў з сябрамі ў сваю маленькую палескую вёсачку Шоўкавічы. На мурожны грудок, дзе некалі стаяла наша хата, сабраліся ўсе вяскоўцы, малыя і вялікія, іх куры, сабакі і козы. Усе разам адзначылі мой юбілей. І Ваня Краснадубскі, заслужаны артыст Беларусі, заспяваў: «Не падмецены двор, не напалена ў хаце…»

Песня пра бацькоўскую хату расчуліла, устрывожыла, праслязіла кожнага. Не ўтрымаўся ад слёз і спявак.

Дружа мой сардэчны, Іван Аляксандравіч, пішу гэтыя радкі і плачу. З газеты даведаўся, што цябе ўжо няма ў свеце жывых. Як жа так, ніхто не прасігналіў пра гэткі сум. Не магу паверыць, што цябе, мой любы, галасісты, ужо ніколі не пачую, не пабачу. Не магу змірыцца з такой неспадзеўнай стратай.

Родны мой, верны сябра, пакуль буду дыхаць, ты ў сэрцы маім. Жыву надзеяй дажыць да той часіны, калі творчых, духоўна чыстых людзей, будуць шанаваць не толькі блізкія людзі, а калі іх талент стане гонарам нацыі, самым каштоўным скарбам Айчыны. Хай так будзе, Божа!

* * *

Пачуў скаргу ад цёткі Кацярыны, што жыве ў вёсцы Азярыны:

— Было спраўнае кусала, дык не мела чаго ўкусіць. Цяпер поўна ёсць чаго укусіць, дак няма кусала…

От і кажуць: «Дарагое яечка да Вялікадня».

Так ва ўсім.

Вучышся — грабі навуку ў мазгі, не спакушайся на гулі.

Працуеш — выкладзі здольнасці спаўна, каб у нечым «наслядзіў».

Кахаеш — кахай, не азірайся, да іншай не заляцайся.

Займеў сям'ю — трымайся сваёй лодкі, выведзі дзяцей у людзі.

Давайце цаніць будні, тады святы самі завітаюць у госці.

* * *

Бачыў: чорная галка гуляла з белым пакетам, а восеньскі ветрык — з чырвона-жаўтлявым лістком.

Я міжволі замарудзіў хаду і стаў любавацца гулёнамі. Цыбастая галка ў шырокіх боціках-лапках з элегантнымі, высокімі халявамі спрытна тэпала па газоне. Дзюбаю падхоплівала пусты поліэтыленавы пакет і лоўка падкідвала яго ў гору. Нейкі міг дзівілася, як белае воблачка апускаецца на вясёлкавую зямлю, і зноў бегла да яго, каб узвысіць у неба.

А ў гэты час ветрык не даваў палежваць апалым лісточкам. Ён іх падшавельваў, уздымаў, прымушаў кружыцца, танчыць. Як бы хацеў, каб лісточкі, якія за лета прывыклі да вышыні, не сумавалі цяпер на прахалоднай зямлі.

Гуляла галка. Гуляў ветрык. Загуляўся і я з імі. А праз колькі хвілін стоўпіліся некалькі зявак. Ніяк не маглі даўмець, што дзіўнага ўбачыў я на восеньскім гарадскім газоне, падобным на цыркавую арэну.

* * *

Дзеці і ўнукі ёсць.

Домік з вокнамі ў сад маю.

Кнігі для малых і дарослых напісаў.

Ліпавую алею пасадзіў. А якую ж іншую алею мог утварыць Ліпскі?

Мая ліпавая алея расце ў Шоўкавічах, на месцы бацькоўскай хаты. Перад уваходам у яе стаяць новы шчыкетнік і брамка. На старых граблях, а герб у Ліпскіх — «Граблі», вісіць залацістая рамка з прозвішчамі ўсіх жыхароў вёскі, якія, на жаль, перасяліліся на пагост.

Атрымалася алея Памяці. Пройдзеш па ёй у суправаджэнні строю ліпак, прысядзь у альтанку каля дуба. Падумай, як жывеш, прыгадай, хто і як тут звекаваў. Паслухай жаб ці салаўёў, разгадай, пра што нашэптвае магутны дуб, які помніць тваіх прапрародзічаў.

Калі бываю ў радзімай альтанцы, заўсёды спавядаюся перад памяццю Мамы і Таты, усіх шоўкаўцаў. І прашу, каб яны, будучы Там, падказалі мне: ці праўда, што мой мозг, дасканалы квантавы камп’ютар, перадае ў Іхні свет маю душу, свядомасць, сумленне ды ўсю набытую інфармацыю?

* * *

Кніга і яе чытач — тэма вечная.

Хто і як піша, хто і як чытае — праблема сённяшняя.

Верагодна, што рухаемся ў тупік, бо пісакаў хутка стане болей, чымся чытакаў. Цяпер кожны можа напісаць кнігу, і за свае грошы выдаць яе, і сваімі рукамі разнесці па знаёмых. А калі ўлічыць, што кожны, хто ведае азбуку, можа завесці свой блог у інтэрнэце і «блошыць» там штодня і штоночы пра што хоча, то якраз і выходзіць — пісьменнікаў у нас, як мурашоў у муравейніку, як конікаў у лузе, як мошак цёплаю вясною.

Пісьменнік — гэта сур’ёзная і адказная прафесія. Ёй павінен валодаць прафесіянал, а не аматар, не графаман. Адзін такі «баец» хваліўся: «А я пішу, браточкі, толькі у адпачынку, на пляжы. Побач — піва, воддаль — дзеўкі. Паўсотню старонак за дзень валю…»

Ад кніг такога пладавітага аўтара можна адхрышчвацца, можна не прыкмячаць іх. А можна адказаць яму словамі Марка Валерыя Марцыяла, рымскага паэта, які яшчэ да нашай эры сказаў:

«Панціліян, чаму табе кніжак сваіх не дару я? Каб сваіх асабістых ты мне ніколі не дарыў».

* * *

Храм — гэта маё цела. Я ў гэтым храме гаспадар. Ад мяне залежыць, ці дамалюся да Бога, ці знайду дарогу да яго. Мой храм самы галоўны на Зямлі.

Храм царкоўны — для ўсіх, хто верыць і хто ідзе да веры. Там ёсць аднадумцы і настаяцелі, вучні і настаўнікі. Ці дойдуць суполкай да Яго?

Ёсць шмат храмаў іншых. Храм навукі. Храм мастацтваў. Храм кнігі, паэтычнага Слова.

Для мяне храм — мае Шоўкавічы, у якіх вучыўся хадзіць, гаварыць, бачыць, слухаць. У якіх зразумеў маміны малітвы.

Храм цела складаецца з жывых клетак.

Храм святы — з цаглін.

У жывых клетках — энергія генаў, духа, памяці. У маім Я — ёсць імя. А ў ім — пэўныя літары. Паверыў, літары майго імя закадзіраваны. Пачаў правяраць і ахнуў — усё супадае: У — уладар свайго лёсу; Л — любоў да жыцця; А — адчаюга, Д — дыханне на поўныя грудзі; З — зычлівец і г. д.

А праверце вы свой код. Расшыфруйце літары імя. І адчуеце, у якім храме жыве ваша «Я».

* * *

Сустрэў на мінскім праспекце раманіста-гісторыка. Пахваліўся — напісаў новы раман. І тут жа паскардзіўся: «Даў прачытаць рукапіс свайму сябру-пісьменніку, а ён здзёр некаторыя мае сцэнкі ў свой раман…»

Абураецца і адначасна ўсміхаецца:

— У Маскве б за гэта морду набілі… А-а!..— махнуў раманіст рукою, і мы перайшлі на іншую тэму размовы.

А ў мяне асела ў душы гэтае яго безнадзейнае: «А-а!..» Маўляў, што зробіш, нічым не паправіш. Мо ў гэтым «А-а!..» і ёсць менталітэт беларуса: «А-а!.. Абы ціха. Дзень перамадзеў, ноч перакачаўся — і добра… Хлеба з квасам паеў — і слава Богу… У вокны вецер не свішча, жонка з хаты не выгнала — жыць можна…»

А ці не занадта мы памяркоўныя? Ці не зашмат цярплівыя? Часцей зазірайма ў запаветы нашага генія Янкі Купалы:

Сягні ў даўно заснуўшыя сталецці,
Заслону дзён уцёкшых адхілі
І глянь, як сёння твае жывуць дзеці,
Як ты жывеш на прадзедаў зямлі…

* * *

Гётэ належыць выслоўе, што ўсе разумныя думкі перадуманы ўжо. Справа, аднак, у тым, што іх заўсёды трэба перадумваць нанова.

А вось ключом для такіх перадумванняў, як мне здаецца, і ёсць здзіўленне. Менавіта яно адкрывае нам дзверы да пазнання свету, яно бадзёрыць нас, як ранішняя раса, асабліва калі ступаеш па ёй босымі нагамі.

Здзіўленне — элексір ад вяласці, абыякавасці, абломаўшчыны.

Здзіўленне — якасць характару не прыроджаная, а нажыўная. Яна падсілкоўваецца нашай жыццёвай вірлівасцю. Калі не проста глядзім і слухаем, як спяваюць на блакітным экране, а самі пачынаем спяваць. Калі шайбу ганяем не светлавым промнікам у камп’ютарных гулях, а сапраўднай клюшкай на лёдзе. Калі плаваем не ў віртуальнай прасторы, а ў басейне. Калі чытаем не выпадковыя блогі, а класічныя творы, якія сапраўды здзіўляюць нас сваёй нявянучай свежасцю.

Як жа хочацца, каб нашы дзеці выпадкова не страцілі пачуццё здзіўлення і радасці будняў. Прыгадаем Марка Тулія Цыцэрона, які за сто гадоў да нашай эры павучаў: «Хвалю юнака, калі ў ім ёсць нешта ад старога, і старога, калі ў ім ёсць нешта ад юнака. Хто трымаецца гэтых правілаў, той састарэе целам, а не духам».

* * *

Настаўніца Наталля Андрэеўна Марук прывяла да мяне вучняў, паведаміла:

— Хочуць пісаць свае даследаванні па вашых кнігах аб радаводзе.

Дзеці прынеслі з сабой зацікаўленасць і пытанні. Ім хацелася ведаць, як шукаць свае глыбокія карані, як мне ўдалося дакапацца да сямнаццатага калена.

А вечарам званіў з Сочы Уладзімір Ліпскі. З дапамогай скайпа мы пабачыліся, а пасрэднікам у размове стала яго мама Ларыса. Людзі адшукалі мяне, каб нешта паведаміў пра іх радаводную лінію Ліпскіх.

Мы ўстанавілі, што нашы дзяды, мой Янка і іхні Пётр, — дваюрадныя, з хутара Куннае, што быў пад Шацілкамі. Цяпер гэта Светлагорскі раён.

Мой дзед Янка арандаваў у Шоўкавічах дзве дзесяціны зямлі. Са сваёй любай Праксэдай займеў ажно дванаццаць дзяцей, у тым ліку і майго бацьку Сцяпана. І ціха пайшоў на вечны спачын.

А па Пятра прыехаў варанок на хутар Куннае. Разам з дзецьмі Гаўрылам, Іванам, Уладзімірам, Надзеяй і Вольгай павезлі потнага земляроба ў Сібір. Цяпер праўнук Пятра, сочынскі прадпрымальнік Уладзімір, шукае сляды мінулага.

Людзі добрыя, шукайма повязі нашай роднасці, парваныя часам, бяспамяцтвам і гвалтам. І хай у гэтых пошуках ніколі не пакіне вас надзея і вера. Бог узнагароджвае тых, хто шануе бацькоў сваіх, хто абагаўляе падарыўшых нам жыццё.

* * *

Яе вялікасць Кнігу заўсёды абслугоўваюць, абагаўляюць дзве асобы — стваральнік і карыстальнік, аўтар і чытач. Я ж хачу ўнесці папраўку і далучыць да кнігі яшчэ адну асобу — героя. І гэтым самым звярнуць увагу на тыя жанры літаратуры, якія дакументальнымі ці мастацкімі формамі малююць сучасніка.

У нашай хуткаплыннай яве неяк неўпрыкмет з літаратуры пачаў вымывацца герой часу. Маўляў, здадзены ў архіў сацыялістычны рэалізм, наступіла эпоха суперменаў, алігархаў, прагматыкаў, біржавікоў, прадпрымальнікаў. І чытач у пэўнай прыгажосці атрымлівае героя, у якога на першым плане — бабкі, фазэнды, «тачкі», мардабой, зладзействы, секс.

Ніяк не магу пагадзіцца з аўтарамі, якія кінуліся напоўню смакаваць разбурэнне, расхістванне душы людской, сеяць сярод моладзі каштоўнасці, скіраваныя на разбэшчванне іх і да таго няўстойлівай псіхікі.

Напісаўшы дваццаць кніг дакументальнай прозы, атрымаў вялікую зваротную сувязь са сваімі чытачамі — пісьмовую, электронную, вусную. І ўсе яны ў адзін голас свярджаюць, што менавіта літаратура пра сучаснасць і сучаснікаў найбольш цікавіць іх і хвалюе. Чытачоў, дарослых і юных, да слёз кранае гісторыя кахання палачанкі Зіны Тусналобавай, якая вярнулася з вайны без рук і без ног; мужнасць лётчыка Сашы Мамкіна, які абвугліўся ў палаючым самалёце, а выратаваў дзяцей-сірот. Пачуцці веры і надзеі выклікае ў чытачоў жыццёвы аптымізм сляпога Анатоля Нятылькіна, які вёў за сабой інвалідаў па зроку ўсяе Беларусі, а яго дэпутацкія прамовы не пакідалі раўнадушнымі нікога. Шмат чытацкіх водгукаў атрымала аповесць пра акадэміка-біёлага Васіля Купрэвіча, які ад настаўніка вырас да прэзідэнта Акадэміі навук. Ёсць чытачы ў маіх кніг пра радавод, пра нашы прозвішчы, пра маіх непісьменных бацькоў, пра сірот і падкідышаў, пра аднавяскоўцаў-шоўкаўцаў…

Хацелася, каб кнігі пра сучаснасць і сучаснікаў чыталі дзяржаўнікі розных рангаў, чыноўнікі, якія кіруюць культурай, адукацыяй, ідэалогіяй.

Вось, як кажуць, жывы прыклад. Мая гераіня Зіна Тусналобава згадваецца ва ўсіх полацкіх кнігах, даведніках, зборніках, энцыклапедыях. Яна ў шэрагу славутых людзей старажытнага горада. А я каторы год стукаюся ў кіраўнічыя кабінеты, каб дапамаглі перасяліць жыльцоў дома, дзе жыла з сям’ёй Тусналобава, і адкрылі там музей незвычайнай гераіні. Там бы праходзілі ўрокі мужнасці для ўсіх юных палачан. Чаму б не вырашыць гэта пытанне на карысць нашых нашчадкаў?

Чытачы атрымалі маю дакументальную аповесць «Мужык» — пра слыннага аграрніка Аляксея Скакуна, які вырас ад «пана сахі і касы» да члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук. Яго сельскагаспадарчы камбінат «Астра-

мечава» ці не лепшы ў краіне. Гэта ён, кінуўшы кабінетную руціну, папрасіўся ў адстаючыя гаспадаркі, аб’яднаў іх і на 12 тысячах гектараў зямлі пабудаваў вясковы рай.

Мой «Мужык» прэзентаваўся на міжнародным кніжным кірмашы, імгненна разышоўся, як кажуць, па руках. А вось жа знайшоўся блогер, які не прамінуў пырснуць жоўцю: «Цікава, а што ж рабіць тым пісьменнікам, хто не хоча пісаць пра чыноўнікаў і старшынь АВК? Пра цяжкі шлях да незалежнасці, які на самай справе не такі ўжо і цяжкі? Напэўна, павесіцца?..»

Каментар, як кажуць, лішні.

Нам усім трэба найперш зразумець, у якім мы даўгу перад чытачамі, перад сучаснымі дзецьмі. А яшчэ думаю, што ўся наша гісторыя, далёкая і сучасная, успрымаецца перш за ўсё праз асобных людзей, іх лёсы, характары, жыццё.

Дык давайма, пісьменнікі, журналісты, выдаўцы, навукоўцы, бібліятэкары, настаўнікі, выхавальнікі, зробім усё магчымае, каб нашы дзеці атрымалі ў спадчыну праўдзівы летапіс пра сваю Айчыну і шмат цікавых, запатрабаваных кніг пра нашу яву, у якой мы і ёсць асобы.

* * *

Настальгія — гэта калі баліць душа. Сум пасяляецца ў ёй. І хочацца думаць, прыгадваць, шкадаваць.

Жыве ўва мне штодзённая настальгія пра бацькоў і хату, дзе прайшло маленства. Гарыць смалістая лучына ў комінку. Гэта нашы і лямпачка Ільіча, і цеплакаларыфер. Мама прадзе кудзелю. Бацька пляце лапці. Я чытаю ім кнігу «Палескія рабінзоны». Якая раскошная ідылія! Хацеў бы вярнуцца ў той зімовы вечар, у нашу хату ды параспытваць Маму і Тату пра ўсё-ўсё. Спазніўся. Не паспеў. Не дапетрыў.

На Радуніцу складаю спіс, па кім жыве настальгія ў маёй душы. Гэта — паўтары сотні радні, сяброў, сардэчных таварышаў, шчырых зямлян. Кожны з іх — чалавечая планета. Як жа іх не хапае мне цяпер!

Настальгія вяртае мяне амаль штодзённа да тых пісьменнікаў, хто паважаў мяне, верыў у мяне: Максім Танк, Пімен Панчанка, Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў, Васіль Вітка, Эдзі Агняцвет, Павел Кавалёў, Ніна Мацяш, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Юрэвіч, Аляксандр Капусцін, Паўлюк Прануза, Валянцін Лукша…

Хачу напісаць пра іх, няспешна прыгадаць усе сустрэчы, размовы, развагі, жарты.

* * *

Цяпер ужо дакладна ведаю: ад цела трэба адганяць хваробы ў самым іх зародку, ад душы — абыякавасць і ляноту, ад чэрава — лішноту, ад вачэй — пачварнасць, ад слыху — брыдоту, ад ног — слізготу, ад сэрца — смутак. З сям’і выганяйма разлад, а з мазгоў — бяспамяцтва. І тады вам захочацца на фестываль народнага гумару ў Аўцюкі.

* * *

З пяціста экзэмпляраў «Адэскага размоўніка» — адзін у мяне. Рэўнасна прачытаў яго і супакоіўся: да чаго ж адэсіты падобныя на маіх аўцюкоўцаў!

І ў іхнім горадзе і ў нашых вёсках адны жартаўнікі:

— Што вязеш?

— Ша! Ціха! — супакойвае шэптам і тлумачыць. — Авёс вязу.

— Ад каго скрываеш?

— Каб конь не ведаў…

У адэсітаў толькі імёны вастрасловаў свае — Моня, Сёма, Эдзя, Цыля, Сара.

У нас — Манька, Волька, Гэля, Іван, Васіль, Мікола.

А жарт агульны:

Бяжыць Моня (Іван) па вуліцы, яго перапыняе сусед:

— Куды ляціш, як конь з перапуду?

— Дадому. Баюся, што Рабіновіч (Васіль) начуе з маёй жонкай.

— Дак жа цяпер дзень.

— Гэты гад можа і днём пераначаваць.

У простай мове карыстаемся аднолькавымі словамі: амбразура (рот), бабло (грошы), валёнак (тупіца), мудазвон (балбатун), нычка (тайнік).

Трэба нам сустрэцца разам ды паспрачацца, хто весялейшы, хто ўмее смяяцца праз слёзы.

* * *

Канадскай пісьменніцы Эліс Мунро прысудзілі Нобелеўскую прэмію. А я нічога з яе прозы не чытаў. Ведаю толькі назвы твораў — «Занадта шмат шчасця», «Дзіцячая гульня», «Гісторыя дзяўчынак і жанчын»…

Я не быў у вялікім Кітаі, не бачыў амаль бясконцую Вялікую кітайскую сцяну. Кажуць, яе збудаваў першы імператар Шы-уан-дзі. Пры гэтым загадаў спаліць усе кнігі мінулых часоў. Але ж Слова выжыла і жыве!..

Не ведаю, як жывуць і ці ловяць акунёў, як я на Нарачы, мае далёкія прародзічы маорцы з Новай Зеландыі. Гараскопы тлумачаць, што я там некалі нарадзіўся ў мінулым жыцці…

Кажуць, нейкі блогер-караед піша хамскія пасквілі на сучасных беларускіх пісьменнікаў. У тым ліку і на мяне. А я той балбатні ніколі не чытаў, бо не сябрую з камп’ютарам. Усё болей з чарнільнай ручкай, чыстай паперай, з людзьмі сумленнымі, з чароўнай зямной красой…

На паліцы маёй кніжнай стаяць усе тамы Пушкіна, Дастаеўскага, Чэхава, Купалы, Коласа, Караткевіча,Чорнага, а я не ўсе іх прачытаў. Мала гадзін у сутках. І тыя трачу на чытво патрэбнае для напісання сваіх кніг. Каб уявіць вобраз прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Васіля Купрэвіча, я перачытаў усе падшыўкі краязнаўчых выданняў дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, дзе ён друкаваўся, чатыры тамы навуковых прац акадэміка і архіў акадэміі за сямнаццаць гадоў, калі Васіль Феафілавіч узначальваў Акадэмію…

Я не бачыў Егіпецкія піраміды. Не ўзбіраўся на гару Казбек. Не бываў у туземцаў. Ды я і пра сябе мала ведаю. І чым далей жыву, робіцца ўсё болей сумна — я нічога не ведаю…

* * *

Язык — вораг мой і сябар мой.

У нас паказваць язык — гэта насмешка, дражнілка. А на Тыбеце, калі незнаёмец паказвае язык, то хоча сказаць, што нічога дурнога не мае супраць цябе. Індыец Майя высалапленым языком паказвае, што ён мудры. У кітайца гэты жэст дэманструе пагрозу, у індуса — гнеў.

«От, цікава!» — сказаў бы Алесь Ставер, на верш якога напісана песня: «Каб любіць Беларусь маю мілую, трэба ў розных краях пабываць…»

Мастацкае Слова, якое адлятае ад языка, — вечнае, неўміручае. Яно перадавалася ў вуснай форме, пасля — на паперы, у кнігах, па радыё, тэлебачанні. Цяпер — усё болей па інтэрнэце. І я не перажываю, што людзі сталі меней чытаць. Хай кожны вызначае, як яму лепей сябраваць са Словам, дзе, калі і якімі сродкамі. Хай толькі ніколі не згасне Слова красамоўнага пісьменства!

* * *

Шукаем свой радавод. Цешымся, калі знаходзім.

А як жа адшукаць свае карані спадчыннікам, аб чыіх продках вось што піша рускі гісторык Сяргей Міхайлавіч Салаўёў:

«Усе татарскія рынкі знакаміты таварам — рабамі. Яны ў іх заўсёды пад рукамі і для продажу, і для залогу, і для падарункаў, і для ўцехі… Калі рабоў прадаюць, то аўкцыянер моцна крычыць, што гэта рабы самыя новыя, простыя, не хітрыя, прывезеныя з народа каралеўскага, а не маскоўскага…»

Ішло шаснаццатае стагоддзе ад нараджэння Хрыстова.

* * *

Пачуў: «Клёпкі ў яго галаве парассыхаліся». Гэта вясковец пра суседа, які з-за гарэлкі свету белага не бачыць. П'е, клёпкі мочыць, а яны рассыхаюцца.

Гарэліца надзейна ўкладвае людзей у сырую зямельку. Горкая навука не ідзе на розум.

Дакуль жа будзем слугаваць нячысцікаваму зеллю? Вып'ем за сваё здароўе, каб нашым дзецям засталося меней атруты.

* * *

Раздумваю над народнымі выслоўямі. У іх і пажаданні, і праклёны, і падказкі. І ўсё гэта ёмка, мудра, з падколкай, тонкім гумарком:

«Каб ты замуж далёка выйшла».

«Каб ты ў Пятроўку не сагрэўся, а ў Дзяды не наеўся».

«Каб ты расы не церушыў».

«Каб твае дзеці сваімі рэбрамі яблыкі абівалі».

«Каб ты свайго вялікага пальца на назе не бачыў».

«Каб ты доўга жыў, нягоднік».

«Каб ты ніколі не ўмёр».

* * *

Маўчым, не дыхаем — так трымаем сябе перад нечым значным, важным, што павінна здарыцца, адбыцца. Калі вытрымаеш маўчанне, усё чакаемае спраўдзіцца.

Маўчым, калі не хочам выносіць «смецце» з хаты. Маўчаннем можна пагаварыць, паразумецца.

Маўчанне — золата.

Усё гэта — нашы народныя звычкі, абярэг беларуса, каштоўнасць нацыянальнага характару. І ў гэтым, паверыў, не слабасць, а моц наша, бо маўчуноў не грэх і пабойвацца. А што паважаць трэба, то гэта, як кажа моладзь, сто пудоў.

Дык чаму ж мала пра гэта дбаем, асцярожна пішам. Вось пра народы іншыя — калі ласка. Так з газеты ў газету скачуць весткі пра традыцыі аўстралійцаў. Там моўчкі ўдава хавае свайго мужа. Маўчыць юнак, якога пасвячаюць у мужчыну. Не размаўляе жанчына, якая выправіла мужа на паляванне, пакуль той не вернецца дамоў.

Человек, словно в зеркале мир, —
многолик.
Он ничтожен — и
он же безмерно велик…

Паверым мудрацу Умару Хаяму і ўсё зробім каб самім стаць вялікімі. Кожны паасобку, і ўсе разам. І пра гэта не будзем маўчаць!

* * *

Чалавек нараджаецца і пачынае рыхтавацца да смерці.

Кожны дзень — усё бліжэй да «светлай будучыні».

За дагарэўшым днём — ноч адпачынку. І новы крок у вечнасць.

Як жыць і як ратаваць Душу?

Шукайма нястомна гэтыя тайны і тады адбудзецца жытка на Гэтым свеце. І знойдзецца месца на Тым, вечным і памятлівым. Амінь.

* * *

Калі чалавеку не зайздросцяць, то ці вартае чаму-небудзь яго жыццё?

Я зайздрошчу Прыродзе, якая з кожнай вясной ажывае, маладзее, шалее прыгажосцю.

Зайздрошчу Нарачы, у якой раскашуюць вугры, шчупакі, сігі, над якой крыляюць чайкі, лебедзі.

Зайздрошчу людзям, якія жывуць доўга і ў здароўі. Умеюць цешыцца кожным дзянёчкам.

Зайздрошчу птушкам, якія лоўка лятаюць, рыжыкам, якія ўлюбляюць у сябе грыбнікоў, кветкам, якія зачароўваюць нават чмурнога.

А мяне дакараюць зайздроснікі, што да слёз люблю сваю Айчыну. Што кідаюся ратаваць дзяцей, якія ў бядзе. Што багата гадоў шчырую ў «Вясёлцы». Што ўзнёс на арбіту сваіх аўцюкоўцаў. Што адкапаў свой род да сямнаццатага калена. Што пачаў выпускаць новы часопіс «Буся» для дашкольнікаў…

Дзівакі! Давайце пазайздросцім адзін аднаму, што разам жывём у зямным раі.

# МАСТАЦТВА: ФІКСАЦЫЯ ПРАЦЭСУ

***У** мінулым нумары «Полымя» была надрукавана дыскусія «Літаратурныя часопісы: у пошуках страчанага». Гэтая размова — своеасаблівы працяг распачатай тэмы: гаворка пойдзе пра часопісы па мастацтве. Як сёння існуюць гэтыя выданні? З якімі праблемамі сутыкаюцца? Якія стрэтэгіі развіцця падаюцца перспектыўнымі?*

***Трэба адразу адзначыць рознасць вектараў існавання літаратурна-мастацкіх часопісаў і часопісаў па мастацтве. Літаратурныя часопісы з большага засяроджаныя на вяртанні колішняй былой моцы, уплывовасці на грамадскую думку мільённых тыражоў і іх стратэгіі развіцця, так ці інакш звернуты да гэтага вопыту, абапіраюцца на яго. Тыражы выданняў па мастацтве таксама раслі і паніжаліся, але залатых, векапомных часоў кшталту мільённых тыражоў тоўстых часопісаў у іх гісторыі не было. Людзі, якія робяць такія выданні, дакладна ўсведамляюць іх нішавасць. Мастацтвазнаўцаў больш займаюць іншыя праблемы, галоўная з якіх — як паспець за сучасным мастацтвам, якое пастаянна мяняе прадмет даследавання і вымагае новых крытэрыяў і абноўленага інструментарыю для асэнсавання і ацэнкі сучаснага мастацкага працэсу. Дзе пра гэта пісаць? Як пра гэта пісаць? І хто пра гэта напіша?***

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**



**Людміла ГРАМЫКА,**
**галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва»,**
**тэатральны крытык (Беларусь)**

### Эпоха мастацкага дэфіцыту

Галоўная праблема мастацкіх часопісаў у Беларусі — дэфіцыт аўтараў, здольных весці кампетэнтную размову пра мастацтва. Патлумачу на прыкладзе, які мне бліжэй. Доўгі час панавала меркаванне, што мацнейшая за ўсе іншыя ў нашай краіне менавіта тэатральная крытыка: аўтараў, якія сачылі за працэсам, аналізавалі яго, пісалі ярка і цікава было даволі. Але за апошнія два дзесяцігоддзі ў прафесіі не засталося амаль нікога. Людзі сыходзяць па розных прычынах. Нехта сыходзіць з жыцця, маладыя (варта падкрэсліць гэтую тэндэнцыю) увогуле не імкнуцца ў прафесію. Асноўная прычына — адсутнасць працоўных месцаў. Малады чалавек заканчвае Акадэмію мастацтваў, у яго ў дыпломе напісана «мастацтвазнаўца» ці

«тэатразнаўца», а працаваць яму няма дзе. Доля загадчыка літаратурна-драматычный часткі вабіць далёка не кожнага. Быць тэатральным крытыкам і прафесійна рэалізоўвацца на гэтым полі — неверагодная раскоша і лёс адзінак. Нават сам жанр, «тэатральная рэцэнзія», у нас пакрыху пачынае выраджацца. Канечне, усё гэта не спрыяе таму, каб існавалі, квітнелі і прыцягвалі да сябе грамадскую ўвагу выданні, прысвечаныя праблемам мастацтва.

У нейкай меры сітуацыю выратоўвае інтэрнэт, дзе з'яўляюцца розныя культурныя праекты. Іх стваральнікі імкнуцца весці размову пра сучаснае мастацтва, але сутыкаюцца з тымі ж праблемамі, што і мы ў «аналагавых» выданнях. Праўда, інтэрнэт-праекты могуць не прад'яўляць жорсткіх, высокіх патрабаванняў да якасці тэксту, да ўзроўню размовы. Таму часта завісаюць паміж інфармацыйнай журналістыкай і спробай выказацца, так бы мовіць, «шурпатай мовай плаката», не развіваюцца і не могуць адваяваць сабе аўдыторыю, якую адваявалі, напрыклад, іх маскоўскія калегі.

Што яшчэ ўплывае на сітуацыю? Па-першае, мастацтвазнаўчая школа, ці яе адсутнасць, яе ўзровень. Па-другое, агульны ўзровень мастацтва і, як вынік, тое месца, якое ў сучасным грамадстве займаюць выяўленчае мастацтва, тэатр, музыка, кіно.

Ёсць яшчэ адзін момант (ізноў звярнуся да тэатральных прыкладаў): апошнім часам большасць тэатраў заўважна імкнецца да маскульту. І вось гэты так званы прадукт усё часцей і настойлівей выплюхваецца на шырокага гледача, якому з такім напорам хутка ніякія глыбокія размовы пра творчасць не спатрэбяцца. У такім выпадку нават адпадзе патрэба даводзіць пра вузкасць сегменту: любы від мастацтва не з'яўляецца нашай жыццёвай неабходнасцю, гэта не ежа, па якую мы вымушаны штодзённа адпраўляцца ў краму. Людзей, якія цікавяцца мастацтвам, займаюцца ім, любяць яго насамрэч не так і шмат. Але апошнім часам мы толькі і робім, што губляем іх.

Абазначу яшчэ адну праблему — нястача яркіх асоб сярод творцаў: невялікая колькасць людзей здольны пацягнуць коўдру на сябе і зрабіць так, каб пра іх гаварылі, зацікавіць усіх. Сёння мы назіраем тэндэнцыю, калі нават нашыя зоркі, якім ёсць што сказаць публіцы, знікаюць з поля зроку. Задача такіх выданняў, як нашае, расставіць акцэнты і не даць гэтаму адбыцца. У часопісе «Мастацтва» існуюць дзве рубрыкі, якія на гэта скіраваны, — «Дзейныя асобы» і «Майстэрня». Зазначу, што сёння ні ў воднага беларускага выдання няма рубрык, дзе б з творцамі размаўлялі аб прафесійных пытаннях на прафесійнай мове і з нумара ў нумар выцягвалі на старонкі самых яркіх з іх, каб прыўзняць значнасць зробленага асобай і саму асобу ў вачах чытачоў.

Пэўнае табу ў нас накладаецца апошнім часам і на крытыку. За ўсё сваё прафесійнае жыццё я не прыгадаю перыяду, калі б крытыка была настолькі непажаданай, як сёння, калі б на яе так не звярталі ўвагі. Тэатры схільныя існаваць у замкнутай сістэме, паставіўшы вакол сябе «агароджу», праз якую крытыку ўсё цяжэй перабрацца. Аналітычная праца падмяняецца рэкламнымі ролікамі, постамі ў інтэрнэце, якія сыходзяць з літчастак саміх тэатраў. Гэта не спрыяе ні развіццю крытыкі, ні з'яўленню цікавасці да яе.

З пазітыўных момантаў варта адзначыць, што ў апошні час шмат новых імёнаў з'явілася ў полі крытыкі выяўленчага мастацтва. Вось дзе напраўду можна казаць пра развіццё цікавых інтэлектуальных працэсаў. Дапускаю, што з гэтае прычыны і запатрабаванасць гэтага віду мастацтва сёння павялічылася. Магчымасць мастака існаваць у майстэрні (такой умоўнай вежы са слановай косткі), займацца чыстым мастацтвам, прадуцыраваць там нешта спрыяе таму, што выхад ягоных твораў на публіку атрымліваецца больш яркім і збірае вакол сябе большую колькасць зацікаўленых. Дапамагае развіццю гэтага працэсу і цікавасць заможных людзей, што збіраюць уласныя калекцыі карцін.

Адсутнасць у Беларусі сеткі галіновых мастацкіх часопісаў звязаная перадусім з адсутнасцю фінансавання, людзей, якія гатовыя ўкладаць грошы ў гэтую справу. «Аналагавыя» выданні патрабуюць добрай паперы і якасці друку, а гэта дорага каштуе. Я думаю, што тут галоўная прычына. Ну і плюс, канечне, тое, што мастацкі працэс пакуль недастаткова інтэнсіўны, а менавіта інтэнсіўнасць дае глебу для ўзнікнення выданняў. Але мне падаецца, што на нейкі час арт-поле могуць пашырыць невялікія рэгіянальныя выданні, у аб’ектыў якіх патрапляюць творцы. Напрыклад, у Віцебску існуе часопіс «Искусство и культура», які збірае Таццяна Катовіч. У дадзеным выпадку мае значэнне не тыраж і не колькасць людзей, да якіх часопіс трапляе ў рукі, а тое, што яго ўдаецца выпускаць. Праз колькі дзесяцігоддзяў мы ацэнім наколькі важна і патрэбна, каб мастацкі працэс быў дэталёва зафіксаваны, зразумеем, якую глебу для даследаванняў стварылі такія выданні. Не перарвецца «сувязь часоў», і размаўляць пра традыцыі і навацыі будзе прасцей.



**Святлана УЛАНОЎСКАЯ,**
**галоўны рэдактар сайта**
**«Art Aktivist / Тэатр»,**
**танцавальны крытык (Беларусь)**

### Інфармацыі больш, сэнсу менш

Галоўная праблема беларускіх выданняў па мастацтве — у іх катастрафічна мізэрнай колькасці. Каб пералічыць «мастацкаарыентаваныя» газеты і часопісы сярод дзяржаўных СМІ, хопіць пальцаў адной рукі. Дзе мы можам пачытаць грунтоўную аналітыку пра значныя падзеі ў айчыннай мастацкай культуры? Бадай, толькі ў штомесячніку «Мастацтва», на 48 старонках якога вельмі цесна, бо ахапіць усе яркія канцэртныя праграмы, музычныя і кінапрэм’еры, адметныя выставы, драматычныя і музычна-тэатральныя пастаноўкі ў межах аднаго часопіса папросту немагчыма. У той жа час, у большасці краін шырока распаўсюджана практыка выданняў, якія спецыялізуюцца на нейкім адным з відаў мастацтва. Дастаткова назваць такія аўтарытэтныя часопісы, як «Театр», «Искусство кино», «Музыкальная жизнь», «Балет», «Художественный журнал» у Расіі, польскія «Teatr», «Film», амерыканскі «Dance Magazine» і інш. У нас даўно ўжо не выходзіць часопіс драматургіі і сцэнічнага мастацтва «Тэатральная творчасць»; акрамя навуковых выданняў Акадэміі музыкі, разлічаных на вузкае кола прафесіяналаў, на ўсю краіну няма ніводнага музычнага часопіса (маю на ўвазе, найперш, акадэмічную музыку). Памятаю, як пару гадоў таму мы з Ларысай Сімаковіч, нашай славутай кампазітаркай, стваральнікам фольк-тэатра «Госьціца», здзейснілі спробу выдаць часопіс «П-ARTытура», прысвечаны разнастайнаму і насычанаму падзеямі музычнаму жыццю Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Распрацавалі ўсе рубрыкі, напісалі тэксты, знайшлі дызайнера, за ўласныя грошы раздрукавалі першы нумар, паказалі яго кіраўніцтву філармоніі… І што? А нічога! Акрамя збянтэжанага «Ах!», ніякай падтрымкі і зацікаўленасці мы не адчулі.

Адна са станоўчых тэндэнцый апошніх год — пашырэнне колькасці навукова-метадычных перыядычных выданняў. У першую чаргу, тут трэба назваць часопісы «Искусство и культура», ініцыятарам стварэння якога стала мастацтвазнаўца

Таццяна Катовіч, і «Артэфакт» (галоўны рэдактар — Вадзім Салееў). Аднак, дзе і як іх можна набыць? Для шырокага кола чытачоў, лічы, нідзе. Толькі па падпісцы ці ў месцах выдання — адпаведна, у ВДУ імя П. М. Машэрава ў Віцебску і Акадэміі мастацтваў.

Больш шырокая аўдыторыя ў інтэрнэт-праектаў. І ў апошнія гады гэтая сфера пачала ў нас больш-менш актыўна развівацца. Аднак і тут ёсць свае праблемы. З аднаго боку, можна парадавацца, што інтэрнэт справакаваў сапраўдны выбух «эпісталярнага жанру» ў адносінах да мастацтва. А з іншага, як і ў выпадку з друкаванымі выданнямі, застаецца актуальным пытанне наяўнасці глыбокай, прафесійнай мастацтвазнаўчай і культурніцкай аналітыкі. Інтэрнэт-выданняў, якія б сумяшчалі інфармацыю, аналітыку і мастацкую крытыку, — адзінкі. Гэта, найперш, альманах сучаснай беларускай культуры «pARTisan», платформа перфарматыўных практык «Зерне», сайт пра сучаснае беларускае мастацтва «Art Aktivist». Сур'ёзныя публікацыі апошнім часам з'яўляюцца на старонках электроннага альманаха «Двери» (напрыклад, тэкст лекцыі спецыяліста па вулічным тэатры Фларыяны Габер). Нядаўна з'явіўся сайт «Культпросвет», які імкнецца даступнай мовай расказаць пра падзеі мастацкага жыцця. На большасці ж рэсурсаў крытычна-аналітычны кампанент мінімізаваны, замест гэтага прапануюцца рэкламныя анонсы, фотасправаздачы, інтэрв'ю з раскручанымі зоркамі, суб'ектыўна-эмацыянальныя глядацкія водгукі (часта нават неадрэгаваныя належным чынам) ці пазбаўленыя крытычнай рэфлексіі апісанні ўбачанага. У выніку атрымоўваем сітуацыю, якую трапна ахарактарызаваў Жан Бадрыяр: «Інфармацыі становіцца ўсё больш, а сэнсу — усё менш».

Калі ж казаць у больш шырокім сэнсе, то ў Беларусі наогул не наладжана сістэма выдання літаратуры па мастацтве. Усялякі раз, як бываю ў Маскве ці Пецярбургу, прывожу кнігі выдавецтваў «Артист. Режисер. Театр», «Гараж», Расійскага ўніверсітэта і Санкт-Пецярбургскай акадэміі тэатральнага мастацтва. Нашыя ж Акадэмія мастацтваў ці Універсітэт культуры і мастацтваў, на жаль, не выдаюць амаль нічога, акрамя літаратуры для ўнутранага карыстання.

Што ж датычыцца сайта «Art Aktivist / Тэатр», галоўным рэдактарам якога я з'яўляюся, то ягоная дзейнасць накіравана на прэзентацыю і папулярызацыю сучаснага тэатральнага мастацтва Беларусі. Для мяне гэта, найперш, праява асабістага энтузіязму, свайго роду хобі, якое не прыносіць матэрыяльных дывідэндаў. У далейшым мне хацелася б пашырыць напрамкі дзейнасці сайта і зрабіць яго своеасаблівай даследча-адукацыйнай платформай. Гэтага вельмі не хапае ў нашым культурніцкім асяроддзі.



**Марына ДАВЫДАВА,**
**галоўны рэдактар часопіса «Театр»,**
**тэатразнаўца,**
**тэатральны крытык (Расія)**

## Па гамбургскім рахунку

Праблем у сферы тэатральнай перыёдыкі шмат, але раней іх было яшчэ больш. Сёння часопісы выходзяць у асноўным у Маскве, ёсць, канечне, і «Петербургский театральный журнал», але ён мае бясконцыя праблемы з фінансаваннем. У Маскве ёсць некалькі тэатральных выданняў, зусім розных кірункаў, шмат з якіх мне зусім

няблізкія. Аднак гэтая разнастайнасць мяне радуе: мноства меркаванняў і наяўнасць плюралістычнай карціны працэсу — гэта добра.

Маю ўвагу займае тое, што тэатр сёння не абмінае вострыя тэмы і трапляе ў болевыя кропкі грамадства. Я, напрыклад, у сваім часопісе не лічу магчымым не звяртаць на гэта ўвагі. І паколькі часопіс так ці інакш асэнсоўвае рэальнасць (у нечым апярэджвае, у нечым рухаецца ўслед за ёй), то, адпаведна, ён таксама аказваецца на выстрыні нейкіх сацыяльных, грамадска-палітычных, эстэтычных праблем, становіцца тэатральнай рэальнасцю і апынаецца перад пагрозамі, якія паўстаюць перад самім тэатрам. Трэба аддаць належнае — да нядаўняга часу ў нас не было цэнзуры, якая б закранала сферу мастацтва. У мастацтве і асабліва ў тэатры можна было рабіць усё, што заўгодна. І калі расійскі тэатр быў асацыяльным і апалітычным, то, у першую чаргу, не з-за дрэнных чыноўнікаў, якія нечага не дазвалялі, а менавіта таму, што была поўная інертнасць і індыферэнтнасць. У якасці прыкладу свабоды ад цэнзурыя ўзгадваю факт: у той час, калі ішоў працэс над Pussy Riot у Тэатры.doc, ішоў спектакль «Берлуспутін», які, калі сцвярджаць, што ў нас страшны таталітарызм і аўтарытарызм, проста не мог бы з’явіцца. А ён ішоў у цэнтры сталіцы (размова з Марынай Давыдавай адбывалася да скасавання арэнднай дамовы з Тэатрам.doc — ***А. М.***). У нейкі момант у МХТ, Ленкоме, Гогаль-цэнтры, Тэатры Нацый, Тэатры.doc, пецярбургскіх тэатрах з’явіліся па-добраму злабадзённыя спектаклі (гэта характарыстыка, дарэчы, не вычэрпвае іх вартасці). Але апошнім часам над тэатрам навісла пагроза, якая яшчэ ніяк не праявілася, на шчасце, аднак мы адчуваем пагрозу цэнзурыравання вобласці мастацтва. Я вельмі спадзяюся, што нашыя чыноўнікі хаця б гэтую сферу закранаць не будуць, таму што тады адбудзецца поўны зварот у савецкую рэчаіснасць. У гэтай сітуацыі пачынаеш думаць пра эміграцыю, пра што лепш не думаць, бо пры ўсім вопыце і магчымасцях ніякае іншае мастацтва ты не будзеш ведаць так, як ведаеш расійскае. Хочацца жыць тут, пісаць і працаваць тут, не ведаю ці дадуць магчымасць нам гэта рабіць, але пакуль ёсць яшчэ нейкая слабая надзея, што дадуць.

Мая ўвага як рэдактара сфакусіравана на шмат якіх рэчах. Перадусім у тэатры мяне цікавіць тэатральная мова. Гэта галоўнае. Мы, уласна кажучы, і займаемся тэатральнай мовай, збіраемся рабіць нумар, прысвечаны перфарматыўнасці ў мастацтве, ёсць ідэя зрабіць нумар, прысвечаны contemporary dance, аднаму з самых важных кірункаў сучаснага тэатра (асабіста мне часам падаецца, што драматычны тэатр пачынае існаваць па законах contemporary dance). Былі нумары, прысвечаныя сістэме тэатральнай адукацыі, феномену палітычнага тэатра. Цяпер мы працуем над нумарам, прысвечаным новаму артысту новага рускага тэатра: спрабуем разабрацца, як змяняецца артыст і яго тыпаж у новай эстэтычнай рэальнасці. Хочам распавесці, як расійскія рэжысёры ставяць спектаклі па-за межамі краіны: ад Анатоля Васільева да Камы Гінкаса, які некалі вельмі прадуктыўна працаваў у Фінляндыі; ад Канстанціна Багамолава да Кірыла Сярэбранікава. Што змяняецца ў іх рэжысёрскім почырку? Гэтыя ўсе тэатразнаўчыя праблемы вельмі вострыя для спецыялістаў і куды менш цікавыя для шырокага чытача. Хаця пытанне аўдыторыі стаяла для мяне ад пачатку. З аднаго боку, «Театр» — гэта нішавы часопіс, прысвечаны праблемам тэатральнага кам’юніці, але, з іншага боку, я імкнуся рабіць часопіс, які быў бы цікавы за межамі гэтай супольнасці, і ў нас там тры раздзелы: тэатр на сцэне, тэатр па-за сцэнай, тэатр за межамі тэатра. І вось у апошнім раздзеле мы робім вельмі шырокія выхады ў сацыялогію, кіназнаўства, літаратуразнаўства — куды заўгодна. І я без усялякай сціпласці зазначу, што з усіх нішавых часопісаў па-за межамі тэатральнага кам’юніці лепш за ўсё ведаюць часопіс «Театр». Мяне гэта надзвычай радуе, бо я за разбурэнне межаў, а не за іх узвядзенне. Тым больш, тэатр так арганізаваны, што пастаянна заступае ў сумежныя вобласці,

і грэх гэта не выкарыстаць. Калі мы робім украінскі нумар, мы пішам не толькі пра тое, што ўяўляе сабой тэатр Украіны, але і пра тэатральнасць у фільмах Кіры Муратавай. І для мяне гэта таксама важна. Праблема замкнутасці існавала раней, але, як мне падаецца, мы яе вырашылі. Цяпер выклікае клапат іншая праблема: кансерватыўнае мысленне значнай часткі тэатральнай супольнасці, якой падабаецца замкнёнасць і якая распавядае пра тэатральныя дасягненні па крытэрыях, што дзейнічаюць толькі ўнутры супольнасці, але калі паглядзець па гамбургскім рахунку, то гэтыя дасягненні насамрэч нічога не вартыя. Мы якраз імкнёмся судзіць па гамбургскім рахунку: і расійскі тэатр, і сусветны. І калі для тэатра як такога гэта значная з'ява, то мы пра яе напішам, а калі не, то знойдуцца іншыя выданні, якія пра яе распавядуць.



**Наталля ЯКУБАВА,**
**тэатразнаўца,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Аддзела мастацтва**
**краін Цэнтральнай Еўропы**
**Дзяржаўнага інстытута**
**мастацтвазнаўства**
**Міністэрства культуры РФ,**
**аўтар кнігі «Театр эпохи перемен**
**в Польше, Венгрии и России.**
**1990—2010-е» (Расія)**

## Ну якая тут канкурэнцыя?

Мне цяжка казаць пра будучыню тэатральных часопісаў, таму што паводле ўсіх нармальных прагнозаў гэтыя выданні павінны ўжо былі памерці, але гэта не адбываецца. Канечне, значную ролю пачаў адыгрываць інтэрнэт. Мне падаецца добрай ідэяй тое, што шматлікія выданні вядуць блог, куды не ўваходзяць матэрыялы друкаванай версіі. З'яўляецца дадатковая прастора, а ў чытачоў — матывацыя для таго, каб зацікавіцца і папяровым варыянтам. На маю думку, сітуацыя, у якой існуюць гэтыя выданні сёння, склалася ў 1990-я гады і з тае пары не моцна змянілася. Я не бачу прынцыповых змен ні ў маім любімым польскім часопісе «Didaskalia», ні ў яшчэ адным маім любімым «Петербургском театральном журнале». І гэта добра, гэта значыць, што людзі па-ранейшаму хочуць чытаць і пісаць новыя тэксты, адначасова дапаўняючы сваё жыццё фэйсбукам, блогам, што для ўсіх гэтых з'яў знаходзіцца месца.

Мне падабаецца, як сістэма часопісаў арганізавана ў Польшчы. Але я памятаю, як на канферэнцыі, прысвечанай новым спецыялізаваным выданням па тэатры, падчас фестывалю «Кантакт» у Торуні я задала пытанне рэдакцыі толькі што ўтворанага часопіса «Didaskalia»: «Ці не адчуваеце вы канкурэнцыю ў дачыненні да старых часопісаў?» На што мне адказалі накшталт таго, што Польшча такая вялікая краіна, але ў ёй існуе толькі тры тэатральныя часопісы, вось з'явіўся чацвёрты — пра якую канкурэнцыю можна весці размову? У гэтым розніца: Расія — краіна большая, а часопісаў такога тыпу, пра які вялася гаворка, выходзіць вельмі мала. Мяркую, што толькі два. Ну тры, калі улічыць часопіс, прысвечаны драматургіі. У Польшы ж сёння існуе даволі шмат тэатральных часопісаў, і ў кожнага з іх свой профіль. У прыватнасці, можна узгадаць часопіс «Notatnik Teatralny», які выходзіць ва Вроцлаве. Гэты часопіс падобны да альманаха: выключна спецыяльныя нумары, часцей за ўсё прысвечаны творчасці якога-небудзь выбітна-

га рэжысёра (добрая нагода прадставіць манаграфію, прысвечаную рэжысёру). Выдатна, калі ёсць часопіс, які адсочвае ўсе падзеі, калі ёсць часопіс авангардны, і выдатна, калі ёсць часопіс, які можа рабіць такія манаграфічныя нумары. Дарэчы, у Польшчы выходзіць і акадэмічны тэатральны часопіс «Pamiętnik Teatralny», цалкам прысвечаны гісторыі тэатра, і часопіс сучаснай драматургіі «Dialog». І добра, што існуе вялізная інтэрнэт-платформа, дзе кожная падзея можа знайсці сабе рознае асвятленне.

У маім прафесійным жыцці здаралася некалькі сітуацый, калі я была вымушана цалкам вывучыць крытыку, прысвечаную канкрэтнаму спектаклю. І асноўным недахопам тэкстаў, якія даводзілася чытаць у вялікім аб'ёме, мне падаецца тое, што я назвала б «аўтанамізацыяй асобнага мастацкага выказвання». Гэта значыць, меркаванне, адпаведна якому мы не можам выходзіць за межы таго, што пабачылі. Такое меркаванне вымагае ад спецыяліста аналізаваць тэатральную з'яву, як такую, саму ў сабе. Ні ў якім разе не прад'яўляць ніякіх пытанняў да рэжысёра, не дапускаць ніякай ідэалогіі, што хаваецца за выказваннем. Перспектыўным кірункам развіцця мне падаецца якраз адваротны: узнікненне і агучванне пытанняў, дэканструкцыя ідэалагічнага меркавання, якое з'яўляецца асновай пэўнага спекталя.

## Марына ДАВЫДАВА. ЭКСПАНСІЯ ЗА МЕЖЫ ТЭАТРА

***Ці ёсць будучыня ў тэатра? Менавіта так была сфармулявана тэма сустрэчы з вядомым расійскім тэатральным крытыкам, тэатразнаўцай, галоўным рэдактарам часопіса «Театр» Марынай Давыдавай. Сустрэча прайшла ў межах Маладзёжнага тэатральнага форума-фестывалю «АРТ-МІГРАЦЫЯ», які ўжо другі раз зладзіў у Маскве Саюз тэатральных дзеячаў Расійскай Федэрацыі. Аднак на самым пачатку размовы стала зразумела, што ў паспяховай будучыні тэатра маладыя акцёры, рэжысёры, сцэнографы, тэатразнаўцы ўпэўненыя, а вось наконт таго, што менавіта лічыць сучасным тэатрам і дзе сёння палягае мяжа тэатральнага мастацтва, узнікаюць сумневы і пытанні. Фокус увагі прысутных змясціўся на адну з самых актуальных праблем сучаснага працэсу, абмеркаванне і паступовае вырашэнне якой з цягам часу істотна паўплываюць на тэатр і, верагодна, зруйнуюць некаторыя нашыя перакананні пра тое, якім ён мусіць быць. Часопіс «Полымя» прапануе чытачам самыя цікавыя фрагменты сустрэчы-лекцыі Марыны Давыдавай.***

**АКЦЁР** Дваццаць—трыццаць гадоў таму слова «тэатр» апісвала больш зразумелую і простую рэальнасць, чым сёння. Усе дакладна ведалі, што такое тэатр, а што такое не тэатр. Тэатр — гэта такое месца, куды прыходзяць людзі, знатакі, і сядаюць у глядзельнай зале. У гэтым месцы ёсць сцэна з больш-менш высокім подыумам, па ёй ходзяць артысты: прамаўляюць словы па ролях і імітуюць нейкіх герояў. Не істотна якіх герояў, істотна, што ёсць складнік імітацыі і тэкст, з якім адбываецца ўзаемадзеянне. А яшчэ ёсць кіраўнік-рэжысёр і мы, гледачы, якія сядзяць і ацэньваюць уменні артыстаў. Маўляў, Іван Іванавіч больш умела прыкідваецца чым Іван Пятровіч, ён лепшы артыст. Інструментарый, з дапамогай якога тады апісвалася тэатральная рэальнасць, мне як тэатразнаўцы і тэатральнаму крытыку, сёння падаецца даволі простым.

Але, як кажуць, міналі гады, і я заўважаю, як у апошні час межы тэатра ў значнай ступені змяняюцца, пашыраюцца, адбываецца яго відавочная экспансія ў сумежныя сферы, усё новыя і новыя тэрыторыі аказваюцца заваяванымі. Дарэчы, некаторыя з іх здаюцца без бою, нібы сцвярджаючы: так, цяпер мы тэатр.



*«Карго Сафія-Х».*



*«Проба грунту ў Казахстане».*

Да таго ж становіцца заўважна, што ў шматлікіх пастаноўках, якія сёння з'яўляюцца класікай сучаснага тэатра, адсутнічаюць тыя элементы, што раней падаваліся сутнаснымі, субстанцыйна важнымі, без якіх існаванне тэатра ўяўлялася немагчымым. Напрыклад, калі б у студэнцкія гады ў мяне запыталі: «Ці можа існаваць тэатр без артыста?», я б, канечне, адказала, што без артыста на сцэне тэатр немагчымы. А сёння я магу вам распавесці пра велізарную колькасць спектакляў, дзе няма артыстаў[1]. Дакументальны тэатр і яго самы яскравы прыклад — нямецкамоўная тэатральная група «Рыміні Пратакол», якую стварылі Штэфан Кэгі, Даніэль Ветцэль і Хельгард Хауг. Мы да гэтага часу ўяўляем тэатр як дзяржаўную структуру, прычым структуру складаную, з вялікай адміністрацыйнай часткай. Мы з цяжкасцю ўсведамляем, што тэатр могуць стварыць тры чалавекі, якія выпрацавалі нейкія агульныя канцэпцыі. Сустрэча гэтых людзей прывяла да таго, што яны сталі рабіць розныя праекты ў розных краінах: яны не маюць уласнага будынка, трупы, адміністрацыі. Штэфан Кэгі — дзіўны чалавек, які вандруе с заплечнікам па свеце. Можа, напрыклад, пасяліцца ў Балгарыі, назіраць за жыццём у краіне, а потым з гэтых назіранняў паўстае спектакль. Назва гэтага спектакля вар'іравалася ў залежнасці ад таго месца, дзе яго ігралі, я бачыла пастаноўку ў Авіньёне пад назвай «Карго Сафія — Авіньён». Спектакль распавядаў пра жыццё дальнабойшчыкаў. Яго героямі сталі рэальныя балгарскія дальнабойшчыкі, з якімі Кэгі пазнаёміўся на вуліцах Сафіі. Гледачы сядзелі ў фуры, яна рухалася, і «зала» на свае вочы бачыла ўсе падзеі жыцця кіроўцы. Напрыклад, тое, як ён праходзіць мытню (падчас маршруту мы міналі імітацыю мяжы). Кіроўцы размаўлялі з гледачамі. Тэкст, які яны прамаўлялі, быў часткова зафіксаваны, а часткова адбывалася імправізацыя. Удзельнікі спектакля нікім сябе не ўяўлялі, заставаліся сабой, казалі ад свайго імя, і ацэньваць іх акцёрскую ігру па тых крытэрыях, якімі мы карысталіся, каб ацаніць ігру Еўсцігнеева ці Міронава, бессэнсоўна. Між іншым, дзеянне, якое адбывалася, мела свой эстэтычны складнік, і глядач счытваў падзею менавіта як тэатральную. Варта заўважыць, што «Рыміні Пратакол» паставіў досыць вялікую колькасць спектакляў, і іх героямі сталі розныя людзі: ад швейцарскага пенсіянера да работніка нафтавай прамысловасці ў Казахстане[2].

Мы ведаем пра дакументальны тэатр у першую чаргу дзякуючы маленькаму Тэатру.doc[3]. І мы з калегамі доўгі час сыходзіліся ў меркаванні, што док-кірунак — гэта перш за ўсё нейкая драматургічная гісторыя. Яна грунтуецца на verbatim[4],

---

[1] Да гэтай катэгорыі Марына Давыдава далучае і спектаклі, у якіх занятыя непрафесійныя артысты (тут і далей заўвагі рэдактара).

[2] Спектакль «Проба грунту ў Казахстане» тэатра «Рыміні Пратакол» мінская публіка мела магчымасць пабачыць у 2013 годзе ў межах Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва «Тэарт».

[3] Тэатр дакументальнай п'есы «Тэатр.doc» быў заснаваны ў 2002 годзе ў Маскве.

[4] Verbatim — драматургічная тэхніка, якая прадугледжвае напісанне п'есы шляхам даслоўнай фіксацыі дакументальнага матэрыялу, і тэатральны жанр, для якога ўласцівая даслоўная перадача гэтага матэрыялу.

калі драматург едзе да шахцёраў ці да работнікаў хоспіса, фіксуе дакументальную рэальнасць, а потым артысты яе разыгрываюць. Падавалася, што ідэя дакументальнага тэатра найперш звязана з ідэяй verbatim, а высвятлілася, што гэта куды больш шырокае паняцце, якое існуе ў тэатры і па-за драматургіяй.

**ТЭКСТ** Нам цяжка ўявіць сабе не толькі тэатр без артыста, але і без літаратурнай першаасновы. Які б спектакль ні быў дзёрзкі і радыкальны, ён усё роўна будзе ўзаемадзейнічаць з тэкстам, што яму папярэднічаў (класічным ці сучасным). Існуе тэкст, з якім рэжысёр знаёміўся: ці ён яго разгадваў, падбіраючы ключы, ці змагаўся, ставячы насуперак сэнсавых вектараў, але гэта не істотна: змагаешся ты з тэкстам ці разгадваеш — у любым выпадку ты з ім узаемадзейнічаеш. І гэта падавалася неад’емнай часткай тэатральнага мастацтва. Але зараз я ўсё больш заўважаю, як у тэатры ўзнікае трэнд, які б я назвала пазаінтэрпрэтацыйным тэатрам, г.зн. што ён у прынцыпе не прадугледжвае інтэрпрэтацыі ніякага тэксту.

А ёсць яшчэ такая з’ява: спектакль ствараецца і грунтуецца на нейкім класічным творы, але тэкст, сюжэт да такой ступені перайначаны, зменены, што ўяўляюць сабой нейкі самастойны твор. Я зраблю заўвагу: гэта не радыкальныя жэсты Меерхольда ў дачыненні да п’есы, гэта проста асалютна новая лексічная, сцэнічная і ўсялякая іншая рэчаіснасць. Напрыклад, «Атэла» ў пастаноўцы Люка Персіваля[1], дзе два драматургі проста перапісалі ўвесь тэкст, фактычна пераклалі яго — і героі Шэкспіра загаварылі сучаснай, часам даволі брутальнай мовай. Класічны твор становіцца трамплінам, ад якога адштурхоўваецца рэжысёр. Прыгадаю яшчэ адзін спектакль, што зрабіў вядомым французскага рэжысёра Жозэфа Наджа (складана дакладна вызначыць, хто ён найперш: рэжысёр, мастак, танцоўшчык). На афішы пазначана: Георг Бюхнер «Войцэк»[2], але калі б гэтага надпісу не было, я магла б прыдумаць і праасацыіраваць усё, што заўгодна. Я б увогуле не назвала гэта «Войцэкам», гэта нейкія пластычныя фантазіі, сюжэтна з п’есай не звязаныя ці звязаныя на ўзроўні абагуленай ідэі: чалавек — прах. Узнікае пытанне: чаму Надж назваў свой абсалютна самастойны твор «Бюхнер «Войцэк»? У гэтым ёсць рацыя: рэжысёр задае пэўную кантэкстуальную прастору, пэўны кантэкстуальны аб’ём, дзе ўсяму, што мы бачым на сцэне, надаецца спецыяльны сэнс, які б не з’явіўся, калі б у афішы не стаяла — Георг Бюхнер «Войцэк». Заўважна тэндэнцыя: тэатр асэнсоўвае сваю самастойнасць і яго трывалыя сувязі з літаратурай, якія пахіснуліся ўжо са з’яўленнем рэжысёрскага тэатра, паступова змяншаюцца.

**НАВУКА** Межы размываюцца, і я мяркую, што можна казаць пра экспансію тэатра ў розных кірунках: у прыватнасці, яна заключаецца ў тым, што розныя віды мастацтва пачынаюць існаваць па тэатральных законах. Прычым, заўважце, гэта адбываецца не толькі з тым, што мы называем сучасным мастацтвам. Досыць часта нейкія выключна тэатральныя элементы ўводзяцца ў выканаўчае мастацтва. Паэзія. Як чытаў вершы Прыгаў[3] — гэта ж перформанс.

---

[1] П’еса Уільяма Шэкспіра «Атэла» была пастаўлена вядомым фламандскім рэжысёрам Люкам Персівалем у тэатры Камершпіле (Мюнхен, Германія). Тэкст п’есы быў істотна перапрацаваны Ферыдунам Заімаглу і Гюнтэрам Зенкелем.

[2] «Войцэк» — нясконачаная п’еса нямецкага драматурга Георга Бюхнера. Упершыню апублікаваная ў 1879 годзе.

[3] Дзмітрый Прыгаў — рускі паэт, скульптар, мастак. Адзін з пачынальнікаў маскоўскага канцэптуалізму.

Мяне некалі вельмі ўразіла гісторыя аб правакатыўным маркетынгу, калі нават у вобласці эканомікі задзейнічаны выключна тэатральныя тэхналогіі. Сутнасць правакатыўнага маркетынгу заключаецца ў там, што калі ўзнікае неабходнасць прадаць новы прадукт на рынку (дапусцім, фотаапарат), прадаўцы звяртаюцца ў спецыяльнае акцёрскае агенцтва. Акцёры гэтага агенцтва ў розных, загадзя абмеркаваных і прыдуманых вобразах з'яўляюцца ў крамах з пытаннямі кшталту «А фотаапарат гэтай мадэлі яшчэ не паступаў у продаж?» І гэтыя з'яўленні правакуюць уладальнікаў крам закупіць тавар. Абсалютна тэатральная гісторыя, але ці можна назваць яе тэатрам? Здаецца, не…

Я не ведаю адказаў на ўсе пытанні. Для мяне падзел паміж перфарматыўнасцю, якая сёння мае досыць шырокае разуменне, і ўласна тэатрам, — гэта вельмі праблематычнае пытанне. І па сутнасці, мне падаецца, што ўсе гэтыя раздзяленні даўно зніклі, як зніклі ў тэатры падзелы паміж жанрамі і відамі сцэнічнага мастацтва: тэатр лялек становіцца часткай драматычнага тэатра, новы цырк пачынае існаваць па законах тэатра драмы, у оперы танчаць, у балеце спяваюць. Я думаю, што ў хуткім часе мы будзем мець справу з агульнай прасторай нейкай крэатыўнасці, і гэта будзе мастацтва. Я бачу перспектыву спалучэння мастацтва і навукі, калі шмат што будзе нараджацца на перасячэнні гэтых галін: навукоўцы і вынаходнікі будуць успрымацца як факт мастацтва і наадварот. Галоўная якасць, якой павінен валодаць чалавек, што займаецца сучасным тэатрам і сучасным мастацтвам, гэта найхутчэй не адукаванасць, а менавіта адкрытасць, адсутнасць дактрынічнага мыслення: сюды можна ступаць, а сюды нельга. Тое, на што мы маем права як творцы, мы можам зразумець толькі ў працэсе творчасці, і ўвогуле мне здаецца, адзінае, што можа абмежаваць правы творцы — гэта крымінальны кодэкс.

**ВІДЭААРТ** Мы жывём у вельмі цікавы час: тэатр стаў адным з самых важных відаў мастацтва. Калі мы вучыліся, заўважнай была боязь, што ў эпоху тыражыруемага мастацтва і магутных сродкаў камунікацыі тэатр страціць пазіцыі. Тэатральнае мастацтва мае дзве асаблівасці: яго немагчыма тыражыраваць і канверціраваць (тэатру цяжка перасякаць мяжу той краіны, дзе ён нарадзіўся; з музыкай ці, напрыклад, кіно ў гэтым плане прасцей). Карацей, шмат было песімістычных прагнозаў, але яны не спраўдзіліся. Тэатр захаваў за сабой важнае месца ў гісторыі культуры. І больш за тое выявіліся перавагі, якія адсутнічаюць у іншых відах мастацтваў. Так, у кіно заўсёды ёсць толькі адзін спосаб рэпрэзентацыі: кіно можна паказваць на экране. Ніякім іншым чынам ты з ім узаемадзейнічаць не можаш — можна вар'іраваць толькі памер экрана. Калі паказваць на трох экранах — гэта ўжо не кіно, а інсталяцыя. У кнігі таксама толькі адзін спосаб рэпрэзентацыі. Яна можа быць папяровая, можа быць электронная, а спосаб рэпрэзентацыі адзін. Тэатр — гэта від мастацтва, у якога мільён рэпрэзентацый. У тэатры можна паказваць кіно (як гэта часта і робіцца), але гэта ўсё роўна тэатр: мы разумеем, што ў тэатры паказваюць кіно.

Вялікую ролю сёння ў тэатры пачынае іграць відэаарт, унутры тэатральнай рэальнасці ідзе складаная праца з відэапраекцыямі. Але ты не ўспрымаеш гэта як відэаінсталяцыю, ты ўспрымаеш гэта як спектакль. Франк Кастарф[1] — першы рэжысёр, які пачаў актыўна выкарыстоўваць відэа ў сваіх спектаклях, і гэта, трэба адзначыць, вельмі моцна пераўвасобіла, змяніла тэатральную рэчаіснасць. Менавіта выкарыстанне відэа адыграла ролю ў працэсах змянення таго, што мы называем спосабам псіхалагічнага існавання артыста. Уявіце, калі артыст існуе на сцэне па-за відэапланам, мы яго проста бачым з залы, ён непазбежна вымушаны фарсіраваць сваю міміку, жэсты і інтанацыю так, каб мы чулі і разумелі

[1] Франк Кастарф — нямецкі тэатральны рэжысёр.



*«Хрысціна».*

яго ў апошнім шэрагу партэра. А цяпер уявіце сітуацыю, калі за героямі (а гэта такі прынцып Франка Кастарфа) увесь час ходзіць чалавек з камерай. Адначасова мы бачым жывых артыстаў на сцэне і выяву на экране (прычым часцей за ўсё не агульныя, а буйныя планы — твар героя, частка твару). Фокус яшчэ ў тым, што чалавек з камерай ідзе за героямі не толькі, калі яны існуюць на сцэне, але і тады, калі яны сыходзяць за кулісы: быццам бы герой сышоў, а насамрэч не, на экране ён існуе. Усё гэта адбываецца ў рэжыме рэальнага часу і ніколі не здымаецца загадзя. Канечне, я ўпэўнена, што ігра артыста, які ведае, што ён прысутнічае на сцэне ў двух планах, не можа быць такой жа, якой яна была б, калі б ён не прымаў пад увагу гэтую відэарэальнасць. То бок гэта змяняе прынцып акцёрскага існавання на сцэне. Гэта да пытання наколькі спосабы рэпрэзентацыі, далучаныя да тэатра і якія сталі яго часткай, змяняюць прыроду тэатра.

І раз ужо мы загаварылі пра відэа ў тэатры, другім чалавекам, які развіў гэты складнік, стала Кэці Мітчал, англійскі рэжысёр, якая шмат працуе ў Германіі. Дарэчы, менавіта гэтая краіна і яе тэатральная культура задала такія важныя трэнды сучаснага тэатра, што многія, нават не ўсведамляючы гэтага, пачынаюць на іх арыентавацца і ў іх трапляць. Між іншым, у Германіі не так і шмат міжнародных фестываляў, але яна застаецца краінай нумар адзін у плане экспарту сваіх спектакляў. Калі вы прыязджаеце на буйны міжнародны фестываль, можаце не сумнявацца, што там хутчэй за ўсё будуць спектаклі з Германіі, і шмат. Але хутчэй за ўсё там не будзе спектакляў са Злучаных Штатаў Амерыкі (да прыкладу, краіна, абсалютна няўключаная ў сусветную тэатральную супольнасць).

На мой погляд, свае лепшыя спектаклі Кэці Мітчал паставіла менавіта ў Германіі. І прыводзіць прыклад мне прасцей за ўсё на яе спектаклі «Фрэкен Жулі» (на гастролях ён часта мяняе назву — «Хрысціна»). Вы памятаеце, што ў п’есе Стрындберга тры героі: сама фрэкен Жулі, лакей Жан і служанка Хрысціна. І вось якраз Хрысціна становіцца ў нейкім сэнсе галоўнай гераіняй. Рэальнасць паўстае перад намі нібыта з пункту гледжання Хрысціны, мы бачым, як яна заўважыла і не заўважыла (гэта асабліва важна) гісторыю адносін паміж фрэкен і лакеем.

Пачынаецца спектакль, і мы бачым, як жанчына (мы пакуль што не ведаем, што гэта Хрысціна) стаіць перад кадкай, дзе расце нейкая траўка, і выбірае гэтую траўку рукамі. І ў той жа самы час камера фіксуе ўсё тое, што адбываецца, і праецыруе на вялікі экран. І дзіўным чынам тая ж кадка, што мы бачым на сцэне, паўстае перад намі як зялёны луг, па якім ідзе жанчына і схіляецца, каб нарваць кветак для букета. Перад намі паўстае сапраўдная рэальнасць і пераўтвораная рэальнасць, нібыта паказаная праз нейкі фільтр. Атрымліваецца своеасаблівы падвоены зрок. А калі казаць пра філасофскі сэнс спектакля, то гэта такая дэманстрацыя, як нашае бачанне свету адрозніваецца ад таго, што напраўду адбываецца тут і цяпер. Хрысціна і ў п’есе не становіцца сведкай рамана, які адбыўся паміж фрэкен і Жанам, да яе даляталі толькі фрагменты, па якіх выбудоўвалася карціна рэальнасці. А ці можам мы, абапіраючыся на фрагменты, аскепкі рэчаіснасці, што да нас далятаюць, пабудаваць агульную карціну, і наколькі яе пераўтворыць наша бачанне? Такі філасофскі пасыл утрымлівае гэта маленькая камерная гісторыя.

**СУЧАСНАСЦЬ** Тэатразнаўства і тэатральная крытыка павінны навучыцца кампетэнтна апісваць сучаснасць. Нашае тэатразнаўства фундаментальна піша пра мінулае, але ніяк нас не навучыць успрымаць сучаснасць як аб’ект тэарэтычнага даследавання. Так, рэцэнзію можна напісаць, а калі сур’езная праца — то толькі пра Меерхольда і Станіслаўскага. Насамрэч, сучаснасць вартая такога ж сур’ёзнага тэарэтычнага асэнсавання.

У мяне часта пытаюцца: што такое сучасны тэатр? Канечне, можна сыходзіць з таго, што сучасны тэатр — гэта ўсё, што зроблена ў дадзены момант часу. Пастаўлена пэўная колькасць спектакляў у 2014 годзе — гэта і ёсць сучасны тэатр. І ў нейкім прымітыўным, самым шырокім сэнсе слова гэта так. Але ж мы, калі пытаемся, укладаем нейкі іншы сэнс. Як гэта адрозніць? Чаму вы кажаце, што гэта сучасны тэатр, а гэта не, з чаго вы сыходзіце? Дзе гэты пэўны крытэрый? Злабадзённасць? Дык здараецца так, што тэатр можа быць фантастычна злабадзённым, але несучасным. Спачатку на гэтае пытанне я адказвала мудрагеліста. Я гаварыла пра тое, што ў навуцы ёсць такая праблема распазнавання вобраза. Калі ў пакой уваходзіць кот, мы бачым, што гэта кот, а калі у пакой уваходзіць сабака, мы бачым, што гэта сабака. Фармалізаваны адказ на пытанне, чаму мы ведаем, што гэта кот, а гэта сабака, мы даць не можам, але чалавек бачыць, хто ўвайшоў. Я таксама прыходжу на спектакль і бачу: гэты сучасны, а гэты несучасны. Канечне, адказ хітры, але я паспрабавала сфармуляваць і сур’ёзны: галоўнае — гэта не тэматыка, хаця яна таксам бывае важнай, а такая спецыяльная рэч, якую я называю оптыка. Яе фокус у тым, што калі паставіць эксперымент нада мной ці над вамі і паказаць спектакль з традыцыйнага, кансерватыўнага тэатра, а потым сказаць: «Бачыце спектакль? Толькі ўчора адбылася прэм’ера!» Мы паверым. А можна сказаць, што дзесяць гадоў таму паставілі, і мы таксама паверым. А можна сказаць, што дваццаць гадоў таму (толькі артысты ўжо маладзейшыя). І я скажу: «Дапускаю». Але калі я пабачу спектакль Кэці Мітчал ці Штэфана Кэгі, а мне скажуць, што ён пастаўлены дзесяць гадоў таму, я скажу: «Не!» Таму што дзесяць гадоў таму чалавек успрымаў рэальнасць інакш, чым ён успрымае яе сёння. Складана ўявіць, каб карціна імпрэсіяніста была напісаная ў XVII стагоддзі. Бо тады свет так яшчэ не ўспрымалі.

**НЕДАСКАНАЛАСЦЬ** Часам недасканаласць спектакля — гэта натуральны складнік спектакля. Магу прывесці прыклад: іспанка Анхеліка Лідэл. Яна сама прыдумляе, сама ставіць, сама распрацоўвае сцэнаграфію, сама выконвае. У яе фантастычны тэмперамент. У спектаклі «Усё неба над зямлёю. Сіндром Вэндзі» (маецца на ўвазе Вэндзі — гераіня казкі пра Пітера Пэна) Анхеліка стала такім парафразам дзяўчынкі, якая не хоча сталець, баіцца стаць маці. Яна прамаўляла саракахвілінны маналог, і субцітры мільгацелі з такой хуткасцю, што іх не магчыма было чытаць. А выканаўца існавала ў ліхаманкавым рытме: то спявала, то танцавала, то білася ў істэрыцы — і працягвала прамаўляць маналог-плынь свядомасці. У нейкі момант я зразумела, што ў мяне нестае моцы, каб усё гэты вытрываць. Глядзельная зала, дарэчы, ставіцца да таго, што адбываецца, надзвычай ветліва, з разуменнем, што чалавек не проста б’ецца ў істэрыцы на сцэне, а намагаецца нешта паведаміць. Калі спектакль заканчваецца, ты адчуваеш неверагодную палёгку. І, выходзячы



*«Усё неба над зямлёю. Сіндром Вэндзі».*

з залы, я падумала: «Калі б я была добра знаёма з Анхелікай Лідэл, я б прыйшла да яе і сказала, што вось тут трэба крыху скараціць, тут падчысціць, і ўжо нешта выбудоўваецца». А потым я зразумела, што такі падыход абсалютна непрыдатны менавіта да гэтага твора мастацтва. «…Сіндром Вэндзі», негледзячы на яго недасканаласць і ліхаманкавае словавымаўленне, пакідае ў гледача фантастычнае адчуванне. Я да гэтае пары ўзгадваю, як я пакутавала на ім, але гэты ўспамін стаў часткай эстэтычнай рэальнасці. Пакуты мелі для мяне пэўны плён: нешта развярэдзілі ўва мне. А што па сутнасці трансліравалася ў залу? Разгубленасць перад гэтым светам. Жыццё ў інфармацыйных плынях пазбавіла нас ілюзіі, што рэчаіснасць можна спазнаць і зразумець яе будову. І недасканаласць спектакля — гэта яго важны складнік.

**ГЛЕДАЧЫ** «Куды падзеліся шэдэўры? Дайце нам шэдэўраў! Як у Стрэлера “Слуга двух гаспадароў”[1]!» А мне падаецца, што сучасны тэатр нават не прадугледжвае магчымасць шэдэўра, таму што шэдэўр — герметычны. А сучасны тэатр вымагае моцнай захопленасці гледача. Зале са сцэны кідаюць выклік, яна — суаўтар, суперажывацель. Рэжысёр транслюе: «Дабудуйце са мной рэчаіснасць, якую вы зараз бачыце». Роля гледача ў сучасным тэатры выключная. І ўвогуле, калі мяне просяць ацаніць тэатральную культуру той ці іншай краіны, я мяркую пра яе і па наяўнасці публікі, гатовай набыць квіток не толькі для таго, каб рэлаксіраваць і ацэньваць тое, што адбываецца на сцэне, але і для таго, каб перажыць эстэтычны дыскамфорт і стаць саўдзельнікамі спектакля.

**ПЕРСПЕКТЫВА** У апошнія гады адбылося абнаўленне тэатральнага жыцця. Яно стала больш цікавым, больш інтэнсіўным, непрадказальным, бударажачым. Мае разважанні датычныя ў асноўным Масквы і Пецярбурга, хаця гэтыя працэсы закранулі і правінцыю. Я заўважаю, як у тэатр вяртаецца інтэлектуальны глядач, што некалі сышоў з яго. Бачу, як вяртаецца студэнцтва. Бачу, што тэатр аказваецца ў фокусе ўвагі грамадства (да гэтага ён быў недзе на перафэрыі). І нават калі тэатр згадваецца ў негатыўным сэнсе ў навінах і аналітычных тэлевізійных праграмах, як гэта адбывалася зусім нядаўна, я разумею, што гэта жахліва, але разам з тым гэта значыць, што ў тэатры пачалі адбывацца падзеі, якія трапляюць у болевыя кропкі грамадства, і гэта мяне радуе. Я канстатую, што доўгі час мы існавалі ў нейкім тэатральным гета (1960-я, 1970-я, 1980-я). Гэта не значыць, што ў нас не было добрага тэатра. Быў, было шмат імёнаў, але мы існавалі вельмі адасоблена. Потым было досыць балючае ўваходжанне ў сусветныя працэсы. Расійскі тэатр апынуўся ў нейкай разгубленасці: з аднаго боку не мог існаваць так, як раней, з іншага — у новую рэчаіснасць ён не ўпісваўся, з-за сваёй тэатральнай мовы і асацыяльнасці. Усё замарудзілася. Але недзе з пачатку нулявых у тэатры ўзнікла напружанне, працэсы пачалі набіраць абароты — і сёння расійскі тэатр адзін з самых цікавых у Еўропе. І што тычыцца будучыні, нягледзячы на ўсе складанасці (з сістэмай тэатральнай адукацыі, з нягібкасцю тэатральнай сістэмы ўвогуле), мне здаецца мы маем магутны патэнцыял.

---

[1] Джорджа Стрэлер — знакаміты італьянскі рэжысёр, заснавальнік «Пікала-тэатра» ў Мілане, візітнай карткай якога стала камедыя масак Карла Гальдоні «Слуга двух гаспадароў».

***Запіс, апрацоўка, пераклад і каментарый Алены Мальчэўскай.***
***Фота: rimini-protokoll.de, teart.by, netfest.ru, shaubuehne.de***




*Міхась Пазнякоў.*
**Наталенне Радзімай.**
**Вершы. —**
*Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2014.*

Вячаслаў ПІЛІПЕНКА

# БОЛЬ ДУШЭЎНЫ, ПЕСНЯ ШЧЫРАЯ

Хрэстаматыйным, крылатым стала выслоўе Янкі Сіпакова: «Усе мы з хат». У тым сэнсе, што пераважная большасць цяперашніх гараджан — колішнія вяскоўцы, таму ў іх асабліва адчувальная повязь з роднымі мясцінамі. Аднак, думаецца, найбольш моцная яна ўсё ж у паэтаў. Летуценнікі, рамантыкі па сваім ўспрыманні рэчаіснасці — нездарма сказана: «паэзія — госця нябесная», яны, як ніхто іншы, знітаваны з вёскай, якая іх нарадзіла. Адарваўшыся ж ад зямлі маленства, па-ранейшаму жывуць радасцямі і болем яе, пры першай жа магчымасці едуць туды, дзе засталася іхняя басаногая памяць. А то і падоўгу жывуць у бацькоўскай хаце. І, вядома ж, пачуццямі, перажываннямі дзеляцца ў сваіх творах, у лірычным героі якіх лёгка пазнаюцца самі. Як і ўгадваюцца і іншыя гараджане першага пакалення, якія не страцілі «святое штосьці» (Рыгор Барадулін).

Аднак, бадай, ніхто з сучасных беларускіх паэтаў не прысвяціў столькі вершаў сваёй малой радзіме, роднай вёсцы, маці, бацьку, землякам, як Міхась Пазнякоў. Ягоны лірычны герой пастаянна імкнецца туды, «Дзе Лахва струменіць і Дняпро, // Дзе маленства Грэзаю сплыло». А гэта — Быхаўшчына, вёска Заброддзе, у якой ён нарадзіўся, і тая ж рэчка Грэза, што люляла ягоныя дзіцячыя сны і мары, пра якую ён згадвае шмат у якіх сваіх вершах. Апошнім часам ён праводзіць у Заброддзі свой водпуск. На ўлонні прыроды нараджаюцца і вершы, і празаічныя, і сатырыка-гумарыстычныя творы. Але, перад усім, паэтычныя, бо у роднай вёсцы яны асабліва хораша пішуцца. Гэтыя вершы можна напаткаць і ў кнізе «Наталенне Радзімай».

Канечне, імі кніга не абмяжоўваецца. Ёсць у ёй і публіцыстычныя вершы на тэмы сучаснасці, сустракаюцца і такія, што навеяны паездкамі паэта ў блізкае і далёкае замежжа. Аднак пераважаюць творы, у якіх духоўны свет лірычнага героя раскрываецца непасрэдна праз ягоную повязь з усім тым, што звязана і навеяна малой радзімай, кожная сустрэча з якой і радасць ад таго, што не парваліся сувязі з зямлёй маленства, але гэта і тужлівы, настальгічны настрой, бо многае страчана незваротна, пра што М. Пазнякоў гаворыць у шмат якіх сваіх вершах, але гэты, «Бацькоўская хата», асабліва кранальны:

Старая родная хаціна —
Маленства незабыўны кут…
Ніхто мне дзверы не адчыніць,
Тады каго я клічу тут?..

Пчаліным роем — успаміны,
Туга пякучая скубе.
Заходжу ў змоўклую хаціну
І сустракаю сам сябе.

Гэтае «сустракаю сам сябе» як нельга да месца. Менавіта яно падкрэслівае, што лірычны герой М. Пазнякова — ужо чалавек сталы, які жыве ў сваім часе, шмат у чым адрозным ад часу колішняга. Але разам з тым, у Заброддзі — ён і былы юны вясковец:

Хлапчук, святлісты і спакойны,
Глядзіць гаючай чысцінёй,
Не разумеючы, што сёння
Сустрэўся з будучым сабой.

А я, усцешаны, прачулы,
Сачу за хлопчыкам маўчком,
І мне з ім хораша ў мінулым,
Як з самым шчырым сябруком.

Лірычны герой, тым самым, адначасова як бы прысутнічае ў дзвюх іпастасях. Хоць і даўно ён развітаўся з вёскай, але па сутнасці так і не пакінуў яе. Правільней, у сапраўднасці дык паехаў у горад, а душой застаўся там, бо душа — не падарожніца. Родная вёска па-ранейшаму жыве ў сэрцы, яна і поўніць яго той духоўнасцю, якая магчыма толькі там, дзе на кожным кроку прысутнічаюць сама непасрэднасць і нерушавасць. Калі ж, адарваўшыся ад гарадскога тлуму, наведаўся сюды, гэтае свайго роду «пераўтварэнне» гараджаніна ў вяскоўца ідзе толькі на карысць. Не проста пракручваецца стужка часу, памяці, а і ўзнаўляюцца шмат якія падзеі, а разам з гэтым паўстаюць незабыўныя воблікі блізкіх і дарагіх людзей.

Дарэчы, і яшчэ ў адным вершы сказана па сутнасці пра гэтую сустрэчу самога сябе:

І, з прыродай
Адчуўшы адзінства,
Ва ўспамінах сваіх,
Неўпрыкмет,
Я вярнуся ізноў
У дзяцінства,
Быццам у паралельны
Мой свет.

«Паралельны свет» паэтавага маленства дый пазнейшых школьных гадоў не адпускае яго ад сябе. Гэтаксама не адпусціць ён і кожнага, хто далучыцца да паэзіі М. Пазякова, бо ў лірычным герое з ягонымі ўспамінамі і перажываннямі многія пазнаюць і саміх сябе. І гэтаксама, як і ён, адчуюць еднасць з усім наваколлем, часткай якога, як вядома, з'яўляецца і прырода. Жыць жа ў згодзе з ёю, у суладдзі — гэта адчуць ва ўсёй паўнаце хараство самой вечнасці. М. Пазнякоў, застаючыся ў сваёй творчасці традыцыяналістам, умее сказаць так хораша і непаўторна, што гэткай праўдзівасці і перакананальнасці рэдка хто можа дасягнуць. Галоўнае ж у тым, што прамоўленае паэтам кранае самыя чуйныя струны тваёй душы, дазваляе ўвачавідкі ўбачыць і адчуць тое, пра што так прачула гаворыць ён. Каб упэўніцца ў тым, што гэта і на самай справе, дастаткова нават двух наступных прыкладаў. Яны з розных твораў, ды аб'ядноўвае іх тое, што ў абодвух выпадках лірычны герой настолькі зліваецца з прыродай, што можна гаварыць аб адзінстве чалавека з ёю. Чалавек прысутнічае ў прыродзе, а прырода ў чалавеку. Гэтая цэласнасць настолькі відочная, што нібыта і сам удыхаеш у сябе ўсё тое хараство, што гэтак захапіла паэта:

Там водар у садзе,
Хоць кратай рукой!
А ранак —
Ад свежасці кружыцца галаў.
Як струны пявучыя,
Клопатна пчолы
На ліпе гудуць векавой.

І яшчэ:

Лес аж звініць ад чысціні…
Траве балюча пад нагамі,
У ёй бясконцасць дабрыні,
Што назапашана вякамі.

У М. Пазнякова нямала вершаў, ад якіх атрымліваеш тую дзіўную асалоду, якая звычайна напаткоўвае цябе, калі сустракаешся з мясцінамі, даўно і добра вядомымі, неаднойчы ходжанымі і пераходжанымі. Аднак кожным разам гэтая сустрэча абавязкова прыносіць штосьці новае, раней не адчутае і не заўважанае, хоць, калі добра разабрацца, яно і адчувалася, і заўважалася, ды такая ўжо чалавечая натура: на ўжо знаёмае ўмець глянуць быццам іншымі вачыма, больш відушчымі ці што. Такім бачаннем і напоўнены творы М. Пазня-

кова, у якіх ён апявае хараство прыроды. Часцей, безумоўна, той, што запала ў сэрца з маленства. Аднак, славячы прыгажосць малой радзімы, ён адначасова не адыходзіць і ад іншых рэалій — тых самых рэалій, што сведчаць аб зменах, часам далёка не лепшых, якія адбыліся апошнім часам. Гэтай радасцю, але, разам з тым, і непакоем прасякнуты і верш «***Луг раку туманком занавесіў…».

Хоць нельга пэўна сказаць: звязаны ён сваёй прапіскай з малой паэтавай радзімай, ці не звязаны. Праўда, у дадзеным выпадку гэта не так і істотна. Па-першае, таму, што краявіды, хараство якіх перадаецца ў вершы, можна напаткаць шмат у якіх мясцінах. Па-другое, абязлюдзенне невялікіх вёсак адбываецца паўсюдна. І ад гэтага нікуды не дзенешся. Калі мець на ўвазе менавіта гэты твор, куды важней, як пра ўсё сказана, наколькі паэт здолеў, прапусціўшы праз сябе хараство прыроды, перадаць яго так, каб па-сапраўднаму ўразіць, усхваляваць.

Гэта М. Пазнякову ўдалося. Паэтычны малюнак атрымаўся на дзіва непаўторны і насычасны. Гэта пры тым, што паэт не шматслоўны, не злоўжывае «нанізваннем» вобразаў. Але метафарычная ашчаднасць не пайшла на шкоду. Наадварот, пры мінімальным выкарыстанні вобразна-выяўленчых сродкаў яшчэ больш выразна відаць тое галоўнае, што сведчыць аб першароднасці прыроды, якой — такое адчуванне — быццам не кранулася цывілізацыя. Нібы ўвачавідкі бачыш наступленне змяркання. Як і лірычны герой М. Пазнякова застываеш у тым дзіўным здранцвенні, якое можна выказаць адным словам: цудоўна! Цудоўна ў прыродзе, цудоўна і ў вершы:

Луг раку туманком занавесіў,
Цвыркунамі ваколле гудзе,
Змрок імглісты з далёкага лесу
Нетаропкім мядзведзем ідзе.

Каб стварыць такі здзіўляюча насычаны паэтычны малюнак: «Змрок…. // Нетаропкім мядзведзем ідзе», мала проста таленту. Неабходна валодаць вялікім талентам. Дальбог жа, хочацца ажно па-добраму пазайздросціць М. Пазнякову за такое ўменне, за гэткае майстэрства. Пазайздросціць і пашкадаваць, што сам паэтычным талентам абыдзены. І працягваць чытаць верш. Цяпер ужо радуючыся і з іншай нагоды: з-за таго, што замілаванне Бацькаўшчынай не засланіла паэту нясцерпнага болю, ад якога нікуды не дзенешся, не адкараскаешся ад яго, бо ён, на жаль, стаў рэальнасцю:

Дзень і вечар заранку дуэтам
На расстанні вітаюць яшчэ…
У хвіліну высокую гэту,
Як ніколі, туга апячэ.

Радзіма, малая радзіма —
А вёсачка ўсцяж нелюдзіма,
Асінай, хмызом зарастае
Калыска мая залатая.

Лірычны герой паэта пастаянна напоўнены гэтай тугой, трымаючы яе ў сабе. Ён не адхінае яе, не адпрэчвае, але ён жа і не забывае аб тым, каб сплаціць свой сыноўні абавязак перад зямлёй, асабліва дарагой і блізкай, той самай, што ўспрымаецца маленькай часцінкай у сусвеце:

Удзячны штораз невымоўна,
Нібы да бабулі шаноўнай,
Лячу хоць на некалькі дзён
Штогод да яе на паклон.

Любоўю сваёй ахінаю,
Жыві! Не знікай! — заклікаю,
Бо стану і я нелюдзімы
Без любай, чароўнай радзімы.

Ёсць, аднак, у лірычнага героя М. Пазнякова і іншая туга, іншы боль, куды мацнейшы за той, які з’яўляецца тады, калі бачыш, як усё менее і менее жыхароў на ягонай радзіме. А мо іх менее яшчэ і таму, што не абышла гэтых мясцін сваім крылом і самая страшная ў гісторыі чалавецтва трагедыя. Гэта ж над Магілёўшчынай былі расстраляны чарнобыльскія хмары, якія рухаліся ў бок Масквы. Такая суровая рэальнасць. Ды не хочацца з гэтым зміраецца, таму і губляецца ўсялякая асцярожнасць. Дый

як думаць пра яе, калі хочацца лішні раз прайсці знаёмымі сцяжынамі:

Мой лес радыяцыйны,
Мой сябра дарагі,
Не боязна прыйсці мне
Зноў да тваёй тугі,

Прыпасці да яліны,
Нырнуць у верасы,
Застыць каля рабіны
Зіхоткае красы,

Набраць грыбоў вядзерца
Ля сосен і бяроз, —
Бо я душой і сэрцам
Твой падзяляю лёс.

Гэта зусім не бравада, як можа каму-небудзь падацца. Паэт шчыра прызнаецца ў тым, чым жыве і як жыве. І не хавае гэтага ад чытача. Лес для яго — па сутнасці, той храм, у якім гэтак утульна застацца сам-насам са сваім думкамі, адысці ад штодзённых дробязных клопатаў, маральна і душэўна ачысціцца. Памятаеце верш Анатоля Вялюгіна: «Спелы бор»?:

З усіх сабораў ёсць сабор,
дзе згодзен я маліцца:
у спелым лесе, спелы бор,
звіняць твае званіцы.

У лірычнага героя М. Пазнякова гэткае ж памкненне:

Калі нясцерпнай адзіноты
Абхопяць сэрца абцугі,
Тады ўцякаю ад самоты
У лес гасцінны, дарагі.

Вяду маўклівыя размовы
З бярозай, елкаю, сасной…
П’ю звонкі водар верасовы,
Блукаю ў шчырасці лясной.

І адступае ўсё пустое,
Самоты — як і не было.
У шчасця правіла святое:
Дарыць і адчуваць святло.

Ведаеце, як называецца гэты верш? «Святое правіла». І сам паэт таксама пастаянна імкнецца «дарыць і адчуваць святло». І ўчынкамі сваімі стараецца да гэтага імкнуцца, і творамі. Дый не прамінае лішні раз напомніць пра тое, як гэта важна, каб запанавала на зямлі дабро. Пра гэта і адзін з ягоных безназоўных вершаў:

Тварыце, людзі, на зямлі дабро,
Жыццё красой штодня мацуйце.
Не золата, брыльянты, серабро,
А сэрца чысціню шануйце.

Маліцеся жывільнай дабрыні
І злом душы не ачарніце,
Каб не смылець на праведным агні,
Адкрыта, шчыра, сонечна жывіце.

Сам заклік: «Тварыце, людзі, на зямлі дабро», безумоўна, не пазбаўлены пэўнага дыдактызму, але яго не адчуваеш, бо гэта не, скажам так, нейкая ўстаноўка ці што, хай і сабе і выказаная паэтычнай мовай, а тое, што прамаўляецца ад сэрца, з упэўненасцю — гэта павінна быць менавіта так, а не неяк іначай. Як і далейшы заклік, які гэтаксама ўнутрана вынашаны і ўзважаны і, што сёння вельмі важна, напоўнены агульначалавечым зместам, мацуецца на трывалых асновах народнай маралі, на тым святым, без чаго нельга:

Маліцеся Прыродзе як святой,
Матулі, што пад сэрцам вас насіла,
Каханай, што расквеціла вясной,
І працы, у якой святло і сіла.

Не падыміце грознае рукі
На дрэва, птушку, чалавека.
Мы гэтулькі спазналі за вякі
Балючых страт, пакут і здзекаў.

Цнатлівае, бясцэннае, яно
Ніколі не ўзыходзіць на падмане.
Ачысцімся мы праз дабро адно
І толькі праз яго Народам станем.

Ва ўнісон гэты радкам гучыць і верш «***Не ўсё прадаецца…»: «Не ўсё прадаецца, // Не ўсе прадаюццца, // Вялікае сэрца // Не змусіш прагнуцца. // Ёсць Бог і Айчына. Ёсць Праўда і Воля. // Купіць немагчыма // Святое ніколі».

Як быццам проста. Менавіта проста, але не спрошчана. І разам з тым так шмат сказана. Прытым сказана важнае, вызначальнае, да чаго нельга не прыслухацца, з чым нельга не пагадзіцца. Гэта таксама мелі на ўвазе доктар філалагічных навук, акадэмік Уладзімір Гніламёдаў і кандыдат філалагічных навук Яўген Гарадніцкі, калі ў прадмове да кнігі — «Прырода, Радзіма, жыццё… (Лад паэзіі Міхася Пазнякова) пісалі: «Мінімалізацыя вобразна-выяўленчых сродкаў як адна з вызначальных рыс

сучаснага літаратурнага працэсу якраз добра адпавядае ладу паэзіі Міхася Пазнякова, дзе даверлівасць інтанацыі, душэўная адкрытасць спалучаны з сур'ёзнасцю размовы з чытачом».

Увайшлі ў кнігу і вершы пра каханне — які гэта паэт, калі ён не ўслаўляе гэтае светлае і вечна жывое пачуццё? Лірычнаму герою баліць і за ўсё тое, што адбываецца ў свеце. Як у сувязі з гэтым не прыгадаць шырока вядомае някрасаўскае: «Поэтом можешь ты не быть, а гражданином быть обязан». Калі ж, да ўсяго, ты і сапраўдны паэт, то нельга маўчаць аб несправядлівасці, якая чыніцца ў свеце. Як і аб тым маўчаць нельгаа, што сярод нашых грамадзян ёсць такія, хто жыве па прынцыпе, каб больш ухапіць. А колькі прачулых радкоў М. Пазнякоў прысвяціў сваёй маці! Усё гэта сведчыць аб тым, наколькі шматфарбны і шматстайны яго паэтычны свет, якія шырокія ягоныя творчыя абсягі.

Дый і як, бадай, кожны паэт, М. Пазнякоў жыве не толькі сённяшнім днём, а і кідае позірк у дзень заўтрашні. Найбольш характэрны ў гэтым сэнсе верш «***Няўжо калісьці адгараць…»:

Няўжо калісьці адгараць
Мільярды зор на лузе росным,
Што аб маленстве мне звіняць
І вабяць зноў у край дзівосны?

Няўжо калісьці адгучаць
Мільярды велічных мелодый,
Якія ў сэрца змог сабраць
Я там з пявучых арф прыроды?

Няўжо калісьці адплывуць,
Мільярды кветак тых патухнуць,
Што і ў снягі ў душы цвітуць,
Што і ў мароз круты не жухнуць?

Няўжо калісьці адбаліць
Мой боль душэўны — незлічоны,
І я змагу на свеце жыць
Не летуценны, не ўлюблёны?..
Няўжо?..

Адказ на пытанні, пастаўленыя ў творы, адсутнічае. Аднак у ім і няма неабходнасці. Паэт нагадаў пра тое, што не дае спакою яму самому. Дзеля таго напомніў, каб і мы над гэтым задумаліся. Задумацца ж працей і лягчэй, прачытаўшы ягоную кнігу «Наталенне Радзімай», якая яшчэ раз пацвердзіла, наколькі М. Пазнякоў — цікавы паэт у сучаснай беларускай літаратуры.

Аркадзь РУСЕЦКІ

# ЖНІЎНЫМ НАРОДЖАНЫ ЛЁСАМ



*Алег Салтук.*
**Вяртанне. Вершы. —**
*Мінск, Кнігазбор, 2014.*

Першае ўжо знаёмства з новай кнігай вершаў вядомага віцебскага паэта Алега Салтука выклікала ў мяне нейкую нечаканую зацікаўленасць. «Вяртанне» — такую назву мае гэты паэтычны зборнік. Добра ведаў ягоныя ранейшыя кнігі «Пачатак дня», «Працяг», «Святло зямлі», «На далонях жыцця», «Трывога лёсу», «Не разлюбі», «Дзве зары», якія ўжо сваімі назвамі сцвярджалі жыццядзейнасць, будзілі аптымізм і духоўную ўстойлівасць. І раптам — «Вяртанне». «Чыё?», «Адкуль?», «Да каго?» Наогул, чаму «вяртанне?» — можа, яшчэ рана падводзіць вынікі, шаноўны Алег Уладзіміравіч?

Прачытаў вершы (а іх у кнізе аж 249), перачытаў іх, каб знайсці адназначны адказ на свае ж пытанні. Склалася ўражанне, што ўсе гэтыя творы трэба разглядаць як адзіную паэтычную сістэму, у якой кожны наступны верш быццам дапаўняе папярэдні, фармуючы квінтэсэнцыю кнігі. Могуць запярэчыць, што змястоўна вершы разнапланавыя. Тут і лірыка, і сацыяльная абвостранасць, і экалагічныя праблемы, і асабастыя эмоцыі, і г. д. Гэта ўсё так. Але ж, калі разглядаць іх у адзіным кантэксце, яны і даюць разуменне салтукоўскага «вяртання». Для паэта, на наш погляд, гэта працэс. Працэс, што расцягнуты ў прасторы і часе і які праз пражытае і перажытае, праз пошук мяжы «паміж тым і між гэтым», дае поўнае ўяўленне аб творчым крэда аўтара, яго грамадзянскай пазіцыі. Дарэчы, такое наша меркаванне не разыходзіцца з рэдакцыйнай анатацыяй на «Вяртанне» А. Салтука. Чытаем колькі радкоў: «…новую кнігу яго (А. Салтука. — **А. Р.**) паэзіі «Вяртанне» наскрозь пранізваюць пяшчота і боль. …З душэўным болем піша ён пра тое цёмнае, нянаскае, што прынёс рэальны і віртуальны прагрэс».

Паэтычнага аўтографа да кнігі няма. На наш жа погляд, у якасці апошняга маглі быць наступныя радкі з верша «Вяртанне»:

І заўсягды знаходзь у крылах сілы
Вяртацца да зямной сваёй любві.

Агучыць лозунг — не зусім ужо складаная рэч. Намнога больш складана следаваць такому лозунгу. Здаецца, у А. Салтука, як у народзе кажуць, слова не разыходзіцца са справай. І гэта «любоў зямная» раскрываецца для чытача, перш за ўсё, адносінамі паэта і яго лірычнага героя да сівой мінуўшчыны, такога невычарпальнага багацця, якое нясе наша гісторыя, духоўная спадчына, занітаваная ў народнай мудрасці — фальклоры, паданнях, легендах, абрадах і звычаях. Вось якім уражлівым выглядае шэраг народных адметнасцей, зафіксаваных у вершах А. Салтука: Купалле («А потым займецца зара, ад кветкі-папараці

пэўна…»), Саракі («А наступяць Саракі — зладзяць косы мужыкі…»), Спас («І здавалася бясконцым будзе яблачны наш Спас…»), Вялікдзень («Сонейка ў паднябессі — Хрыстос Васкрэсе!»), Ян («Рой перад Янам — будзеш ты панам»), народныя прадказальнікі святыя Антоній, Ціхан Бай Трамей і… галоўны дамашні гаспадар — дамавік («А ты дзе, дамавік, сустракай красавік») і г. д.

Паэтычнае асэнсаванне духоўнасці беларусаў, іх светаразумення і светапогляду гэта і знойдзе ў паданні вершаў «Лебедзь і Дзіва», «Завалакло туманным дымам…», «Ушаччына», «Бяроз зялена — белы шоўк…», «Зарніцы таямніча дагараюць…», «У хаце бацьковай жыву…», «Дуб», «Мне часта сніцца твая вёска…» і інш.

Зусім зразумела, чаму на старонках кнігі сустракаюцца назвы вёсак, якія так ці іначай, звязаны з жыццём паэта — Салаўёўка, Парыж (канечне, не французскі, а пастаўскі. Парыж — веска ў Пастаўскім раёне), родныя Рыжэнькі. У чалавека, які нарадзіўся, вырас і амаль усё жыццё якога звязана з вясковым побытам, у памяці ніколі не знікнуць «і лясы, і палі, і балоты», «песня матчына, як запавет», «і хатаў ціш, жыта шум, людзей прасветленыя твары», ды хаты, «што стаялі пасярод вякоў мудра і надзейна, і крылата…» Шкада толькі — і паэт сам у гэтым прызнаецца, — што часта нас «да родных берагоў вядуць не сцежкі, а ўспаміны…»

Колькі радкоў з верша «Мая зямля»:

Зямля мая такая,
Якой няма другой:
Прачыстая, святая
І летам, і зімой.
…Здаўна сусед суседа
Прывык тут шанаваць,
У горычы адведаць,
І радасці спаткаць.
Тут праведныя людзі,
Быліна, песня, сказ.
І самі сабе суддзі
Навекі і на час.
Над шчодрай жытняй нівай —
Вясёлкі абярог…

І баліць паэтычная душа, што гэта першародная данасць, у якой нашы вытокі і духоўная моц, паступова знікае, памірае, адыходзіць у нябыт. «Нягуста, праўда, тут народу, затое птаства цэлы рой. Травою зараслі гароды, ключы павысахлі з вадой…» («Завалакло туманным дымам…) Становіцца неяк не па сабе, калі чытаеш радкі пра вёску, у якой «пяць курчаноў і хатак пяць» і больш нічога «апрача нейкіх яблынь дзікіх». А колькі ж іх такіх вёсак і вёсачак, у якіх «нібыта супыніўся час»? Напэўна, можна папракнуць лірычнага героя, што хоча ён назад, «у застойнае былое». Але ж ён і сам разумее, што «на жаль, няма таго вакзала і цягніка, які б туды адвёз».

Аднак, падкрэслім, паэт не «замыкаецца», хай і ў вельмі блізкім для яго вясковым жыцці. Яго прыцягваюць з'явы і падзеі ў сусветнай мастацкай прасторы і беларускай гісторыі, духоўнасць (і бездухоўнасць) сучаснага культурнага (тэлевізійна-эстраднага-літаратурнага) жыцця і не толькі ўжо далёкія гады ваеннага ліхалецця. Таму і суседнічаюць на старонках «Вяртання» біблейскі Ной і мудрэц Канфуцый, Ілья Мурамец і палавецкія табуны, французскі мастак Шагал і іспанскі жывапісец Гоя, польскі кампазітар Шапэн, знакамітае «Слова аб палку Ігаравым» і вялікі Аляксандр Пушкін, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў і паэт Мікалай Рубцоў, княгіня Вольга і старажытны Віцебск. А вось верш «Майстра» прывядзём поўнасцю:

Узяў ён золата з зары,
Калёр эмалі ў небе сінім.
Усё яно — агнём гары —
Крыж робіць майстра Еўфрасінні.
Што для яго спыніўся час,
Цяпер было яму ўсё роўна:
Не прост творыць ён заказ,
А сказ для схімніцы-князёўны.
Ці ж толькі для яе самой,
Знайсці спатолю словам змогшай?..
Закончыў, цвёрдаю рукой
Імя сваё прыставіў:
Богша.
З яе душы, з яго рукі
Крыж стаў святым і запаветным.
І будзе ззяць нам праз вякі,
Як зорка ў цемры апраметнай.

Зварот А. Салтука да сівой мінуўшчыны, гадоў далёкіх, як нам падало-

ся, — не самамэта. На наш погляд, гэта імкненне вытрымаць магістральную лінію паэтычнай творчасці, якая дастаткова выразна склалася ў раней выдадзеных творах. А менавіта «адчыняць у гісторыю дзверы», убачыць повязь часоў, іх непарыўнасць і працягласць ад мінулага да сённяшняга і, нават, у будучыню — «і абвяшчуе **сёння**, што **заўтра** будзе дзень». Не ўзята ж князёўна Вольга сама па сабе як гістарычная дадзенасць (не злічыць колькі правіцеляў пракладалі свае шляхі-дарогі па Віцебскай зямлі!). Давайце ўспомнім тыя гарачыя спрэчкі, што вядуць вакол яе асобы навукоўцы і грамадскія дзеячы і, асабліва, пра яе ролю ў заснаванні Віцебска: 974 год ці 947? Нават, калі па легендах — гэта 974, то якім цікавым выглядае наступны факт. Быццам царкву Дабравешчання Вольга заснавала, калі была ў Віцебску. Але ж на самай справе царква пабудавана ў другой чвэрці XII ст. Не маглі ж яе будаваць у Віцебску каля 150 гадоў, калі амаль такая ж царква ў Полацку была ўзведзена за тры тыдні? Або возьмем крыж Еўфрасінні Полацкай. Створаны Лазарам Богшам ён быў у 1161 годзе, але… згубіўся. І аднаўляе яго брэсцкі майстар Кузьміч ужо на пачатку XXI ст.

Па аналогіі можна ўбачыць сувязь паміж Гоя і Шагалам, Пушкіным і Рубцовым, музыкай Шапэна і сучаснай папсовай эстрадай. Ну, а сёння наша жыццё? А будучыня? Ёсць і для іх месца. Толькі размову аб гэтай сувязі паэт вядзе абвострана-эмацыянальна, рэзка, нават гнеўна. У дадзеным выпадку правільней будзе даць слова яму самому (дарэчы, сацыяльны цыкл, абазначым яго так, на наш погляд, найбольш уражлівы!):

Д’ябал разняволіў д’ябалятак,
Сам, аднак, застаўся ні пры чым…
Выраслі рабяткі без агляткі.
І не дзіва — бацька ж сатана.
Так усе ўдарылі ўпрысядку,
Што лягла Берлінская сцяна.
І крывёй заплакалі славяне…
Боль прайшоў, наперадзе чума.
Ды ні хто сямейку не дастане:
Яна ёсць — і быццам бы няма.

*(«Постперабудовачнае»)*

Ідзе агонія нажывы,
Якой нічым не супыніць…
Не да спажыву — быць бы жыву
Тым, хто капейкамі звініць.

*(«Свет гэты цяжка перарабіць…»)*

Між такіх я заўсёды чужы,
Бо шкадую былую краіну
І на гэтай сягоння мяжы
Горка дыхаць сівым палыном.

*(«Падарожжа»)*

Ад жыцця якога не жадаеш,
Ды жывеш таму, што трэба жыць.

*(«Сексуалкі»)*

І сапраўды, калі ў гэтым месцы на разважаннях паэт паставіць кропку, матыў будзе не проста «невясёлым». Ён акажацца шчымліва-песімістычным. Разумеў гэта і сам творца. І голас яго напаўняецца надзеяй, гучыць аптымістычна-сцвярджальна:

Нас не возьмеш, хоць ты лопні,
На жыўца — гары агнём!
І атопкам мы прытопнем,
І праз слёзы запяём.

*(«Мы здаўна такі народзе…»)*

Аптымізм паэта ў тым, што «настане час і судны дзень», які «на пакаянне ўсіх пакліча» і прывядзе да зняцця масак «там і тут з чынадралаў хцівых і двурушных». І дажыць да гэтага дня паэту дапамагае незгасаючае, неўміручае пачуццё кахання: «Вядома ўсім, якое яно п’янае, любові таямнічае віно». Вершы гэтага цыкла (праўда, яны раскіданы па ўсёй кнізе) — гэта своеасаблівая споведзь, у якой знаходзіцца месца для нечаканых прызнанняў-перажыванняў у тым, што ў сваё юнацкае каханне ён вернецца, хоць і сёння яму сніцца тая, першая, якую помніць, ведае і «ў якой усё любіў да слёз». Здавалася б, хапала ўсяго — «язміну пахкі дым», «золата вяснянак на плячах», «у вуснах губляліся словы», «дзесяць вёрст з майго сяла сцежка да цябе вяла», «і прама ў сэрца кінуты пагляд», але ж чамусьці шчасце не звязалася, чамусьці сэрца бударажаць успаміны. І ён «старамодны, вясковы дзівак» у пісьмовым прызнанні заяўляе: «Пісьмы твае даўнія спалю…»

Спаліць, канечне, можна. Але ж чаму «за тое, што так весела было, сягоння раптам страшнавата стала»? Такая вось некалькі смутная, прасякнутая журбой, атрымалася у А. Салтука паэтычная элегія. А яго, мы памыліліся?

Неяк раней мы адзначалі, што свае адносіны да Вялікай Айчыннай вайны, паэт фарміруе праз асэнсаванне асобных эпізодаў, якія складваюцца ў сацыяльную героіка-патрыятычную панараму. Не здрадзіў свайму прынцыпу А. Салтук і ў кнізе «Вяртанне». Эпізодаў гэтых няшмат. Але яны, на наш погляд, выглядаюць у памяці аб вайне, як знакавыя. Вось падзеі, людзі і з'явы, аб якіх вядзе размову паэт: 22 чэрвеня («І пачатак мінулай вайны ў чатыры гадзіны»), ваенны лёс народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава («…І казаў ён пра жыццё і смерць па-салдацку мужна і адкрыта. Горкая, нязбыўная, яна зноўку разарвалася снарадам…») І асабліва колькі слоў пра верш «Зямлянка». Канечне, «зараслі зямлянкі, зацвілі сон-травой і верасам ружовым» і напамінаюць нам аб вайне толькі тады, калі можна з імі сустрэцца нечакана (на грыбным паляванні, у турысцкім паходзе, ці яшчэ з якой нагоды). Зноў жа падкрэслім, што гэта, на наш погляд, паэт вельмі трапна, абагульняюча, у некалькіх радках сфармуляваў глыбінную сутнасць філасофіі нашай Перамогі:

Галасы варожыя чуваць:
— Што мы з вамі з той вайны займелі?
Я гатоў на гэта адказаць:
**Усё тое, што вы не хацелі!**
(выдзелена мной. — **А. Р.**).

Нельга не падкрэсліць лірычнасць і прыцягальнасць вершаў аб роднай зямлі і прыцягальнасць яе прыродных багаццяў і з'яў. Тут і «шаблі бліскавіц», «бель над прасторамі», «бяроз зялёна-белы шоўк і «гром гарланісты і спрытны». У лесе «дзяцел лечыць старую сасну», а восень «майстравіта, надзейна, трывала падбірала калёры і тон», шчодра вешала «над борам свае сівыя туманы». На старонках рассыпана мноства эпітэтаў і параўнанняў, чытаючы якія разумееш паэтаву ўлюблёнасць, яго пранізлівы погляд на акаляючы свет, яго паэтызацыю. Ну, як яшчэ раз не падмацаваць выказаную думку наступнымі радкамі, якія гучаць вельмі прыгожа:

Забінтаваныя бярозы
Глядзяць, як кроў з рабін цячэ.

І няма тут ніякіх прыўкрас, бо «адна у нас такая зямля», а калі прыгледзецца, дык і «адны мы на ёй такія».

Прывабнай адметнасцю «Вяртання» з'яўляюцца чатырохрадкоў'і. А іх у кнізе каля 20 і амаль усе — афарыстычныя, трапныя, нават з'едліва-сатырычныя. Пазнаёмімся з двума з іх:

Адной малітвай не адолець грэх,
Які прыжыўся без канца і краю…
Будзь ты пракляты, гэтакі прагрэс,
Які ўсё прадае і ўсё купляе!

Куміраў бойцеся ствараць
І не шукайце ідэалы:
Другіх ужо даўно не стала,
Пра першых лепей прамаўчаць.

Каментарыі патрэбны? Здаецца, не — выразна і аб'ектыўна.

Разважаючы аб нашым хуткацечным і супярэчлівым жыцці, бачачы ўсю пярэстасць з'яў і падзей, у разуменні і асэнсаванні якіх узнікаюць самыя розныя меркаванні, паэт усё ж не можа і не хоча стаяць на жыццёвай абочыне.

Не парушу ніводзін пялёстак,
Рады дам пустазеллю-траве.

Сам я жніўным народжаны лёсам,
Таму лета ва мне і жыве.

Можа, гэта і супадзенне, але лірычнае прызнанне супала з фактычным у часе выданнем кнігі. А калі яшчэ ўспомніць, што Алег Салтук нарадзіўся 26 жніўня 1946 года, то сам па сабе напрошваецца такі вывад: лета летам, а вось выдавецтва «Кнігазбор» зрабіла яму добры падарунак — цікавую, на высокім мастацкім узроўні афармленую кнігу да дня нараджэння. Гэта прыемна не толькі для аўтара. Мяркую, што «Вяртанне» стане прыемнай з'явай для чытачоў, усіх, каго прыцягвае паэтычны талент Алега Салтука.

Яўген КАРАНЕВІЧ

# ДЗІВОСАЎ — ПАСПЯВАЙ ТОЛЬКІ ...ГЛЫТАЦЬ




*Сяргей Давідовіч.*
**Дзівос з дзівосаў.**
**Казкі зблізку і здалёку. —**
*Мінск: Мастацкая літаратура, 2014.*

Літаратуразнаўцы доўгі час лічылі радзімай казкі Індыю, дзе, як вядома, больш як дзве тысячы гадоў таму былі створаны эпічныя паэмы «Махабхарата» і «Рамаяна», у якіх, што таксама добра вядома, ёсць паданні і легенды, якія маюць казачны характар. Аднак жанр казкі здаўна атрымаў распаўсюджанне і ў іншых народаў. Праўда, беларуская казка, дарэчы, як і казкі іншых славянскіх народаў, не можа пахваліцца такім паважаным узростам, яна куды больш маладая, але, тым не менш, таксама вытокамі сваімі губляецца ў сівой даўніне. Дый гэты адзін з асноўных і самых пашыраных жанраў народна-паэтычнай творчасці карыстаецца вялікай папулярнасцю па сённяшні дзень, пра што сведчыць як цікавасць да казак, так і выданне і перавыданне іх. Характэрна і тое, што да жанру казкі апошнім часам у сваёй творчасці ўсё часцей звяртаюцца пісьменнікі. Пацвярджэнне гэтаму і выхад кнігі Сяргея Давідовіча «Дзівос з дзівосаў».

Сяргей Давідовіч — аўтар знаны. Ён і паэт, і празаік, і кінасцэнарыст. Да ўсяго — мастак. Цяпер жа вырашыў паспрабаваць свае творчыя магчымасці і ў ролі казачніка. Засведчу адразу: гэты ягоны першы, вобразна кажучы, казачны блінец не засядае ў горле: спажываць яго адно задавальненне. Істотна і тое, пра што таксама не магу не сказаць: казкі С. Давідовіча цікава будзе чытаць не толькі дзецям, а і дарослым. А яшчэ — гэта адметнасць творчасці С. Давідовіча як паэта, так і празаіка — прысутнасць тонкага, дасціпнага гумару, што арганічна ўваходзіць у сюжэтную канву ягоных твораў. Як, да прыкладу, у казцы «Лявон і мабільны тэлефон».

Дзед Лявон у тым узросце, калі ўсё часцей хочацца азірнуцца назад, прыгадаць перажытае, са скрухай прызнаўшыся самому сабе, што маладосць даўно мінулася. Таму, ідучы па дарозе і мілуючыся навакольнымі краявідамі, ён успамінаў, як крочыў гэтай жа дарогай шмат дзясяткаў гадоў таму: тады «спяшаўся на сустрэчу з чароўнай дзяўчынай, якая потым стала маёю жонкаю». А цяпер… Цяпер гэтая чароўная дзяўчына «згарбела і згубіла ўсе зубы», і «замілаванне ўспамінамі саступіла месца нахлынуўшаму суму». І жонка старая, і сам ён «згорблены стары чалавек…»

Радасці, безумоўна, мала. Аднак, паколькі «Лявон і мабільны тэлефон» —

казка, то абавязкова мусіць быць нешта незвычайнае. Як і відаць з назвы твора, усё павінна тым ці іншым чынам адбывацца вакол мабільніка. Сапраўды, гэта так. Дзед Лявон, якому дагэтуль не даводзілася бачыць гэты цуд чалавечага вынаходніцтва, нечакана знайшоў яго на дарозе. Мала таго, знаходкай аказаўся не звычайны мабільны тэлефон, а мабільнік «самага галоўнага чараўніка на свеце, якога ўсе дзеці ведаюць як Вялікадзівоса». Ён і не заўважыў згубу, «бо ў чараўнікоў, тым больш у галоўнага з іх, мабільны тэлефон не адзін».

Няцяжка прадугадаць, што дзеянне ў творы набудзе такі нечаканы паварот, які магчымы толькі ў казцы. Як жа іначай, калі на карысць гэтага спрацоўваюць дзве важкія акалічнасці: галоўны персанаж дагэтуль мабільнікам ніколі не карыстаўся, а да ўсяго ў рукі яму трапіў тэлефон «самага галоўнага чараўніка на свеце». Дзед, не ведаючы, як абыходзіцца з мабільнікам, наўгад ціскануў на першую ж кнопачку. Імгненне і пачуўся «прыемны жаночы голас:

— Вы патэлефанавалі ва ўпраўленне казак. Вас слухае бюро тэрміновых паслуг. Што б вы хацелі? У якую казку вас перанесці? Выказвайце свае пажаданні!»

Зніякавеў дзед Лявон, разубіўся. А потым, успомніўшы, што ягонае «жыццё праляцела неўпрыкмет», пажадаў пачаць «усё нанова, як кажуць, з чыстага ліста». Яшчэ імгненне — і ён апынуўся ў першым класе за партай, ператварыўся ў малога хлопчыка. Аднак сам гэтага не адчуваў, таму адразу і з'явіліся ў яго непаразуменні з настаўнікам. Не мог змірыцца з тым, што настаўнік яго павучае. Балазе своечасова націснуў у мабільніку чырвоную кнопачку і зноў стаў тым, кім быў. Але на гэтым ягоныя прыгоды не скончыліся. Дзякуючы мабільніку, «выйшаў» дзед Лявон на прыёмную Кашчэя Бессмяротнага, паразмаўляў з Васілісай Чароўнай. І нават папрасіў, каб бюро тэрміновых паслуг вярнула ягонай жонцы Стэфаніі «зубы, бо яна ўвесь час шамкае і нават кашу разжаваць не можа».

Што з гэтага атрымалася, і можна даведацца з казкі, напісанай па-майстэрску, з уменнем так закруціць сюжэт, што не адарвацца, так і хочацца хутчэй даведацца, што будзе далей. Усё займальна, у нечым смешна і … жыццёва. Настолькі жыццёва, наколькі гэта магчыма ў казцы. Хоць, прымаючы пад увагу, што кніга «Дзівос з дзівосаў» адрасавана найперш дзецям, аўтару, бадай, трэба было б крыху змякчыць акцэнты ў размове дзеда Лявона з Васілісай Чароўнай, якая па ягоным званку запісала яго на сустрэчу з ім. Чарга немалая, што не дзіўна, бо патрапіць да прыгажуні нямала жадаючых. Дзед Лявон аказаўся ажно 87-м. Самому ж яму 87 гадоў. Васіліса Чароўная гаворыць дзеду: «Чакаю цябе, сокал ясны, на гарачым кані! Даскочыш да вежы, дзе я буду сядзець ля акенца, пацалуеш мяне — стану тваёй»… Намёк усё ж не для дзяцей.

Дарэчы, пра твор, што даў назву кнізе. Па займальнасці ён ніколькі не ўступае казцы «Лявон і мабільны тэлефон». А ў чымсьці нават і пераўзыходзіць яе. Істотна, аднак, не толькі гэта. У «Дзівосе з дзівосаў» С. Давідовіч вуснамі галоўнага героя Трахіма выказвае сваё стаўленне да казкі як да літаратурнага жанру: «Можна нават праводзіць своеасаблівы тэст на выяўленне людзей з жывой душой: чытае сталы чалавек казкі, значыць, душа ў яго жывая. Не чытае — лепш абысці такога за вярсту. Дзяцей правяраць не трэба — ва ўсіх іх душы светлыя і жывыя». Праўда, адзін з аднавяскоўцаў запярэчыў Трахіму: «Ну, не чытаю я казак! Дык што, бегчы ад мяне?» Трахім на гэта зрэагаваў так: «Бегчы не трэба… А пашкадаваць не пашкодзіць, бо тваё маленства ў табе памерла. Старасць не рызыкуе падступацца да таго чалавека, у душы якога працягваюць гучаць галасы маленства… Вось толькі дзівосаў у сучасным жыцці ўсё менш і менш, а без іх галасы дзяцінства ў душы пачынаюць цішэць».

Сяргей Давідовіч і піша свае казкі з намерам, каб нават у душы дарослага чалавека не цішэлі галасы маленства.

Што ў такім разе ужо казаць пра юных чытачоў. Для іх ягоныя казкі — сапраўды дзівосы з дзівосаў, бо дазваляюць не толькі ажыццявіць падарожжа ў свет нечаканага, неразгаданага. Дзякуючы казкам С. Давідовіча хлопчыкі і дзяўчынкі часам і на саміх сябе могуць зірнуць як бы з боку, зразумеўшы, што нічога немагчымага не бывае, калі жадаць пазнаць нязведанае. А яшчэ тады, калі сам выпадак паднясе такую сітуацыю, што самае неверагоднае стане рэальнасцю. Як гэта і адбылося з Мацейкам, героем казкі «Хлопчык-журавель».

Мацейка разам з бацькам запускалі змея. Шнур, да якога прывязаў яго, хлопчык моцна накруціў на рукі. Таму ў патрэбны момант не здолеў адпусціць гэты шнур і разам са змеем узняўся ў паветра. Калі «яго рукі выслізнулі з абдымкаў шнура», хлопчык «каменем паляцеў уніз». Уратавала яго толькі тое, што на дапамогу яму прыйшоў важак журавоў, якія ў гэты час адляталі ў вырай. Дзякуючы жураўлю ў Мацейкі з'явіліся сапраўдныя крылы. Так ён ператварыўся у хлопчыка-жураўля. Уратавацца то ўратаваўся, а пасля…

Не адразу звыкся Мацейка з такім пераўтварэннем, хоць паступова стаў прывыкаць да таго, што ў яго ёсць крылы. І нават нямала добрых спраў зрабіў, на якія здатны толькі той, хто ўмее лятаць. Прынамсі, калі зімой замяло ўсе дарогі, а хворай жанчыне спатрэбіліся лекі, ён злётаў па іх у раённую аптэку. Аднак Мацейку не давала спакою думка, як быць далей. Вясной жа вернуцца журавы. Калі дагэтуль хлопчык чакаў іх з нецярпеннем, то цяпер ён знаходзіўся ў няпэўнасці: «хацелася зноў стаць звычайным чалавекам, але і крылы зрабіліся часткай хлопчыкавай душы».

Заканчэнне казкі нечаканае, бо пэўнасці ў ім няма, як выйдзе Мацейка з гэтай няпростай для яго сітуацыі:

«Што ж выбера Мацейка?

Прыйдзе вясна — пабачым».

Нечаканае ў тым сэнсе, што калі раней жураўліныя крылы хлопчыка палохалі, то цяпер яны сталі для Мацейкі чымсьці звыклым, натуральным, як бы часткай ягонай істоты. Сітуацыя, безумоўна, чыста казачная. Аднак важна тое, што часовае пераўтварэнне (хоць і няпоўнае) хлопчыка ў жураўля не прайшло для яго бяследна. Ён за кароткі час упэўніўся ў тым, што, кім бы ты ні быў на гэтай зямлі, ў рэшце рэшт, ад цябе самога залежыць, як зможаш сябе праявіць, наколькі дакажаш сваю патрэбнасць. Гэтую думку-ідэю С. Давідовіч праводзіць ненавязліва, дый яна не ляжыць на паверхні, а вынікае з усяго сюжэта казкі. Тым самым займальнасць твора становіцца не на шкоду яго выхаваўчаму зачэнню.

Казкі С. Давідовіча — сведчанне плённасці аўтарскай фантазіі, але разам з тым, што таксама немалаважна, гэта і ўменне будаваць сюжэты твораў так, што нават пры пэўнай звыкласці самой тэматыкі, абавязкова пераважае нешта сваё, іншымі аўтарамі неасэнсаванае. Дарэчы, дастаткова звярнуць увагу на назвы асобных твораў з гэтай кнігі, каб упэўніцца, што яны не такія ўжо і арыгінальныя: «Залатая рыбка», «Хто самы прыгожы?», «Сямёра казлянят і Воўк», «Кемлівы Заяц», «Занадта хітрая Ліса», «Галоўнае багацце». Усё гэта ўжо было. Ды С. Давідовіч свядома пайшоў на такі, як на першы погляд, паўтор. Ужо гэтым нагадаў, што справа зусім не ў назвах, а ў тым, што хаваецца за імі, што пакладзена ў аснову сюжэта, як працуе гэта на ажыццяўленне аўтарскай задумы, наколькі ўсё цікавае для чытача, якія думкі і пачуцці выклікае ў яго.

«Сямёра казлянят і Воўк» — яскравы прыклад таму, як ранейшая назва казкі, старая тэма, сюжэт з адзнакай у самым пачатку знаёмства могуць загучаць па-новаму, калі аўтар уносіць ва ўжо вядомае сваё, знаходзіць новы кампазіцыйны паварот. «Мама Каза, адыходзячы з дому, папярэдзіла сваіх дзетак-казлянятак», каб яны сядзелі ціха і на стук у дзверы не адгукаліся, не пускалі ў хату Ваўка. Ды героі гэтай казкі здагадваецеся, якія? Канечне, сучасныя, а таму ім сапраўды не страшны шэры

разбойнік. Знайшоўся сярод казлянятак самы смелы з іх, які прапанаваў ім не хавацца ад Ваўка, а самім наведацца да яго, каб пакараць за ўсе ягоныя правіннасці:

«У нас у школе працуе гурток пачынаючых айбалітаўцаў. Я ў ім удзельнічаю, таму маю белы халат і белы каптурок з чырвоным крыжыкам, як у сапраўдных дактароў. Вось і назавуся Ваўку доктарам, а вы чакайце за дзвярыма маёй каманды. Як толькі я крыкну: «Сюды!» — заскоквайце з вяроўкамі і вяжыце шэрага…»

Пайшлі казляняткі да Ваўка. Толькі не ўсё аказалася так проста, як ім падавалася. Не ведаў смелы «айбалітавец», што ў іхняй школе ўсе лекі «не сапраўдныя, а ўмоўныя, разлічаныя для навучальнага працэсу». Таму ін’екцыя, якую ён увёў Ваўку, каб той заснуў, не падзейнічала. Выратавала казлянятак толькі тое, што на дапамогу ім прыйшло самае маленькае казлянятка, якое дагэтуль заставалася дома. Іншыя казляняткі назвалі яго Баязліўцам. На паверку ж аказалася ўсё іначай: Баязлівец — ніякі і не баязлівец. Гэтае казлянятка прыйшло да Ваўка пазней за іншых, і таксама не пабаялася яго. Да ўсяго яшчэ змагло і выручыць сваіх сяброў, якіх Воўк звязаў, а самога яго змясціць пад хатні арышт. Гэта таксама сведчыць на карысць таго, што С. Давідовіч удала прапрацоўвае той ці іншы сюжэт, знаходзячы такі выйгрышны паварот, які ўражвае сваёй нечаканасцю, і разам з тым нясе ў сабе і элементы выхаваўчай значнасці, падказваючы дзецям, як трэба паводзіць сябе ў пэўнай сітуацыі. Безразважлівая смеласць не заўсёды да месца, за яе можна паплаціцца. Затое ўзважанасць кожнага ўчынку прыносіць карысць.

Усяго ў кнізе 25 казак. Пасля прачытання творы гэтыя ўспрымаюцца своеасаблівымі приступкамі ў казачны свет, у якім, кажучы словамі ўжо названага Трахіма з казкі «Дзівос з дзівосаў», столькі «дзівосаў — паспявай толькі глытаць!» І ў іншых казках, як і ва ўжо названых, пісьменнік, не адмаўляючы займальнасці, дбае і аб выхаваўчым момантце. На шчасце, у яго прысутнічае не голы дыдактызм, а бачыцца такое павучанне, якое з’яўляецца ад душы, ад жадання зрабіць усё дзеля таго, каб у свеце паменшала гора, бяды, больш стала дабра і шчасця, а з дзетак выраслі дастойныя грамадзяне сваёй краіны. Так, глыбокі сэнс набывае і заключная казка кнігі — «Боль», у якой, пры ўважлівым прачытанні, заўважаюцца нават элементы прытчавасці.

Пачатак твора традыцыйны, як гэта і бывае ў казках. Хіба што з прывязанасцю да рэалій сённяшняга дня: «Здавён-здаўна, з няпамятных часоў, жыве на зямлі Боль. Звычайны Боль, з якім і сёння амаль кожны чалавек ва ўсім свеце блізка знаёмы.

О, як было б добра не сустракаць яго, не ведаць і ўвогуле забыцца, што ён існуе.

Але Радасць, Гора, Шчасце і, ліха яго бяры, Боль — нашы спадарожнікі. Як і Любоў да ўсяго добрага на гэтым свеце, і Каханне да кагосьці адзінага ў жыцці.

Так мы і крочым па жыцці, часам забываючыся на гэтых спадарожнікаў, але яны не проста няўхільна побач з намі і перыядычна напамінаюць пра сябе, яны — у нас, яны — частка нас.

Вось і Боль туляецца між людзей і, бадай, часцей за ўсіх, непакоіць нас».

Гэта, па сутнасці, экспазіцыя, увод да асноўнага дзеяння, а далей пачынаецца само дзеянне: «Пастукаўся ён (Боль. — **Я. К.**) некалі ў адну хатку і на пытанне: «Хто там?», адказаў:

— Я — Боль. Пусціце пераначаваць. Ноч на падыходзе, дождж лье, як вада з вядра праз рэшата.

Гаспадар запярэчыў:

— Толькі цябе і не хапала! Такога госця, як ты, ніхто не чакае і ў хату не пускае. Ды і дзяцей у нас поўная хата, самі спім упрытык, як снапы на возе».

Адзін толькі гаспадароў сыночак Яначка пашкадаваў Боль. Папрасіў бацьку, каб той пусціў яго пераначаваць. Не пабаяўся Яначка нечаканага госця нават пасля таго, як бацька папярэдзіў: «Асцерагайся яго!» Боль жа, абрадаваўшыся гэтаму, сказаў хлопчыку,

што можа пераначаваць нават у ягонай душы, на што Янчачка таксама згадзіўся. Паколькі ж Боль нябачны, Янчачкаў бацька падумаў, што Боль усё ж застаўся на двары, таму і зачыніў дзверы хаты на клямку.

Раніцай жа Янчачка «адчуў дагэтуль невядомае ўнутранае хваляванне. Яго штосьці непакоіла. Нібы іншымі вачыма паглядзеў на людзей, на жыццё вакол і ўбачыў раней не бачанае. Дакладней, бачанае, але не заўважанае ім». Боль патлумачыў хлопчыку, што адбылося: «Ты пусціў мяне пераначаваць, і цяпер я — Боль тваёй душы». Спалохаўся Янчачка, што захварэў. Але Боль супакоіў яго: «Хворыя тыя, у каго душа не баліць, хто не бачыць і не адчувае чужога гора, хто не ведае: ёсць у яго душа ці не». Быццам пасля гэтага адкрыліся хлопчыку вочы на навакольны свет. У чымсьці неўладкаваны, у нечым жорсткі, але такі, які ён ёсць. Душа Янчачкі, дзякуючы Болю, стала чуйнай і відушчай. Такой, якой яна была ў нашых знакамітых папярэднікаў, а імёны іх Боль і называе, спавядаючыся перад хлопчыкам: Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, дый тыя, хто жыў бліжэй да нашых дзён.

Заканчваецца гэтая казка-прытча на аптымістычнай ноце: «І ўспрымаў з тае пары Янка жыццё сваім чулым сэрцам, і прапускаў праз сваю абуджаную душу падзеі свайго часу і лёсы сучаснікаў.

І нараджаліся з-пад яго пяра творы, поўныя душэўнага Болю і непахіснай веры ў светлую будучыню».

Так і напрошваецца паралель: Янчачка С. Давідовіча і пясняр зямлі нашай Янка Купала, які і на самай справе пісаў «творы, поўныя душэўнага Болю і непахіснай Веры ў светлую будучыню». Сапраўды ўжо: казка — жыцця падказка. Да ўсяго нельга не адзначыць, што кніга «Дзівос з дзівосаў» «прагучала» яшчэ і таму, што яе аформіў мастак Сяргей Волкаў. Атрымаўся цудоўны творчы тандэм. С. Давідовіч піша ў традыцыйнай манеры. С. Волкаў у традыцыйнай манеры малюе. Ніхто не збіраецца адмаўляць мастакоўскіх пошукаў і ў літаратуры, і ў мастацтве, але, бадай, тое, што ідзе ад самога жыцця, а не ад, так сказаць, лунання ў паднябессі фармальных творчых пошукаў, неяк бліжэй да сэрца.

Эмануіл ІОФЕ

# НА ШЛЯХУ ДА ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ




**Партизаны в операции «Багратион»**
**Документы и материалы.**
*Национальная библиотека Беларуси, 2014.*

Калі мы ўспамінаем бітвы, якія папярэднічалі Вялікай Перамозе над германскім нацызмам, то ў першую чаргу згадваем Сталінградскую і Курскую бітвы і аперацыю «Баграціён» — кодавую назву стратэгічнай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі па вызваленні Беларусі. Менавіта тут былі разгромлены адборныя сілы вермахта, якія ўваходзілі ў групу армій «Цэнтр». Акрамя войск чатырох франтоў Чырвонай Арміі, актыўны ўдзел у аперацыі прынялі беларускія партызаны.

Дапытлівы чытач можа спытаць: «У апошні час гэта тэма дастаткова асветлена, у тым ліку і на дакументальнай аснове. Чым выклікана выданне новага зборніка дакументаў і матэрыялаў?» Вось што адзначае аўтар «Прадмовы» доктар гістарычных навук, прафесар А. Літвін:

«Для объективного и всестороннего осмысления событий Великой Отечественной войны, которые, к сожалению, ещё не получили достаточного освещения в историографии, огромное значение имеет введение в научный оборот новых архивных документальных материалов (апошні зборнік дакументаў і матэрыялаў па партызанскім руху на Беларусі ў 1941—1944 гадах выйшаў у свет 32 года назад (у 1982 годзе. —**Э. І.**). Это позволяет не только лучше почувствовать дух того времени, но и глубже и полнее представить события тех дней.

Поэтому публикация новых, ранее недоступных архивных документов с особым интересом воспринимается как научной, так и широкой общественностью. Несомненно, что такая же участь ждёт и подготовленный работниками Национального архива Республики Беларусь сборник документов и материалов «Партизаны в операции «Багратион». В него включены документы из фондов архива, свидетельствующие о подготовке белорусскими партизанами третьего этапа «рельсовой войны», о боевом взаимодействии белорусских партизан с частями Красной Армии в процессе подготовки и проведения операции «Багратион», о разведывательной деятельности партизан в интересах Красной Армии, а также о помощи белорусским партизанам со стороны Большой земли».

А цяпер паспрабуем адказаць на пытанне аб навізне гэтага зборніка.

Па-першае, у яго ўключаны 200 дакументаў з 7 фондаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, з якіх толькі 5 дакументаў у той ці іншай ступені вядомы даследчыкам.

Па-другое, прадстаўлены публікацыі аператыўнай дакументацыі — шыфртэлеграм Беларускага штаба партызанскага руху, яго аператыўных груп на франтах і камандавання партызанскіх злучэнняў і фарміраванняў. Менавіта гэтыя дакументы дазваляюць практычна па днях і гадзінах прасачыць усе нюансы аператыўнага кіраўніцтва дзеяннямі партызанскіх фарміраванняў, усебакова паказаць маштабы баявога ўзаемадзеяння партызан Беларусі з часцямі Чырвонай Арміі.

Па-трэцяе, змешчаны канчатковыя справаздачы партызанскіх фарміраван-

няў, БШПД і яго аператыўных груп на франтах, якія ў канцэнтраваным выглядзе значна дапаўняюць і пашыраюць аналіз і высновы вучоных-гісторыкаў і дапытлівых чытачоў аб канкрэтным укладзе партызан у вызваленне тэрыторыі Беларусі.

Па-чацвёртае, зборнік праілюстраваны фатаграфіямі і копіямі архіўных дакументаў, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў. Частка іх друкуецца ўпершыню.

У чым каштоўнасць апублікаваных дакументаў і матэрыялаў?

Яны пераканаўча сведчаць аб тым, што галоўная мэта, пастаўленая перад партызанамі Беларусі — «аказваць усялякую падтрымку Чырвонай Арміі, якая змагаецца на фронце», была выканана. У цэлым партызанскія сілы былі выкарыстаны на стратэгічным, аператыўным і тактычных узроўнях, пры планаванні і ажыццяўленні шырокамаштабных, аб’яднаных адзінай задумай аперацый, з прыцягненнем буйных сіл у межах раёна, вобласці, рэспублікі.

З дакументаў трэба адзначыць дырэктыву ЦК КПБ ад 23 мая 1944 года за подпісам сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі, у якой пад грыфам «Зусім сакрэтна» падпольным абкамам і райкамам КП(Б)Б, камандаванню партызанскіх фарміраванняў аб задачах партызан у сувязі з прыбліжэннем вызвалення Беларусі.

У прыватнасці, гаварылася:

«ЦК КП(б)Б Белоруссии располагает многими фактами, когда партизанские группы и отряды разрушают бездействующие предприятия, находящиеся вдали от коммуникаций, сжигают дома, портят оборудование и сельхозинвентарь, которыми немцы не пользуются. Такие действия партизан можно было бы признать правильными тогда, когда немцы восстанавливают, готовят к пуску предприятия, пользуются сельхозинвентарём, оборудованием или пытаются вывозить в Германию, но совершенно неправильно, когда разрушаются предприятия, здания, оборудование и инвентарь, которыми немцы не в состоянии пользоваться и которые можно сохранить для народного хозяйства Белоруссии.

Вредность таких операций заключается, во-первых, в том, что партизаны затрачивают силы, расходуют боеприпасы, не нанося значительного ущерба врагу, наоборот, наносится известный урон народному хозяйству Белоруссии; во-вторых, такими операциями партизанские группы и отряды отвлекаются от ударов по действительно важным объектам врага: по жел.-дор. станциям, мостам, военным базам, штабам, ангарам, мастерским по ремонту танков, машин, орудий. Создаётся только видимость проведенных боевых операций, о чём часто доносят командиры».

Прапаноўвалася «усилить удары по коммуникациям и военным объектам противника, железнодорожным станциям, мостам, военным базам, штабам, ангарам, мастерским по ремонту танков, машин, орудий, разрушать связь, выводить из строя действующие предприятия, не давать немцам увозить в Германию награбленное народное добро, ценности, техническое имущество, которое можно вывезти из предприятий или извлечь при крушении поездов, прятать в лесах, зарывать в землю», а «при отступлении немцев всеми мерами и средствами стремиться сохранить города, населённые пункты, предприятия, жилые и общественные здания от разрушения и сжигания немцами. Подвижным группам партизан подкараулливать, делать засады и истреблять немецких факельщиков и минёров».

Самы кароткі па змесце дакумент, прыведзены ў кнізе, шыфртэлеграма № 201 начальніка разведвальнага аддзела штаба 2-га Беларускага фронту І. Вінаградава начальніку апергрупы БШПР на 2-м Беларускім фронце А. Прохараву ад 18 чэрвеня 1944 года пад грыфам «Зусім сакрэтна» аб тэрміне нанясення ўдару партызанскімі фарміраваннямі па чыгунках. Яна змяшчае ў сабе толькі адзін сказ: «Командующий фронтом указал, что активные действия партизан по жел. дорогам не начинать до особого распоряжения командующего фронтом».

Прынцыповае значэнне мела шыфртэлеграма № 5969 начальніка Беларускага штаба партызанскага руху П. Калініна начальнікам апергруп БШПД на 1-м, 2-м і 3-м Беларускіх франтах ад 26 чэрвеня 1944 года пад грыфам «Зусім сакрэтна. Маланка» аб падтрыманні рэгулярнай сувязі са штабамі і Ваеннымі саветамі франтоў.

«В связи с начавшимся наступлением Красной Армии в Белоруссии. Вам необходимо ежедневно поддерживать регулярную связь со штабом фронта и знать продвижение наших частей, своевременно получать от Военного совета фронта задачи для организации и взаимодей-

ствия партизанских отрядов и бригад с частями Красной Армии.

В целях предоставления времени на подготовку, задачи партизанам на взаимодействие нужно ставить немедленно и доносить штабу.

Опыт прошлых наступательных операций показал, что помощь, которая оказывается партизанами частям Красной Армии, не учитывается. В связи с этим собирайте необходимые документы о взаимодействии как от выходящих партизан, так и отзывы войсковых частей и соединений о помощи, оказанной им партизанами и местным населением».

Калі чытаеш некаторыя мемуары, газетныя і часопісныя артыкулы, то ствараецца ўражанне, што партызаны Беларусі самі вызвалялі толькі вёскі. Дакументы ж, прыведзеныя ў гэтым зборніку, сведчаць, што партызанамі былі вызвалены або яны прынялі актыўны ўдзел у вызваленні шэрагу гарадоў, раённых цэнтраў, гарадскіх пасёлкаў.

Вось шыфртэлеграма № 1973 начальніка БШПР П. З. Калініна начальніку апергрупы на 1-м Беларускім фронце І. Дзікану ад 1 ліпеня 1944 года пад грыфам «Зусім сакрэтна» аб дзеяннях партызанскіх фарміраванняў Міншчыны:

«Сообщите Военному совету, что партизанами Минской области захвачены и удерживаются города Узда, Копыль, Старобино и переправы на участке Слуцк — Старобино через р. Случь».

Дакумент № 108 кнігі — гэта шыфртэлеграма № 10315 камандзіра партызанскай брыгады «Беларусь» Мінскай вобласці А. Юркаўцава намесніку начальніка БШПР І. Ганенку ад 5 ліпеня 1944 года аб узяцці гарадскога пасёлка Рудзенск.

У шыфртэлеграмах № 10355, 10362 прадстаўніка БШПР на 1-м Прыбалтыйскім фронце І. Рыжыкава П. Панамарэнку і П. Калініну паведамлялася аб вызваленні партызанскай брыгадай імя ЦК КП(б)Б 3 ліпеня 1944 года з боем раённага цэнтра Вілейскай вобласці Астравец, а атрадам Суслава ў той жа дзень мястэчак Свір і Дабраўляны.

Партызанскі полк І. Садчыкава ўдзельнічаў у вызваленні горада Смаргоні, а 99-я партызанская брыгада імя Д. Гуляева разам з батальёнам 138-га гвардзейскага палка 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі авалодалі 10 ліпеня 1944 года раённым цэнтрам Целяханы.

А цяпер паглядзім, як асвятляецца пытанне аб ролі партызан у вызваленні гарадоў і раённых цэнтраў у сучасных энцыклапедыях і даведніках, у серыі гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Перад намі такое аўтарытэтнае выданне, як «Памяць Беларусі: Рэспубліканская кніга». На стар. 339 чытаем:

«Партызаны падышлі да Астраўца ў той момант, калі фашысты сталі падпальваць дамы. Яны с ходу ўварваліся ў мястэчка і атакавалі ворага, разграміўшы яго ў кароткай сутычцы. Брыгада імя ЦК КП(б)Б утрымлівала Астравец да прыходу савецкіх войск».

«Гарадскі пасёлак Рудзенск быў вызвалены 4 ліпеня 1944 г. партызанскай брыгадай «Беларусь» (стар. 557).

«Старобін вызвалены 29 чэрвеня 1944 г. партызанамі 101 партызанскай брыгады імя Александра Неўскага і атрада імя Варашылава брыгады імя Будзённага, Чырвоная Слабада — 30 чэрвеня 19-й механізаванай брыгадай 1-га механізаванага корпуса 28-й арміі» (стар. 540).

Што датычыцца горада Капыля, то ў гэтым жа выданні канстатуецца, што Капыльскі раён (маецца на ўвазе і Капыль. —**Э. І.**) вызвалены 1 ліпеня 1944 года воінамі 10-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту і 27-й партызанскай брыгадай імя Чапаева (камандзір М. Шастапалаў) у ходзе Мінскай наступальнай аперацыі (стар. 519).

У той жа час сцвярджаецца, што Уздзенскі раён (маецца на ўвазе і горад Узда. —**Э. І.**) вызвалялі часці 48-й, 65-й і 3-й армій 1-га Беларускага фронту (стар 580). І ні слова аб удзеле партызан.

Атрымліваецца, што гэтыя сцвярджэнні аб вызваленні Чырвонай Слабады, Капыля і Узды, не гаворачы аб іншых населеных пунктах Беларусі, супярэчаць зместу дакументаў, і складальнікі зборніка «Партизаны в операции “Багратион”» павінны былі даць каментарый па гэтым прынцыповым пытанні.

А цяпер пра больш істотныя заўвагі.

У кнізе чамусьці адсутнічаюць дакументы аб удзеле партызанскіх брыгад у абароне Мінска ад нямецкіх войск, якія вырваліся з акружэння і ледзь зноў не захапілі сталіцу Беларусі 5—9 ліпеня 1944 года.

Аб трывожных абставінах, якія склаліся ў горадзе пасля вызвалення яго 3 ліпеня, сведчыць ліст першага сакратара ЦК ЛКСМБ М. Зімяніна і адказнага супрацоўніка ЦК Кампартыі Беларусі М. Сарычава ад 6 ліпеня 1944 года на імя П. Панамарэнкі:

«Немцы уже две ночи подряд усиленно бомбят Минск… Столицу следовало бы защищать в несколько раз сильнее, сжимается сердце, когда так безнаказанно бомбят Минск… Чекистов мало, очень мало — даже для того чтобы совершить облаву на засевшую в городе сволочь… ибо основная часть войск НКВД была брошена против группировки немцев, вошедшей в Минск с юго-запада и непосредственно угрожавшей Минску, ибо город ничем не был прикрыт. Немцы пробились до Лошицы, т. е. фактически до пригородов. Обстановка создалась очень напряжённая и разрядилась только сегодня ночью, когда прибыли и вступили в бой соединения Красной Армии и партизанские бригады Минской зоны. В Минск прибыла 3-я Минская бригада (комбриг т. Мысник) и часть Лунинской (имеется в виду бригада «Штурмовая». — **Э. І.**). 3-я Минская ведёт бой с немцами. Она будет сейчас введена в город для охраны. Другие бригады ещё не прибыли в связи с тем, что вокруг Минска имеется масса разрозненных немецких групп, над ликвидацией которых они работают» (НА РБ:Ф.7.Воп.3.Спр.1713. Л.4, 4аб.. 5, 5 аб, 6, 6аб, 7).

Як сведчыць беларускі гісторык І. Варанкова, у тыле савецкіх войск яшчэ заставаліся буйныя немецкія групоўкі, да ліквідацыі якіх былі прыцягнуты войскі НКУС. Немцы спрабавалі аб'яднаць свае разрозненыя сілы і вывесці іх на захад, наносячы ўдары па камунікацыям, каб сарваць рух савецкіх дывізійных і армейскіх тылоў. Непасрэдна ў наваколлі Мінска яшчэ дзейнічала да 30 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў, частка з якіх мела цяжкае ўзбраенне. Паколькі тут не было буйных вайсковых злучэнняў Чырвонай Арміі, а практычна ўсе стратэгічна важныя аб'екты сталіцы Беларусі заставаліся без прыкрыцця, праціўнік планаваў адносна лёгка ўварвацца ў Мінск з дыверсійнымі мэтамі. На світанні 7 ліпеня 1944 года дзве групы немцаў дасягнулі Тэатра оперы і балета, яўрэйскіх могілак у раёне вуліцы Калектарнай і аэрадрома ў Лошыцы і ўступілі ў бой з нешматлікімі падраздзяленнямі войск НКУС. У ходзе бою гэтыя групы былі знішчаны і часткова рассеяны. Але на бліжэйшых да сталіцы дарогах на Магілёў, Слуцк, Дзяржынск, Лагойск асобныя групы гітлераўцаў усё яшчэ нападалі на ваенныя абозы, затрымліваючы іх рух.

У гэтай сітуацыі было прынята рашэнне накіраваць на прыкрыццё Мінска і ахову яго важнейшых аб'ектаў шэраг партызанскіх фарміраванняў. Паводле адпаведнага пастанаўлення Бюро ЦК Кампартыі Беларусі, 5 ліпеня 1944 года БШПР аддаў загад рухацца да Мінска фарміраванням Мінскай партызанскай зоны: брыгадам «Народныя мсціўцы» імя В. Варанянскага, «Штурмавая» імя М. Шчорса, «Разгром», 1-й, 2-й і 3-й Мінскім імя газеты «Правда», імя С. Кірава, «Полымя», «Чырвоны сцяг», «Буравеснік», «Беларусь», 200-й імя К. Ракасоўскага, імя К. Варашылава. імя В. Чапаева, атрада імя М. Калініна. Адначасова 5 ліпеня ў сталіцу выехала аператыўная група БШПР на чале з намеснікам начальніка штаба І. Ганенкам. Было вырашана ўзяць пад ахову Дом Урада, будынак ЦК КП(б)Б, авіязавод, склады трафейнай маёмасці, Фабрыку-кухню і г. д.

Партызанскія фарміраванні, а гэта 22 тысячы чалавек, у Мінск прыбывалі з 7 па 15 ліпеня. Да 16 ліпеня яны правялі 15 буйных баявых аперацый, у ходзе якіх знішчылі 237 нямецкіх салдат і афіцэраў і ўзялі ў палон больш як дзве тысячы чалавек.

Як адзначае ваенны журналіст М. Качук, 5 ліпеня 1944 года ў 20 гадзін 30 хвілін немцы нечакана атакавалі аэрадром «Сляпянка». Штурм з прымяненнем артылерыі і мінамётаў працягваўся да 10 гадзін раніцы 6 ліпеня. Адначасова дзясяткі бамбардзіроўшчыкаў Хе-111 нанеслі моцны ўдар па аэрадроме ў Лошыцы. Савецкім лётчыкам, каб пазбягнуць удару, прыйшлося ўзлятаць проста пад бомбамі. Бамбёжка працягвалася ўсю ноч. Аэрадром у Лошыцы немцы за тры гады вывучылі дасканала, таму бамбілі прыцэльна.

Не менш драматычна складваліся абставіны на аэрадроме ў Сляпянцы, дзе, дарэчы, Сталін мог страціць свайго малодшага сына Васіля, які камандаваў 3-й гвардзейскай знішчальнай дывізіяй. Аднак у змроку, пад жорсткім абстрэлам нямецкіх аўтаматчыкаў У-2 з капітанам Пракапенкам і В. Сталіным узляцеў і ўзяў курс на аэрадром «Дакудава».

Але аб гэтых баях беларускіх партызан з групоўкай нямецкіх салдат і афіцэраў у зборніку ніводнага дакумента, адсутнічае пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 5 ліпеня 1944 года.

Толькі ў прадмове А. Літвіна ёсць такія радкі:

«Большую помощь оказали партизаны Беларуси Красной Армии также

в период ликвидации окружённых вражеских группировок. Так, при ликвидации Минского «котла» — 105-тысячной группировки противника юго-восточнее Минска — в течение нескольких дней упорные бои с врагом вместе с регулярными войсками вели партизанские бригады «Буревестник», «Смерть фашизму», им. Н. А. Щорса, 1-я и 2-я Минские, «Беларусь», «За Советскую Белоруссию» и другие формирования народных мстителей.

По указанию ЦК КП(б)Б и БШПД было принято решение: приостановить расформирование партизанских соединений и все силы сосредоточить в Минске и его окрестностях. В последующие два дня около 30 бригад было стянуто в окрестности Минска».

Пад № 151 у зборніку змешчана дакладная запіска штаба партызанскай брыгады «Буравеснік» Мінскай вобласці ў БШПР, датаваная не раней 12 ліпеня 1944 года за подпісам начальніка штаба яе аб баявой дзейнасці з 27 чэрвеня па 12 ліпеня 1944 года. Адзначаецца, што з 5 па 11 ліпеня брыгада займала абарону і праводзіла знішчэнне акружанай групоўкі немцаў у раёне саўгаса Самойлава (маецца на ўвазе саўгас «Самойлаў» тагачаснага Рудзенскага раёна. — **Э. І.**), в. Вайроўка, Баламутавічы. Было знішчана 876 нямецкіх салдат і афіцэраў. Узята ў палон 971 салдат і афіцэр.

Недахоп сапраўдных дакументаў не садзейнічае стварэнню праўдзівай, аб’ектыўнай гісторыі па гэтым пытанні. Дый ні ў шматтомнай кнізе «Памяць», прысвечанай Мінску, ні ў аналагічным выданні, прысвечаным Мінскаму раёну, ні ў іншых энцыклапедыях і даведніках, ні ў дзвюх кнігах зборніка дакументаў і матэрыялаў «Освобождённая Беларусь» аб трагічных і гераічных падзеях, якія адбываліся на паўднёва-ўсходніх ускраінах нашай сталіцы 5—15 ліпеня 1944 года, няма ні слова.

У «Біяграфічных даведках» адсутнічаюць кароткія звесткі аб многіх актыўных удзельніках вызвалення Беларусі з ліку вышэйшага партызанскага камандавання Беларусі і камандзіраў асобных брыгад. Прынамсі, камандзіра брыгады імя К. Каліноўскага М. Вайцэхоўскага, начальніка штаба Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы Г. Георгіеўскага, камандзіра Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы В. Глотава, камандзіра Чашніцкай брыгады «Дубава» Ф. Дуброўскага, камандзіра 8-й брыгады С. Жуніна, начальніка штаба партызанскага злучэння Брэсцкай вобласці П. Пранягіна, камандзіра брыгады імя К. Ракасоўскага А. Раманава, камандзіра Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы Д. Фядотава.

Скупыя, кароткія звесткі дадзены на маёра І. Крывашэева. Не называецца нават год яго нараджэння. Між іншым, больш падрабязныя звесткі аб ім маюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (Ф.1450, Воп. 9. Спр. 546. Л. 11, 15). Там адзначана, што з 10 лютага да лістапада 1944 года І. Крывашэееў быў начальнікам рэзерву БШПР, а з мая 1944-га ён як прадстаўнік БШПР ажыццяўляў аператыўнае кіраўніцтва групай брыгад Мінскай зоны.

У зборніку ёсць і фактычныя недакладнасці. Так, узяты ў палон камендант горада Магілёва генерал-маёр Эрдмансдорф названы Эрмансдорфам.

Кніга мела б яшчэ большую навуковую каштоўнасць, калі б у ёй былі змешчаны дакументы аб баявых дзеяннях партызанскіх фарміраванняў Полацка-Лепельскай зоны ў красавіку—маі 1944 года, літаральна напярэдадні аперацыі «Баграціён». Ці яны па сённяшні дзень засакрэчаны? Між іншым, гэты час быў самым цяжкім для беларускіх партызан і нідзе і ніколі яны за 1941—1944-я гады не панеслі такія вялікія людскія страты.

Вельмі добра, што ў гэтым зборніку ёсць каментарыі, біяграфічныя спраўкі, імянны і геаграфічны ўказальнікі, спісак скарачэнняў. Складальнікі зборніка Н. Зянісава, В. Казачонак, Н. Калеснік, В. Селяменеў, М. Тумаш правялі велізарную і даволі скрупулёзную работу па выяўленні невядомых і доўгі час засакрэчаных дакументаў. У склад рэдкалегіі кнігі ўвайшлі апантаныя даследчыкі і арганізатары архіўнай справы У. Адамушка, В. Казачонак, А. Самовіч і В. Селяменеў.

Нягледзячы на некаторыя заўвагі, калектыў навуковых супрацоўнікаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь стварыў вельмі каштоўную, патрэбную і прынцыпова важную кнігу, якая будзе садзейнічаць больш глыбокаму і праўдзіваму асвятленню невядомых і малавядомых старонак барацьбы з германскім нацызмам на тэрыторыі Беларусі. Гэты зборнік зацікавіць не толькі гісторыкаў, архівістаў, работнікаў музеяў і краязнаўцаў, але і шырокае кола чытачоў.

# ЛІСТАПАД

У нумары **№ 11** за **1935 год** «Полымя» пачынае друкаваць аповесць Барыса Мікуліча «Дружба». Нягледзячы на малады ўзрост празаіка (усяго дваццаць тры гады!), на той час імя яго ўжо добра ведалі аматары беларускай літаратуры: свае першыя апавяданні Барыс Мікуліч надрукаваў у пятнаццацігадовым узросце. Пісаў ён шмат, друкаваўся часта, адна за адной выходзілі яго кнігі прозы, але якраз «Дружба» стала апошнім буйным творам пісьменніка, які ён змог убачыць надрукаваным. 26 лістапада 1936 года Барыс Мікуліч быў арыштаваны, а 5 кастрычніка наступнага года асуджаны на 10 гадоў зняволення за «антысавецкую дзейнасць» і высланы ў г. Марыінск Новасібірскай вобласці. Пасля таго, як скончыўся дзесяцігадовы тэрмін зняволення, пісьменнік вырашыў на час пасяліцца ў Ашхабадзе (хоць жыць у сталіцах яму было забаронена) у сваёй старэйшай сястры. Знаходзячыся далёка ад Беларусі, ён не перастае пісаць і не губляе надзею надрукавацца на радзіме, таму рэгулярна пасылае лісты і новыя творы ўплывовым калегам.

1 красавіка 1947 года Міхась Лынькоў, тагачасны старшыня пісьменніцкай суполкі, піша яму:

«Тав. Мікуліч!

Толькі што прачытаў усе лісты і рукапісы, атрыманыя ад Вас за час майго водпуску. Што я магу сказаць у адказ на іх? Яшчэ перад выездам маім з Мінска, прыблізна за месяц да выезду, я перадаў Вашы рукапісы ў праўленне саюза некаторым таварышам для чыткі і скарыстання ў часопісе «Полымя». Перадаў я Броўку Петрусю (рэдактар «Полымя») і рукапіс, атрыманы на маё імя ў часе водпуску. Пастараюся прасачыць, каб яны хутчэй прачыталі і далі б Вам належны адказ. Як вы ведаеце, на тыя рукапісы, якія я сам прачытаў, я даў Вам адказ. Наогул, як ведаеце, справа абстаіць так, што Вам не закрыты шляхі ў літаратуру: твор, які будзе задавальняць рэдакцыю, будзе скарыстаны ёй. У папярэднім пісьме вы пісалі, што хочаце пагаварыць асабіста са мной. Будзе ў Вас выпадак пабываць у Мінску, калі ласка, можна будзе пагаварыць. Цяпер прашу звязацца з рэдактарам часопіса Броўкам (у адрас Саюза пісьменнікаў на Дом урада, альбо непасрэдна ў адрас часопіса на Дом друку, выдавецтва). Я яшчэ раз скажу Броўку аб Вашых рукапісах».

10 красавіка 1947 года Барыс Мікуліч запісаў у сваім дзённіку: «Тое, аб чым я здагадваўся і чаго баяўся, адбылося: ліст Л (ынькова) вд 25/III змяшчае параді, пажаданні, заўвагі наконт аповесці пра Багдановіча (да слова — няправільныя) і ракавое «але»… «Прывесак», які я маю, перашкаджае ім «адкрыць мне дзверы. (Цяпер зразумела, чаму ён так доўга не адказваў…)».

А на наступны дзень ён піша ліст Сталіну: «Тов. Сталин! К Вам обращается белорусский писатель, в жизни которого произошло несчастье, и теперь ему никто не может помочь, кроме Вас. С детства я мечтал быть литератором, готовился к этому тяжкому и ответственному труду, учился, и сов. Власть предоставила мне огромные возможности работать. Уже к 24 годам у меня на родине, в Белоруссии, были изданы четыре мои повести, несколько книжек рассказов, пьеса, статьи, меня начали переводить на другие языки, молодежь

меня считала своим писателем, — словом, сбылась мечта моей жизни. Но вот произошла катастрофа. С большой группой белорусских писателей я был арестован и осужден за к(онтр)р(еволюционную) деятельность. Глухих указаний трех подлецов было достаточно, чтобы арестовать 24-летнего человека. На суде выяснили, что члены т. наз. Нац(ионалистических) писат(ельских) орг(анизаций) отказались от данных ранее своих показаний, один из них заявил, что меня они не считали своим, не доверяли мне. Но председательствующий на суде член Спецколлегии Верхсуда БССР Карпик (ныне опороченный карьерист) не внял моим протестам, и меня все-таки осудили…»

У чэрвені 1947 года Барыс Мікуліч вярнуўся ў Беларусь і выпрашыў пасяліцца ў сваім родным Бабруйску. Па дарозе дадому заехаў у Мінск. «Над Мінскам ішоў шквал, аскеп'е, пясок, кавалкі шкла білі ў твар. Выйшаў з парыкмахерскай чысты, а, глянуўшы ў люстра ў універмагу, зжахнуўся. Не, я не знаходжу слоў, каб перадаць усё, што бачыў: гэта жахліва! Руіны (хадзіў і на Чырвонаармейскую, нават няма таго квартала!) уразілі так, што я страціў мужнасць. Адольваючы дэпрэсію, пазваніў да Лынькова і н'ат узрадаваўся, што ён у ЦК і сёння не зможа са мной сустрэцца, бо… «десяти минут, очевидно, будет мало», як сказала яго жонка. І я паехаў у Бабруйск», — запісаў Барыс Мікуліч у сваім дзённіку 4 чэрвеня.

Перапіска з Міхасём Лыньковым працягвалася.

25 снежня 1947 года Лынькоў піша Мікулічу: «Вы, наверно, изрядно ругаете за некоторое запаздывание с ответом на Ваши письма. Поверьте, что и запаздываю я иногда с единственной целью: все жду, чтобы дать Вам окончательное положительное решение Вашего вопроса. Я говорил в Центральном Комитете по всему этому делу, да и Ваше письмо там имеется. Должен сказать, что принципиально вопрос решается здраво: а почему же и не печатать Вас, если напишете подходящую вещь. Дело теперь за редакторами. Я им уже говорил неоднократно о необходимости так или иначе решить вопрос с отдельными Вашими вещами. Они ждут еще случая лишний раз согласовать все эти вопросы. Нажимайте еще на них. Думаю, что в ближайшее время все это разрешится в Вашу пользу. Повторяю: дело теперь только в редакторах».

18 красавіка 1948 года Міхась Лынькоў дае чарговы адказ Барысу Мікулічу: «Прашу прабачэння за хранічнае спазненне з адказам на Ваш ліст (з рукапісам аповесці). На жаль, сам я не змог прачытаць аповесць з прычыны тэрміновай работы над двума падручнікамі ў інстытуце. Перадаў рукапіс рэдактару «Полымя» Максіму Танку з просьбай, каб ён паскорыў, урэшце, лёс Вашых твораў, якія знаходзяцца ў рэдакцыі».

Аднак толькі ў 1959 годзе імя Барыса Мікуліча зноў з'явілася ў друку, калі была апублікавана яго аповесць «Развітанне» пра Максіма Багдановіча. Праўда, сам аўтар гэтага дня так і не дачакаўся: паўторна асуджаны і высланы ў Сібір у 1949 годзе, ён памёр у 54-м, раніцай, за пісьмовым сталом, над рукапісам… А 23 верасня 1955 года судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларускай ССР устанавіла, што пастанова Прэзідыума Вярхоўнага суда БССР ад 4 кастрычніка 1937 года аб асуджэнні да 10 гадоў зняволення Барыса Мікуліча была адменена ў сувязі з недаказаннасцю яго віны, таму пастанова Асобай нарады МДБ СССР ад 3 верасня 1949 года, згодна з якой пісьменнік быў сасланы ў Краснадарскі край, была неабгрунтаванай.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***